# ЗМЕСТ

**Замест прадмовы** ........ 5

**Юльян Ляскоўскі** ........ 7

Лёс Юльяна Ляскоўскага ........ 9

Псеўданімы Юльяна Ляскоўскага ........ 51

Юльян Ляскоўскі як беларускамоўны літаратар ........ 57

Паэма *На чужой старане* ........ 65

*W cudzéj stronie* ........ 73

Фрагменты перакладу паэмы *На чужой старане* ........ 104

*На чужой старане* ........ 105

Верш *Да братоў-лірнікаў* ........ 113

*Do braci lirników* ........ 115

Дазвол вярнуцца на Бацькаўшчыну ........ 118

№ 1. Міхаіл Похвіснеў да Пятра Васільева ........ 122

№ 2. Антон Сямкоўскі да Пятра Васільева ........ 124

№ 3. Антон Баер да Пятра Васільева ........ 126

№ 4. Пётр Васільеў да Міхаіла Похвіснева ........ 127

Метрыкі Юльяна Ляскоўскага ........ 128

№ 1. Шлюбная метрыка Юльяна Ляскоўскага і Мар’яны Дален ........ 131

№ 2. Метрыка нараджэння дачкі Станіславы Ядвігі ........ 132

№ 3. Метрыка нараджэння сына Яна Міхала ........ 133

№ 4. Метрыка смерці Паўліны Ляскоўскае ........ 134

Лісты да Юзафа Ігнацы Крашэўскага ........ 136

Паленіка з Юзафам Корвін-Кучынскім ........ 148

Юзаф Корвін. *З мінскага Палесся* ........ 156

Юльян Ляскоўскі. *Слоўца пра песню* ........ 171

З некралогаў (пасмяротных успамінаў) ........ 181

№ 1. *Z różnych stron. Wspomnienie* ........ 184

№ 2 *Wiadomości bieżące*: *Wspomnienie pośmiertne* ........ 184

№ 3. *Kronika Warszawska. Ś. p. Julian Laskowski* ........ 186

№ 4. *Wiadomości bieżące*: *Zmarli* ........ 187

№ 5. *Zmarli* ........ 188

№ 6. *Nowiny* ........ 188

№ 7. *Nekrolog* ........ 190

**Марыя Косіч** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 191
Навуковая і літаратурная дзейнасць Марыі Косіч . . . . . . . . . . . . . . . . . . 193
Гутарка *На перасяленне* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 203
*На пиресялéньня* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 206
Кніжачка перастварэнняў Марыі Косіч . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 216
*Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе М.Н. Косичъ* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 221
Байка, забароненая цэнзураю . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 240
*Клявéччыкъ и Гадзю́ка* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 242
Першая спроба выдаць кніжачку баек . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 245
I. З архіву Галоўнае управы па справах друку . . . . . . . . . . . . . . . . . . 247
II. З архіву Апекуна Віленскае навучальнае акругі . . . . . . . . . . . . 254
Некралог у «Русской музыкальной газетѣ» . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 265
*Марія Николаевна Косичъ* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 266
**Supplementum** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 271
Яшчэ адзін некралог Ялегі Пранціша Вуля . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 273
*Kronika miesięczna* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 277
Дата смерці Вацлава Тшашчкоўскага . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 278
**Бібліяграфія** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 281
**Abstract** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 293
**Streszczenie** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 294
**Паказальнік імёнаў** . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 295

# Замест прадмовы

На дрэвах – шыльдачкі.

На іх напісана, колькі якому дрэву гадоў, як яно называецца, якая яго таўшчыня і вышыня.

Людзі праходзяць міма дрэў, не заўважаючы іх, – яны чытаюць шыльдачкі...

А сведчанні дрэў так і застаюцца непачутыя,

а пісьмёны дрэў так і застаюцца непрачытаныя.

Алесь Разанаў, *Шыльдачкі*

Даўнія літаратурныя тэксты мы, складальнікі хрэстаматый і анталогій, замест таго, каб набліжаць да чытача, часта аддалялі ад яго. Мы прымушалі чытаць не самі тэксты, але нашыя адрэдагаваныя адаптацыі – “шыльдачкі”. Мы меркавалі, што чытач не зразумее аўтара, бо не ведае слоў, якія выйшлі (часта не па сваёй волі) з ужытку; бо не ведае беларускае лацінкі; бо не ведае старое мовы, шмат у чым адрознае ад сённяшняе, якую ледзь не стагоддзе рупліва гадуюць на савецкім крапіўным загоне.

У IX томе *Даследаванняў і матэрыялаў* мы спрабуем разгледзець перыпетыі жыццёвага шляху і творчасці Юльяна Ляскоўскага і Марыі Косіч. Шмат падобнага ў іхнім лёсе: яны абое з маладых гадоў шчыра палюбілі родны край ды ягоных жыхароў, у першую чаргу – пагарджанага, прыгнечанага і абяздоленага беларускамоўнага селяніна-мужычка; яны працавалі дзеля ягонага дабра, даводзілі друкаваным словам, што і ён – стварэнне Божае, што і ягоная мова-гаворка ды песні маюць гэткую ж вартасць, як і мова ды песні суседніх народаў.

Пра Ю. Ляскоўскага (1826–1889) доўгі час не згадвалі беларускія гісторыкі літаратуры. Ягоныя дачыненні з беларускаю (беларускамоўнаю) літаратураю былі сумнеўнымі, апублікаваных і рукапісных беларускіх тэкстаў даследнікі не ведалі. Фактычна не бралі пад увагу, што ўраджэнец беларускага краю больш за трыццаць гадоў (1855–1887) пад псеўданімамі Janko Korabicz, J. Korabicz, Marcin Mizera, Marcin Czeronka, M. Worona актыўна выступаў як паэт, празаік і публіцыст, няраз горача адстойваючы права народа на ўласную гісторыю, культуру і мову.

У нашым даследаванні на падставе допісаў у варшаўскія выданні („Gazeta Polska”, „Gazeta Warszawska”, „Gazeta Rolnicza”, „Gazeta Świąteczna”, „Nowiny” і інш.), архіўных матэрыялаў і пасмяротных успамінаў сяброў ды знаёмых зроблена спроба рэканструяваць творчую біяграфію Ю. Ляскоўскага. Асабліва каштоўным у даробку літаратара з’яўляецца паэма *W cudzej stronie*, дзе пастулявалася народная памяць як гераізацыя мінулага краю, што было надзвычай актуальным ва ўмовах расейскае акупацыі. Важнае значэнне ў ягонай спадчыне мае таксама артыкул *Słówko o pieśni*, у якім публіцыст выступіў у абарону самабытнасці беларускае мовы і права яе на існаванне.

Выяўленыя архіўныя матэрыялы дазваляюць сцвердзіць пра непасрэдную датычнасць Ю. Ляскоўскага да беларускае літаратуры: ён быў адным з тых пяці беларускамоўных літаратараў сярэдзіны XIX ст. (Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Арцём Вярыга-Дарэўскі, “Іуліанъ Мрочекъ, Викентій К.”), каго назваў у сваіх лекцыях *O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich* Адам Ганоры Кіркор. Юльян Мрочак – гэта яшчэ адзін, невядомы раней псеўданім паэта. Заслугоўвае на ўвагу таксама апублікаванае ў 1861 г. у Вільні, але не адшуканае да сённяшняга дня выданне Ю. Ляскоўскага для народу *Książeczkę przeciw pijaństwu. Do mego kuma Macieja i do tych wszystkich ludzi, którzy powinni upamiętać się w nałogu pijaństwa. Od poprawionego gospodarza Andrzeja*. Тытул пададзены па-польску, але ці абавязкова беларускі гаспадар Андрэй мусіў павучаць тутэйшых мужыкоў “панскаю гаворкаю”?

У раздзеле, прысвечаным постаці М. Косіч, аспрэчваецца даўно ўсталяваны ў літаратуразнаўстве погляд на ейную творчасць як на прымітыўную, пазбаўленую вострай грамадскай скіраванасці ды сатырычнае сілы і на ўзровень версіфікатарскае тэхнікі як нізкі. На нашую думку, у час, калі дзяржаўная палітыка русіфікацыі не пакідала тэкстам на беларускай мове шанцаў трапіць на друкарскі варштат, М. Косіч здолела апублікаваць беларускія народныя песні (даследаванне *Литвины-Бѣлорусы Черниговской губерніи*) у акадэмічным навуковым часопісе, а падаючы кніжачку *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова* як «образцы настоящаго народнаго говора литвино-бѣлорусовъ съ свойственными имъ оборотами рѣчи и мѣстными выраженіями», – нібы своеасаблівы дадатак да гэтае навуковае працы. Такім чынам, стылізацыя пад народную гаворку (а не песню!) абумоўлівала адпаведны ўзровень версіфікацыі.

Публікуюцца як раней друкаваныя тэксты літаратараў, так і рукапісныя архіўныя матэрыялы (лісты і інш.), якія ўзнаўляюць асобныя старонкі іхняга жыцця і творчасці.

Дадзены том паўстаў дзякуючы дапамозе шэрагу беларускіх і замежных навукоўцаў. У першую чаргу прагнем падзякаваць інфарматыку Антону Францішку Брылю, філалагіням-літаратуразнаўцам Бэаце Сівэк, Ірыне Бурдзялёвай і Анхеле Эспіноса-Руіс, гісторыкам Зміцеру Крымоўскаму і Вячаславу Мартысюку.

### Прынцыпы перадачы рукапісных тэкстаў

Вертыкальнаю рыскаю адасабляецца напісанае ў арыгінале злітна – ня|быў.

Пачатак кожнае старонкі рукапісу мы перадаём дзвюма прамымі рыскамі з устаўленым паміж імі нумарам аркуша ў ніжнім рэгістры: |$_{\mathbf{1r}}$| – правая старонка аркуша (ад лац. rectus – проста); |$_{\mathbf{1v}}$| – левая старонка аркуша (ад лац. verso – адваротная старонка).

Перакрэсленыя ў рукапісе словы і сказы падаём адпаведна – ~~Biedny~~; напісанае зверху, між радкамі – у верхнім рэгістры – $^{\text{Uiszow}}$.

Дзеля кампактнасці тэксту элементы кутняга штампу (назва ўстановы, дата, выходны нумар і інш.) падаюцца ў верхнім радку дакумента.

Той тэкст рукапісу, які не ўдалося расчытаць, сігналізуецца кутнімі дужкамі са словам “нечытэльна” – <*нечыт.*>.

У квадратных дужках [ ] узнаўляюцца скарачэнні ў рукапісе, а таксама (па магчымасці) словы і часткі слоў у канцы (звычайна) радка, дзе папера аказалася пашкоджанаю.

# Лёс Юльяна Ляскоўскага

Да асобы і творчасці Юльяна Ляскоўскага беларускія даследнікі праяўлялі цікавасць адно зрэдчас: на пачатку XX стагоддзя Вацлаў Ластоўскі [Власт 1913, № 37: 2] і Яўхім Карскі [Карскій 1922, III, 3: 76] залічылі і паэта, і ягоную творчасць да гісторыі беларускае літаратуры, даводзілі таксама пра мажлівае існаванне беларускамоўных тэкстаў паэта; напрыканцы гэтага ж стагоддзя Генадзь Кісялёў, выявіўшы асобныя архіўныя матэрыялы [*Пачынальнікі* 1977: 180, 340; Кісялёў 1994a: 148–161; Кісялёў 1994b: 149], сцвердзіў, што аўтару зборніка *Białoruski Bandurzysta* належаць выяўленыя Сцяпанам Александровічам [Александровіч 1965a, № 14: 3; Александровіч 1965b: 167–174] у польскім друку вершы *Пад дуду* і *Зямелька мая*..., якія з гэтага часу пачалі друкавацца не як ананімныя [{Ляскоўскі} 1971: 46–47], а як аўтарскія [гл.: Ляскоўскі 1988: 309–310].

Праўда, у адпаведным раздзеле акадэмічнае *Гісторыі беларускай літаратуры* [гл.: *Гісторыя*... 2007] няма ані слова пра Ю. Ляскоўскага[1], хоць тут згадваецца шэраг іншых паэтаў, выяўлены даробак якіх абмяжоўваецца адным–двума беларускамоўнымі вершамі. Відавочна, аўтары *Гісторыі*... (Уладзімір Мархель і Уладзімір Казбярук) мелі адрозную ад Г. Кісялёва думку пра атрыбуцыю вершаў *Пад дуду* і *Зямелька мая*... [гл.: *Заняпад і адраджэнне*... 2001: 367], але не палічылі патрэбным тут агучваць яе. Дзіўна, аднак, чаму ў *Гісторыі*... не была звернута ўвага на прабеларускі характар зборніка *Białoruski Bandurzysta*? Ю. Ляскоўскі заслугоўвае на прызнанне, на месца ў гісторыі беларускага пісьменства і беларускае думкі сваёю польскамоўнаю паэмаю *W cudzéj stronie*, дзе гучыць малітоўна-прыязны голас любові да свае зямлі, свайго краю, яго кургаНоў, паданняў, людзей. Урэшце, не так і шмат у XIX стагоддзі было іншамоўных выданняў, дзе б так выразна выяўлялася беларускасць. Прынамсі, тое, што легла пазней у аснову беларускае нацыянальнае ідэі.

Незразумела, чаму аўтары *Гісторыі*... праігнаравалі палемічны артыкул *Słówko o pieśni*? Няўжо можна “не заўважыць” палымяны выступ Ю. Ляскоўскага ў абарону самабытнасці беларускае мовы, яе будучыні?

Ніжэй мы паспрабуем прыгледзецца да перыпетыяў лёсу Ю. Ляскоўскага, пашукаць пунктаў судакранання ягоных тэкстаў з беларускай тэматыкай. У аснову нашае рэканструкцыі жыццёвага і творчага шляху літаратара пакладзены як добра вядомыя факты (даследаванні Г. Кісялёва), так і нядаўна выяўленыя матэрыялы.

[1] Адно ў *Храналогіі*, якую рыхтаваў Г. Кісялёў, пазначана, што ў 1861 г. убачыў свет зборнік Ю. Ляскоўскага *Białoruski Bandurzysta* [*Гісторыя*... 2007: 530].

Продкі Юльяна Ляскоўскага, пэўна ж, належалі да шляхецкага стану. Знаёмыя і сябры дадавалі да ягонага прозвішча прыдомак „Korabita", а сам ён часта карыстаўся псеўданімамі „Janko Korabicz" ці „J. Korabicz". Трэба думаць, псеўданім паходзіць ад герба "Кораб". Пятнаццацітомны *Herbarz szlachty polskiej* Севярына Урускага (1817–1890) выводзіць род Ляскоўскіх гербу Кораб з XV стагоддзя:

> LASKOWSKI h. KORAB. W ziemi warszawskiej, na Podlasiu i Litwie, a wzięli nazwisko od wsi Laskowa, w ziemi nurskiej[1]. Wojciech z Laskowa, starosta nurski 1477 r., skarbnik nurski 1478 r. a od 1482 r. skarbnik warszawski, miał syna Macieja, żonatego z Małgorzatą Mińską, kasztelanką zakroczymską [Uruski 1911: 282–283].

Як грамадзянін Расейскае імперыі, бацька[2] Ю. Ляскоўскага пасля царскіх указаў пра г. зв. "разбор шляхты" мусіў даводзіць сваё шляхецтва. Праўдападобна, што якраз пра блізкіх паэта (бацьку, брата і пляменніка) ідзе гаворка ў *Herbarzy szlachty polskiej*:

> Wylegitymowani w Cesarstwie i zapisani do ksiąg szlachty: 1) gub. wileńskiej, Karol-Leonard[3], **syn Ignacego**, z synem Janem 1850 r. [Uruski 1911: 283].

Дзісенскі павет, дзе бацька Ю. Ляскоўскага меў спадчынны фальварак, да 1843 г. уваходзіў у склад Мінскае, а пазней – Віленскае губерні, г. зн., продкаў паэта належыць шукаць сярод шляхты Мінскае губерні: да 1843 г. ягоны бацька павінен быў паклапаціцца пра шляхецтва для сына. Цікава, што ў кнізе *Алфавитный списокъ дворянскимъ родамъ Минской губерніи* згадваюцца два роды Ляскоўскіх: адзін з іх унесены ў 1835 г. у першую, а другі – у 1838 г. у шостую часткі «дворянской родословной книги» [*Алфавитный списокъ...* 1903: 66; *Spis szlachty wylegitymowanej...* 1992: 54]. «Столбовыми дворянами» (шостая частка радаслоўнай кнігі) бацькі Ю. Ляскоўскага наўрад ці былі, а вось да роду, упісанага ў першую частку кнігі, яны маглі належаць. Магчыма, сярод матэрыялаў «Департамента герольдии Сената» можна адшукаць іхнюю шляхецкую справу (гл.: РГИА, 1343–24–4055–4057). Зрабіць гэта сёння, ведаючы імя бацькі Ю. Ляскоўскага, магчыма.

Юльян[4] Ляскоўскі прыйшоў на свет у жніўні 1826 г. у фальварку Новая Жосна[5] Вілейскага павета[6]. Звесткі паходзяць з просьбы паэта дазволіць

---

[1] Колішняя зямля яцвягаў на правым і левым берагах ракі Буг.

[2] Як сведчыць шлюбная метрыка Ю. Ляскоўскага, бацька літаратара зваўся Ігнацы, а маці – Паўліна з Гофертаў [APW, zespół 0614/D, online].

[3] Магчыма, тут гаворка ідзе пра брата Ю. Ляскоўскага.

[4] У метрыцы нараджэння дачкі Станіславы Ядвігі падаюцца два ягоныя імя: Бернард Юльян [гл.: APW, zespół 0054/Da, online].

[5] Новая Жосна ліквідаваная, здаецца, у сярэдзіне XX стагоддзя. Знаходзілася блізу вёсак Слабада, Бакачы, Кавалі, Леанардава, Весялуха сённяшняга Мядзельскага раёна.

[6] Адам Плуг (?) ва *Wspomnieniu pośmiertnym* сцвярджаў, што паэт нарадзіўся ў Варшаве [*Wiadomości bieżące: Wspomnienie...* 1889, nr 15: 3].

яму вярнуцца на радзіму [LVIA, 421–2–1193: 1]. Праўда, ён кажа пра ***вёску*** Новая Жосна («д. Новая-Жосна, Вилейскаго Уѣзда»), хоць быў гэта калісь (прынамсі, на *Планах генерального межевания*, 1794 г.) невялічкі маёнтак, а пасля фальварак. Нават напрыканцы XIX стагоддзя быў там толькі адзін дом:

> **Żosno 1**. **Stare**, folw., pow. wilejski, w 3 okr. pol., gm. Żosno, okr. wiejski Ż. Stare, o 70 w. od Wilejki, 1 dm., 9 mk. 3 prawosł., 6 katol., 405 dzies. ziemi dworskiej, kaplica katol. par. Wołkołata, dawniej par. Budsław. Własność Snarskich. W skład okręgu wiejskiego wchodzą wsi Bojary, Dziagile, Gule i Nowosiołki, w ogóle w 1895 r. 334 dusz rewiz. **2. Ż. Nowe**, fol., tamże, okr. wiejski Ż. Nowe, o 60 w. od Wilejki, 1 dm; 12 mk. 5 prawosł., 7 katol.; własność Borysowiczów. W skład okręgu wiejskiego wchodzą wsi Bakacze, Gorby, Kowale, Maiłowo (Izmaiłowo), Małyszki, Mytkowszczyzna, Puhacze, w ogóle w 1865 r. 141 dusz rewiz. Gmina Żosno obejmuje 6 okręgów wiejskich Ż. Stare i Nowe, Gielanowo, Kraśniany, Staryna i Teresdwór, 24 miejscowości, mających 277 dm., 3884 mk. włośc., uwłaszczonych na 4857 dzies. 3246 roli. Nadto w obrębie gminy znajduje się 6153 dzies. większej posiadłości 2248 roli i 110 dzies. ziemi cerkiewnej. Cały obszar gminy ma 11120 dzies. 5549 roli i 4448 mk. J. Krz.[1] [*Słownik geograficzny*… 1895, XIV: 837].

Новая Жосна належала ў той час сваякам Ляскоўскіх – Гарадзенскім[2], у якіх бацька паэта ці то арандаваў фальварак, ці то працаваў аканомам. Тут, у Жосненскай уніяцкай царкве Ю. Ляскоўскі быў ахрышчаны 20 жніўня 1826 г. [LVIA, 421–2–1193: 1]. Пакуль не высветлена, дзе знаходзілася гэтая ўніяцкая царква: хутчэй за ўсё – пры маёнтку Старая Жосна: менавіта тут яна паказаная на *Планах генерального межевания*. Пазней, у 1837 г. яна, ужо як праваслаўная, апынулася ў былой капліцы ў засценку Весялуха[3], хоць яшчэ доўгі час (да сярэдзіны 1860-х гг.) называлася Жосненска-Іаанаўскай (Міхайлаўскай, Крашчэнскаю) царквою [гл.: *Вилейскій уѣздъ*, online]. Вядома, была яна ўжо не ўніяцкая, а праваслаўная.

Невядома, як доўга жылі Ляскоўскія ў Новай Жосне, але вельмі верагодна, што менавіта адсюль трапіў ён у школу будслаўскіх айцоў-бернардынаў, „co mnie czytać i pisać nauczyli” [Laskowski 1861: 5]. Зрэшты, бацькі маглі прывезці сына ў Будслаў і са спадчыннага фальварку Заканоўска «Дисненскаго Уѣзда, состоящемъ въ наслѣдственномъ владѣніи <…> родителей» [LVIA, 421–2–1193: 1]. Сам паэт называе фальварак сялом («потомъ въ селѣ Законовскѣ»), хоць і падае (калі дакладна, то называе не ён, а Міхаіл Похвіснеў, які ў 1858 г. выконваў абавязкі віленскага губернатара) тапонім у форме мужчынскага роду, г. зн. меўся на ўвазе фальварак ці маёнтак. Дарэчы, на картах XVIII – пачатку XX стагоддзя мясцовасць

---

1 Аўтарам артыкула быў, відаць, Юзаф Крывіцкі (Józef Krzywicki, 1838–1909).

2 У 1860-я гг. фальварак Новая Жосна належаў «О.Л. Борисовичу» [гл.: РГИА, 577–3–22]. Барысовічы валодалі ім і напрыканцы XIX стагоддзя [гл.: *Słownik geograficzny*… 1895, XIV: 837].

3 Тут прыходская праваслаўная царква была пабудаваная Гутаровічамі ў 1814 г. [Сапуновъ, Друцкій-Любецкій 1896: 197].

называецца «дворъ Законовскъ” (*Планы генерального межевания*), «г. дв. Законовскій» (1840–1870 гг.), „Zakonowsk”, і толькі ў сярэдзіне (?) XX стагоддзя “з’явілася” вёска Заканоўшчына ў Казлоўшчынскім сельсавеце Пастаўскага раёна.

У *Słowniku geograficznym…* чытаем:

> **Zakonowiek**, folw. nad rz. Gulidówką, pow. dzisieński, w 1 okr. pol, o 64 w. od Dzisny, a 14 w. od Głębokiego, 1 dm., 11 mk. katol. Do Z. należy pustkowie Mosztarki [*Słownik geograficzny*… 1895, XIV: 299].

Што гэта: памылка наборшчыка ці аўтар *Słownika…* падаў мясцовую назву фальварка? Той факт, што аўтар нататкі называе рэчку, ля якой знаходзіцца сядзіба, вельмі красамоўны: назва невялічкае рэчкі не фіксуецца (як выключэнне – *Планы генерального межевания*) на картах (часта яна зусім не паказваецца). Цікава, што “польская” *Вікіпедыя*, не пазначаючы крыніцу, падае, што „nazwa dawniej używana – Żakonówek”, але гістарычныя звесткі пра фальварак падаюцца тут адно з часоў Другое Рэчы Паспалітае:

> W dwudziestoleciu międzywojennym zaścianek a następnie kolonia leżała w Polsce, w województwie wileńskim, w powiecie duniłowickim (od 1926 postawskim), w gminie Łuck (od 1927 gmina Kozłowszczyzna). Według Powszechnego Spisu Ludności z 1921 roku zamieszkiwało tu 58 osób, 1 była wyznania rzymskokatolickiego, 55 prawosławnego a 2 mojżeszowego. Jednocześnie 2 mieszkańców zadeklarowało polską przynależność narodową a 56 białoruska. Było tu 5 budynków mieszkalnych. W 1931 w 9 domach zamieszkiwało 71 osób. Miejscowość należała do parafii rzymskokatolickiej w Mosarzu i prawosławnej w Osinogródku. Podlegała pod Sąd Grodzki w Duniłowiczach i Okręgowy w Wilnie; właściwy urząd pocztowy mieścił się w Nowodrucku [*Zakonowsk*, online].

На жаль, аніякіх звестак пра ўладальнікаў Заканоўска ў XIX стагоддзі пакуль не выяўлена. Зрэшты, да крыху іншых мясцінаў, а не спадчыннага фальварку бацькоў цягнуўся Ю. Ляскоўскі памяццю, калі пісаў паэму *W cudzéj stronie*. Яшчэ Г. Кісялёў звярнуў увагу, што, відаць, невыпадкова паэт згадвае ў творы невялікую рэчку Сергуч, левы прыток Беразіны[1]:

[1] Аляксандар Ельскі так апісваў гэтую рэчку: „**Sergucz**, Serhucz al. Sergut, rzeka wchodzą ca w systemat wodny berezyński (ob. *Berezyński kanał*), bierze początek nie z jeziora Maniec (w pow. Borysowskim), jak mylnie podaje Zieleński (w Opisie gub. mińskiej, I, 231), lecz wypływa z jez. Cieklic w pow. Lepelskim), mając z początku oba brzegi wyniosłe. Ubiegłszy 6 w. w kierunku płd.-zach., dociera do granicy pow. borysowskiego i na przestrzeni przeszło 3 w. stanowiąc jego granicę, wpływa pod wsią Osieczyszcze do jez. Mańco już w pow. borysowskim, następnie prze pływa jezioro Pławio, Maniec i lesistemi moczarami dąży ku zachodniemu brzegowi jeziora Domżeryckiego, które zasiliwszy jedną z odnóg, płynie dalej do zaśc. Prystań, odkąd, dla ułatwienia żeglugi utrudnionej z powodu licznych zakrętów, mielizn i bagnistych brzegów, na przestrzeni 8 w. i 300 saż. wody S. sprowadzono w znacznej części do kanału zwanego Serguckim (ob.), wykopanym w r. 1804 z prawej strony koryta rzeki, wpadającej razem z kanałem

Ej, co to tutaj!... U nas po nad Dźwiną,
Hen nad Serhuczą, po nad Berezyną,
Strona tam inna, kraj zryty w kurhany,
W mogilne kopce szeroko skopany!
[Laskowski 1861: 28].

Цалкам слушна даследнік меркаваў, што "найбольш ведалі Сергуч, зразумела, мясцовыя жыхары. Так што, магчыма, Ляскоўскі і паходзіў якраз з тых ваколіц (сённяшнія Лепельскі і Докшыцкі раёны Віцебскай вобласці)" [Кісялёў 1994а: 153]. Як вядома, паэт нарадзіўся ў іншым месцы, але бясспрэчна, што ваколіцы Сергуцкага (ці то Бярэзінскага) канала ён добра ведаў. Відаць, тут ён нейкі час жыў: ці то яшчэ ў дзяцінстве, калі бацька мог арандаваць нейкі фальварак, ці то ўжо ў юнацтве, калі знайшоў тут працу, напрыклад, у дырэкцыі Бярэзінскага канала. Вядома, з Янам Чачотам, які пакінуў Лепель напрыканцы 1830-х гг., ён наўрад ці сустрэўся, бо малавераемна, каб чатырнаццацігадовы падлетак быў прыняты на службу, але пра славутага філамата мог пачуць ад калегаў ці тамтэйшае шляхты.

Звернем мы ўвагу і на тое, што асноўнае дзеянне ў паэме адбываецца ў вёсцы (дакладней: блізу вёскі) Жаркí:

Potém – zdała, kędyś w lesie,
Ot wyraźnie koń zachrapiał:
Echo głuchy odgłos niesie
Naokoło.... wtém kur zapiał,
Hen od strony gdzie wieś **Żarki**,
A w głos dziwnie gromki, jarki…
[Laskowski 1861: 48].

У паўночнай Беларусі вёска з такою назваю ёсць толькі адна: сёння ў Астровенскім (да 2004 г. – Плiскім) сельсавеце Бешанковіцкага раёна (колісь: Сененскага павета). Маецца на ўвазе яна? Ці, можа, гэтая назва вёскі з'явілася ў паэме як патрэбная рыфма да слова „jarki"? Магчыма, але больш праўдападобна, што аўтар выкарыстаў беларускае слова „jarki" ў якасці рыфмы да істотнае для яго геаграфічнае назвы.

Відаць, вёска Жаркі – рэальны тапонім: з усіх раней згаданых мясцінаў, якія мы звязваем з дзіцячымі і юнацкімі гадамі Ю. Ляскоўскага, яна размешчана блізу Дзвіны, ракі, якую колькі разоў паэт згадвае ў паэме.

Дзе і як адукоўваўся Ю. Ляскоўскі, мы не ведаем. Але, думаецца, што ён не спыніўся на 2-класнай пачатковай школе ў Будславе. Да сваіх дваццаці гадоў ён паспеў дзесьці павучыцца[1] і нават дзесьці «имѣлъ частныя занятія»; пасля ў 1846 г. прыехаў у Вільню, каб уладкавацца на дзяржаўную працу: «состоялъ на службѣ сперва въ Губернскомъ Правленіи,

---

do Berezyny z lewej strony o 1 wiorstę za folw. Załazy. Długość biegu około 38 wiorst, szerokość dochodzi do 10 saż. , głębokość do 5 st. S. odznacza się rybnością jak i wszystkie dopływy Berezyny. *A. Jel.*" [*Słownik geograficzny*… 1889, X: 452].

[1] А. Плуг (?) сцвярджаў, што паэт закончыў школу ў Варшаве, а пасля юрыдычныя курсы [*Wiadomości bieżące: Wspomnienie…* 1889, nr 15: 3].

а потомъ въ Земскомъ Судѣ» [LVIA, 421–2–1193: 1]. Пра службу ў дадзеных установах ён напісаў сам; гэта таксама пацверджана рапартамі віленскіх станавых прыставаў [LVIA, 421–2–1193: 3–5]. Пасады (відавочна, канцылярскія), якія ён займаў і ў губернскай управе, і ў земскім судзе, не фіксаваліся адрас-календарамі [гл. напр.: *Адресъ-календарь…* 1847: 12–13].

У просьбе ў III аддзяленне пра вяртанне на Бацькаўшчыну Ю. Ляскоўскі таксама паведамляе пра сваю прыналежнасць да таемнага таварыства: «Познакомившись съ Невяровичемъ, былъ завлеченъ имъ въ тайное злоумышленное общество, открытое въ Вильнѣ, и боясь наказанія, скрылся одтуда 11го Апрѣля 1849 года, а вскорѣ послѣ того удалился за границу» [LVIA, 421–2–1193: 1]. Відавочна, ён мае на ўвазе Związek Bratni Młodzieży Litewskiej, заснаваны ў сярэдзіне 1840-х гг. у Вільні Францішкам і Аляксандрам Далеўскімі. Якраз у сакавіку 1849 г. арганізацыя, што актыўна стала дзейнічаць пасля еўрапейскае вясны народаў і мела ўжо прызначаны дзень паўстання (5 красавіка 1849 г.), была выкрыта, да следства прыцягнута больш за 200 яе сяброў [Matusik, online]. Але ў канцылярыі віленскага вайсковага губернатара дзеля ідэнтыфікацыі эмігранта звярнуліся чамусьці не да следчае справы братоў Далеўскіх ці справы Związku Bratniego Młodzieży Litewskiej, а да матэрыялаў следства шляхціца Івана Невяровіча, які ў 1846 г. (sic!) даў паказанні (невядома: ці то данёс, ці то прызнаўся падчас следства) «о неблагонамѣренныхъ замыслахъ уроженца Царства Польскаго Мельхіора Недзвѣцкаго». Імя Ю. Ляскоўскага ў гэтай справе не згадвалася. Увогуле, у 1846 г. паэт толькі прыехаў у Вільню і наўрад ці мог быць «завлеченнымъ» у таварыства, якое хоць і існавала ў той час, але было яшчэ нешматлікім і называлася, дарэчы, адно Związek Bratni. Сумнеўна таксама, што Іван Невяровіч з 1846 г. – гэта той самы Невяровіч, які ўвёў Ю. Ляскоўскага ў таемную арганізацыю.

Але факт застаецца фактам (Ю. Ляскоўскі, просячы дазволу вярнуцца, пэўна ж, стараўся быць дакладным) – паэт належаў да таемнай арганізацыі, разумеў небяспеку, да якое прывяло выяўленне ўладамі Związku, і прыняў (магчыма, супольна з сябрамі) рашэнне пакінуць Бацькаўшчыну. Думаецца, што выехаўшы 11 красавіка 1849 г. з Вільні, ён неўзабаве перайшоў мяжу[1] і накіраваўся ў Францыю, дзе знаходзіўся дастаткова доўга – да студзеня 1854 г.[2]. Магчыма, там ён пачаў супрацоўнічаць з эміграцыйнымі

---

[1] Вядома, з Вільні найбліжэй было да прускае мяжы – праз Коўна, мытню ў Горджах у Мемель (Клайпеда). Але верш Ю. Ляскоўскага *Mogiła Hetmańska na Pobereżu: Z podania ludu małoruskiego o grobowcu Hetmana Żołkiewskiego na multańskim brzegu dniestrowym* (1856) можа сведчыць, што паэт меў магчымасць на ўласныя вочы бачыць магілу гетмана Станіслава Жулкеўскага (1547–1620) на беразе Днястра на тэрыторыі сённяшняе Румыніі, г. зн. накіраваўся ён, відаць, праз расейскую Бесарабію і асманскую Валахію ў Францыю.

[2] У архіве III аддзялення захоўваецца справа на 49 аркушах *О польских выходцах: Об Ульяне Лясковском*, датаваная 19.09.1853 г. [ГА РФ, 109–28–18]. Магчыма, ужо тады паэт спрабаваў атрымаць дазвол на вяртанне. Адмова ж царскае ўлады падштурхнула яго пераехаць у Англію. На жаль, нам пакуль не ўдалося пазнаёміцца з гэтаю справаю

выданнямі. Па-першае, пра гэта ён паведамляе сам у лісце да Юзафа Ігнацы Крашэўскага: „Dawniej próbki robiłem do pism polskich za granicą bezimiennie, i te były przyjęte – nie pogardzano niemi” [BJ, 6470/IV: 15 v]. Па-другое, працаўнікі Muzeum Narodowego w Rapperswilu ў рукапісным *Wykazie pseudonimów* (аўтары: кусташ Юзаф Радаміньскі (1872–1889), бібліятэкар В. Каршэўскі (1901–1910) і інш.), відаць, на дакументальнай аснове расшыфравалі псеўданім „Korabicz” як “Юльян Ляскоўскі” [гл.: Bar 1936, I: 214].

З Францыі паэту хіба ўдавалася падтрымліваць сувязь з бацькамі ці сваякамі; ён, прынамсі, паведаміў ім, што ў студзені 1854 г. выязджае ў Англію [гл.: *Doniesienia* 1858, nr 12: 6 ]. А вось са сталіцы туманнага Альбіёну, відаць, не змог знайсці каналаў, якія б лучылі яго з Бацькаўшчынаю. Дома колькі гадоў не мелі вестак ад сына, дык самі праслалі ліст на імя Літаратурнага таварыства сяброў Польшчы ў Англіі. Зрэшты, ліст, які прапіў да Караля Шульчэўскага ў сакавіку 1858 г. мог шмат месяцаў і нават гадоў “вандраваць” з Беларусі ў Лондан.

У сталіцы Англіі Ю. Ляскоўскі жыў не больш за два гады: паэма *W cudzéj stronie* датуецца „Londyn, w r. 1855”, а ўжо ў 1856 г. мы бачым яго на Падляшшы, на пруска-расейскім памежжы.

Вядома, не ад лёгкага жыцця Ю. Ляскоўскі пераехаў з Францыі ў Лондан. Але і ў Англіі ён не мог разлічваць на дапамогу (пры пасярэдніцтве Літаратурнага таварыства сяброў Польшчы) ураду: яе атрымлівалі толькі былыя ўдзельнікі Паўстання 1830–1831 гг. Тым не менш, паэт, відаць, звяртаўся ў Таварыства, скарбнікам (касірам) якога доўгі час быў Ігнацы Яцкоўскі, на 10, Duke Street S. James w Londynie, бо дату ягонага пераезду ведаў К. Шульчэўскі, сакратар Таварыства. (Мяркуем, што пра дату пераезду Ю. Ляскоўскага К. Шульчэўскі даведаўся ўсё ж не з ліста!).

Цяжкіх сем гадоў туляцтва нарэшце завяршыліся прыняццем рашэння кіравацца бліжэй да Бацькаўшчыны. З гэтай прычыны паэт выбраў Прусію, а не Аўстра-Венгрыю, хоць улады апошняй значна больш памяркоўна за немцаў-прусакоў ставіліся да сваіх польскіх падданых.

Першым вядомым прыстанкам Ю. Ляскоўскага па-за Лонданам стаў Шчучын. Прынамсі, тут, у гэтай мясцовасці паэт напісаў 28 лістапада 1856 г. верш *Do panny A. D.*:

Tyś pieszczoszka... oj, nieładnie
    Piesczoszką na świecie żyć,
I oczkami mrugać zdradnie,
    Tylko marzyć tylko śnić!

Tutaj ziemia, mój motylku,
    O! nie zawsze dla złud maj!...
Tysiąc trosk tu rodzi chwilka:
    Taki to ten ziemski raj!

Tutaj latka życie kradną,
    Serce kolą ciernie, głóg,
Tu śnić zdradno, marzyć zdradno,
    Śród życia cierniowych dróg!

Dzisiaj-ć gwiazdki świecą jasno,
    Lecz ty zabrniesz w życia ćmę,
I światełka te pogasną,
    I nie jedną otrzesz łzę!

Co cię czeka?... kto to zgadnie!
    Zajrzyj w chmurną życia dal…
A oczkami nie mruż zdradnie,
    Bo żal oczek, życia żal!

Ty zawczasu, miłe dziecię,
    Myśli ze snów złudnych zbudź:
Burza strząśnie wiosny kwiecie,
    Strzaska wiotką życia łódź!
        [Laskowski 1861: 160–162].

Зважаючы на тое, што ўцякач-выгнаннік, відаць, не павінен быў з'яўляцца ў межах Расейскае імперыі, мы схільны былі думаць: тут маецца на ўвазе маёнтак Шчучын[1], які належаў Твардоўскім[2] у Шаматульскім павеце (Правінцыя Пózen/Пóзнань, ням. Posen – каралеўства Прусія і Вольнай дзяржавы Прусія).

Але, расшыфраваўшы крыптанім A. D. як Ганна Матыльда Дален (Anna Matylda Dahlen, 1852–1918), мы прыйшлі да высновы, што пазнака пад вершам *Do panny A. D.* адсылае нас да павятовага мястэчка Ломжынскае губерні:

> **Szczuczyn**, *Mazowieckim* zwany, miasto powiatowe gub. łomżyńskiej, nad rz. Wissą (z praw. Brzegu), pod 53°33'4'' szer. płn. i 39°57'6'' dług. wschód., od F. Odl. 186 w. od Warszawy, 4½ w. od granicy Prus Wschodnich, 4½ w. na płn.-zach. od os. Wąsosza. Szosa warszawsko-kowieńska, przecinająca powiat, łączy Sz. z Grajewem, Augustowem, Suwałkami, Kolnem i Łomżą. Najbliższa st. dr. żel. w Grajewie o 14 w. na płn.-wschód. Miasto posiada kościół par. murowany (popijarski), szpital św. Stanisława na 30 łóżek (w dawnem kolegium pijarów), szkołę miejską 4-klasową, sąd pokoju okr. II, sąd gm. okr. I, urząd powiat. i kasę, magistrat, urząd gm., urząd pocz. i telegr., resursę miejską (od 1875 r.). W mieście stoi pułk kozaków. Ludność zapisana do ksiąg stałych wynosi obecnie 4897, lecz po strąceniu nieobecnych (1253) rzeczywiście znajduje się na miejsca 3644, do czego dodawszy 356 niestałych, otrzymamy 4000 ogólnej ludności bez wojska. Śród stałej ludności (z nieobecnymi) było 3968 żydów, 908 katol., 17 prot.

---

[1] „**Szczuczn**, Sczuczino r. 1391, majętność, pow. szamotulski, o 3 klm. na płn. od Szamotuł par., poczta i st. dr. żel., na lew. brzegu Samicy dopł. Warty; z fol. Mędzisko tworzy okrąg dworski, mający 14 dym., 276 mk. 247 kat., 29 prot. i 1262 ha 648 roli, 54 łąk, 496 lasu. Właścicielem jest Tadeusz Twardowski. <…> Przy schyłku zeszłego stulecia Twardowscy dziedziczyli Sz. z Karczemką na Wrzosach. Dobrogost Twardowski utworzył z dóbr Kobylnik i Szczuczyna 8559 mr. na syna swego ordynację, zatwierdzoną 27 kwiet. 1859 r. przez Fryderyka Wilhelma IV (Złota Ks., I, 379)" [*Słownik geograficzny*… 1890, XI: 865].

[2] Дабрагосту Твардоўскаму (1789–1859) і ягонаму сыну Тэадору Паўлу Твардоўскаму (1820–1869).

i 4 prawosł.; 1827 r. było 277 dm., 3084 mk. Dochody miasta wynosiły (r. 1890) rs. 5163, rozchody rs. 4946. Miasto położone dość wysoko ponad doliną Wissy. Miasto powstało na obszarze okolicy zaludnionej przez rodzinę Szczuków, którzy porozglądali się tu w licznych wioskach, które z czasem utraciły pierwotną ogólną nazwę. <…> Miasto, położone przy granicy litewskiej, było porządnie zabudowane, miało obszerny rynek, szerokie brukowane ulice, znaczno przedmieście, dobrze zabudowane. Przy mieście stała w ruinie już niedokończona rezydencya dziedziców przez Szczukę zaczęta. W kolegium pijarskim pobierało bezpłatnie naukę 150 uczniów. Siostry miłosierdzia mieszkały w domu prywatnym, oczekując na wzniesienie klasztoru. W mieście znajdował się urząd celny, podatkowy i konsumcyjny, zajmujące część budowli pijarskich. Stał też szwadron dragonów. Rząd pruski zamierzył odkupić miasto od właściciela. Po 1815 r. Sz. wchodzi w skład obwodu augustowskiego. Żydzi wznoszą tu wielką synagogę. Miasto zaczyna upadać, zapewne z powodu tego, iż ruch handlowy na trakcie z Królewca do Białegostoku zmniejszył się po przeprowadzeniu nowych granic politycznych. Z władz istnieje tu tylko sąd pokoju. Szkoła zostawała pod zarządem pijarów jeszcze jakiś czas po 1831 r. Z nauczycieli ważniejszymi byli kś. Jakub Falkowski, założyciel instytutu głuchoniemych w Warszawie, Bronisław Trentowski, Witwicki. Uczniami szkoły byli dwaj Wagowie: Jakub i Antoni, rodem z poblizkiego Grabowa. W 1836 r. inspektorem szkoły jest M. Szumkowski, nauczycielami kś. W. Żukowski, Zajcew, Paweł Adamski, Konwicki, Rzeczniowski i Królikowski. Akty uroczyste zamknięcia roku szkolnego szkoły obwodowej w Sz. wychodziły w r. 1834 i 1836 w Suwałkach. Wielki pożar w r. 1858 zniszczył w mieście 186 domów, ocalało tylko 59. Z zabytków przeszłości najważniejszym jest piękny kościół z grobami pijarów i okolicznej szlachty. W zakrystyi portrety podkanclerzego Szczuki i jego żony. Z zamku Szczukow został tylko wał i piwnica obszerna [*Słownik geograficzny*… 1890, XI: 862, 863].

У Шчучыне жыў і працаваў на мытні[1] Ян Ігнацы Мар’ян Дален (Jan Ignacy Marian Dahlen, 1814–1892), а таксама ягоная вялікая сям’я: жонка – Караліна з Закшэўскіх (1816–1855) і дзеці – Мар’яна (1840 ці 1841 – ?), Юзаф (1845–1879), Фелікс (1847 – ?), Ганна Матыльда і інш.

Мяркуем, што менавіта тут Ю. Ляскоўскі пазнаёміўся са сваёй будучай жонкаю – Мар’янаю Дален. На такую думку наводзяць словы Вінцэнта Каратынскага[2] ў “пасмяротным успаміне”:

> Przedtém przebywał za granicą, zwłaszcza w W. Ks. Poznańskiém, i miał znajomości w pogranicznych okolicach Królestwa; ztamtąd też, z okolic Mławy, przywiózł sobie późniéj do Wilna dozgonną towarzyszkę życia, młodziuchną, piękną i zacną niewiastę [*Kronika Warszawska*… 1889, nr 17: 2].

Ю. Ляскоўскі, пасяліўшыся на памежжы (магчыма, Карсы, Осек, Елень), меў магчымасць наведвацца (відаць, нелегальна) да сваіх знаёмых, якія жылі на тэрыторыі Расейскае імперыі. Ян Дален, які служыў на мытні,

[1] Ян Дален, ажаніўшыся ў 1839 г., служыў на розных пасадах у памежных мясцовасцях – Сувалках, Тыкоціне, Граеве, Зелюню і інш.

[2] Аўтарства “пасмяротнага ўспаміну” гіпатэтычнае. Гл. ніжэй.

пэўна ж, спрыяў выгнанніку ў ягоных пераездах праз мяжу. Магчыма, нават, пасля смерці ў маі 1855 г. першае жонкі, ён запрасіў Ю. Ляскоўскага на пасаду настаўніка сваіх дзяцей. Такім чынам, афіцыйна жывучы ў Прусіі, выгнаннік фактычна жыў у Расейскай імперыі, у доме Яна Далена. Гэта давала якраз В. Каратынскаму права сказаць: „miał znajomości w pogranicznych okolicach Królestwa".

Нашая гіпотэза пацвярджаецца вершамі паэта: *Do panny M. D. Nadmogilna gawęda*, напісаным 28 верасня 1858 г. у Зелюню[1], і *Dla małej Stefci nad kolebką*, напісаным 27 снежня 1858 г.

Першы з іх сведчыць, што Ю. Ляскоўскі паэтычнымі радкамі не проста суцяшае 17–18-гадовую дзяўчыну, а сведчыць сваю апеку над ейным лёсам:

**Do panny M. D.**
**Nadmogilna gawęda**

To grób twéj matki – pamiątka to łzawa!
Duszę żałością i bólem napawa!
Pod twardym głazem, w téj mogilnéj glebie
Spoczęło serce, co kochało ciebie.
Prochy jéj w grobie... ale pamięć o niéj,
Czuwaj, o! czuwaj, by nie zaginęła,
Nie uroń z myśli żalnéj doby onéj,
Gdy błogosławiąc ci w Bogu zasnęła.

Lecz czyż nic więcéj, prócz łez i pacierza
Tu nie przyniesiesz? prócz serca w żałobie?
Trumna – krzyż nad nią... to symbol przymierza
Tych, co tu żyją, z tymi, co są w grobie.
Cichość tu wielka, spokój tu ponury,
Głuche mogiły i głucha smętarnia, –
Wsłuchaj się w ciszę.... chyba przelot chmury
Pszerwie ten spokój, co cię tu ogarnia.

Ale czyż przeto, że wkrąg głusza taka,
Symbol ten martwą miałby stać pamiątką?
O! nie wierz temu!... kto sercem prostaka,
Kto myślą czystą szuka spójni wątku,
Co świat nasz z światem zagrobnym jednoczy,
Takiemu wielkie dziwy grób rozpowie,
I wielkie cuda wywiedzie przed oczy,
Za łaską Boga, w bujnych dum osnowie.

---

[1] **Zieluń** osada, wś i fol., nad rz. Działdówką, pow. mławski, gm. i par. Zieluń, leży przy granicy od Prus, odl. 30 w. na zach. od Mławy, posiada kościół par. murowany, szkołę początkową, synagogę, urz. gm., urz. celny i posterunek straży pogranicznej, kasę wkładowozaliczkową przy urzędzie gminnym, gorzelnię, dwa małe browary, młyn wodny, cegielnię, wiatrak i tartak mały, dwie karczmy, 67 dm., 1361 mk. Targi tygodniowe co środa. Droga bita łączy **Z**. z Żurominem i Bieżuniem" [*Słownik geograficzny*… 1895, XIV: 606].

Duchem on wskrześnie z nową k' życiu siłą,
I na pokusy świata stanie skałą,
Jeźli tych wrażeń, co wziął nad mogiłą,
Nie zatrze w duszy, gubiąc wieczność całą.

Wiem ja co pacierz, znam co boleść serca!
One nas k' Bogu w niebiosach podnoszą,
Słowa modlitwy, w uczucia iskierce
Zawarte, pokój umarłym wyproszą.
Módl się więc... Stwórca próśb twoich wysłucha,
Duchowi matki da światłość wieczystą,
Módłom sieroty On nakłoni ucha,
Bo jest dobrocią, łaską wiekuistą.

Lecz to nie dosyć!... na matki mogile
Snuje się dla cię wrażenia nić złota,
Tu wspomnień tyle, tu nauki tyle,
Co cię umocnią w pielgrzymce żywota,
Nie dadzą zboczyć z uproszczonéj drogi,
Choćby ta droga cierniem słaną była:
Niech trudem życia doświadcza los wrogi,
Ty przetrwasz próby… bo tych wrażeń siła,
Bo ta nić złota, co w myśli wyprzędziesz,
Co duszę twoją z duchem matki złączy,
Choć łzę żałości na lica wysączy,
Wesprze cię w życiu... Ty szczęśliwą będziesz,
Że drogę życia, trudną a mozolną
W spokoju ducha tobie przebyć wolno.

Chcesz-li więc łaski téj cudu dostąpić?...
Toż wrażeń onych, co weźmiesz na grobie,
Nie uroń z duszy, zachowaj je w sobie,
By ci nie przyszło w drodze życia zwątpić.
A duch twéj matki, z za grobu, z wieczności,
Pobłogosławi szlak pielgrzymki twojéj,
Zdradnych mamideł porozwiewa roje,
Nie da utonąć w świeckiéj znikomości.
[Laskowski 1861: 152–156].

Другі верш пацвярджае нашую думку, што паэт мае цёплыя, прыязныя дачыненні з Янам Даленам і ягонай другою жонкаю – Антанінаю з Курц'юшаў (Antonina Kurcyusz, 1825–1903): Стэфця – гэта іхняя другая[1] дачка Стафанія Валерыя, якая нарадзілася 20 кастрычніка 1858 г.

Магчыма, пачуцці да Мар'яны Дален схілілі Ю. Ляскоўскага да напісання просьбы ў «III Отдѣленіе Собственной Его Императорскаго Величества Канцеляріи» аб вяртанні ў імперыю. Пэўна, прускія Карсы[2],

[1] Першая – Алімпія Вікторыя Станіслава – нарадзілася ў 1857 г. Цікава, што калі яна ў 1903 г. першы раз брала шлюб у Варшаве, дык сведкаю быў Карл Ляскоўскі, сын Юльяна.
[2] У Карсах у маі–ліпені 1858 г. Ю. Ляскоўскі напісаў вершы: *Mogiła hetmańska na*

Осек[1] і Елень[2], дзе ён знаходзіў працу, не задавальнялі яго: каханая была падданаю расейскага імператара Аляксандра II, які ў той час славіўся сваім лібералізмам, дык паэт, ведаючы пра амністыю палітычным эмігрантам, адважыўся пашукаць шчасця ў Расеі.

Справа «по Предписаніи Г. Начальника Губерніи о выходцѣ Юліанѣ Лясковскомъ» разглядалася ў Вільні, пачынаючы ад снежня 1857 г. Аднак невядома, калі ў Пецярбурзе паводле «Всемилостивѣйшаго разрѣшенія» далі Ю. Ляскоўскаму дазвол вярнуцца на радзіму «въ Виленскую Губернію», бо хоць вялікіх ягоных "грахоў" віленская адміністрацыя, здаецца, не знайшла, царызм не заўсёды ахвотна ішоў насустрач эмігрантам.

Нягледзячы на гэта, у Вільню на сталае жыццё Ю. Ляскоўскі прыехаў не раней, чым у чэрвені 1860 г., бо ягоны верш *Z wiosną dziewczę-sirota*[3] напісаны ў фальварку Елень[4] у маі 1860 г.[5] [Laskowski 1861: 146–151], хоць ужо ў красавіку быў на Літве: якраз у гэтым месяцы «по предписанію начальника 4 округа корпуса жандармовъ отъ 15 Апрѣля 1860 года за № 145» яго ўнеслі ў «Списокъ Польскимъ выходцамъ проживающимъ въ Виленской Губерніи и состоящихъ поднадзоромъ»[6] [LVIA, 422–1–8: 10].

Такім чынам, пасля адзінаццаці гадоў туляцтва Ю. Ляскоўскі вярнуўся на радзіму і пасяліўся ў Вільні: прынамсі, вядома, што два вершы (*Do braci lirników* і *Nie zabawne zabawki*), датаваныя 16 і 20 кастрычніка 1860 г., напісаны ў галоўным горадзе Літвы. Апрача таго, ліст да Ю.І. Крашэўскага

---

*Pobereżu* і *Moje widzenie*. Верагодна, гэта тыя Карсы, пра якія ёсць інфармацыі ў *Słowniku geograficznym*…: „**Karsy**, dom. i gm., pow. pleszewski, 2494 mr. rozl., 2 miejsc a) **K**.; b) folw. Żychlin (Louisenhof); 10 dm., 176 mk., 35 ew., 141 kat., 96 analf. Poczta w Sobótce o 3 kil, st. kolei żel. Biniew o 9 kil. Niegdyś własność Żychlinskich. Chłopi wsi **Karsy**, namówieni przez komisarza powiatowego, podali do rejencyi prośbę o zmianę nazwiska wsi na niemieckie, spodziewając się ulgi w podatkach. Lecz właściciel wsi, choć niemiec, oparł się temu, dowiedziawszy się, że wieś ma nosić nazwisko „Bismarcksdorf". W skutek tego wś Karsy nosi nazwisko Bismarcksdorf, a dominium zachowało swą dawną nazwę Karsy" [*Słownik geograficzny*… 1882, III: 881–882].

[1] Мясцовасць, дзе ў 1858 г. жыў і працаваў Ю. Ляскоўскі, складана лакалізаваць: *Słownik geograficzny*… падае некалькі дзясяткаў вёсак, фальваркаў і мястэчак на тэрыторыі даўняй Прусіі з гэтаю назваю. Тут паэт піша верш *Dla małej Stefci nad kolebką: Z podsłuchanych dumek matczynych*.

[2] „**Jeleń**, niem. Jellen l. wieś włośc, powiat brodnicki, nad jeziorem wąpierskiem, ¾ mili od Lidzbarka, przy granicy Prus wschodnich. Obszaru liczy mr. 4860, budynk. 209, dm. 75, katol. 441, ew. 97. Parafia, szkoła i poczta Lidzbark" [*Słownik geograficzny*… 1882, III: 554].

[3] Змест верша сведчыць, што твор скіраваны да ўсё тае ж M. D.

[4] Хоць гэта і недалёка ад Зелюню і Млавы, але на тэрыторыі Прусіі.

[5] Вядома, варта ўлічваць той факт, што ў прыпісе пад вершам магла быць як аўтарская, так і друкарская памылкі.

[6] Гэта можа азначаць, што ў красавіку 1860 г. Ю. Ляскоўскі ўпершыню пасля доўгага перапынку прыехаў на радзіму. Магчыма, дзеля таго, каб атрымаць бацькоўскае (матчынае) блаславенне на шлюб.

ад 13/25 сакавіка 1861 г. сведчыць, што жыў паэт па адрасе „ulica Niemiecka, dom Szyszki[1], kwatera N 7" [BJ, 6470/IV: 16 v].

Ці не асноўным клопатам Ю. Ляскоўскага ў гэты час была падрыхтоўка шлюбу з Мар'янай Дален: 6, 13 і 20 студзеня 1861 г. у Зелюню ў тамтэйшым парафіяльным касцёле аб'явілі запаведзі, а 6, 13 і 20 красавіка 1861 г. іх паўтарылі ў віленскім святаянскім касцёле. Шлюб маладыя бралі 9 ліпеня 1861 г. у Зелюню:

> Działo się w wsi Zieluniu dnia dziewiątego Lipca Tysiąc ośmset sześćdziesiątego pierwszego roku, o godzinie dwunastej w południe. – Wiadomo czynimy, iż w przytomności swiadków <...> na dniu dzisiejszym zawarte zostało Religijne Małżeństwo między Julijanem Laskowskim młodzianem, mieszkańcem Miasta Wilna w Cesarstwie Rossyiskim, urodzonym w wsi Zośnie w Powiecie i Gubernii Wileńskiej, Synem niegdy Ignacego i żyjącej Pauliny z Hoffertów w Majętności Łaputach zamieszkałej, Małżonków Laskowskich, lat trzydzieści trzy[2] mającym, w Mieście Gubernialnym Wilno zamieszkałym; a Maryanną Dahlen panną urodzoną w Mieście Gubiernialnym Suwałki, Córką Jana Poborcy Komory Celnej Zieluń, i Karoliny z Zakrzewskich dziś nieżyjącej Małżonków Dahlenów lat dwadzieścia mającą[3], przy Ojcu tu w Zieluniu zastającą [APW, zespół 0614/D, online].

Ці не адразу пасля шлюбу Ю. Ляскоўскі з маладой жонкай пераехаў у Вільню. Тут, на "віленскім бруку" Ю. Ляскоўскага цікавіла найперш культурнае жыццё, кола „Kuryera Wileńskiego" і „Teki Wileńskiej", а можа, і салон Адама Кіркора[4]; бо на эміграцыі ён актыўна займаўся літаратурнай творчасцю і шэраг тэкстаў (відавочна, патрыятычныя мусіў пакінуць у Прусіі) прывёз у Расею. Відаць, ён шукаў магчымасці працаваць у якасці рэдактара ці карэспандэнта. Дзеля гэта мусіў паказаць свае здольнасці, уліцца ў шэрагі мясцовых "лірнікаў", на чале якіх стаяў Уладзіслаў Сыракомля. Менавіта да яго ў кастрычніку 1860 г. звяртаўся паэт у вершы *Do braci lirników*:

---

[1] А.Г. Кіркор пісаў, што дом Юзафа Шышкі („przedtem pałac Flemingów, potem Brzostowskich, następnie Mullerów") на Нямецкай вуліцы належаў да „większych i piękniejszych gmachów w mieście", што „tu przez lat bardzo wiele odbywały się wszelkie zabawy publiczne, bale, maskarady, koncerty" [Kirkor 1880: 80, 239, 247]. У гэтым доме на працягу 20-ці гадоў (да 1858 г.) жыў Станіслаў Манюшка.

[2] Насамрэч, Ю. Ляскоўскаму было ўжо 35 гадоў.

[3] Насамрэч, Мар'яне Дален было не больш за 18 гадоў [гл.: APW, zespół 0054/Da, online].

[4] Цікавай у гэтай справе можа быць выяўленая Г. Кісялёвым "кароткая запіска" "без даты і месца" да А.Г. Кіркора, напісаная рукою Ю. Ляскоўскага [Кісялёў 1994a: 161]: "Szanowny Panie! Jestem dawnym z Wilna znajomym Pana i mam do Niego ważny interes, lecz dla słabości mojej nie jestem w stanie wdrapać się na trzecie piętro. Próbowałem już, ale mozół naprózny. Czybym nie mógł gdzie w mieście widzieć się z Szanownym Panem? Upraszam uprzejmie o wskazanie godziny i miejsca. Na parę słów odpowiedzi czekam w traktyerni na dole. Z szacunkiem i poważaniem J. Laskowski" [LVIA, 1135–11–7: 7]. У Кракаве А.Г. Кіркор жыў у 1871–1886 гадах.

Puśćcie mnie, puśćcie w wasz zastęp śpiewaczy,
Dobrzy lirnicy!... Ten mój głos prostaczy,
To dumek moich echo nie wyraźne,
Nie barwne krasą, składem nie pokaźne,
Przyjmijcie sercem, jak wam z serca daję!...
[Laskowski 1861: 7].

За лета–восень 1860 г. Ю. Ляскоўскі падрыхтаваў зборнік *Białoruski Bandurzysta*, які пасля 20-га кастрычніка аддаў у друкарню Адама Кіркора. Вядома, малазнаны ў Вільні паэт выдаць сваю кнігу мог толькі ўласным коштам[1]. 10 лістапада 1860 г. Павел Кукальнік даў дазвол на друк, а на пачатку сакавіка 1861 г. кніжка ўбачыла свет[2]. У бібліяграфіі, якую падрыхтавалі ў рэдакцыі газеты "Виленскій вѣстникъ – Kuryer Wileński" чытаем: „*Białoruski Bandurzysta: Zbiorek wędrowny wierszem*, Juljana Laskowskiego, in 16, str. 168, 5 i jedna czwarta ark., nakład autora, druk. Kirkora" [*Wiadomość bibljograficzna za miesiąc marzec*… 1861, nr 38: 8].

Тэксты зборніка, як сведчаць даты, ствараліся пераважна на эміграцыі. (З дванаццаці толькі два вершы напісаныя ў Вільні). "Нам казалі бытцым *Białoruski Bandurzysta* сперша быў напісаны па беларуску, а ўжо пасьля пераложэн на польскую мову самім аўторам" [Власт 1913: 2] – сцвярджаў колісь В. Ластоўскі. Вядома, у Вільні на пачатку XX стагоддзя былі людзі, што асабіста ведалі паэта, які апошнія гады жыцця (1887–1889) працаваў тут у афтальмалагічным шпіталі. Дык звесткі маглі паходзіць непасрэдна ад аўтара. Праўда, сам ён у лісце да Ю.І. Крашэўскага ад 13/25 сакавіка 1861 г. нічога пра гэта не кажа. Зрэшты, ці мог ён, паэт-пачатковец, прызнавацца ў перакладным характары свае польскае паэзіі? Больш істотным было для яго недахопы зборніка абгрунтаваць самарэдагаваннем з прычыны палітычнага рэжыму і цэнзуры ў краіне, дзе давялося выдаваць кніжку:

> Zbiorek mój jest złożony z kawałków, pisanych za granicą: wielu powyrzucałem wracając do kraju, inne wypadło zmienić albo wyrzuciła Cenzura. Uboga to praca, mizerna, tembardziej że poobrywana; lecz nie dla tego z nią wystąpiłem, aby się pochwalić – od takiego uczucia jestem dalekim [BJ, 6470/IV: 15].

А яшчэ Ю. Ляскоўскаму была патрэбна рэцэнзія-рэклама зборніка, бо выдаткаваўшы ўласныя сродкі на выданне 500–600 асобнікаў, ён павінен быў думаць пра тое, як распаўсюдзіць наклад. Уласна дзеля дапамогі ён і звяртаецца да Ю.І. Крашэўскага. Але найперш паэт выказвае жаданне далучыцца да грамадскай акцыі, скіраванай на аказанне дапамогі сем'ям забітых дэманстрантаў у Варшаве[3]:

---

[1] У другой палове студзеня 1861 г. А. Г. Кіркор выдаў сваім коштам кніжачку В. Каратынскага *Kilka szczegółów o rodzinie, miejscu urodzenia i młodości Adama Mickiewicza*, przez Wincentego Korotyńskiego, in 16-mo, str. 14, pół arkusz., nakład i druk Kirkora. [Гл.: *Wiadomość bibljogr. za styczeń* … 1861, nr 22: 9]. Цэнзар А. Мухін падпісаў яе ў друк 17 студзеня.

[2] У адмысловай кнізе Віленскага камітэта цэнзуры *О билетах, выданных на выпуск сочинений с 23 апреля 1854 г. по 1863 г.* пазначана, што дазвол на распаўсюджванне зборніка *Białoruski Bandurzysta* быў дадзены 3.03.1861 г. [LVIA, 1240-1-108: 190].

[3] Гаворка пра сем'і пяцярых мірных дэманстрантаў, забітых расейскім войскам на

Chcąc przyczynić się, o ile to jest w możności mojéj, do składki, podniesionéj w Królewstwie (sic!), na rzecz pozostałych biednych rodzin po poległych ostatniemi czasy w Warszawie, poséłam na ręce Pana dwadzieścia egzemplarzy pisemka mego *Białoruski Bandurzysta*, dla obrócenia dochodu z wyprzedaży na wsparcie najuboższéj z pomienionych rodzin. Cena téj książeczki jest 5 złp. [BJ, 6470/IV: 15].

Пасля просіць Ю.І. Крашэўскага, калі зборнік заслугоўвае на разгляд, ацаніць выданне, што дасць яму магчымасць вызначыцца: браць ці не браць удзел у краёвым пісьменстве. І, нарэшце, прагне атрымаць дапамогу ў распаўсюджванні *Białoruskiego Bandurzysty* ў Варшаве:

Ze zbyciem tutejszym księgarzom mojej pracy ciężko idzie, w Warszawie może by się lepiej powiodło. Nie mam tam znajomych, i jeżeli to nie będzie uważane za zbytnie utrudzanie Pana, prosiłbym o łaskawe pośrednictwo Jego. Mam do zbycia 500 egzemplarzy i przystałbym na warunki, byleby zbyć za gotowiznę, niechby sobie cokolwiek więcej jak połowę ceny nabywcy ustąpić wypadło [BJ, 6470/IV: 16].

Не захавалася звестак, што адказаў Ю.І. Крашэўскі маладому паэту. Трэба думаць, у рэдакцыі „Gazety Polskiej" ахвотна згадзіліся прадаць 20 асобнікаў *Białoruskiego Bandurzysty*, каб атрыманыя грошы перадаць сям'і забітага дэманстранта. А вось што датычыць распаўсюджвання 500 асобнікаў кніжкі ў Варшаве, дык вельмі сумнеўна, што гэтая просьба Ю. Ляскоўскага была прынятая. Пацвярджаем сваю здагадку тым, што ў варшаўскіх бібліятэках адсутнічаюць асобнікі *Białoruskiego Bandurzysty*.

Што датычыць рэцэнзіі на кніжку, дык Ю.І. Крашэўскі адгукнуўся даволі аператыўна: ужо праз два тыдні пасля атрымання ліста, а дакладней 4/16 красавіка, чытачы „Gazety Polskiej" маглі пазнаёміцца з водгукам славутага літаратара:

Wyszedł w Wilnie *Białoruski Bandurzysta*, zbiorek wędrowny wierszem przez Juljana Laskowskiego. Choć dziś trudno o poetę wśród mnóstwa piszących wierszem, bo nowéj myśli i formy nowéj nie znajdziesz, a na jeden ton i przędzę jedną śpiewają wszyscy niemal – tak że mało który zbiorek otworzyć bierze ochota, mile nam było przejrzéć książeczkę p. Laskowskiego. Jest tu talent skromny, prosty, rzewny a tak poczciwie rozkochany w naddzwińskim swym kraju, tak umiejący go odmalować niewielu rysami, że mimowolnie pociąga i zajmuje. – Na pierwszą próbę poezje te są obiecujące, trochę treściwiéj, surowiéj jeszcze osądzone i skrócone, zyskałyby wiele. Mówią, że Byron pisał zawsze przynajmniéj trzy razy tyle, ile potém zostać miało przy ostatecznym sądzie własnym, gdy do wydania przyszło. Nie każdemu dano tak jak Adam myśl silnie z marmuru wykutą od razu tworzyć niepotrzebującą nic, jeno zrzucić obsłony i światu się pokazać.
Jako próbę przywiedziemy ustęp jeden (VII).

– Moja rodzona
Moja jedyna – ziemio ojczysta!...
Tyś choć prostacza ale przeczysta,
Choć zapomniana, choć opuszczona,
Ległaś jakoby pustka wieczysta,

---

Кракаўскім прадмесці 27 лютага (н. ст.) 1861 г.

Z kurhanów złotym piaskiem świecąca,
Na łzawą nótę dumki wiodąca.
W groby skopana, jak smętarnica.
Tęskna a rzewna – istna płacznica...
I bory twoje szumią tak smętnie,
I wody rzek twych płyną tak mętnie,
Jak losy twoje w wieków kolei...
Lecz Bóg nad tobą! On łaskę zleje,
On da ci siłę, dolę ustali!
Za jego wolą i dziś inaczéj,
Starsi już młodszym rękę podali,
Skłaniają serca k' braci prostaczéj,
Więc droga w przyszłość pójdzie nam prościéj
W zgodzie wzajemnéj, w pracy, w miłości!! –
Ja Ciebię ujrzę!.... Boże mój Boże!
I kiedyż moje słonko zaświeci,
Kiedy mnie pierwsza nóta doleci
Pieśni naddźwińskiéj? nie prędko może....

Cały ten ustęp aż do końca jest pełen prawdziwego uczucia, wiele innych równie prosto i serdecznie rzuconych, zaleca się tém właśnie, że znać w nich natchnienie prawdziwe... Praca łatwo mu formę dać może [*Wyszedł w Wilnie*… 1861, nr 97: 1].

Віленскія рэцэнзенты, што пісалі ў "Виленскій вѣстнікъ – Kuryer Wileński" пра літаратурны працэс, на выхад зборніка Ю. Ляскоўскага не адгукнуліся – ні У. Сыракомля[1], ні В. Каратынскі. Напрыклад, У. Сыракомля характарызаваў у гэты час (сакавіку–красавіку 1861 г.) творы В. Дуніна-Марцінкевіча (№ 19–20), *Illustrowany skarbczyk polski* Мар'і Ільніцкае (№ 26–27) і інш.

І толькі калі была надрукаваная ў Варшаве рэцэнзія Ю.І. Крашэўскага, «Виленскій вѣстнікъ – Kuryer Wileński» ў аглядзе „Gazety Polskiej" цытуе фрагменты з яе:

O świeżo wyszłych tu w Wilnie poezjach p. Laskowskiego p. t. *Białoruski bandurzysta*, redaktor „G. C."[2] p. J.I. Kraszewski powiada: „Choć dziś trudno o poetę wśród mnóstwa piszących wierszem, bo nowej myśli i formy nowej nieznajdziesz, a na jeden ton i przędzę jedną śpiewają wszyscy niemal, tak, że mało który zbiorek otworzyć bierze ochota, mile nam było przejrzeć książeczkę p. Laskowskiego. Jest tu talent skromny, prosty, rzewny, a tak poczciwie rozkochany w naddźwińskim swym kraju, tak umiejący go odmalować niewielu rysami, że mimowolnie pociąga i zajmuje... Znać tu prawdziwe natchnienie; praca łatwo mu formę dać może..." [*Przegląd pism czasowych* 1861, nr 30: 7].

---

[1] На пачатку 1861 г. У. Сыракомля, паразумеўшыся з А.Г. Кіркорам, пачынае супрацоўнічаць з газетаю «Виленскій вѣстнікъ – Kuryer Wileński». Праўда, да свайго падарожжа ў Варшаву напачатку красавіка 1861 г. ён не звярнуў увагу на зборнічак Ю. Ляскоўскага, а пасля падарожжа быў арыштаваны і пасаджаны ў цытадэль. Вызвалены з турмы ў маі, ён знаходзіўся пад хатнім арыштам у Барэйкаўшчыне [Fornalczyk 1979: 485–487].

[2] „G. C." – „Gazeta Codzienna". Так раней называлася „Gazeta Polska".

В. Каратынскі ў 1889 г. напіша, што з Ю. Ляскоўскім ён пазнаёміўся якраз у той час:

> Wówczas z okoliczności współpracownictwa w „Kuryerze Wileńskim" i ogłaszania broszur dla ludu wiejskiego, z których jedna przeciw pijaństwu miała niepoślednie powodzenie [*Kronika Warszawska*… 1889, nr 17: 2].

Здаецца, аднак, В. Каратынскі памыляецца: прозвішча паэта марна шукаць на старонках газеты А.Г. Кіркора: не было яго ні сярод васьмі супрацоўнікаў рэдакцыі, ні сярод некалькіх дзясяткаў г. зв. „współpracowników", артыкулы якіх друкаваліся на старонках газеты.

А вось згадка В. Каратынскага пра „ogłoszenie broszur dla ludu wiejskiego" знаходзіць пацвярджэнне ў лісце "беларускага бандурысты" да Ю.І. Крашэўскага:

> Pierwszą w tym kierunku książeczkę wydałem w Wilnie nakładem Syrkina, *Do moich braci Litwinów*. Za podstawę wziąłem trzeźwość, treść zaś stanowiły opowiadania „poprawionego gospodarza Andrzeja", który sam nie umiejąc pisać, uwagi swoje piśmiennemu człowiekowi dyktuje. Oparty na trzeźwości, dotknąłem stosunków ówczesnych (: ze względu na świeży wtedy ukaz o zniesieniu poddaństwa:), o ile to się zgodzić mogło z obostrzeniami cenzury. Kukolnik przepuścił i książeczka w sprawozdaniu Syrokomli dostąpiła uznania, gdy jednak Murawjew nastał do Wilna, nakazał ją ze wszystkich księgarń wyłapać – i spalił [BJ, 6514/IV: 233].

Можна сказаць, што "знайшлося" яшчэ адно[1] выданне Ю. Ляскоўскага. Праўда, аўтар называе яго *Do moich braci Litwinów*. Ды, відаць, памылкова[2]: у газеце «Виленскій вѣстнікъ – Kuryer Wileński» ў раздзеле „Wiadomość bibljogr. za miesiąc czerwiec 1861 roku" яно анатаванае наступным чынам:

> *Książeczka przeciw pijaństwu. Do mego kuma Macieja i do tych wszystkich ludzi, którzy powinni upamiętać się w nałogu pijaństwa. Od poprawionego gospodarza Andrzeja*, in 16, str. 50, ark. $1^{2/4}$, nakład i druk Syrkina [*Wiadomość bibljogr. za miesiąc czerwiec*… 1861, nr 55: 8].

Такім чынам, кніжачка выйшла ў свет у чэрвені 1861 г.[3] ананімна. Караль Эстрайхер у першым томе *Bibliografii polskiej* занатаваў яе так:

> Andrzej gospodarz, *Książeczka przeciw pijaństwu. Do mego kuma Macieja i do tych wszystkich ludzi, którzy powinni upamiętać się w nałogu pijaństwa, od poprawionego gospodarza Andrzeja*, Wilno 1861. 20 kop. [Estreicher 1870, I: 27].

Ягоны запіс паўстаў на аснове, відаць, каталога аднае з віленскіх кнігарняў (пра гэта сведчыць кошт кніжачкі) і ўласнае атрыбуцыі выдання. Калі ж К. Эстрайхеру трапіўся *Katalog dzieł nakładowych księgarni*…

---

[1] Апрача тых, зафіксаваных у бібліяграфіях пад прозвішчам Ю. Ляскоўскага.

[2] Можам дапусціць, што такою была аўтарская назва. Але звяртаем ўвагу, што так (*Do braci Litwinów!*) называлася ўлётка, якую выдаў як заклік да паўстання варшаўскі Rząd Narodowy 29 студзеня 1863 г.

[3] У кнізе Віленскага камітэта цэнзуры *О билетах, выданных на выпуск сочинений с 23 апреля 1854 г. по 1863 г.* пазначана, што дазвол на распаўсюджванне *Książeczki przeciw pijaństwu*… быў дадзены 30.06.1861 г. [LVIA, 1240-1-108: 199].

Аляксандра Навалецкага (1826–1884), дзе таксама была зафіксаваная (відавочна, не зусім дакладна) кніжачка Ю. Ляскоўскага[1], дык бібліёграф занатаваў яе яшчэ раз:

> *Książeczka przeciw pijaństwu od poprawionego gospodarza Andrzeja*. (Warszawa), Nowolecki, 1862. 1 złp. 10 gr. [Estreicher 1874, II: 508].

Праз некалькі гадоў у трэцім томе *Bibliografii polskiej* з'явіўся новы запіс:

> Popiez Andrzej, *Do mego kuma Macieja i do tych wszystkich ludzi, którzy powinni upamiętać się w nałogu pijaństwa, od poprawionego gospodarza…*, Wilno 1861 [Estreicher 1876, III: 479].

Відавочна, гаворка ішла пра адну і тую самую кніжачку, хоць К. Эстрайхер, атрымаўшы новую інфармацыю (хіба, не само выданне[2]), не супаставіў яе з запісамі 1870 і 1874 гг.

У XX стагоддзі Адам Бар на падставе інфармацыі бібліёграфа і кусташа Ossolineum Уладзіслава Тадэвуша Вісloцкага (Władysław Tadeusz Wisłocki, 1887–1941) прыпісаў аўтарства *Książki przeciw pijaństwu* (Warszawa 1861) Анджэю Попер[3] (Andrzej Popier) [Bar 1936, I: 27].

Праўдападобна, што польскія бібліёграфы, не маючы асобнікаў выдання, карысталіся адно ўскоснымі дадзенымі, дык не маглі правесці атрыбуцыю кніжачкі. У выніку і ў новыя бібліяграфічныя выданні XX стагоддзя трапіла недакладная інфармацыя: „Andrzej gospodarz" расшыфроўваецца цяпер як „Andrzej Popier" – "аўтар працаў, якія датычаць праблемы алкагалізму" [*Bibliografia polska…* 1959, I: 131; *Słownik pseudonimów…* 1994, t. I: 141; 1996, t. IV: 550].

В. Каратынскі ў некралогу згадаў таксама і пра тое, што кніжачка для люду паэта „miała nieposlednie powodzenie", а сам аўтар адзначыў: „książeczka w sprawozdaniu Syrokomli dostąpiła uznania". Праўда, невядома, пра якое „sprawozdanie" ідзе гаворка: нам не ўдалося выявіць у газеце «Виленскій вѣстнікъ – Kuryer Wileński» публікацыі У. Сыракомлі[4], дзе б аналізавалася гэтае выданне Ю. Ляскоўскага. А можа, паэт мае на ўвазе нататку *Wiadomość bibljogr. za miesiąc czerwiec 1861 roku*, у якой паведамлялася пра выхад у свет кніжачкі? Бо У. Сыракомля якраз і рыхтаваў для газеты гэтую рубрыку. Цікава і тое, што *Książeczka przeciw pijaństwu…* была ў кнігазборы "вясковага лірніка": пра гэта сведчыць *Каталог*, складзены Аніцэты Рэніерам у верасні 1862 г. адразу пасля смерці паэта [Мархель 1977: 87].

---

[1] На жаль, нам не ўдалося выявіць *Katalog dzieł nakładowych księgarni Aleksandra Nowoleckiego przy ulicy Krakowskie-Przedmieście pod Nr. 457*. B. m. b. r. (Warszawa 1862) у польскіх бібліятэках.

[2] У каталогах Ягелонскае бібліятэкі прозвішча Andrzeja Popieza сёння адсутнічае.

[3] У каталогах Zakładu Narodowego im. Ossolińskich прозвішча Andrzeja Popiera сёння адсутнічае.

[4] Дапускаем, што У. Сыракомля мог даслаць сваю рэцэнзію (?) *Książeczki przeciw pijaństwu* ў адну з варшаўскіх газет.

І яшчэ. Звяртае на сябе ўвагу множны лік у паведамленні В. Каратынскага. Пра якія кніжачкі („broszury”) для народа ён кажа? Ягоны вершаваны абразок з жыцця люду *Tomiło* выйшаў у свет у 1858 г. А што падрыхтавалі В. Каратынскі і ягоныя сябры ў 1860–1861 гг.? Відавочна, найлепшым і самым знаным беларускім творам гэтага году з'яўляецца *Гутарка старога Дзеда*. А можа, і яе меў на ўвазе В. Каратынскі?[1].

Прынамсі, Ю. Ляскоўскі ў той час належаў да патрыятычнае часткі віленскага грамадства, удзельнічаў, відаць, у маніфестацыях, якія ледзь не штодзённа ладзіліся пасля набажэнстваў. Пацвярджэнне знаходзім[2] у *Докладной запискѣ Виленскаго Полиціймейстера Генералъ-Губернатору*:

> 30 іюля 1861 г.
>
> 28 іюля, въ 9 часовъ вечера, предъ фигурою Спасителя, на Снипишкахъ[3] находящеюся, разные лица, коихъ было до 400, пѣли возмутительный гимнъ. Въ числѣ пѣвшихъ замѣчены: чиновникъ палаты государственныхъ имуществъ Александръ Мокржецкій, гражданинъ Мицкевичъ, мясникъ дворянинъ Александръ Томашевичъ, дворянка Катерина Клосинская, вдова Юзефа Буковская, дворянки: – Александра Зельверовичевна и Констанція Аузбиковичевна, двѣ дочери виленскаго обывателя Филиповича, виленская обывателька Држевицкая, дочь помѣщика вилкомирскаго уѣзда Гоппенъ, жена губерскаго секретаря Мисевича съ двумя своими дочерьми, дворянинъ Адамъ Кодзь, который далъ подписку, что пѣть этого гимна не будетъ, дворянка дѣвица Елеонора Баневичевна съ сестрою своею Маріею, дочь помѣщицы рѣжицкаго уѣзда Марія Вейсенгофъ, чиновникъ казенной палаты Вержбицкій, дворянка дѣвица Прушинская, чиновникъ дворянскаго депутатскаго собранія Цѣмнолонскій, дѣвица Геркулина Ярмоловичевна, жена дворянина Дмухоскаго съ двумя своими дочерьми, дворянинъ Юліанъ Подгурсій, отставной юнкеръ Іодко, отставной полковникъ Антоній Тышкевичъ, дворянинъ Донатъ Ельскій, дворянинъ Александръ Яздовскій, губернская секретарша Шкультецкая, чиновникъ дворянскаго депутатскаго собранія Кулешо, дворянка Андрушкевичевна съ своею младшею сестрою, дворянка Свирская съ своею сестрою, чиновникъ римско-католической духовной консисторіи Пацкевичъ, дѣвица дворянка Волкъ, жена повѣреннаго князя Витгенштейна Родзевичева съ своею сестрою, которыя для пѣнія гимна сего по костеламъ нарочно пріѣзжаютъ изъ Верокъ въ г. Вильно, дворянинъ Ярмоловичъ, дворянка дѣвица

---

[1] Прынамсі, унук В. Каратынскага – Генрык Каратынскі – сцвярджаў наступнае: „W okresie powstania styczniowego napisał po białorusku kilka utworów wierszowanych o tendencji rewolucyjnej, antycarskiej, wydanych bezimiennie w Krakowie w tomiku *Hutarka staroha dzieda* (*Gawęda starego dziada*). Starano się tę gawędę rozpowszechniać potajemnie wśród chłopów białoruskich <…>, a zapewne w związku z *Hutarką* policja carska przeprowadziła rewizję w domu Wincentego Korotyńskiego, śladu przestępstwa na szczęście nie znalazła, ale nota o marnym stanie «błagonadieżnosti» została mu wpisana” [Korotyński 1972: 18].

[2] На дакумент звярнуў увагу Г. Кісялёў [гл.: Кісялёў 1994а: 155].

[3] Сніпішкі – раён Вільні на правым беразе ракі Вяллі (за Зялёным мостам), на поўнач ад Старога Горада. Фігура Збавіцеля знаходзілася ля касцёла св. Рафала Арханёла.

> Войкувна съ двумя младшими сестрами, дворянки – Катерина Кунцевичовна и Петрунеля Яцынувна, чиновники: гражданской палаты Якубовскій и дворянскаго депутатскаго собранія Пулъянъ, бывшій польскій выходецъ Юліянъ Лясковскій (вылучэнне нашае. – *М. Х.*), содержательница моднаго магазина Юлія Микошъ, канцеляристъ конторы госпиталя Савичъ Лонткевичъ, австрійскій подданый Николай Торони, дворянка дѣица Марія Бурская и шесть учениковъ здѣшней гимназіи [*Сборникъ документовъ*… 1906: 87].

Відаць, як асобу, што была пад наглядам паліцыі, Ю. Ляскоўскага ўлады папярэдзілі (у ліпені 1861 г. хіба яшчэ не было апублікаванае распараджэнне генерал-губернатара Уладзіміра Назімава, у якім забаранялася спяваць гімны і малітвы на матыў гімна[1]). Гэта прымусіла быць літаратара больш асцярожным, а магчыма, і з’ехаць з Вільні.

*Książeczka przeciw pijaństwu* Ю. Ляскоўскага пакуль не выяўленая ў бібліятэках. А яна, на нашую думку, дастаткова важная: прыгадаем словы В. Каратынскага, што паэт „władał bowiem biegle językiem białoruskim” [*Kronika Warszawska…* 1889, nr 17: 2], а г. зн. герой-апавядальнік твора “гаспадар Андрэй” мог прамаўляць па-беларуску. Ды і беларуская мова кніжачкі павінна была для генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва быць тым аргументам, каб „wyłapać – i spali[ć]” выданне.

Ці публікацыя Ю. Ляскоўскім двух кніжак (паэзіі і “для народа”) наблізіла паэта да ліцвінскае літаратурнае эліты, „do braci lirników”? Вельмі сумнеўна. Па-першае, сталае працы ў газеце «Виленскій вѣстнікъ – Kuryer Wileński» ён не атрымаў, хоць вакансія была[2]: рэдакцыю пакінуў 4 жніўня 1861 г. Вацлаў Прыбыльскі (1828–1872), высланы ўладамі ў Волагду. Па-другое, з “пасмяротнага ўспаміну”, напісанага В. Каратынскім, вядома, што Ю. Ляскоўскі якраз у гэты час з Вільні накіраваўся ў прыдзвінскі край, каб працаваць там:

> Laskowski nie dosiedział w Wilnie, i przeniósł się nad Dźwinę, aby pracować czynnie nad uregulowaniem stosunków w samém ich źródle, między tak nazwanymi pośrednikami pokojowymi, wybieranymi z pomiędzy obywateli, a właścicielami ziemskimi i ludem [*Kronika Warszawska…* 1889, nr 17: 2].

Паведамленне В. Каратынскага ўдакладняе Конрад Прушынскі:

> Około roku 1860 pracował jako pisarz gminny w Postawach, dobrach Tyzenhauza w powiecie Dzisieńskim [*Nowiny* 1889, nr 421: 2].

І сапраўды, вельмі сумнеўна, каб былога эмігранта, які знаходзіўся пад паліцэйскім наглядам, улады прызначылі міравым пасярэднікам (намінацыю зацвярджаў імператар). Але, відаць, мог ён заняць пасаду валаснога пісара, ды і то па пратэкцыі ўплывовага магната.

---

[1] Шэраг асобаў, «замѣченыхъ» 29 ліпеня 1861 г. на Сніпішках разам з Ю. Ляскоўскім (напр., жонку і дачку «б. редактора Одынца»), у верасні–кастрычніку 1861 г. вызвалілі «отъ суда» ў сувязі з тым, што «подвергались оному [суду. – *М. Х.*] до объявленія о запрещеніи пѣть, кромѣ гимна, молитвы на тонъ гимна» [гл.: *Сборникъ документовъ*… 1906: 208–217].

[2] Аддзел газеты „Przegląd miejscowy” А.Г. Кіркор даручыў У. Сыракомлю.

Аднак, як вядома, у 1863 г. М. Мураўёў звольніў з дзяржаўнае службы амаль усіх чыноўнікаў каталіцкага веравызнання, г. зн. Ю. Ляскоўскі мог застацца без пасады. Дык паэту нічога не заставалася, як выехаць на радзіму жонкі. Тым больш, што яшчэ ў сакавіку 1861 г. яго запрашалі на працу. Так, у лісце да Ю.І. Крашэўскага чытаем: „Wezwano mię właśnie do Królewstwa dla zajęcia miejsca, a dla braku funduszu ruszyć się nie mogę” [BJ, 6470/IV: 16]. Вядома, у кантэксце просьбы дапамагчы прадаць наклад гэта чытаецца як аргумент, які Ю.І. Крашэўскі можа ўлічыць. Але, пэўна, вясною 1861 г. паэт не планаваў яшчэ пакідаць родны край, яшчэ меў надзеі, што ўладкуецца на Бацькаўшчыне. І спрабаваў працаваць “для люду”, рыхтуючы для яго кніжачкі, разлічваючы, вядома, і на заробак ад літаратурнае (карэспандэнцкае) працы.

Тут варта сказаць яшчэ пра адну працу паэта для народа. А менавіта, пра гістарычны нарыс *Opowiadanie o Litwie.* Паводле сведчання самога Ю. Ляскоўскага, гэты нарыс быў падрыхтаваны адначасна з кніжачкаю *Do moich braci Litwinów* (г. зн.: з *Książeczką przeciw pijaństwu*). Невядома, ці спрабаваў паэт выдаць сваю працу ў Вільні. Можа, пакінуўшы сталіцу гістарычнае Літвы, ён і не звяртаўся больш „do braci lirników”? І толькі апынуўшыся ў Каралеўстве[1], надрукаваў нарыс у газеце для сялян:

> udało mi się przez cenzurę warszawską przeprowadzić inny rękopis: *Opowiadanie o Litwie p. Korabicza* i drukowałem to w „Kmiotku”, po paru wszakże rozdziałach (: w r. 1863 :) policya dalszy druk zatrzymała i skonfiskowała rękopism [BJ, 6514/IV: 223 v].

У гэтай справе шмат незразумелага: чаму, напрыклад, нарыс друкуецца ў газеце для польскіх сялян „Kmiotek”? Дзеля пашырэння іхняга кругагляду, веды пра тых, з кім некалі ўтваралі адну дзяржаву? Аднак сам тэкст сведчыць, што Ю. Ляскоўскі пісаў для ліцвінаў:

> **Jaka w dawnych wiekach była wiara w Litwie?**
> Od wprowadzenia religii św. Katolickiej do Litwy jest teraz lat 475[2]. Dawno to już bardzo dawno; – przedtem była w Litwie wiara pogańska. Ale wam tego mało, wy od urodzenia słyszycie o pogaństwie i o poganach, a żaden z was niewie, jaka to była ich wiara? i jeżeli wtenczas l u d z i e u n a s[3] (вылучэнне нашае. – М. Х.) nie znali prawdziwego Boga, to w co i jak wierzyli? Otóż ja wam opowiem. Wiadomo to, że żaden człowiek osobno od drugich, osobno od ludzi, życia prowadzić nie może, że tylko w narodzie zostaje człowiekiem. Bez wiary jeszcze bardziej obejść się trudno, bo wiary domaga się serce, domaga się sumienie, domaga się dusza człowieka. Tak jest teraz, tak było i w dawnych wiekach pogańskich. Człowiek zawsze ten sam od stworzenia świata, zawsze nakłania się do Boga, szuka Boga, i choć poganin pojąć Go nie może, domyśla się jednak Jego istności, czuje tę istność nad sobą. Żebyście mnie lepiej

---

[1] Магчыма, усё ж, гэта быў тактычны ход: не атрымаўшы цэнзурнага дазволу ў Вільні, Ю. Ляскоўскі звярнуўся да варшаўскае цэнзуры, з тым, каб пазней выдаць кніжачку ў сталіцы Каралеўства і транспартаваць яе на Літву і Беларусь.

[2] 475 гадавіна хрышчэння Літвы прыпадала на 1862 г.

[3] ”l u d z i e u n a s” – г. зн. на Літве.

zrozumieli, przykład wam tu postawię. Wyobraźcie sobie dziecko, sierotę, które nie znało i nie zna ojca ani matki, które nic nie wie o nich, bo ojciec i matka żyją gdzieś w dalekich stronach, – odeszli od dziecka wtedy, kiedy jeszcze niemowlęciem było… <…>

**Z jakimi narodami graniczyli Litwini?**

Ale Litwa łącząc w jeden naród gromady, co bliżej siebie mieszkały, dopóki wojny łączyć się pozwalały, miała swoje osobne granice. Kraj Litewski był jak i teraz nad Niemnem, ale od początku tej rzeki tylko na jednej stronie, do połowy zaś powiatu Trockiego po obu stronach aż do morza; potém kraj czysto-litewski ciągnął się nad Wiliją, nad Świętą rzeką, do Dźwiny na wschód słońca, a do Niewiaży na północ, to jest w stronę przeciwną od południa, w któréj słońca nigdy na niebie nie widać. Ta rzeka Niewiaża przed wiekami oddzielała Litwę od Żmujdzi… <…>

Naokoło Litwy pogańskiej mieszkały inne ludy, co już chrzest święty dawniéj przyjęły: na wschód słońca byli Rusini, na południe także Rusini, a na zachód Mazury, daléj na zachód siedzieli Niemcy, a od północy granicą Litwy było morze Bałtyckie, które nazywało się u Litwinów Balta-Jura, to jest morze białe.

[Korabicz Janko 1863, nr 30: 1; nr 34: 1–2].

Характэрна, што пачатак публікацыі *Opowiadania o Litwie* прыйшоўся на час (25 ліпеня 1863 г.), калі поўным ходам ішло Паўстанне, а апошні фрагмент з’явіўся ў газеце 6 лютага 1864 г.

Нам не ўдалося даведацца, ці варшаўская газета з нарысам Ю. Ляскоўскага пашыралася на Літве. Зрэшты, выдавала штотыднёвік кнігарня Міхала Глюксберга, а г. зн. падпісацца можна было і ў Вільні. Толькі наўрад ці магчымым было, каб беларускія сяляне выпісвалі газету з Варшавы. Хіба “добры пан” мог зрабіць гэта для іх.

Цікава яшчэ тое, што сваю малую айчыну Ю. Ляскоўскі на эміграцыі адназначна ідэнтыфікаваў як Беларусь:

Tam ja widzę – ej, daleko,
Przez mgłę ciemną w wschodniej stronie,
Nad rodzinną moją rzeką,
**Białoruskie kwietne błonie** (вылучэнне нашае. – *М. Х.*).
Podle lasu stoi chatka...
Tam kolebka moja stała,
Tam mnie matka kołysała…
[Laskowski 1861: 71].

Пазней, у 1882 г. ён будзе горача абараняць беларускую мову.

Чаму ж тады, вярнуўшыся ў Вільню, ён назваў свой першы паэтычны зборнік *Białoruski Bandurzysta*, а дзве наступныя кніжачкі рыхтаваў для сваіх “братоў-ліцвінаў”, спрабуючы – сярод іншага – умацаваць іхнюю ліцвінскую самасвядомасць. Здавалася б, выданні для люду павінны быць на іх мове, але *Opowiadanie o Litwie* друкуецца па-польску. Можа, не *Białoruski Bandurzysta*, а кніжачкі для люду спачатку пісаліся па-беларуску, а пасля па патрабаванні тых, хто фінансаваў гэтую справу, былі перакладзеныя на польскую? Варта было б больш глыбока вывучыць гэтае пытанне.

На нашую думку, Ю. Ляскоўскі пераехаў у Каралеўства ў 1863 г. Відаць, напачатку спыніўся ў Варшаве. Тут атрымаў цэнзурны дазвол на

друк свайго нарыса *Opowiadanie o Litwie* і, магчыма, знайшоў нейкую працу (напр., у рэдакцыі газеты „Kmiotek"), але царскія пасляпаўстанцкія рэпрэсіі змусілі яго шукаць новае месца жыхарства. Дакументальна пацвярджаецца, што ў Млаве ён жыў з лета 1865 г.: 30 жніўня (н. ст.) гэтага года з жончыных родных мясцінаў ён вітае выхад у свет варшаўскага штотыднёвіка „Kłosy". Для яго істотным было тое, што новае выданне планавала больш увагі прысвяціць люду, яго традыцыям, філасофіі і культуры. Дык Ю. Ляскоўскі выклаў сваё разуменне народнай творчасці, шмат у чым паўтараючы ідэі паэмы *W cudzej stronie*:

> Człowiek prosty, zostawiony sam sobie, oderwany od lepszego (jak się wyrażamy) świata, który rozum trzyma w swej garści; ciemny, bezwiedny, zdaje się nam, że to istota w znaczeniu moralném zgubiona, która zmysłami tylko czuje i odgaduje siebie, życie i świat, ale do sfer wyższych, do sfery ducha podnieść się nie zdolna.
> I czekamy, aż ten człowiek prosty przez szkołę i książkę po naszemu kiedyś się odrodzi, aby w nim uznać to, co my rozumniejsi, od niego wyższém poczuciem ducha i serca zowiemy.
> A przecież ani z nami tak bardzo dobrze, ani z nim tąk źle nie jest.
> <…>
> Lud podniesiony wrażeniem, snuje nić złotą bez końca, stwarza świat cudów, uwielbienia, podziwu, sobie na naukę długą, bardzo długą, bo często utrzymującą się śród kilku pokoleń, a wiecznie żywą i zajmującą, chociaż nie nową; nam zaś, rozumniejszym od niego, daje poznać te światy fantazyi swojéj najczęściéj dla zabawki, bez sprawozdania, bez zrozumienia tych ideałów, które w nich zamknął pierwszy utworca, które w nich prostak uwielbia.
> I my nie damy sercu naszemu dość woli, aby te ideały pojąć, odgadnąć, bośmy pod obliczenie rozumu wszystko brać zwykli, bez różnicy, czy co z rozumu, czy z natchnień ducha początek swój wzięło. Więc ideały prostacze pod naciskiem rachuby naszéj topnieją i jak mgła w nic się rozpłyną.
> I nazywamy opowieściowe utwory ludu, jego obrązowania, jego postaci wzięte z za okalającego nas świata, fantazyą bredni, bajeczką: zajmującą, ponętną, w treści i układzie ozdobną, ale zawsze bajeczką.
> A przecież te tak zwane bajeczki przed nami powtarzały milijony i po nas milijony powtarzać będą, tworząc nowe i coraz nowsze. Duch prostaczy krzepi się niemi, z postaci swoich myśl i morały wysnuwa, jednoczy się przez nie z duchami ojców za grobem, świat swój ziemski łączy z za światem, i uspokojenie duchowe daje prostactwu.
> W nas więc rozum i obrachunek, w ludzie prostym wrażenie i idealność, zatem strona duchowego nastroju przemaga.
> Stoimy na dwóch przeciwnych kończynach, my z rozumem i wiedza, lud z podaniami i opowieścią. Stoimy tak od wieków i wiecznie jakoby na dwa odosobnieni światy, dwie istoty i dwa względem siebie przeczenia.
> Dla czego?
>
> [Korabicz Janko 1865, nr 13: 151].

Выявіць нейкія іншыя публікацыі Ю. Ляскоўскага ў гэтым штотыднёвіку не ўдалося. Можна меркаваць, што рэдакцыя „Kłosów" не была зацікаўленая супрацоўніцтвам з невядомым аўтарам з правінцыі.

Як і на Беларусі, Ю. Ляскоўскі мусіў у Млаве шукаць сабе працу:

> Troska o chleb powszedni dla rodziny i o wychowanie dzieci[1], przerzucała Laskowskiego z miejsca na miejsce, od zatrudnienia do zatrudnienia [*Kronika Warszawska*… 1889, nr 17: 2] –

пісаў В. Каратынскі ў “пасмяротным успаміне” ў „Gazecie Warszawskiej”. К. Прушынскі, відаць, таксама добра абазнаны ў перыпетыях жыцця паэта, сцвярджаў, што паэт, пасяліўшыся ў Млаве, спачатку працягваў сваю дзейнасць у той галіне, якую найлепш ведаў: займаў пасаду пісара, а пасля, відаць, у 1870-я гг. стаў гандляром[2]:

> pełnił czynność sekretarza przy komisarzu włościańskim, a następnie został kupcem i utrzymywał sklep z różnemi towarami [*Nowiny* 1889, nr 421: 2].

І адначасна супрацоўнічаў з варшаўскімі газетамі. Мы не ведаем, ці была гэта ўнутраная патрэба, прага літаратурнай творчасці ці спроба дадатковага заробку. Звярнуўся Ю. Ляскоўскі найперш да штотыднёвіка „dla ludu miejskiego i wiejskiego” „Zorza”, які з 1866 г. выдаваў чыноўнік Крэдытнага таварыства Юзаф Грайнарт (1831–1910).

У якасці формы сваіх допісаў у рэдакцыю паэт абраў ліст ад імя селяніна („my ludzi prości nie jesteśmy od pióra, a od pługa”) Янкі Карабіча (Janko Korabicz), гаспадара сталага („pięty krzyżyk już się ma ku końcowi”), вопытнага, які мае жонку і двух дарослых сыноў:

> Toż ja oto, jak się dowiedziałem od naszego księdza proboszcza, że w Warszawie wasza „Zorza” wychodzić ma, tak zaraz w tym samym tygodniu jadąc na targ do Mławy, poszedłem na pocztę i zamówiłem sobie jeden jéj numer. „Zorza”, pomyślałem, to jakby jasność, która po ciemności dzień zapowiada. Więc dobrze, my ludzi prości po wsiach także żyjem w ciemnocie, toż pismo takie wyraźniuteńko dla nas ludzi nieumiejętnych jest przeznaczone, żeby choć cokolwiek rozwidnić nam ciemne życie nasze, dać dzień po nocy, nieświadomych jakby za rękę prowadzić i pokazywać a uczyć co dobre, godziwe i pożyteczne [Korabicz Janko, 1866, nr 4: 6].

Усяго ў штотыднёвіку „Zorza” Ю. Ляскоўскі апублікуе тры вялікія карэспандэнцыі (у 4 і 23–24 нумарах за 1866 г. і ў 12 нумары за 1867 г.), удала дастасоўваючыся да палітыкі і ідэалогіі рэдактара. Тае палітыкі, якую сурова крытыкавалі даследнікі камуністычнае эпохі:

> Kiedy jednak okazało się, że dawne zwyczaje podległości pańszczyźnianej chłopów minęły bezpowrotnie, „Zorza” propagowała inne sposoby utrzymania hegemonii dworu w życiu wsi. Redakcja starała się przede wszystkim przekonać swoich czytelników, że tylko dzięki dobrosąsiedzkim stosunkom z dworem mogą osiągnąć dobrobyt materialny. W różnych artykułach, powiastkach i opowiadaniach ukazywano liczne przykłady bezinteresownej

[1] У *Aktach stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej Mława powiat mławski* ўдалося выявіць метрыкі дачкі Ю. Ляскоўскага Станіславы Ядвігі (1869 г. н.) і сына Яна Міхала (1873 г. н.). А ў варшаўскіх *Aktach*… метрыку шлюбу сына Караля (1926) і метрыку смерці дачкі Амеліі (1942).

[2] Зрэшты, пра гэты від дзейнасці, Ю. Ляскоўскага ведаў і В. Каратынскі: „Założył był w Mławie handel kolonialny” [*Kronika Warszawska*… 1889, nr 17: 2].

pomocy dziedzica dla wsi w zaprowadzeniu nowych metod gospodarowania [Kmiecik 1966, t. 5/1: 86].

Самому ж Ю. Ляскоўскаму пазіцыя рэдакцыі была, здаецца, сімпатычнаю. У пацвярджэнне сказанаму можа быць ідэйны змест байкі (вершаванае казкі) паэта *Odmiana losu*. Твор будзе апублікаваны пазней, але, відаць, напісаны якраз у часы супрацы са штотыднёвікам і прызначаны для выдання. Ягоныя допісы – гэта не проста звыклыя карэспандэнцыі з ваколіцаў Зелюню, а хутчэй белетрызаваныя гісторыі з сялянскага жыцця, з жаданнем "рассвятліць" гэтае жыццё.

Працяглага супрацоўніцтва з газетаю „Zorza" не атрымалася. Магчыма, таму, што Ю. Ляскоўскі пераехаў у павятовае мястэчка Млава, але хутчэй з тае прычыны, што – як ён напіша пазней:

> redaktor p. Grajnert nie włada językiem ludowym, nie zna ludu wiejskiego, jego zwyczajów, wyobrażeń, potrzeb, ani też nie jest obyty z prawem obowiązującym w gminie. Wszystkie pisma warszawskie robią „Zorzy" zarzuty… [BJ, 6514/IV: 223 v].

Дык няма нічога дзіўнага, што ў хуткім часе (у лістападзе 1867 г.) ён мяняе свой "карэспандэнцкі імідж": замест „Janka Korabicza" з'яўляецца „J. Korabicz", а таксама – абшар дзейнасці: з малафарматнае газеткі „dla ludu" "пераходзіць" у адно з самых папулярных тагачасных польскіх выданняў – „Gazetę Polską". А ў якасці нагоды выкарыстоўвае той факт, што млаўскі „korrespondent stały" толькі раз у год дае ў „Gazetę Warszawską" малацікавую інфармацыю пра жыццё ў рэгіёне. І прапануе свае паслугі, дэманструючы адметны стыль выказвання. Ёсць у ягоным першым лісце ў рэдакцыю і цікавая самахарактарыстыка:

> Kilka tygodni temu „Gazeta Warszawska" zamieściła wiadomości z Mławy, krótko a węsłowato powiązane z sobą – o urodzajach, drożyźnie, o wzroście naszego miasta i t. d., nawet o artyście malarzu; a jak w roku zeszłym, to korrespondencja tego samego pióra i w tym samym czasie podana, wygłosiła i coś więcej o naszem miasteczku. Doniosła właśnie o artyście rzeźbiarzu i... o artyście poecie.
> Nie myślę ja tu podnosić kwestję o tej – jak sami widzicie – artystycznej płodności kochanej Mławy; nie jest moim zamiarem wdawać się w rozprawę co do warunków, wśród których te aż trzy naraz wielkiej zacności talenta rozwijać się mogą, i czy dla ich rozwoju niwa naszego życia dostatecznie jest urodzajną; chcę tylko maluczką zrobić uwagę, a to: czemu szanowny korrespondent stały pisze o naszem mieście tylko raz do roku?...
> Niech wam się nie zdaje jednak, żeby w tym moim dopominku przemawiać miała obraza miłości własnej. Uchowaj Boże!... Nie jestem ja *zapomnianym* czwartym z kolei artystą – drugim naprz. malarzem, ani drugim poetą; owszem – jestem sobie, nie przymierzając, najzwyczajniejszego gatunku grzyb; trochę nadpsuty deszczami mojego lata i słotą mojej jesieni, trochę zwiędnięty i – dożywający w ustroni swoich nie zbyt rajskich dni. Co do artyzmu, do tego natura daru mi jakoś nie dała – może zresztą przez omyłkę tylko. Próbowałem wprawdzie wierszoklectwa, bo i któż z nas tego nie próbował! ale poetą, choćby na skalę powiatowo-mławską, nazwać się nie mam żadnego prawa.

W dodatku do rysopisu mego jestem *stary popraw*. Kiedy więc szanowny korrespondent stały nie jest łaskaw częściej Mławę przypominać światu, ja będę tym wybrańcem, tem dzieckiem losu, co nie da naszej siedzibie zaginąć w niewiadomości. Idzie tylko o to, żebyście wy – Szanowna Redakcjo, za bardzo w treści listów moich nie przebierali, bo pamiętajcie, że to warunek dla zachęty *nowicyusza* nie lada [Korabicz J. 1867, nr 257: 2].

У Млаве Ю. Ляскоўскі пражыў гадоў пятнаццаць, дык цікавым з'яўляецца ягонае першае апісанне мястэчка:

pisząc z Mławy nie wolno mi zapominać o rozgłosie jej artystycznej aż w trzech kierunkach sławy, zaczynam wierszem, jak na Mławianina przystało.

Miasto nasze... jako ptaszę,
Trochę niby podskubane,
Wypierzone – obryzgane,
Siadło kupką – i z kałuży
Sobie dobrą przyszłość wróży.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Domy w rzędy – ale jakie!!
Klitka z klitką się związała,
Klitka klitce ramię dala,
Wszystko przytulnisie takie,
Wspierają się... od upadku.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Tak w ulicach... O dostatku
Tam ni słowa – ale za to
Zajrzyj w rynek – ho! ho! panie,
Kamienice... każda stanie
Piętrem, panku, ci przed oczy,
A na piętrze – het pod niebo
Znów – wysoko klitka skoczy,
I lokator – rzecz nie lada!
Ot wprost sobie z niebem gada.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .. .. .

Choć kiepsko zwierszowałem fotografję naszego miasta, sam to czuję – to przecież, jako szkic z grubszego, jest ona wierną. Odcieniowanie zostawiam fachowemu poecie.

Co do czystości, porządku, co do obsługi publicznej – dużoby o tem było do powiedzenia; lecz poprzestanę na leciuchnem dotknięciu tych wszystkich kwestij.

Owóż – błota u nas nie brak. Czego słońce nie osuszy, czego wiatr z ulicy nie zmiecie, to sobie spokojnie leży. Latem zresztą, jeżeli deszcze częściej nie padają i posługom słońca nie stawią przeszkody; przez dwa, trzy miesiące zupełnie sucho, i Mława dosyć schludnie wygląda. Ale za to na wiosnę, w zimie, a szczególnie przez jesień – w tych trzech porach roku nie radzę nikomu z turystów zaglądać do Mławy, chyba że trafi na jarmark, albo na targ większy, kiedy rynek, ozdoba Mławy – jest zajęty tłoczącą się massą pieszych i fur, straganów i kramików przenośnych, żydów, rzemieślników i okolicznego włościaństwa. W ten czas massy te przykrywają sobą wszystko to, co doprawdy nie zachwyca oka. Po jarmarku znowu, po targu, których aż dwa mamy w tygodniu, cały nastój zbiegowiska jezdnych i pieszych – błoto, siano,

słoma, gnój – wszystko to sobie spoczywa na miejscu, czekając drugiego targu albo jarmarku. Są wprawdzie chwile czyszczenia się miasta; nie wiem ile ich jest do roku, ale jakoś pod względem estetycznym niewiele to i na krótko Mławę odmienia. Odbywa się to tanim bardzo kosztem, bo się spędza tak zwane magdalenki, które zaprowadzają porządek, grzebią, zmiatają wszelkie nieczystości na kupki, kopcują niemi rynek cały do koła, i tak to najczęściej leży, aż następny targ czy jarmark wszystko znowu po rynku rozniesie.
Na to czyszczenie rynku miasto składa rocznie rs. 60, drugie zaś rsr. 60 wpływają do kassy miejskiej z wydzierżawienia prawa zabierania na mierzwę jarmarcznych i targowych pozostałości. Nie zły to grosz, i możnaby za to czystość w rynku *stale* utrzymać. Nasuwa się tu jednak samo przez się jedno pytanie, a to: czyby potrzebujący mierzwy, a jest tu tylu mieszczan rolników – nie przystali na warunek, już nie zbierania gotowych, nagromadzonych na kupki zgrzebowin, ale wprost zgrzebywania ich swoim własnym kosztem? Nie zdaje mi się, żeby taki zwyczaj nie mógł być zaprowadzony, przy takiej jak tu konkurencji o zdobywanie mierzwy. Zwalniając dzierżawcę z opłaty, uwalniałoby się tem samem i miasto od składki, nie wielkiej wprawdzie, ale za to mogącej być użytą na inne cele. I na jakież to cele?... a oto choćby na załatanie przykrycia u pomp miejskich.
Takie czyszczenie rynku odbywa się – powtarzam bardzo *tanim* kosztem, i więcej przemysłem jak kosztem, bo idzie to na rachunek kary za grzeszny żywot; opłaty z owej 60 rublowej składki jest tylko dodatkiem. W sam li raz taka się wymierza kara, i o ile ona jest skuteczną, o ile skuteczną być może – o tem wątpićby należało, z uwagi-że magdalenek jakoś coraz to więcej przybywa, a przynajmniej nie umniejsza się ich liczba. Wszystkie zamjataczki rynku, to z małym wyjątkiem kandydatki do służby kuchennej i pokojowej; to też w Mławie dobra służąca jest wielką rzadkością. Ze służby idzie na *chleb wolny*, z *wolnego chleba* do służby, i tak w kółko. Zdaje się, że ten *koszt tani*, miasto drogo opłaca. Możeby właściwiej było pomyśleć o domu poprawy, ku umniejszeniu zepsucia?... Urządzenie takiego domu nie tak wielkie za sobą koszta pociąga; one tam utrzymują się same przez się, bo wprowadzeniem i stosownym rozkładem zatrudnienia, tytułem zarobku dla istot, lekki wiodących żywot.
Obok takiego domu poprawy, wartoby pomyśleć jeszcze i o kontrolli służących, urządzając ku temu kantor.
Możeby władza wyższa i nieodrzuciła projektu, co do urządzenia szczególnie domu poprawy.
Trzeba wiedzieć, że Mława ma swój dość znakomity kapitał, bo wynoszący kilkadziesiąt tysięcy rubli, który z roku na rok powiększa się przyrostem procentów i bieżącego wpływu. Zadysponować cząstką tego kapitału, a choćby tylko jednorocznym wpływem *dla próby* na korzyść miasta, od władz jego przedewszystkiem zależy. Uwzględnienie przedstawienia w tym celu, zależy od praktycznego potrzeb miejskich wskazania. Była naprzykład potrzeba odnowić ogrodzenie wkoło spacerowego ogródka – fundusz na to wyasygnowano, i ogrodzenie nowe stanęło, choć może zbyt przepłacone.
Były już wprawdzie lat kilkanaście temu podejmowane próby, zadysponowania grosza publicznego na potrzeby miasta; ale próby te niefortunny dały rezultat.
Mława nie ma wody bieżącej, lecz z jednej jej strony są nieprzebrane źródła. Owóż, gdy nadszedł któryś tam rok niepraktykowanej drożyzny i trudnego dla

luźnych z miasta najemników zarobku, stanęło na tem, że wszystkie źródła przy-miejskie miały być przekopami połączone, dla utworzenia stawu, strugi; kto wie, możeby z tego rzeka urosła. Bądź-co-bądź, w każdym razie miasto mogło mieć swoją wygodę; ale rzecz spełzła na niczem.

Innym razem, w ulicy Płockiej potrzebowano studni. Studnia była, lecz ludzie *fachowi* utrzymywali że woda w niej niezdrowa, że zresztą wody zamało. Wypadało nową świdrować studnię, starą zaś przykryto balami, przypruszono ziemią, bruk położono, i po tem miejscu ludzie dziś jeżdżą. Jest nadzieja, że kiedyś, kiedyś bale przegniją, więc dla kogoś z przejeżdżających gotowiusieńka niespodzianka przeniesienia się z wozem i końmi na samo dno studni, jak tego mieliśmy już przykład w roku zeszłym obok ratusza. Aleź, powiedzą – w studnię przy ratuszu nikt nie wpadł, nikt nie nakręcił karku. Nie wpadł, to prawda, bo się zarwała w nocy; ale się zarwała po jarmarku – zatem kilka godzin wcześniej, a była perspektywa przenosin w podziemie. Tak urządzać niespodzianki, to już mistrzem chyba być trzeba.

Ale, cóż się z nową studnią stało?... Oto świdrowano ją, kopano obok studni starej, przekopano głębiej jak była tamta... wody ani na łyżkę. Ten sam Mojżesz co miał stworzyć dla Mławy wodę bieżącą, uderzył laską w ścianę starej studni; za jego wskazaniem świdrzyć poczęto... i woda jest. A więc ta sama?... najwyraźniej ta sama, ze starej studni.

Biorą ją do gotowania, do picia, i nikt od niej nie zachorował; przynajmniej nikomu dotąd na myśl nie przyszło obmawiać ją, że jest nie zdrowa. Rzecz prosta jak obręcz, że *potrzebny był* tylko filtr przez otwór nowy, aby wodzie odjąć własność szkodliwą.

Tak chce mieć miejscowe podanie; ja jestem lubownikiem podań, więc je odświeżam szukając wtóru dla wrażeń.

Wszystko to przekonywa, że gdy idzie o zaradzęnie potrzebom, są na to źródła nakładu, jest i wyrozumienie dla tychże potrzeb. Chybiono na dawniejszych próbach, bo zamiast powierzyć kierunek przedsięwzięcia ludziom wybranym przez zaufanie miasta, pod których kontrollą człowiek fachowy powinien był prowadzić roboty, szukano wprost fachowego człowieka, aby mu toż zaufanie narzucić. Nie wynika jednak ztąd wcale, żeby miasto z magistratem na czele, o potrzebach swoich na drodze ulepszeń radzić nie miało.

Na tem niech będzie dziś koniec. Jest jeszcze u nas dużo rzeczy, ku podjęciu przez pismo publiczne. Oto powstają współki; mieliśmy już przykład zawiązania i rozwiązania się z nich jednej... prowadzi się budowa młyna parowego i t. d.; ale o tem w następnych listach.

Teraz pozostaje mi tylko powierzyć to moje pismo względom Szanownej Redakcji, upraszając ją najpokorniej o powolność i wyrozumienie dla *nowicjusza*, od którego nie można wymagać, żeby odrazu stał się mistrzem korrespondentów. Pamiętajcie na przysłowie: „Nie odrazu Kraków zbudowano". Ja wam przyrzekam moją budowę listów prowadzić jak najakuratniej, nie szczędząc pracy w miarę sił i zdolności, ku jaknajlepszemu wydaniu się przed wami i publicznością.

Piszę się najniższym sługą, J. Korabicz [Korabicz J. 1867, nr 257: 2].

Здаецца, гэта першая карэспандэнцыя Ю. Ляскоўскага, падпісаная псеўданімам „J. Korabicz"[1]. Ім ён будзе карыстацца найчасцей аж да

[1] Вядома, мы не мелі магчымасці прагледзець усю польскую перыёдыку 1860–1880 гг.

сярэдзіны 1883 г. А вось што датычыць рэгулярных справаздачаў карэспандэнта з млаўскага жыцця, дык не ўсё, відаць, залежала ад яго самога. І калі напісаную 10 снежня нататку рэдакцыя надрукавала даволі хутка (гл.: Korabicz J. 1867, nr 291: 2), дык далей справы пайшлі не так добра: толькі дзве карэспандэнцыі млавяніна будуць змешчаныя ў „Gazecie Polskiej" ў 1868 і 1869 гг., а пасля супрацоўніцтва затрымаецца больш чым на чатыры гады.

Відаць, з гэтай прычыны ў 1869 г. Ю. Ляскоўскі наладжвае супрацу і пачынае актыўна друкавацца ў „Gazecie Warszawskiej". Так, у гэтым годзе пяць ягоных вялікіх карэспандэнцый будуць змешчаныя на старонках выдання, у наступным – чатыры, у 1871 г. – дзве, у 1872 – чатыры.

Проза жыцця перамагла паэзію. Паэт, відаць, рэдка звяртаўся да вершаскладання, прынамсі, для друку. Магчыма, адзін з апошніх ягоных вершаваных тэкстаў – байка *Odmiana losu*:

**ODMIANA LOSU**
(Bajka)

Pasły się woły w zielonej smudze,
Smaga szeroka i paszy w bród,
Woda zdrojowa tuż obok w strudze,
Przed spieką w gaju cieistym chłód.

Zda się wszystkiego miały do woli,
Jako wymaga wołowy stan;
A ot nie prawda: – pan je do roli
Brał w zaprząg… – oj! oj! Niedobry pan!

I choć sprzęt siana i sieczki wory
Dla nich gromadził człowieczy trud,
Na wiosnę żaden krokiem z obory
Wyjść nie chcę… taki to upór trzód!

– „Co to wam? Mówcie, wołki wy moje,
Czy wam brak paszy? Czy woda zła?"
Pan rzekł – a one: – „Te łaski twoje,
Znamy je… pługi, opieka ta.

„Karm w szopie zimą, latem na łące
Niezgorsze… Za to i włodarz pan,
I twych ratajów bicze kolące,
I ten kark w strupach… trudny to stan.

„Czy my nie wiemy!... w tę oto stronę
Rok temu ciągnął zaganiacz trzód,
Woły – ot woły!... i pracy one
Nie znają – zda się inny to ród.

„Myśmy mówiły z niemi przy drodze:
Jak my – i one ciągnęły pług,
I rataj biczem smagał po drodze –
I tyle znosły od pańskich sług.

Teraz znów za to co za odmiana!
Daj Boże żywot nam taki wieść:

Cały doczynek z samego rana,
Przejść się, a potem… leżeć i jeść!”

– „Oj woły! Woły! Gospodarz na to:
Widać wam życie obrzydło już;
Wiedzcież: zaganiacz ten w zeszłe lato
Ów tabun spaśny pędził pod nóż!

„Takie to wołów tamtych rozkosze!...
Toż lepiej każdy przed sią trud weź:
Za waszą pracą żal was po trosze,
Lecz jeśli chcecie idźcie na rzeź!”

– „Żarty! Ryknęło stado… Opieka
Znana nam twoja: gnębisz nasz ród;
Chcemy opieki lepszego człeka,
Niech nas przygarnie zaganiacz trzód”.

Stało się!... Woły zmieniły pana,
A jaka radość! a jaki ryk!
I zaraz tego samego rana
W drogę… za niemi zaganiacz ćwik.

Idą – czy który w zasiewy skoczy,
Czy w łąkę wpadnie z drogi – nic to,
Zganiacz na to ot zamknął oczy:
– Czemu przy drodze? Więc w prawie są.

Pędzi je z łaski, bo z wolnej woli,
I wprost do miasta… Ulicy róg
To jatki… Ejże, lepiéj przy roli,
Oj lepszy bodaj choć ciężki pług!

Brama otworem – stoją wkrąg stoły,
Środkiem na pieńku topór i nóż,
I krew czuć świeżą… Zwarły się woły
I nazad w bramę… Za późno już!...
[Korabicz 1871a: 142].

Твор Ю. Ляскоўскага трапіў у *Jana Jaworskiego Kalendarz Illustrowany na Rok 1871*, відавочна, не выпадкова. Рэдактарам-укладальнікам выдання быў В. Каратынскі, які ў невялічкі пяцістаронкавы раздзел паэзіі уключыў тэксты сваіх знаёмых, у тым ліку і J. Korabicza, з якім зблізіўся, як мы памятаем, “на віленскім бруку” на пачатку 1860-х.

У байцы выразна выяўляецца стаўленне Ю. Ляскоўскага да сялянскае рэформы 1861 г. Ён быў хіба адным з тых, хто значна страціў, перадаючы частку зямлі сялянам. Мы не ведаем, здарылася гэта ў ягоным спадчынным фальварку на Беларусі ці ў фальварку Зелюнь, які належаў (?) сям'і жонкі. Таму „wołki wy moje” ў яго, страціўшы „opiekę”, трапляюць да „zaganiacza trzód”, які мае на мэце загнаць усіх валоў на бойню. Тэма несправядлівае сялянскае рэформы будзе не раз узнімацца ў г. зв. „ziemiańskich”, ці то эканамічных артыкулах Ю. Ляскоўскага.

# Юльян Ляскоўскі як беларускамоўны літаратар

## I

Асобныя гісторыкі літаратуры пачатку XX стагоддзя на падставе пэўных звестак, крыніцу якіх не асабліва выяўлялі, сцвярджалі, што Юльян Ляскоўскі пісаў па-беларуску. Так, у 1913 г. Вацлаў Ластоўскі занатаваў пра яго:

> Аўтор зборніка вершоў *Białoruski Bandurzysta* (Wilno, 1861). Нам казалі бытцым *Białoruski Bandurzysta* сперша быў напісаны па беларуску, а ўжо пасьля пераложэн на польскую мову самім аўторам. З вершаў яго відаць, што ён быў гарачы беларускі патрыот. У адным з сваіх вершоў ён кажэ:
>
> Do nas więc, do nas, wielmożne pany!
> A z swojską mową, bo mowa wasza,
> Ten jej ton nigdy tam nie słyszany,
> Z mogił tych ojce nam powystrasza,
> I opuściеją nasze kurhany!
> … Słowa zmieniono w jakoweś grymasy,
> W jakieś pod nosem dziwne mamrotanie,
> Co, Boże odpuść! jak złego zesłanie,
> Jak wieżę Babel stawi was przy tłumie,
> Przy gminie naszym, zrodzonym w tej ziemi,
> Przy ludzie prostym, przed bracią młodszemi,
> Że człek człowieka zrozumieć nie umie…[1].
>
> На друкаваным экзэмпляру *Biał. Bandurzysty* напісана: “Majej žanie”, відаць рукою аўтора. Патрэбна яго біографія, партрэт і творы [Власт 1913: 2].

Крыніцу інфармацыі Власт не раскрывае, але праўдападобна, ён выкарыстаў звесткі, атрыманыя ад Рамуальда Зямкевіча. Гэтак жа, як і Яўхім Карскі:

> Наконецъ, называютъ цѣлый рядъ бѣлорусскихъ писателей, о произведеніяхъ которыхъ имѣются только преданія или слухи. Такъ въ “Нашей Нівѣ” за 1913 г., №№ 37–38, въ статьѣ Власта *Памажыця!* Указаны еще слѣдующіе писатели (свѣденія о нихъ ниже дополняются Р. Земкевичемъ): <…> е) **Юльянъ Ляскоўскі**, авторъ сборника *Białoruski Bandurysta* (Wilno, 1861). Хотя эта книга вся на польскомъ языкѣ, но есть предположенія, что авторъ писалъ и по-бѣлорусски; между прочимъ онъ переводилъ баллады Мицкевича [Карскій 1922, III, 3: 76].

[1] Радкі з паэмы *W cudzéj stronie* падаюцца паводле першакрыніцы [гл.: Laskowski 1861: 70, 34], бо ў “Нашай ніве” твор цытуецца са шматлікімі памылкамі.

Як бачна, і адзін, і другі даследнік не падае, бо, відавочна, не мае, аніякіх біяграфічных звестак пра паэта. Магчыма, пэўныя звесткі былі[1] ў Юзафа Галомбка, які сцвярджаў, што Юльян Ляскоўскі быў на эміграцыі ў Францыі:

> Za najlepszy z tego działu należy uznać zbiorek wierszy Juljana Laskowskiego p. t. *Białoruski bandurzysta*, w którym poeta zamieścił (str. 15–105) poemat liryczno-opowiadający p. t. *W cudzej stronie*. W utworze tym autor całem sercem i duszą pozostaje przy swej rodzinnej Białorusi, którą kocha gorąco i na wygnaniu we Francji tęskni do niej latami. To właśnie gorące uczucie dodaje utworowi niezmiernie dużo uroku [Gołąbek 1932: 19].

Доўгі час ніхто з беларускіх даследнікаў не спраўджваў паведамленне Власта пра беларускамоўную творчасць Ю. Ляскоўскага. Прынамсі, у навуковых публікацыях пра гэта няма ані слова. І толькі ў 1970-я гг. Генадзь Кісялёў, каментуючы для зборніка *Пачынальнікі* ліст Аляксандра Рыпінскага да Адама Плуга і артыкул Аляксандра Ельскага *O gwarze białoruskiej*, выявіў шэраг цікавых інфармацый пра паэта ў даўніх бібліяграфічных даведніках. Найважнейшая з іх тая, што ў 1870–1880-я гг. Ю. Ляскоўскі карыстаўся псеўданімамі J. Korabicz і Marcin Mizera [*Пачынальнікі* 1977: 180, 340]. А гэта дало магчымасць гісторыку літаратуры палучыць паэта з апублікаванымі Сцяпанам Александровічам вершамі *Ziemielka maja*… і *Pad dudu* [Александровіч 1965а, № 14, 3], а г. зн. пацвердзіць паведамленне Власта і дадаць яго да почту беларускамоўных літаратараў XIX стагоддзя [Ляскоўскі 1988: 309–310, 469].

Апрача таго, Г. Кісялёў, уважліва прачытаўшы зборнік *Białoruski Bandurzysta*, звярнуў увагу на подпісы пад вершамі і сцвердзіў, што Ю. Ляскоўскі пэўны час быў на эміграцыі (Лондан, Прусія, Аўстра-Венгрыя), але скарыстаўшыся з царскае амністыі 1856 г., вярнуўся на Бацькаўшчыну. Пасля Паўстання 1863 г. ён жыў у Польшчы, займаўся журналістыкай, дапамагаў Конраду Прушынскаму выдаваць штотыднёвік „Gazeta Świąteczna” і рэдагаваў „Echo Łomżyńskie”.

На пачатку 1990-х гг. Г. Кісялёў выявіў дакументы з 1858 г., якія датычылі просьбы Ю. Ляскоўскага пра вяртанне на Бацькаўшчыну. У выніку стала вядома: год і месца нараджэння паэта, яго заняткі і служба ў Вільні, а таксама прычына, чаму ён 11 красавіка 1849 г. мусіў з’ехаць за мяжу [Кісялёў 1994а: 148–161].

## II

Даследаванні Г. Кісялёва, а таксама пэўныя загадкі і таямніцы лёсу Ю. Ляскоўскага сталіся падставаю ўзнікнення ў сярэдзіне 1990-х гг. гіпотэзы пра датычнасць паэта да напісання славутага верша *Zahraj, zahraj, chłopcze mały...*, аўтарам якога доўгі час лічыўся Паўлюк Багрым.

---

[1] З подпісу пад паэмай *W cudzéj stronie* можна адно даведацца, што яна была закончаная ў 1855 г. у Лондане. У той жа час, здаецца, у тэксце твора адсутнічаюць усялякія алюзіі пра побыт аўтара/лірычнага героя ў Францыі.

У аснове гіпотэзы – дапушчэнне, што эмігрант Ю. Ляскоўскі пэўны час жыў у Лондане (там у 1855 г. была закончаная ім паэма *W cudzéj stronie*), а г. зн. ён быў знаёмы з Аляксандрам Рыпінскім (апошні згадаў аўтара зборніка *Białoruski Bandurzysta* ў знаным лісце да Адама Плуга сярод 55 "польскіх пісьменнікаў, якія або нарадзіліся на Белай Русі, або таксама пісалі пра яе на абедзвюх мовах нашай правінцыі, як польскай, так і русінскай" [*Пачынальнікі* 1977: 176]), а таксама Ігнацы Яцкоўскім. У выніку склаўся "своеасаблівы трыумвірат эмігрантаў-беларусаў", які "рэалізаваў містыфікацыю": І. Яцкоўскі падаў звесткі пра крашынскія падзеі 1828 г., Ю. Ляскоўскі напісаў верш *Zahraj, zahraj*… (ён жа, уласна, і эміграваў праз страх перад рэкрутчынай!), а А. Рыпінскі пераклаў верш на польскую мову.

Аніякіх дакументальных фактаў не падавалася. Замест іх выкарыстоўваліся дапушчэнні гісторыкаў літаратуры. Напрыклад, С. Александровіча: "Магчыма, гэта невядомыя творы Паўлюка Багрыма. У вершы *Пад дуду* адчуваецца пэўная пераклічка з вершам *Заграй, заграй, хлопча малы*…" [Александровіч 1965а, № 14: 3] ці Г. Кісялёва: "У Лондане ён [Ю. Ляскоўскі. – *М. Х.*] павінен быў зблізіцца са сваім земляком Аляксандрам Рыпінскім <…>. У іх шмат агульнага – любоў да літаратуры, да паэзіі, замілаванне беларускім фальклорам, туга па Беларусі. Так што Рыпінскі, трэба думаць, ведаў Ляскоўскага не толькі па зборніку *Беларускі бандурыста*, але і асабіста. Пра іх магчымыя сувязі пісаў і Адам Мальдзіс у сваім *Англійскім дзённіку*" [Кісялёў 1994а: 154–155 ].

Гэта значыць: калі С. Аляксандровіч лічыў, што вершы *Ziemielka maja*… і *Pad dudu* належаць, як і верш *Заграй, заграй*…, П. Багрыму, а Г. Кісялёў дапускаў, што гэтыя творы з артыкула *Słówko o pieśni* [Korabicz J. 1882a, nr 287–288] напісаныя Ю. Ляскоўскім[1], бо "верш *Зямелька мая* можна разглядаць як узнаўленне сродкамі беларускай мовы і народнай паэтыкі першых радкоў паэмы *У чужой старане*" [Кісялёў 1994а: 158], дык можна сцвердзіць, што верш *Zahraj, zahraj*… таксама напісаў аўтар зборніка *Białoruski Bandurzysta*.

Як бачым, гіпотэза пабудаваная на падставе няпэўных аргументаў: "ланцужкі" паміж гісторыка-літаратурнымі фактамі надзвычай невыразныя, калі не сказаць – іх проста няма. Увогуле, на нашую думку, гіпотэза створаная шляхам падтасоўвання дапушчэнняў і памылковых сцвярджэнняў. А таму разбурыць дадзеную гіпотэзу можна невялічкаю абвесткаю ў адной з эміграцыйных газет 1850-х гг.:

> P. Julian Laskowski, który w styczniu 1854 r. przeniosł się z Francyi do Anglii, proszony jest o zgłoszenie się do majora Karola Szulczewskiego, 10, Duke Street S.-James w Londynie, po list od familii dla niego nadesłany [*Doniesienia* 1858, nr 12: 6].

У ёй, па-першае, пацвярджэнне інфармацыі Ю. Галобка пра побыт Ю. Ляскоўскага ў Францыі; па-другое, падаецца – трэба думаць – дакладная дата пераезду паэта ў Англію. Яе, відавочна, ведаў К. Шульчэўскі

[1] Гл. ніжэй нашую гіпотэзу адносна атрыбуцыі вершаў *Ziemielka maja*… і *Pad dudu*.

(1813–1884), сакратар Літаратурнага таварыства сяброў Польшчы, бо эмігранты, прыехаўшы ў Англію, перш-наперш звярталіся да яго. Аднак у Лондане Ю. Ляскоўскі не меў шансаў атрымаць дапамогу ад Таварыства, бо яно свае сродкі размяркоўвала толькі сярод былых удзельнікаў Лістападаўскага паўстання 1830–1831 гг.

На падставе абвесткі ў газеце „Wiadomości Polskie" можна зрабіць выснову, што толькі ў студзені 1854 г. маглі сустрэцца ў Лондане І. Яцкоўскі, А. Рыпінскі і Ю. Ляскоўскі. А гэта азначае, што – нават калі і існаваў "трыумвірат эмігрантаў-беларусаў" – "рэалізаваць" містыфікацыю дзеля рамана І. Яцкоўскага *Powieść z mojego czasu* не ўяўлялася магчымым: у студзені 1854 г. кніга ўжо была ў друкарні А. Рыпінскага. Пра гэта сведчыць ліст І. Яцкоўскага ў Парыж Леанарду Нядзвецкаму ад 18 студзеня 1854 г.:

> *Powieść z czasu mojego, czyli Przygody Litewskie* ўжо скончана і як толькі будзе вокладка, пашлю вам дзеля продажу, бо прэзентаў, панёсшы такія вялікія выдаткі, рабіць не магу [ВК, 2405: 456].

Звернем увагу: "кніга скончана" азначае заканчэнне друку тэксту рамана. Засталося толькі надрукаваць у іншай тыпаграфіі вокладку (А. Рыпінскі звыкла замаўляў іх у г. зв. літаграфіях). Пацвярджэнне даты выхаду ў свет кнігі І. Яцкоўскага знаходзім таксама ў карэспандэнцыі Ёахіма Лялевеля (1786–1861): у тым жа студзені 1854 г. славуты гісторык пісаў з Бруселю вядомаму арыенталісту Ігнацы Петрашэўскаму (1796–1869) у Берлін: "Ад Яцкоўскага атрымаў твой каталог. Быў ён, незвычайны гаварун, тут і сам; друкуе ўласным коштам свой двухтомны раман" [*Listy emigracyjne*… 1954: 182].

Такім чынам, аніяк не мог удзельнічаць Ю. Ляскоўскі ў падрыхтоўцы рамана *Powieść z czasu mojego, czyli Przygody Litewskie*. А таму гіпотэза даследніка – гэта ці то ягоная ўласная свядомая містыфікацыя ў галіне атрыбуцыі верша *Zahraj, zahraj*…, ці то няздольнасць кампетэнтна правесці атрыбуцыйнае даследаванне.

Выяўленая абвестка можа быць сведчаннем побыту паэта ў Англіі, дзе Ю. Ляскоўскі, пэўна ж, разлічваў на паляпшэнне матэрыяльных умоваў жыцця, а таксама – магчыма – на ажыццяўленне сваіх літаратурных планаў, бо яшчэ ў Парыжы мог даведацца пра выдавецкія справы А. Рыпінскага і ягонае Польскае друкарні. Напісаная (хутчэй – завершаная) у Лондане паэма *W cudzéj stronie*, пэўна ж, павінна была ўбачыць свет у сталіцы Англіі, але Ю. Ляскоўскі хіба не меў сродкаў, каб выдаць яе сваім коштам. А, як вядома, А. Рыпінскі друкаваў кнігі толькі коштам аўтараў.

Вядома, Ю. Ляскоўскі, добры знаўца беларускае мовы, мог на эміграцыі пісаць не толькі па-польску, але і па-беларуску. Аднак на падставе абвесткі ў газеце „Wiadomości Polskie" ад 20 сакавіка 1858 г. упэўнена можна сцвердзіць, што ён не меў дачынення да ўзнікнення верша *Zahraj, zahraj, chłopcze mały...*

## III

Праўда, першыя звесткі пра тое, што Ю. Ляскоўскі пісаў па-беларуску, паходзяць усё ж не з XX стагоддзя, а з пачатку 1880-х гг. ад людзей якія непасрэдна ведалі літаратара. У першую чаргу мы маем на ўвазе А.Г. Кіркора, які ў 1882 г. у трэцім томе *Живописной России* згадвае пра свайго знаёмца з віленскіх часоў як аднаго з тых, хто спрычыніўся дзеля развіцця беларускае літаратуры. Заўважым, «изъ современныхъ бѣлорускихъ поэтовъ» вядомы віленскі рэдактар і выдавец называе літаральна некалькі чалавек[1]: перш-наперш Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Арцёма Вярыгу-Дарэўскага, якія – паводле яго слоў – «пользуются большою популярностью», а таксама польскамоўнага паэта Уладзіслава Сыракомлю, што

> не только отлично зналъ языкъ бѣлорусскій, но зналъ народъ, любилъ его, понималъ его нужды, его желанія, проникалъ всю глубину его чувства, зналъ его преданія, поговорки. Поэтому неудивительно, что его бѣлорусскіе пѣсни особенно любимы народомъ. Ихъ поютъ вездѣ, хотя немногіе знаютъ, кто былъ ихъ авторомъ [Киркоръ 1993: 327].

А пасля падае псеўданім і крыптанім яшчэ двух літаратараў: «Писали еще по-бѣлорусски въ новѣйшее время Іуліанъ Мрочекъ[2], Викентій К. и др.» [Киркоръ 1993: 327].

Дзіўна, што такі абазнаны чалавек як А.Г. Кіркор, што значную частку свайго жыцця правёў на роднай Літве і пэўны час фактычна стаяў на чале літаратурнага працэсу ў краі, змог назваць адно пяць (!) беларускамоўных паэтаў другое паловы XIX стагоддзя. Ды і тое – двух апошніх падаць толькі ў "закадаваным" выглядзе. «Викентій К.» – гэта, відаць, Вінцэсь Каратынскі[3]. Характэрна, пішучы пра польскамоўны даробак "барадатага ліцвіна", А.Г. Кіркор наўпрост называе ягонае прозвішча [Киркоръ 1993: 328]. Дык тут адно з двух: ці то яму не хацелася даваць царызму падставы для пераследу варшаўскага рэдактара, ці то лічыў непатрэбным дадаваць у польскамоўны даробак В. Каратынскага беларускамоўную "лыжку дзёгцю" (інакш кажучы – правінцыйны сепаратызм).

Зрэшты, больш імаверна, што А.Г. Кіркор не можа назваць дакладна гэтых двух беларускамоўных паэтаў, які жылі на тэрыторыі Расейскае

---

[1] Вельмі высока А.Г. Кіркор ацэньваў талент «совѣтника въ Могилевѣ, а потомъ вице-губернатора въ Витебскѣ» Манькоўскага, які «владелъ языкомъ, какъ немногіе. Его юморъ, умѣнье передавать народныя сцены знаменуютъ геніальныя способности» [Киркоръ 1993: 326]. Праўда, на яго думку аўтар *Энеіды навыварат* жыў у канцы XVIII – першай палове XIX ст.

[2] Польскія слоўнікі псеўданімаў ведаюць толькі двух „Mroczków" – *J. Mroczka*, якім часам падпісваўся Ян Людвік Паплаўскі (Jan Ludwik Popławski, 1854–1908), ідэолаг "эндэкаў" („Narodowej Demokracji") і публіцыст, ды *Jana Mroczka*, які зрэдчас выкарыстоўваў Алексы Ржавускі (Aleksy Rżewuski, 1885–1939), дзеяч Польскай сацыялістычнай партыі і публіцыст [гл.: *Słownik pseudonimów*… 1995, II: 660].

[3] Як варыянт – Вікенці Кастусь Каліноўскі.

імперыі, з тае прычыны, што іхнія тэксты насілі антыцарскі (антырасейскі) характар. Магчыма, А.Г. Кіркор ведаў гэтыя тэксты. Як, магчыма, ведаў ён і палітычную кніжачку Ю. Ляскоўскага-Мрочка, бо сустракаўся з яе аўтарам у Кракаве якраз у 1879–1880 гг., г. зн. у той час, калі працаваў над раздзеламі для *Живописной России*. Думаецца, аўтар выкарыстоўвае менавіта гэты псеўданім млаўскага карэспандэнта варшаўскіх выданняў, бо "Мрочак" быў найбольш закадаваны. Прынамсі, жыхара Ломжынскае губерні „J. Korabicza" "вылічыць" было нескладана, а таямніца "Мрочка"[1] была вядомая адно невялікаму колу знаёмых Ю. Ляскоўскага. Тых, з кім ён раіўся наконт друку кніжачкі *Polska i Rossya wobec idei słowiańskiej*.

Лісты Ю. Ляскоўскага да Ю.І. Крашэўскага ад 7 снежня 1879 г. і 6 сакавіка 1880 г. сведчаць, што „Mroczek" – гэта ягоны псеўданім. А цыдулка літаратара да А.Г. Кіркора, пра якую згадаў Г. Кісялёў (LVIA, 1135–11–7), найлепшае тут пацвярджэнне: знаёмства, якое завязалася на пачатку 1860-х гг. у Вільні, мела свой працяг у 1879–1880 гг. у Кракаве. "Вядома ж, землякі – рупліўцы беларускай культуры – знайшлі аб чым пагаварыць" – па-мастацку вобразна завяршае ў 1994 г. артыкул *Дзве "палавінкі" аднаго жыцця...* Г. Кісялёў. І, відавочна, не быў далёкі ад праўды: прынамсі, пра свае планы надрукаваць палітычную кніжачку Ю. Ляскоўскі паведаміў пры сустрэчы. Істотна, што А.Г. Кіркор памятаў пра суайчынніка і ягоны псеўданім, калі пісаў раздзел *Умственныя силы и средства образованія* для шматтомнага выдання Маўрыцыя Вольфа[2]. Але сама важнае тое, што Юльяна Мрочка ён далучыў не да шматлікага шэрагу «бѣлорусскихъ уроженцевъ, писавшихъ по-польски», (што адпавядала, улічваючы колькасць напісанага, праўдзе), а менавіта да пяціасабовага "гуртка" беларускамоўных паэтаў. Трэба думаць, А.Г. Кіркор не меў падставаў фальсіфікаваць ці містыфікаваць літаратурны працэс сярэдзіны XIX ст. на яго любімай Літве; тым больш, што з Ю. Ляскоўскім ён сустрэўся праз шмат (амаль дваццаць)

---

[1] Літаральна: кажан (лац. Vespertilio, ад vespertinus – вечаровы). У польскай мове, апрача слова "mroczek", часцей ужываецца „nietoperz".

[2] Як нарадзілася і ажыццяўлялася ідэя праекту М. Вольфа *Живописная Россія* расказаў ў 1883 г., адразу пасля выхаду ў свет ейнага трэцяга тома і смерці аўтара праекту, Зыгмунт Лібровіч, неадменны сакратар выдання, у кніжцы *Stara Polska w opisie malowniczym: Historja niewydanego dzieła według nieogłoszonych dotąd listów i dokumentów Mich. Grabowskiego, Kaczkowskiego, Kirkora, Kondratowicza, Kraszewskiego, księgarza Mauryc. Wolffa i wielu innych* (Petersburg 1883). Заўважым: выхад у свет і III тома *Живописной России*, і кніжкі З. Лібровіча выклікаў істэрычную рэакцыю "западнорусов" і Міхайлы Каяловіча. Гл.: М. Кояловичъ, *Русская простота. I. Любопытная исторія*, «Русь» 1884, № 13, с. 11–16; Бѣлорусъ, *Русская простота. II. Библіографическая замѣтка по поводу III тома Живописной России (Литва и Бѣлоруссія – соч. Киркора)*, «Русь» 1884, № 13, с. 16–26. Публікацыя "рэцэнзіі" Бѣлоруса ў часопісе «Русь» была трэцяю па ліку: спачатку яна з'явілася ў «Литовскихъ Епархіальныхъ Вѣдомостяхъ» (1884, № 9, с. 83–91), пасля «отдѣльной брошюрой» (Вильна 1884). Ейныя фрагменты друкаваліся таксама на старонках «Историческаго Вѣстніка», «Русской Старины» і «Кіевской Старины».

гадоў, пасля таго, як бачыўся з іншымі прадстаўнікамі “беларускага гуртка”: У. Сыракомля памёр у 1862 г., В. Дунін-Марцінкевіч і А. Вярыга-Дарэўскі дажывалі свой век (першы – у Люцінцы пад Мінскам, другі – у Іркуцку на высылцы), а В. Каратынскі цяжка працаваў у Варшаве. Дапускаем, што прыезд Ю. Ляскоўскага ў Кракаў стаўся тым “свежым аргументам”, які актуалізаваў памяць А.Г. Кіркора датычна беларускамоўнае творчасці Ю. Ляскоўскага[1].

Дык варта задумацца: а ці не прыехаў Ю. Ляскоўскі ў 1860 г. на Бацькаўшчыну, маючы пры сабе не толькі польскамоўныя творы, якія склаліся на томік *Białoruski bandurzysta*, але і беларускамоўныя? Толькі вось – якія? Можа, мы ведаем іх сёння як ананімныя? Ці, усё ж, яны беззваротна страчаныя?

Прыўзняўшы крыху покрыва з кісялёўскага рэбуса (“Мрочак наогул таямнічае для нас імя”), мы апынуліся перад няменш складанаю задачаю: за якія такія заслугі А.Г. Кіркор паставіў Ю. Ляскоўскага поруч са знанымі беларускамоўнымі паэтамі Літвы і Беларусі? Няўжо ў вачах А. Г. Кіркора ягоны паэтычны даробак быў параўнальны па колькасці ці мастацкіх вартасцях з вышэйзгаданымі літаратарамі?

На інфармацыю А. Г. Кіркора пра Юльяна Мрочка звярнуў увагу на пачатку XX ст. толькі Максім Багдановіч. Ён уключыў гэтае імя ў пералік паэтаў, якія «почти не печатались, хотя и писали на белорусском языке <…> Ялеги Франциш Вуль, Н. Короткевич, Юлиан Лясковский, Якуб Т-ки, Юлиан Мрочек и мн. др.» [Багдановіч 1993, III: 270] у сваім артыкуле *Белорусское возрождение*, што ўпершыню быў апублікаваны ў выдаваным ў Маскве часопісе «Украинская жизнь» (1915, № 1 і 2). У 1916 г., папраўлены і нязначна дапоўнены, ён быў надрукаваны як асобная кніжачка.

Цікава: Ю. Ляскоўскі і Юльян Мрочак, хоць і “ўзятыя” з розных крыніцаў, апынуліся ў М. Багдановіча поруч. А гэта заўсёды рабіла клопату каментатарам спадчыны паэта. У поўным зборы твораў паэта дадзенае выказванне пракаментавана наступным чынам:

> З названых паэтаў толькі Ю. Ляскоўскі з’яўляецца аўтарам зборніка *Беларускі бандурыст* (Вільна 1861). Пра творы Ю. Мрочака (!) звестак няма. З вершаў Ф. Вуля, М. Караткевіча, Якуба Т–кі вядома тое, што было запісана імі ў “Альбом” Вярыгі-Дарэўскага (*Дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка*[2], *Беларускія дудары…*[3], *Слоўна з неба Божы дар…*) [Забродская, Мазанік, Піліповіч 1993, II: 542].

Псеўданім Ю. Ляскоўскага «Іуліанъ Мрочекъ», пададзены А.Г. Кіркорам у *Живописной Россіи*, быў успрыняты М. Багдановічам, а таксама пазнейшымі каментатарамі ягонае творчасці і даследнікамі як імя і проз-

---

[1] Характэрна, што ў 1874 г. А.Г. Кіркор беларускімі літаратарамі назваў В. Дуніна-Марцінкевіча і А. Вярыгу-Дарэўскага, але не згадаў ні пра У. Сыракомлю, ні пра Юльяна Мрочка, ні пра Вікенція К. [гл.: Kirkor 1874: 53–54].

[2] Верш Ялегі Пранціша Вуля мае тытул *К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка*.

[3] Першы радок верша Мікалая Караткевіча гучыць так: *Бялорускі Дудару…*

вішча рэальнага чалавека. З гэтае прычыны ў энцыклапедыі *Максім Багдановіч* з'явіўся асобны слоўнікавы артыкул:

> МРО́ЧАК Юльян (? – ?), беларускі паэт. Пра жыццё і творы звестак няма. Толькі з арт. Б. *Белорусское возрождение* (1914) вядома: <…> На думку Б., творчасць М., як і іншых бел. пісьменнікаў 2-й пал. XIX ст., унесла значны ўклад у станаўленне і развіццё нац. л–ры і мовы [Моўчан 2011:351].

Сёння, аднак, трэба пагадзіцца з тым, што А.Г. Кіркор пад псеўданімам «Іуліанъ Мрочекъ» меў на ўвазе Юльяна Ляскоўскага. Істотна таксама тое, што віленскі рэдактар добра ведаў паэта: сустракаўся з ім у 1860–1861 гг. (падчас падрыхтоўкі да друку зборніка *Białoruski bandurzysta*) і ў 1879–1880 гг. Усё гэта дае падставы сцвярджаць: у даробку Ю. Ляскоўскага былі беларускамоўныя творы.

## Паэма *На чужой старане*

Апынуўшыся на эміграцыі, Ю. Ляскоўскі, пэўна ж, не маючы дастаткова сродкаў, каб годна жыць, мусіў шукаць працу. Пазнейшыя ягоныя заняткі сведчаць, што нейкай адмысловай прафесіі ён хіба не меў. Дык мог разлічваць адно на цяжкую фізічную працу і дапамогу суайчыннікаў. У Францыі, дзе ён знаходзіўся да студзеня 1854 г., жылі тысячы былых удзельнікаў Паўстання 1830–1831 гг.; тут выходзілі польскія газеты і кнігі, працавалі польскія выдавецтвы і друкарні. Пэўна, Ю. Ляскоўскі спрабаваў знайсці сабе заробак у эміграцыйнай журналістыцы; пра гэта ён кажа ў лісце да Ю.І. Крашэўскага: „Dawniej próbki robiłem do pism polskich za granicą bezimiennie, i te były przyjęte – nie pogardzano niemi" [BJ, 6470/IV: 15v]. Пра што тут гаворка – вершаваныя тэксты ці журналісцкія карэспандэнцыі?

Адзінае, што захавалася з эміграцкага, заходнееўрапейскага даробку Ю. Ляскоўскага[1], – гэта паэма *W cudzéj stronie*, напісаная, як сведчыць напрыканцовая пазнака, у 1855 г. у Лондане. Усё іншае паэт, памятаючы пра тое, куды ён едзе, пакінуў ці то за межамі імперыі, ці то ў сваіх знаёмых у Зелюню: „Zbiorek mój jest złożony z kawałków, pisanych za granicą: wielu powyrzucałem wracając do kraju, inne wypadło zmienić albo wyrzuciła Cenzura. Uboga to praca, mizerna, témbardziej że poobrywana" [BJ, 6470/IV: 15r].

Трэба думаць, што аўтарскае рэдагаванне закранула і паэму *W cudzéj stronie*. Маем на ўвазе, што ў 1860 г. у Вільні Ю. Ляскоўскі мог унесці пэўныя змены ў твор. Датычыць гэта і антырасейскіх матываў, і, пэўна, рэчаў прыватных, уласных. На нашую думку, радкі:

> Tam matka czeka, siostra mnie czeka,
> Mogiła ojca i wszystko moje!..

трэба датаваць 1860 г. Бо, нагадаем, выгнаннік не меў сталае сувязі з роднымі: у 1858 г. у Лондане атрымалі ліст ад Ляскоўскіх, хоць ён ужо гады два жыў на пруска-польскім памежжы. Той факт, што Ю. Ляскоўскі браў шлюб летам 1861 г., таксама можа быць паказнікам: бацька памёр у 1860 г. (?), дык урачыстасць можна было ладзіць пасля жалобы.

Пэўна, не мог паэт у 1855 г. пісаць, што жыхарам Беларусі з усходу пагражалі нападам туркі і татары. Усё ж у гэтым месцы паэмы ідзе гаворка пра падзеі другое паловы XVIII ст. Дык можам дапусціць, што перша-

[1] Амаль усе іншыя, апублікаваныя ў зборніку *Białoruski bandurzysta* вершы, былі напісаныя на польскіх землях – на пруска-польскім памежжы ў 1856–1860 гг.

пачаткова нападнікамі былі “маскалі”, якія ў апошняй рэдакцыі “змянілі” сваё нацыянальнае аблічча[1].

Такім чынам, Ю. Ляскоўскі, рыхтуючы зборнік, мог і павінен быў унесці значныя змены ў твор.

***Пра мову паэмы***. Прывабная для нас думка В. Ластоўскага пра першасны беларускамоўны варыянт пакуль не знаходзіць дастатковае доказнае базы. Тут якраз наадварот. Трапіўшы ў эміграцыйныя асяродкі Францыі і Англіі з іхнім польскім патрыятычным духам, Ю. Ляскоўскі наўрад ці мог пісаць па-беларуску. Праўда, ягоны пераезд у Лондан, дзе жыў і працаваў Аляксандар Рыпінскі, аўтар кнігі *Białoruś* (1840) і беларускамоўнае балады *Niaczyścik* (1853), можа быць сведчаннем таго, што паэт шукаў выдаўца для сваіх беларускамоўных твораў[2]. Усё ж *Niaczyścik*[3] карыстаўся папулярнасцю не толькі сярод ліцвінаў-беларусаў, але і палякаў ды ўкраінцаў. Звернем увагу: А. Рыпінскі для тых, хто не ведаў беларускае мовы, падрыхтаваў трэцяе, адмысловае выданне балады. Такім чынам, можна даць веры, што існавала беларускамоўная версія паэмы *W cudzéj stronie*. Аднак больш праўдападобна, што толькі тады, калі Ю. Ляскоўскі вярнуўся ў Вільню і ў супрацоўніцтве з В. Каратынскім рыхтаваў выданні для народа, фрагменты паэмы *W cudzéj stronie* знайшлі сваё беларускамоўнае ўвасабленне. Адзін з іх – *Ziemielka maja*… мог быць перакладам-перапрацоўкаю пачатковых радкоў паэмы.

Апрача таго, беларускасць паэмы выяўляецца ў шматлікіх беларусізмах, якімі аўтар, відавочна, свядома насыціў тэкст твора. Асобныя з іх маюць прыпіс: „Wyraz ludowy białoruski”. Ян Арлоўскі назваў наяўнасць беларусізмаў (barbaryzmów) адным з галоўных недахопаў паэмы, праўда, адначасна прызнаючы, што яны „bardzo wydatnie pogłębiają miejscowy koloryt białoruski” [Orłowski 2010: 185].

***Архітэктоніка твора***. Паэма складаецца з сямі няроўнавялікіх раздзелаў. Колішнія заўвагі Ю.І. Крашэўскага пра тэксты паэта („trochę treściwiéj, surowiéj jeszcze osądzone i skrócone, zyskałyby wiele”) і сёння выглядаюць актуальна. Сапраўды, шматслоўнасць, стылёвая неўпарадкаванасць характэрная шмат якім працам Ю. Ляскоўскага. На нашую думку, шматслоўнасць у паэме – гэта не паказнік няўмельства аўтара, а хутчэй ягонае жаданне данесці да чытача важныя думкі, выкарыстоўваючы прыёмы шыфравання сэнсу, што звязана з ужываннем шэрагу неабавязковых і нават непатрэбных дэталяў і апісанняў. Цэнзар і нядобразычліўца “тануў” у шматслоўі, але і звыклы чытач мог, аднак, не заўважыць галоўную думку твора.

Мы прыгледзімся па чарзе да кожнага раздзела паэмы, спрабуючы трымаць у полі зроку ўвесь тэкст, усю архітэктоніку твора. Спачатку

---

[1] “Другое дно” бачыць у паэме Ян Арлоўскі, калі аналізуе “геаграфічныя” нестыкоўкі Ю. Ляскоўскага [Orłowski 2010: 186–187].

[2] Гіпатэтычнае меркаванне: у нас няма звестак, што суайчыннікі сустракаліся ў сталіцы Англіі.

[3] Пра знаёмства Ю. Ляскоўскага з баладай *Niaczyścik* ускосна сведчаць тэксталагічныя супадзенні. Гл. ніжэй.

адзначым, што аўтар – наратар – лірычны герой, што шчасліва выступаюць тут як адно цэлае, з'яўляюцца той повяззю, што лучыць бессюжэтны твор у даволі зграбнае адзінства.

Гэты вобраз аўтара – наратара – лірычнага героя паўстае ўжо з першых радкоў першага раздзела. Мы бачым яго, самотнага, аддаленага ад Бацькаўшчыны, што няшмат мае надзеі вярнуцца ў край. Ён страшэнна пакутуе на чужыне, якая непрыветная яму, пустка для яго, бо тут няма аніводнае роднае душы; тут няма каму сказаць слова, тут ніхто не зжаліцца з цябе, на падасць рукі. Тут пануе культ разліку, тут раскоша і багацце, але ўсё гэта чужое герою.

Адзінае, што яго цешыць, – гэта ўспаміны, гэта памяць пра сваю зямлю, дзе была вера і надзея на лепшае:

Toż człek wzrastał duchem w sile,
W lepszą dolę, w przyszłość wierzył;
Bo tam tyle serc w ład biło,
Do jednéj miary a zgodnie,
I nadzieja z serca w serce
Przenikając po iskierce,
Nieciła wiary pochodnię.
[Laskowski 1861: 24–25].

Відавочна, тут у пэўным сэнсе зашыфраваная думка пра дзейнасць таемнага Związku Bratniego Młodzieży Litewskiej. Так, прынамсі, прачытваюцца намі гэтыя радкі. Каб дэшыфраваць сказанае было цяжэй, аўтар-наратар (тут ён выступае ў форме "мы") звяртаецца да містычна-міфалагічных сэнсаў – да "магільнікаў і курганаў", што з'яўляюцца "скарбніцаю нашае зямлі" („Te naszéj ziemi skarbnice").

Менавіта, родны край праз курганы „dawał myślom przestwór czysty!" Бо

… przez wszystkie życia chwile,
Z tych mogił wrażenia wzięte,
Z czynów ojców wzory święte,
Jasną tęczą nam świeciły!...
[Laskowski 1861: 25].

Вобраз курганоў, які ўзнік яшчэ на першых радках паэмы, цяпер становіцца дамінавальным у творы. Зрэшты, як і вобраз люду, што тут набывае ролю адзінага захавальніка і тлумача сэнсаў, схаваных у курганах.

Nie uczony a rozumny,
Dalnowidne ma źrenice,
Zna swéj ziemi tajemnice,
I prostactwém takiém dumny.
[Laskowski 1861: 26].

Успаміны – гэта тое, што дае лірычнаму герою магчымасць выжыць на чужыне; яны "святыя", яны са сноў маладосці, што прысніліся „na mogilnym na kurhanie!" Але абуджаныя ўспамінамі надзеі цяпер дзесьці „w ćmę ciemną".

Так паэт завяршае першы раздзел, акрэсліўшы ў ім галоўныя шляхі, якімі будзе ісці ягоная думка ў далейшым.

У другім раздзеле напачатку развіваецца заяўленая раней тэма супрацьпастаўлення “свайго” і “чужога”. Лейтматывам гучаць словы „U nas inaczéj!”, якімі паэт пачынае дзевяць строфаў. У нас курганы – гэта магілы бацькоў; у нас іншы свет; люд наш іншы, бо „w zgodnéj jedni żyje z wszechprzyrodą”; у нас мелодыя песні (яшчэ адзін скразны вобраз паэмы) „zachwyca serce, bo z serca wysnuta”.

Каб яшчэ больш падкрэсліць перавагу свайго над чужым, аўтар звяртаецца па дапамогу да Багдана (трэба думаць, Багдана Юзафа Залескага [1802–1886], польскага паэта “ўкраінскае школы”): „niech twojémi słowy // Wtórzy snom naszym kozak naddnieprowy!”

“Ператварыўшы” Бацькаўшчыну ў рай, паэт звяртаецца да тых, хто можа мець іншую думку:

U nas inaczéj!... Lecz może kto powie,
Że strona nasza jest jako pustkowie,
Ani pszeniczna, ani urodzajna,
A błotna tylko i w bory obfita,
Żółci się piaskiem, kurhanami zryta,
Chmurna, zapadła, a wkrąg jednostajna.
I lud tam taki cichy a płaczliwy,
Od dawien-dawno przestał być orężny,
Kiedy z kim w wrażbie, to nazbyt swarliwy,
Ciemny, przesądny – ot, prostak siermiężny.
Śpiewać téj stronie, ludowi w siermiędze,
Śpiewać dziewczynie, co wiecznie płaczliwa,
Wywodzi dumki żalne u łuczywa
Wieczorną dobą, albo zwija przędzę, –
Wstyd a nie warto! – tak może kto powie.
[Laskowski 1861: 31–32].

Ён ведае такіх. Ён назаве іх – „pany!” і зробіць галоўнымі віноўнікамі ўсіх тых нягодаў, якія напаткалі край у апошні час. „Pany”, што маюць усё, prócz serca i głowy”. Бо не бачаць у „prostaczym stanie” нічога годнага ўвагі; бо на кургане сэрца ў вас не задрыжыць (а ў курганах – косці лепшых за вас людзей); бо вы край замянілі (чытай: прадалі) на „dźwięczne ruble” (узнікае алюзія на трыццаць срэбранікаў Іуды), якія траціце на ваяжы, на раскошу, на жыццё, „Bogu ni ludziom na nic nie prydatne”. У сваёй зямлі яны чужаземцы, бо „pany” не ведаюць, якія памяткі мае зямля, якая дала ім жыццё.

І толькі селянін і шарачковы шляхціц, „orząc swój zagon, pobrząkując kosą”, спяваюць старыя песні, апавядаюць пра старыя часы. А з роднай мінуўшчыны, з курганаў „wyprowadza lud prostaczy” вялікія дзівы ў аповесцях, напоўненых гонарам для тых, хто спіць у магілах. Той, хто пачуе гэтыя гісторыі, „taki swojéj ziemi // Za zawsze skarby świata tego // Na zamorski kraj nie zmieni”.

„Pany” вінаватыя ў тым, што ў грамадстве „spójni ogniwa, // Jedności węzły” пазрываныя. Зрэшты, вінаватыя не толькі „pany”, але „obcy i zwyczaj

i mowa, // Co cię z rodzonym ludem rozbratały". Апошняе абвінавачванне двухзначнае: чужым звычаем і чужою моваю можа быць як "чужаземшчына" „panów", так расейшчына новае адміністрацыі ў краі.

Першыя два раздзелы, на нашую думку, – гэта своеасаблівы ўступ да паэмы. Лірычны герой, апынуўшыся на чужыне (прычыны эміграцыі нераскрытыя), не толькі перадае свае адчуванні ў сувязі з сутыкненнем з "іншасветам", з немагчымасцю прызвычаіцца да выгнанніцкага лёсу, не толькі выказвае сваю прывязанасць да Бацькаўшчыны, але спрабуе знайсці прычыны таго, што прывяло край да заняпаду. На яго думку, – іх дзве: здрада „panów" (наўпрост здрада не называецца здрадаю) і страта гістарычнай памяці, бо маладое пакаленне не ўмее "чытаць" памяткі даўніны і не хоча прыслухацца да голасу прадстаўнікоў люду, тых, хто гэта можа яшчэ рабіць.

Асноўная частка паэмы – трэці, чацвёрты і пяты раздзелы – прысвечаная раскрыццю асноўнае тэмы – апалогіі гістарычнае памяці, якая сімвалічна ўвасабляецца зданямі, што выходзяць з курганоў.

Сам лірычны герой яшчэ ў дзяцінстве пазнаёміўся з мінулым свайго краю, дзякуючы кантактам са знахарам[1] Іванам, старым і дасведчаным чалавекам, які служыў у ягоных бацькоў гуменным. Іх першая сустрэча адбылася ўночы, калі на небе з'явілася камета, „jasna gwiazda pasem". Селянін прарочыць нейкія перамены, хоць і „krew popłynie pono". І ў пацвярджэнне апавядае пра з'яву, бачаную ім учора на раскапаным кургане

Patrzę, patrzę – dziw nie znany!
Na kurhanie rycerz stoi,
Cały w żelaznéj we zbroi,
I z pod ręki zerka w niebo,
W drugiéj ręce miecz swój trzyma, –
[Laskowski 1861: 46].

У якасці пацвярджэння немінучасці пераменаў паэтам выкарыстоўваецца яшчэ адна гісторыя, якую апавядае знахар. На гэты раз Івану на старым могільніку выпала бачыць бой і перамогу белага рыцара над чорным.

У чацвёртым раздзеле селянін тлумачыць прыроду "募араў", бо большасці людзей, нават адукаваным

… zrozemieć trudno, panie,
Swojskie dziwy na kurhanie.
[Laskowski 1861: 56].

А гэта грэшна і сорамна, калі „prostak z pośród tłumu // Więcéj od was ma rozumu // O swéj ziemi".

Духі (ці здані) выходзяць з курганаў, бо загінулыя калісь за край

… mieli proroctwa wieszcze,
Z Boga w duszę im wszczepione,
Nieśmiertelne, nieskończone,

[1] На думку аўтара, знахар – *wszystkowiedny*.

O swéj ziemi i o życiu,
O cudów przeróżnych byciu.
Tém proroctwém oni żyli,
Wiek i trudy swe krzepili;
A gdy wrah od któréj strony
Zbrójno naszedł kraj zbiedzony,
Oni naród zwoływali,
Prowadzili, zwyciężali...
Więc to wszystko nie zamiera
I za grobem, za mogiłą,
Żyje wiecznie, jak tu żyło,
Chociaż kości grób zabiera.
[Laskowski 1861: 59–60].

Гэтыя рыцары заслужылі ў Бога навекі „stać na straży kraju tego, // Krwią i życiem bronionego”. Таксама яны маюць права выходзіць з курганаў як цені, каб нагадваць жывым пра свае чыны. Гэта навука, якую паніч не заўсёды знойдзе ў кніжках.

Otoż taka to nauka!
Niech jéj panicz w książkach szuka,
Jak nie znajdzie – powiem śmiele,
Że te księgi nie chorosze,
I ci wasi uczytele
Darmo za was biorą hrosze,
Lepszy rozum, co tłómaczy
Nasze dziwy w ład prostaczy.
[Laskowski 1861: 63].

Фінальная частка чацвёртага раздзела, дзе Іван апавядае пра сваё – у тым ліку і вайсковае – мінулае, служыць дзеля таго, каб чытач меў пачуццё даверу да сказанага знахарам Іванам, які з пятнаццаці гадоў абараняў край. Дасведчаны чытач мог здагадацца, што селянін удзельнічаў касцюшкаўскай вайне; як, зрэшты, і рыцар з кургану. І цалкам ігнараваць аўтарскія адсылкі да нападаў татараў і турак.

У пятым раздзеле аўтар зноў вяртаецца да свайго героя-эмігранта, які ад імя люду спачатку заклікае „wielmożnych panów” зблізіцца з народам, вярнуцца да „swojskiej mowy”, бо іхняя сённяшняя мова „z mogił tych ojce nam powystrasza, // I opuścieją nasze kurhany”. І тут чарговая моўная загадка Ю. Ляскоўскага. А менавіта, якою для яго з’яўляецца „swojska mowa”? Польская? Дык гісторыя ведае хіба лічаныя выпадкі, калі магнацкія дзеці, увесь час жывучы за мяжою выракаліся польскае мовы. Больш за тое, пераважная большасць „panów” з Літвы-Беларусі ведала і карысталася ў кантактах з сялянамі беларускаю моваю. То якую мову ў сярэдзіне XIX ст. не здольныя былі зразумець здані з курганаў?

Далей лірычны герой вяртаецца памяццю на ўсход, дзе „nad rodzinna moją rzeką, // Białoruskie kwitne błonie”, дзе ў хатцы ля лесу была ягоная калыска, дзе ягоная матка „swojskich dumek wyuczyła”. Там, на ўсходзе ён бачыць люд „mój rodzony, // Z ciękiéj pracy pochylony” і, вядома, курганы, „skarbce kraju, w nich pamiątki, // Starych dziejów martwe szczątki!”.

Памяць вядзе яго на курган, пра які захавалася паданне „ludu nad Dźwiną”. Тут аўтар шматслоўна апавядае пра выхаваных на чужыне магнацкіх дзяцей, двух братоў, што вярнуліся на Бацькаўшчыну пад час нападу ці то туркаў, ці то нагайцаў і жадалі ўзначаліць супраціў, але шляхта выбрала гетманам старога ваяводу. Пакрыўджаныя браты здрадзілі краю, за што былі пакараныя і пахаваныя ў кургане.

A sens to taki w prostaczéj gawędzie,
Że z zamorszczyzny, co to wam tak rada
Z pieniędzy tylko, – nam nic nie przybędzie,
Nic a nic zgoła – chyba swoich zdrada.
[Laskowski 1861: 93].

Шосты раздзел паэмы нам уяўляецца падсумаваннем тых думак, якія аўтар імкнуўся данесці да чытача. Курганы

K’ lepszym dumkom myśl rozbudzą:
Nie zmęczą cię, nie utrudzą,
Bo ty przylgniesz sercem całém
K’ tym wspominkom wiecznotrwałym…
[Laskowski 1861: 97].

А таму трэба ісці да курганоў, там нехта з люду, хто „k’ nim sekretne klucze” мае, вытлумачыць таямніцы. Адно ёсць умова: трэба браць прыклад з цнотаў бацькоў, любіць сваю зямлю, не прымаць звычаяў чужынцаў. Тады выйдуць з курганоў цені продкаў, тады ты пачуеш бразгат зброі. Кожны годны ўбачыць гэта. А вось адступнікі і здраднікі – не. Для іх курганы маўчаць.

Сёмы раздзел падаецца аўтарам як эпілог, як малітоўны зварот да роднае зямлі, як просьба да Бога і Будслаўскае Марыі прыняць гэтую малітву, каб мець надзею вярнуцца, няхай, няхутка, каб пачуць наддзвінскую песню і разам з „rodzoną bracią jednego sioła” наведаць імшу ў святым касцёле. Лірычны герой верыць, што родная зямля прыме яго „jak syna, jak dziecię twoje”, бо ён патрэбны краю.

***Жанрава-стылёвыя асаблівасці***. Паэма Ю. Ляскоўскага цалкам ўпісваецца ў плынь літаратуры рамантызму. У першую чаргу праз постаць галоўнага героя-наратара. Як вядома, выгнанне, знаходжанне героя на чужыне часта было падставай для стварэння рамантычнага характару. Згодна з канонам, лірычны герой твора, вымушаны (хоць прычыны аддалення з краю не падаюцца) пакінуць родную зямлю, апынуўся ў непрыязным атачэнні. Меркантыльны Захад пастаўлены ў апазіцыю да Бацькаўшчыны. Кантраснасць супастаўлення “свайго” і “чужога” адпавядае рамантычнай эстэтыцы. Не выклікае сумненняў, што паэт вучыўся на ўзорах сваіх папярэднікаў – Адама Міцкевіча, Багдана Юзафа Залескага і інш. Істотным з’яўляецца і аўтабіяграфізм твора. Аўтар выразна пазнаецца, хоць, вядома, трэба памятаць пра прыёмы мастацкага абагульнення і не атаясамліваць лірычнага героя з Ю. Ляскоўскім.

Ад рамантызму паходзіць і падыход да выкарыстання народных паданняў і легендаў. Можна казаць нават пра рамантычную трансфар-

мацыю фальклорных уяўленняў: герой не толькі слухае народнага апавядальніка, не толькі пагаджаецца з ягонаю інтэрпрэтацыяю з'яваў іншасвету, але і пашырае яе, знаходзіць вінаватых у сучасным стане рэчаў.

Рамантычны ў творы і гістарызм. Згадванне татараў, туркаў ці нагайцаў, нібыта, адсылае чытача да часоў Сярэднявечча, але пакінуты аўтарам ключ („a od wschodu łuna krwawa") дазваляюць ідэнтыфікаваць захопнікаў як маскалёў-расейцаў.

Я. Арлоўскі характарызаваў стыль Ю. Ляскоўскага як рамантычны „literacki epigonizm" [Orłowski 2010: 183], дадаючы, што „poemat *W cudzej stronie* <...> jest utworem <...> dość miernym pod względem literacko-artystycznym. Razi w nim natrętny dydaktyzm, pospolite rymy, banalne porównania i nasycenie języka barbaryzmami" [Orłowski 2010: 188]. Гэта, аднак, з пункту гледжання корпусу тэкстаў класічнае польскае літаратуры. Калі ж ацэньваць твор у кантэксце краёвае літаратуры пачатку 1860-х гг., дык ён выдатна ўпісваецца ў эстэтыку эпохі.

***Версіфікацыя***. Асобныя пытанні паэтычнага майстэрства Ю. Ляскоўскага закранула Люба Тарасюк. Рыхтуючы пераклад паэмы *W cudzéj stronie* на беларускую мову, знаная даследніца заўважыла, што твор напісаны не згодна з сілабічнай сістэмай вершаскладання, характэрнай польскай паэзіі, а сілаба-танічным вершам (часткова). На яе думку, сілаба-тоніка заўсёды была ўласцівая беларускаму вершу. (Хоць тут якраз наадварот, бо гэтая сістэма прыйшла ў беларускую літаратуру пад уплывам літаратуры расейскае ды і даволі позна – на мяжы XIX і XX стст.).

Ейныя высновы былі надзвычай цікавыя: "Як выяўляецца, польскамоўны тэкст паэмы напісаны… па-беларуску. Гэта той выпадак, калі аўтар, карыстаючыся польскімі словамі, думае па-беларуску" [Тарасюк 2002: 60]. З гэтым часткова можна пагадзіцца: Ю. Ляскоўскі, дасканала валодаючы як польскаю, так і беларускаю мовамі, падчас творчага працэсу няраз сутыкаўся з праблемаю моўнага выбару. Тым больш, што значная частка твора – гэта аповеды селяніна Івана (трэці і чацвёрты раздзелы) ці пераказ народнага падання (пяты раздзел). Імітуючы гаворку селяніна, паэт мусіў думаць па-беларуску.

Што датычыць рытміка-інтанацыйнае формы паэмы, дык Л. Тарасюк сцвярджае, што "ў першай, трэцяй, часткова шостай частках <...> выкарыстоўваецца 8-складовік, у пятай і сёмай – 10-складовік, у другой, трэцяй і часткова шостай – 11-складовік. Пры гэтым захоўваецца, нягледзячы на пэўную мадыфікацыю, ямбічная аснова паэтычнага рытму, а гэта не мае сувязі з польскай сілабікай" [Тарасюк 2002: 61]. Тут даследніца хіба памыляецца: польскія вершазнаўцы лічаць сама папулярнаю формаю польскага ямбічнага верша якраз „czterostopowiec" (чатырохстопны ямб) [Kulawik 1999: 164 і 165]. Гэта той 8-складовік Л. Тарасюк, бо менавіта ім, чатырохстопным ямбам напісаная значная частка паэмы Ю. Ляскоўскага.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: Juljan Laskowski, *Białoruski Bandurzysta: zbiorek wędrowny wierszem*, nakład autora; w drukarni A.H. Kirkora, Wilno 1861, s. 17–105.

## W cudzéj stronie

### I

Ziemio moja!... o! daleko!...
Ztąd nie dojrzę twoich łanów,
Ni mohilisk ni kurhanów,
Ni tych borów, co nad rzeką
Szumią pieśnią w dziwne tony!
Obszar pól twych, dalą ścmiony,
Znikł mi z oczu!... zda się, wieki
Przedzielają mnie od ciebie!
A wędrówki kres daleki!...
Może grobu w twojéj glebie
Bratnie ręce mnie nie zryją,
Ni wiekiem z żywicznéj sosny
Trumny mojéj nie przykryją!
Swojskich dzwonów jęk rozgłośny
Nie zahuczy nad mą głową,
Ani pieśnią pogrzebową
Nie pożegna kapłan bratni,
Na spoczynek na ostatni!...

Tu tak pusto!... wkrąg przede mną,
Jak zawidzi wzrok – dokoła,
I te grody i te sioła,
I kraj cały, co w mgłę ciemną
Zapadł gdzieś na widnokresie, –
Choć on strojny a bogaty,
Choć w ozdobne przybran szaty,
A siedzibą szczęścia zwie się –
Pustką dla mnie!... żyć tu trudno!
Naokoło gwarno, ludno,
Tyle rachub, szczęścia tyle
Ludziom w przyszłość drogę ściele,
Ja k' nim serca nie przychylę,
Szczęśliwości nie podzielę!...
Bo tych ludzi myśli, mowa,
Gała życia ich osnowa,
Czyn ze słowém takie sprzeczne,
Tak przeciwne, pomącone,
Wieczną wrażdą[1] rozdzielone,
Jakby wrogi długowieczne.

[1] Wrażda – nieprzyjaźń; wyraz ludowy białoruski (*заўвага Ю. Ляскоўскага*).

Więc choć pełno tutaj ludzi,
Choć naokoł hałas, wrzawa,
To kraj wstręt do życia budzi,
Pustką ci przed oczy stawa.
Niema k' czemu sercem przylgnąć,
Ani słowa z kim podzielić;
Tyś tu skazan marnieć, stygnąć,
Bo śród ludzi trudno wcielić
Twoich bujnych myśli roje!

Tutaj inne biją tętna
W łonie ludu, nie jak twoje,
Świat przeciwne wyrył piętna
W charakterze, w myślach ludzi, –
Dumka twoja tu śmiech wzbudzi!
A im ona żałośniejsza,
Im twa boleść donośniejsza,
Co tęsknicy polot dała,
Żalne troski w myśl wplątała, –
To tém więcéj śmiechu będzie,
Żeś marzyciel – tęsknisz tylko
Za czémś dziwném a nie znaném,
Między ludźmi zapomnianém,
Zamiast użyć życia daru,
Jako wszyscy, jak to wszędzie,
Do przesytu, do bezmiaru;
Że tą krótką życia chwilką
Zleś zarządził, – nie tym torem
Życie wodzisz, nie po modzie,
Jak u ludzi, a uporem
Chciałbyś jaśnieć im na przodzie,
Żądać od nich Bóg wie czego,
Czy dobrego, czyli złego,
I rozczulić i rozżalić,
A rachuby ich obalić.

Ho! rachuby – to dogmata!
Na nich stanął glob wszechświata!
I w nic poszły pacierz, modły,
Dziesięcioro zapowiedzi;
Bo tém żyje li gmin podły,
I to dobre ludziom ciemnym,
Niewolnikom inoziemnym,
Ot dla czerni, dla gawiedzi.
Tu grunt daje cyfrowanie,
Pomnażanie, doliczanie,
A gdy cyfry nie zawiodły,
I trzos pełen i szkatuła,
Ho! to korz się gminie podły!

Resztą gardzi dusza czuła,
Dusza ludzi téj krainy,
Pobielanéj, pozłacanéj,
W wielkie grody zmurowanéj,
Zyskownéj złota dziedziny.

Toż tu odepchną, ośmieją
I ciebie i dumkę twoją,
Szatą wzgardy przyodzieją,
W cechy sromu cię przystroją.
I żyć będziesz ty w oddali
Od tych ludzi, a sam jeden,
Całe życie tęskny, bieden,
Nikt się nad tobą nie zżali
I nie poda bratniéj dłoni,
By cię wywieść w świat z samotni!
Blask twych dumek w błysk przelotni
Zmieni się, a sny pogasną,
Myśli twoje w nic sszarzeją,
I wygrzebiesz ręką własną
Grób rojeniom twym, nadziejom!

Nie tak bywało przed laty!...
Jam inaczéj żył w swéj ziemi,
Między bracią rodzonémi,
Nim za próg rodzinnéj chaty
Wybiegł, aby świat obejrzeć,
Dziwne dziwy jego przejrzeć
I uwielbiać jego cuda.
0! pamiętam!... wtenczas, dawniéj,
W dal życia jam patrzył wprawniéj,
Śmieléj przyszłość obliczałem, –
Nadzieje nie były złudą!
Ja przygasnąć im nie dałem
I wierzyłem w ich spełnienie...
Dzisiaj – tylko wspomnień cienie
Z dawnéj, dawnéj doby onéj
Mglą w pamięci zbezsilnionéj.

O! i nie dziw że tak było!...
Jam wkrąg życia widział tyle,
Żebyś nie scenił, nie zmierzył!
Toż człek wzrastał duchem w sile,
W lepszą dolę, w przyszłość wierzył;
Bo tam tyle serc w ład biło,
Do jednéj miary a zgodnie,
I nadzieja z serca w serce
Przenikając po iskierce,
Niecila wiary pochodnię.

Bo przed nami kraj ojczysty,
W mogilniki poorany,
Otwarzał stare kurhany,
Te naszéj ziemi skarbnice,
Dawnych czasów popielnice,
Dawał myślom przestwór czysty!
Tam dla duszy karmi tyle
Od kolebki do mogiły,
Że przez wszystkie życia chwile,
Z tych mogił wrażenia wzięte,
Z czynów ojców wzory święte,
Jasną tęczą nam świeciły!...

A i lud tam, w mojéj stronie,
Pełen życia dla przyszłości,
Pełen wiary a prawości,
Wierny Bogu po zakonie.
Nie uczony a rozumny,
Dalnowidne ma źrenice,
Zna swéj ziemi tajemnice,
I prostactwém takiém dumny.
Nie zna co księga pisana,
Ale czyta na swéj glebie,
Więc z mogiły, ź pod kurhana
I z gwiazd jasnych, co na niebie
Jarko[1] świecą w noc pogodną,
Wyprowadzi mądrość taką,
Nie pogańską lada-jaką,
A z zakonem wiary zgodną,
Co twe życie ułagodzi,
Z ludźmi, z Bogiem cię pogodzi,
I duch wskrześnie z omartwienia.

Święte, święte to wspomnienia
Z latek dawno ominionych,
Z rojeń młodości prześnionych
Na ojczystym, ej na łanie,
Na mogilnym na kurhanie!

Boże mocny! jak to pierzchło,
I zapadło gdzieś w ćmę ciemną,
Że dziś za mną i przede mną
Wszystko spomroczniało – zmierzchło!

---

[1] Jarko – jaskrawię; wyraz ludowy białoruski (*заўвага Ю. Ляскоўскага*).

**II**

Ej, co to tutaj!... U nas po nad Dźwiną,
Hen nad Serhuczą, po nad Berezyną,
Strona tam inna, kraj zryty w kurhany,
W mogilne kopce szeroko skopany!
    Smutnoż nam, tęskno, ej bratnia drużyno,
    Za ziemią starych pamiątek, za Dźwiną!

————————

Ho! nie tak u nas!... kurhany darnione,
To groby ojców, krwią ich poświęcone,
One nam stoją nad glebą ojczystą
Minionych dziejów pamiątką wieczystą.

————————

U nas inaczéj!... świat nasz tak odmienny,
I lud tam inny, szerokoplemienny,
Człek w zgodnéj jedni żyje z wszechprzyrodą,
I Boga chwali, a strojny urodą.

————————

U nas inaczéj!... ład w radzie a zgoda,
W żyłach mołojca krew płynie nie woda,
Dumka uczuciem duszę mu kołysa,
Sprawny do strzelby, zna co koń, co spisa.

————————

U nas inaczéj!... wniz po Berezynie
Sotnia bajdaków w czarnomorze płynie,
A świtem, z rosą dzwoni nóta śpiewna
Pieśni prostaczéj, a tęskna a rzewna.

————————

U nas inaczéj!... pieśni naszéj nóta
Zachwyca serce, bo z serca wysnuta;
Gdzie nam zasłyszeć takich dźwięków tony?
Śpiewnyż to, rzewny, ten nasz kraj rodzony!

————————

U nas inaczéj!... serdeczniéj a skromniéj
Dziewczyna kocha, w wiek cię nie zapomni,
Wielbić ją będziesz – ona raj ci stwarza
Na grzesznéj ziemi, a szczęścia przysparza.

————————

U nas inaczéj!... ho! tam z każdą wiosną
Nowe nadzieje jako kwiaty rosną,
Człek wiarą żyje – toż w wiosenną dobę
Serce z dni żalnych porzuca żałobę.

————————

U nas inaczéj!... o! niech każdy wierzy
Wróżbom nadziei, jak dziecię macierzy,
Jak w sny prorocze, co nań schodzą z nieba –
Nam dla przyszłości jeno wiary trzeba.

————————

U nas inaczéj!... ej, bracie Bohdanie!
Nawiąż-no nowe strńy na torbanie
I dokończ dumkę... niech twojémi słowy
Wtórzy snom naszym kozak naddnieprowy!
————————
U nas inaczéj!... Lecz może kto powie,
Że strona nasza jest jako pustkowie,
Ani pszeniczna, ani urodzajna,
A błotna tylko i w bory obfita,
Żółci się piaskiem, kurhanami zryta,
Chmurna, zapadła, a wkrąg jednostajna.
I lud tam taki cichy a płaczliwy,
Od dawien-dawno przestał być orężny,
Kiedy z kim w wrażbie, to nazbyt swarliwy,
Ciemny, przesądny – ot, prostak siermiężny.
Śpiewać téj stronie, ludowi w siermiędze,
Śpiewać dziewczynie, co wiecznie płaczliwa,
Wywodzi dumki żalne u łuczywa
Wieczorną dobą, albo zwija przędzę, –
Wstyd a nie warto! – tak może kto powie.

Ej, pany! pany! pustki w waszéj mowie
I pustki w sercu, gdy w prostaczym stanie
Nic, co zajęcia jest godne a wzniosłe
Nie dopatrzycie; – gdy wam na kurhanie
Serce nie zadrga, ni myśl się nie zbudzi!
Toż to te kopce, darniną porosłe,
Przykryły kości lepszych jak wy ludzi,
I z lepszych czasów pamiątki chowają!
Czasy te przeszły... lecz żadnejż nauki
Z nich nie wysnują po praojcach wnuki?
Nic-że nam k’ myśli groby ich nie dają?
A toż ta przeszłość rodziła nam męże,
Z rozumem w sejmie, twardego ramienia,
Co kraj dźwignęli nie raz z zatracenia,
Co nie dla mody nosili oręże,
I krusząc miecze, od mieczy polegli,
A w boje z wrogiem na skinienie biegli.
To ojce wasi!... z życia ich osnowy
Wy wszystko macie – prócz serca i głowy!

Tak, wszystko macie, a i nic zarazem,
Gdy wam tam tylko kraj świeci obrazem
Zachwytu, krasy, gdzie k’ ziemi zwieszone
Kłosy pszeniczne, jeszcze wczasy drogie,
Na dźwięczne ruble z handlarzem zmienione,
Dają zapasy na wojaże mnogie,
Na zbytki, bezmysł, na życie utratne,
Bogu ni ludziom na nic nie przydatne.

Зрэшты, лірнік падае свае словы як раду песняроў, якія не могуць вярнуцца на радзіму. Ён толькі транслятар тых, пра каго кажа, што „to znachorzy, bywali, wymowni, // Że czarodzieje”.

У наступных строфах бандурыста імкнецца расказаць пра сябе, пра сваё жыццё ў Вільні, пра маладыя мары, пра тое, што ён, як і ягоныя сябры, „niosłem cześć Panu myślami wiernémi”. Таксама пра тое, што ён шукае сваіх, што хоча ім спяваць, але „pożal się Boże!.. Może nie przyjmą – za drzwi wypchną może”.

Бандурыста-эмігрант ужо абышоў вёскі і шляхецкія двары, дзе ўсё, як і даўней, але ён там „schrony, chleba, mieć” не можа, дык звяртаецца да мясцовых лірнікаў са сваёю песняю, „by głód zapomnieć – chyba śpiewać trzeba!”

У апошняй страфе лірычны герой-наратар зноў звяртаецца да масцітых лірнікаў, майстраў, прыняць яго, нягледзячы на ягоны „głos prostaczy”, ад якога – ён спадзяваецца – „słuch nie stępieje wam do lepszych pieśni”, абяцаючы, што некалі заспявае гэтак, як і яны.

Ці ёсць у нас падставы казаць пра тое, што „głos prostaczy” Ю. Ляскоўскога – гэта беларускамоўныя вершы, якія ён прывёз з эміграцыі? Што асцярожны А.Г. Кіркор адмовіў у публікацыі беларускамоўнага зборніка Ю. Ляскоўскага гэтак, як адмовіў А. Вярыгу-Дарэўскаму і не выдаў супольны беларускамоўны паэтычны зборнік У. Сыракомлі і В. Каратынскага? Аніякіх дакументальных пацверджанняў. Апрача аднаго: сам А.Г. Кіркор усіх іх назаве беларускімі паэтамі (Ю. Ляскоўскага – *Іулянемъ Мрочкемъ*, а В. Каратынскага – *Викентіемъ К.*).

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: Juljan Laskowski, *Białoruski Bandurzysta: zbiorek wędrowny wierszem*, nakład autora; w drukarni A.H. Kirkora, Wilno 1861, s. 7–14.

### *Do braci lirników*

Puśćcie mnie, puśćcie w wasz zastęp śpiewaczy,
Dobrzy lirnicy!... Ten mój głos prostaczy,
To dumek moich echo nie wyraźne,
Nie barwne krasą, składem nie pokaźne,
Przyjmijcie sercem, jak wam z serca daję!...

Ja nie dla sławy z pieśnią przed was staję,
Nie dla imienia… Och, wziętość i sława
Wielu nam braci śród dnia oślepiły,
Tony zmięszały, lirę rozstroiły!
Nótą fałszywą brzęczy strona rdzawa,
Zrdzawiona pyszném świętokradztwém słowa,
Łzami słuchaczy, co stoją boleśni,
Zdziwieni zwrotem obcéj dla nich pieśni,
Nie wiedzą z czego wzięta jéj osnowa!...
Trudno im zgadnąć, oni li zmarnieli,
Że lirnik pieśnie niezbożne wygłasza?
Lecz i lirnicy... taka dola nasza!
I wieszcze słowa – nie święci anieli!
Dziś słowo w rymy jak kto chce układa,
I jak chce myśli wywodzi w odcienia,
Nie wszyscy z nieba proszą namaszczenia,
I każdy, każdy za się odpowiada.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Pierwsze gdzieś tony pieśniarz ujął składnie;
Słuchają... w strony zabrzęczał bezładnie!
A choć jak dawniéj lirę stroić może,
To słowa pójdą... ot, pożal się Boże!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Z cudzéj ja strony do was tu przychodzę,
Wam nieznajomy, a brat wasz rodzony...
Wielu lirników spotkałem po drodze,
A każdy chmurny, licem zasępiony!...
Zkąd ten frasunek?... mnie nie powiedzieli,
A tak, zapytać – na co to pytanie!
Smutek od tego człeka nie odstanie,
I jeszcze tobie troska się udzieli.

Mówili – swego nie jeść im już chleba,
Ani w swéj chacie, usiadłszy na progu,

Wieść rozhowory, ni modlić się Bogu
W swoim kościele… lecz śpiewać potrzeba!
Śpiewać, chociażby ludzie nie słuchali,
Z pieśnią wędrować tém lepiéj im daléj,
I lirę stroić w akordy swojackie,
A nigdy górno – na tony prostackie,
Jak oto trąba nocleżna pastucha,
Jako piosneczka żniwiarska na niwie…
– „Spotkasz człowieka, co ciebie posłucha,
Zasiądziesz w chacie kurnéj przy łuczywie,
A czeladź sielska kołem cię oplecie…
Śpiewaj co umiesz – o Bogu, o świecie,
O dobrych ludziach i o zmiennéj doli,
Wyśpiewaj wszystko – co trapi, co boli,
Jak serce powie, jak się w myśli sklei, –
Słuchać cię będą… toż nie trać nadziei!
My wiemy, droga dla ciebie mozolna,
Lecz drugim wolna – więc i tobie wolna;
Szlak-bo lirnika nie w kwiecie usłany,
Kto cierpiał, płakał – ten k' pieśni wybrany!...

A kiedy śpiew twój przyjmie lud prostaczy,
Wieść o pieśniarzu rozniosą po siole,
Szlachcic do dworka zaprosić cię raczy,
I jak swojego posadzi przy stole,
Zwoła drużynę i swoich i gości:
Baw pieśnią – śpiewaj panu i imości,
A tylko miara niech będzie jednaka
W pieśni dla pana jak i dla prostaka."

Tak mi radzili lirnicy wędrowni…
Że to znachory, bywali, wymowni,
Że czarodzieje – więc mnie i wmówili
Wolność śpiewania, nóty pożyczyli, –
I ja z daleka staję ot przed wami,
Z pokłonem od nich, z mojémi pieśniami.

Ja tu nie obcy – lata tutaj żyłem,
Tu młodość moją, nadzieje prześniłem,
U Ostréj-bramy z bracią rowiennémi
Skłaniałem głowę przed świętym obrazem,
Z nimi w modlitwie, z nimi zawsze razem
Niosłem cześć Panu myślami wiernémi.
Modlitwa nasza wtenczas pieśnią była,
Pieśnią nie w słowa, uczuciem bogatą,
Wierze, nadziei, łza w oku świetliła...
By ją dać Bogu – mało słowa na to!

Tutaj więc, u was, wszystkie me wspomnienia,
Tu młodość moja i moje rojenia,

Ztąd w świat poszedłem, tu wracam z daleka,
I szukam swoich lecz swoi pomarli,
Mało kto został – drudzy się wyparli,
Swoi swojego nie poznają człeka!
Chciałem im śpiewać, lecz pożal się Boże!...
Może nie przyjmą – za drzwi wypchną może!

Obiegłem wioski i dworki drewniane,
Zda się te same – och, ja się nie mylę!
Przeszedłem tyle, obejrzałem tyle,
Wszystko jak dawniej – miejsca dobrze znane!
Strona to swoja i ludzie tu swoi,
Lecz schrony, chleba, mieć tutaj nie mogę,
A prosić, żebrać – człeku nie przystoi, –
Toż z pieśnią moją k' wam poszedłem w drogę.
Kiedy przytułku niema ani chleba,
By głód zapomnieć – chyba śpiewać trzeba!

Jakże, czy wolno?... od nóty prostaczéj
Słuch nie stępieje wam do lepszych pieśni,
A choć wy mistrze, choć mnie nie rowieśni,
Tony wam płyną składniéj a inaczéj,
To i ja kiedyś tak zaśpiewam może,
Jak głód zagłuszę, łokcie przyodzieję,
Jak w ciepłej chacie z zimna się ogrzeję
I z nasłuchania od was się nałożę.
Jakże? więc wolno podnieść głos prostaczy?...
Potem ja może zaśpiewam inaczéj.

d. 16 Października 1860 r.

## Дазвол вярнуцца на Бацькаўшчыну

Архіўных матэрыялаў, што датычаць асобы Ю. Ляскоўскага, захавалася няшмат. Але яны, бясспрэчна, вельмі важныя, бо сведчаць пра надзвычай істотныя рэчы: год і месца ягонага нараджэння, працу ў Вільні, прычыны ўцёкаў за мяжу ды інш. Справу «о выходцѣ Юліанѣ Лясковскомъ», пачатую ў студзені 1858 г., выявіў у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў 1992 г. Г. Кісялёў і выкарыстаў яе пры напісанні артыкула *Дзве "палавінкі" аднаго жыцця: Ляскоўскі – Карабіч*. У выніку мастацкі вобраз паэта-эмігранта, зафіксаваны ў паэме *W cudzéj stronie*, быў дапоўнены некалькімі істотнымі штрыхамі з лаканічных паліцэйскіх паведамленняў.

Як сведчыла сама ўжо справа з канцылярыі Віленскага цывільнага губернатара, атрыманне дазволу на вяртанне «польскому выходцу» доўжылася колькі месяцаў і "праходзіла" праз розныя царскія ўстановы, дзе павінна была пакінуць свой след.

Па-першае, у архівах ІІІ-га Аддзялення Уласнае Яго Імператарскае Вялікасці канцылярыі[1], бо падобнага кшталту справы абавязкова разглядаліся жандарскімі "экспертамі". Як вядома, Аляксандар ІІ з нагоды каранацыі 26 жніўня / 7 верасня 1856 г. выдаў шэраг маніфестаў, у якіх аб'яўлялася амністыя асобным катэгорыям «политическихъ преступниковъ». Непасрэдна лёсу беларускіх эмігрантаў датычылі два з іх: «О милостях по случаю Священного коронования: О даровании прежних прав выходцам и политическим преступникам, возвращенным на родину до 1856 г. и возвращаемым по высочайшим повелениям, последовавшим в 1856 г. к какому бы времени и родам преступлений их не относилось…», а таксама «О милостях по случаю Священного коронования: О правилах на счет избрания рода жизни политическими преступниками и польскими выходцами, возвращаемыми на родину».

Увосень 1856 г. шматкроць павялічылася колькасць зваротаў, які дасылалі эмігранты ў ІІІ-е Аддзяленне Уласнае Яго Імператарскае Вялікасці канцылярыі, з просьбаю пра дазвол вярнуцца на Бацькаўшчыну. Так, калі ў 1855 г. у Канцылярыі разглядаліся справы ўсяго толькі дзесяці «выходцевъ», дык у наступным, 1856 г. іх ужо было блізу сотні, а ў 1857 г. – не менш за дзвесце эмігрантаў чакалі на ласку расейскага манарха[2]. Сярод іх варта назваць Ігнацы Яцкоўскага, справа якога

[1] Кіраўніком ІІІ-га Аддзялення ў 1856–1866 гг. быў князь Васіль Даўгарукі (1804–1868).

[2] Паводле падлікаў Дзмітрыя Матвейчыка, просьбы пра амністыю "набылі масавы характар. У перыяд з 1856 па 1862 гг. больш за 150 эмігрантаў з беларуска-літоўскіх губерняў падалі падобныя прашэнні і атрымалі дазвол на вяртанне" [Матвейчык 2011: 135]. Заўважым, аднак, што ў *Памятной книжкѣ Виленской губерніи на 1861 годъ* змешчаны 354 прозвішчы асобаў, якія вярнуліся на Бацькаўшчыну. З іх: «выходцевъ» – 192, высланых – 162.

пачалася ў III-м Аддзяленні 31 студзеня 1857 г., і Аляксандра Рыпінскага, які з просьбаю пра дазвол вярнуцца на Радзіму звярнуўся 26 ліпеня 1857 г. (8 жніўня паводле ст. ст. яна ўжо была ў III-м Аддзяленні[1]).

А вось просьба Ю. Ляскоўскага не зафіксаваная ў вопісах 109 фонду Канцылярыі III-га Аддзялення. Магчыма, яна была згубленая ці памылкова трапіла ў неналежнае ёй месца. Дапускаем таксама, што справа магла быць перададзена з Канцылярыі III-га Аддзялення ў Канцылярыю Міністэрства унутраных спраў. Асабліва ўлічваючы тое, што Ю. Ляскоўскі хіба не быў прылічаны да катэгорыі палітычных злачынцаў.

Па-другое, вядома, што справа Ю. Ляскоўскага павінна быць у архіве Канцылярыі Віленскага генерал-губернатара (LVIA, f. 378: *Vilniaus, Kauno ir Gardinio generalgubernatoriaus kanceliarija // Канцелярия Виленского, Ковенского и Гродненского генерал-губернатора, 1768–1915*). Недзе сярод 151.324 справаў. Бо Уладзімір Назімаў (1802–1874) 31 снежня 1857 г. «предложилъ» заняцца ёю віленскаму цывільнаму губернатару.

Па-трэцяе, справу Ю. Ляскоўскага дакладна распачалі канцылярысты Віленскага цывільнага губернатара Міхаіла Похвіснева (1811–1882), які займаў гэтую пасаду з 1857 г. да 1863 г. Варта шукаць яе сярод 98.922 спраў адпаведнага фонду (LVIA, f. 380: *Vilniaus civilinio gubernatoriaus kanceliarija // Канцелярия Виленского гражданского губернатора, 1795-1916*).

Па-чацвёртае, менавіта М. Похвісneў, «Начальник Виленской губерніи», «предписалъ» Віленскаму паліцмайстру палкоўніку Пятру Васільеву[2] сабраць звесткі пра эмігранта. І якраз справа з Канцылярыі паліцмайстра – гэта адзіная даступная нам сёння. Мы больш уважліва прыгледзімся гэтым сямі паліцэйскім аркушам, хоць і “няўзброеным вокам” бачна, што канцылярысты не надта рупліва выконвалі свае абавязкі. А можа, і свядома фальшавалі дадзеныя.

Відавочна, Ю. Ляскоўскі разумеў, што шанец на амністыю ён будзе мець толькі тады, калі падасць у III-е Аддзяленне дакладныя звесткі пра сябе. Дык ягонае тлумачэнне прычынаў уцёкаў за мяжу трэба лічыць праўдзівым: ён, уцягнуты Невяровічам «въ тайное злоумышленное общество», пасля таго, як улады распачалі арышты сяброў, 11 красавіка 1849 г. уцёк з Вільні, а пасля выехаў (?), магчыма, нелегальна, за мяжу.

Кароткі пераказ выкладзенага ў просьбе, вядома, жадае быць лепшым. І, сапраўды, у «предписаніи» невыразна акрэсліваецца постаць Невяровіча: прозвішча распаўсюджанае; пра імя, род заняткаў і лёс няма ані слова. Мы не ведаем, што пісаў пра Невяровіча сам Ю. Ляскоўскі. У канцылярыі генерал-губернатара мусілі вывучаць следчыя матэрыялы пра «тайное злоумышленное общество», у якім браў удзел нехта Невяровіч. Відавочна, генерал-губернатарскія канцылярысты павінны былі пазнаёміцца са следчаю справаю, якая ў матэрыялах III-га Аддзялення называецца «О заговоре, составленном в Вильно ремесленниками и другими лицами

[1] Пра гісторыю вяртання А. Рыпінскага на Беларусь гл.: [Федута 2018: 283–290; Хмяльніцкая 2019: 150–156].

[2] Цікава тое, што ў 1863 г. Міхаіл Мураўёў, стаўшы на пасадзе Віленскага генерал-губернатара, звольніў П. Васільева, бо лічыў, што ў Вільні «ни полиціи, ни полицмейстера нетъ» [*Письмо М.Н. Муравьева* 1913, № 9: 253–254].

к восстанию для освобождения Литовских губерний от России». Усяго – 48 частак. Мы пералічым імёны і прозвішчы сяброў “Братняга саюза літоўскай моладзі”, арыштаваных у канцы сакавіка – пачатку красавіка 1849 г. Тым больш, што звесткі пра асабовы склад “Братняга саюзу…”, здаецца, не публікаваліся. Такім чынам, жандары вялі справы: «О Франце и Александре Далевских, Ляховиче, назвавшемся Георгием Липинским, Клячковском и Сташковском, Оффенберге, Люткевиче, Круневиче, Богдановиче и Мокржецком, Жилинском, Качане, Савиче, Лубяновском, Жджарском, Буше, Кияковском, Корсаке и Федоровиче, Полинарии Приваловиче, Иване Ашуркове, Елизе Вашкевич, Рачкевиче, Эдуарде Даваце, Иосифе Пиотровском, Франциске Марцинкевиче, Иване Стецкевиче, Лещинском и Янкевиче, Флориане Дановском, Владиславе Кубацком, Константине Круковском, Эваресте Иодко, Иосифе Мелянтовиче, Матвее Скиделло, Игнатии Довнаре, Долубовском, Константине Добкевиче, Феликсе Рымовиче, Матеуше Томашевском, Иосифе Ивашкевиче, Степане Малыниче, Николае Домбровском, Юлияне Вроченском, Гендрихе Рондоманском, Казимире Новицком, Станкевиче, Толпыгине и Трухачеве, Николае Даукши, Антоне Освецимском, Субоч, Александре Годзеевском, Игнатии Бржозовском, Юрии и Кастане Витковских, Франце Гутовском, Сильвестре Добышинском, Иване Калиновском и Викентии Линкевиче, Клементии Урбановиче, Юлияне Коноплицком, Антоне Дашкевиче, Сигизмунде Будзинском, Антоне Янковском, Николае Тарони, Вейншторте» [гл.: ГАРФ, 109–24–119].

Вядома, 68 чалавек – гэта далёка не ўсе сябры “Братняга саюза…”. Магчыма, адно кіраўніцтва і актывісты. Ці быў сярод іншых затрыманых і арыштаваных (даследнікі сцвярджаюць, што да следства прыцягвалася блізу 200 чалавек [Махнач 1994: 72]) Невяровіч? Праўдападобна, што не. Як пацвярджэнне можам падаць той факт, што генерал-губернатарскія канцылярысты ў 1857 г. не выявілі Невяровіча ў матэрыялах следства па справе “Братняга саюза…”. Але яны знайшлі нейкага Івана Невяровіча ў матэрыялах «Виленской Слѣдственной Коммисіи по политическимъ дѣламъ» за 1846 г., што даў паказанні «о неблагонамѣренныхъ замыслахъ уроженца Царства Польскаго Мельхіора Недзвѣцкаго». Сапраўды, якраз у 1846 г. у Вільні была ўтвораная «Следственная Комиссия для следствий о политических преступниках» [гл.: ГАРФ, 109–21–2–28], якая магла разглядаць справу Невяровіча – Нядзвецкага, але не “Братняга саюза…”, што быў выкрыты жандарамі ў 1849 г. Адпаведна Іван Невяровіч не мог у 1846 г. сведчыць супраць Ю. Ляскоўскага, які, уласна, толькі ў гэтым годзе з’явіўся ў сталіцы Літвы і ўладкаваўся на працу ў Губернскую ўправу.

Збегам акалічнасцяў якраз у 1846 г., на зімовых вакацыях, нехта Юльян Ляскоўскі[1], сын землеўладальніка Лідскага павета, няўдала спрабаваў уцячы за мяжу. З гэтай прычыны віленскага генерал-губернатара У. Назімава цікавіла, ці «просящійся на родину Юліянъ Лясковскій есть тотъ самый», пра каго маюцца

[1] У спісах выпускнікоў Віленскага шляхецкага інстытута за 1847 г. значыцца Юльян Лясковіч (дарэчы, аднакласнік Ежы Ляскарыса) [Godlewska 1985: 159]. Вядома таксама, што Лясковічам у Лідскім павеце належалі маёнткі Пяткоўшчызна, Навіны, Слівоўшчызна [гл. напрык.: *Słownik geograficzny*… 1887, VIII: 60]. Пра землеўладальнікаў Лідскага павета Ляскоўскіх звесткі выявіць не ўдалося.

матэрыялы ў ягонай канцылярыі. Падначаленыя паліцмайстра даволі хутка высветлілі, што «просящійся на родину» і «сынъ помѣщика Лидскаго Уѣзда» – гэта розныя людзі. Апрача таго, прыстаў 2-га ўчастка Антон Сямкоўскі даведаўся, што бацька Юльяна Ляскоўскага «въ настоящее время жительствуетъ Вилейскаго Уѣзда, 3[го] Стана, Ситскаго Округа, въ имѣніи Помѣщика Петкевича и состоитъ управителемъ тагожъ имѣнія». Маёнтак Пяткевіча не называецца, але з дапамогаю старых даведнікаў удалося высветліць, што служыў аканомам Ігнацы Ляскоўскі ў фальварку Пяткевіча Ігнаполь [Гошкевичъ 1905: 122], які знаходзіўся побач з фальваркам Чабаданы, што належаў Докшыцкай царкве: у Сітскай акрузе знаходзіліся шэсць маёнткаў (Сітцы – Тадэвуша Дамейкі, роднага дзядзькі Ігнацы Дамейкі; Кіякова – Кіякоўскіх; Лапачэва / Лапачэвічы – Асоўскіх; Клеменсова – Клюкоўскіх; Хадароўка – Рудамінаў, Дабрыянава – Бушаў) і сем фальваркаў (Маліноўшчына, Латыголь, Дабрыянава, Кіякова, Клемансова, Булахі, Вянуціна). Дзіўна ў гэтай справе тое, што віленскі «приставъ 2[й] части» (г. зв. Замкавы. Усяго ў Вільні было тры «частныя приставы» – Вострабрамскі, Замкавы і Зарэчны) здолеў за 10 дзён сабраць «секретнымъ образомъ» звесткі не толькі пра побыт Ю. Ляскоўскага ў Вільні, але і пра ягонага бацьку, які служыў у суседнім павеце. Варта дапусціць, што нягледзячы на сцвярджэнне «отецъ въ настоящее время жительствуетъ», прыстаў Антон Сямкоўскі ў сваім рапарце выкарыстаў інфармацыю, якая мелася ў службовых фармулярах Ю. Ляскоўскага другое паловы 1840-х гг. Відаць, трэба ўлічваць той факт, што ў 1858 г. маці паэта мела 68 гадоў, а бацька – з пэўнасцю можна казаць – мог быць і на дзесяць гадоў старэйшы за яе. Дадаткова трэба ўлічваць тое, што праз тры гады пра бацьку будуць ужо казаць як пра нябожчыка, а месцам жыхарства маці, Паўліны з Гофертаў Ляскоўскае, будзе называцца „majętność Łaputy” ля Докшыцаў

Заўважым таксама, што Паліцэйскі завулак (ul. Końska, сёння – Arklių), дзе ў доме друкара і выдаўца „Kurjera Litewskiego / Kurjera Wileńskiego” і „Dziennika Wileńskiego” Антоні Марціноўскага (1781–1855) жыў у 1849 г. Ю. Ляскоўскі, знаходзіўся ў 1-м “астрабрамскім” паліцэйскім участку Вільні, як і Земскі суд, дзе ён служыў. Відавочна, “замкавы” прыстаў Антон Сямкоўскі аказаўся больш увішны за свайго “астрабрамскага” калегу Антона Баера.

Выяўленыя калісь Г. Кісялёвым архіўныя матэрыялы пра вяртанне Ю. Ляскоўскага на Бацькаўшчыну адно прыадкрываюць асобныя дэталі гэтае справы. Відавочна, што «предписанія» збіраць звесткі пра «выходца» атрымаў не толькі віленскі паліцмайстар П. Васільеў. Цывільны губернатар М. Похвіснеў, пэўна ж, звяртаўся ў гэтай справе і ў Губернскую ўправу, і ў Земскі суд, і, магчыма, іншыя віленскія ўстановы. Вось толькі ці захаваліся іхнія матэрыялы? Ці зможам мы калі-небудзь высветліць, як доўжылася справа Ю. Ляскоўскага, што яшчэ з ягонага мінулага (віленскага і еўрапейскага) “адкрылі” віленскія ўлады і якую характарыстыку эмігранту падаў генерал-губернатар У. Назімаў у Пецярбург?

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: Lietuvos valstybės istorijos archyvas, LVIA, f. 421: *Vilniaus policmeisterio kanceliarija // Канцелярия Виленского полицмейстера 1809–1913*, ap. 2, b. 1191: *Дѣло по Предписаніи Г. Начальника Губерніи о выходцѣ Юліанѣ Лясковскомъ*, l. 1–7.

## № 1. Міхаіл Похвіснеў да Пятра Васільева

|**1r**| Министерство Внутреннихъ Дѣлъ. Начальника Виленской губерніи. По Канцеляріи. Отдѣленіе Особое. № 27. Генваря 13 дня 1858 года. Г. Вильно.

Господину Виленскому Полицмейстеру.

Въ III[мъ] Отдѣленіи Собственной Его Императорскаго Величества Канцеляріи поступила просьба находящагося въ Пруссіи выходца Юліяна Лясковскаго, о дозволеніи ему возвратиться на родину.

Въ просьбѣ этой онъ объясняетъ слѣдующее:

Родился онъ въ 1826 году въ д. Новая-Жосна, Вилейскаго Уѣзда, принадлежащей родственникамъ его, Городенскимъ, и окрещенъ 20[го] Августа того же года, въ тамошней приходской Уніатской Церкви; проживалъ потомъ въ селѣ Законовскѣ, Дисненскаго Уѣзда, состоящемъ**[1]** |**1v**| въ наслѣдственномъ владѣніи его родителей; оставивъ, по окончаніи своего воспитанія родительскій домъ, онъ имѣлъ частныя занятія, а въ 1846 году прибылъ въ Вильно, гдѣ состоялъ на службѣ сперва въ Губернскомъ Правленіи, а потомъ въ Земскомъ Судѣ; за тѣмъ, познакомившись съ Невяровичемъ, былъ завлеченъ имъ въ тайное злоумышленное общество, открытое въ Вильнѣ, и боясь наказанія, скрылся оттуда 11[го] Апрѣля 1849 года, а вскорѣ послѣ того удалился за границу.

По справкѣ въ дѣлахъ Управленія Г. Виленскаго Военнаго Губернатора оказалось, что въ 1846 году дѣйствительно производилось дѣло въ Виленской Слѣдственной Коммисіи по политическимъ дѣламъ, вслѣдствіе показанія дворянина Ивана Невяровича о неблагонамѣренныхъ замыслахъ |**2r**| уроженца Царства Польскаго Мельхіора Недзвѣцкаго, но по дѣлу сему Лясковскій замѣшанъ не былъ; – что въ концѣ того же года, получено было свѣдѣніе, что одинъ изъ воспитанниковъ Виленскаго Благороднаго Института Юліянъ Лясковскій, сынъ помѣщика Лидскаго Уѣзда, во время вакацій, бѣжалъ отъ своихъ родителей, съ намѣреніемъ тайно пробраться за границу, но за неимѣніемъ вида задержанъ былъ Трокскимъ Городничимъ.

Вслѣдствіе полученнаго мною предложенія Г. Генералъ Губернатора, отъ 31 Декабря истекшаго 1857 года за № 625, предписываю Вашему Высокоблагородію собрать и представить мнѣ свѣдѣнія: дѣйствительно ли просящійся на родину Юліянъ Лясковскій есть тотъ самый |**2v**| сынъ помѣщика Лидскаго Уѣзда, который воспитывался въ Виленскомъ дворянскомъ Институтѣ, а бѣжалъ въ 1846 году отъ отца съ намѣреніемъ пробраться за границу, но былъ задержанъ въ Трокахъ, а также неиз-

вестно ли Вамъ не служилъ ли онъ въ Виленскомъ Губернскомъ Правленіи, а потомъ въ Земскомъ Судѣ, наконецъ когда именно и по какому поводу удалился за границу?

И. д. Гражданскаго Губернатора [*подпіс*:] Похвисневъ.
Старшій Помощ. Правит. Канцеляр. [*подпіс*:] Поповъ.

*1 *Ad marginem*: 15 Января О доставленіи требуемыхъ этимъ предписаніемъ свѣдѣній, съ прописаніемъ сего предписанія, предписано приставамъ: 1. Части № 31. 2. [Части] № 32.

*Арыгінал. У гары першае старонкі пазнака*: 14 Января. Секретно.

*Пераклад*

Міністэрства ўнутраных спраў. Начальніка Віленскае губерні. Па канцылярыі. Аддзяленне Асобнае. № 27. 13 студзеня 1858 года. г. Вільня

Спадару Віленскаму Паліцмайстару[1].

У III-м Аддзяленні Уласнае Яго Імператарскае Вялікасці Канцылярыі атрымалі просьбу эмігранта Юльяна Ляскоўскага[2], які знаходзіцца ў Прусіі, пра дазвол яму вярнуцца на радзіму.

У гэтай просьбе ён тлумачыць наступнае:

Нарадзіўся ён у 1826 годзе ў в. Новая Жосна, Вілейскага павета, якая належала ягоным сваякам Гарадзенскім[3], і ахрышчаны 20-га жніўня таго ж года ў тамтэйшай парафіяльнай уніяцкай царкве; потым жыў у вёсцы Заканоўск Дзісенскага павета, якая была у спадчынным валоданні яго бацькоў[4]; пакінуўшы, пасля завяршэння свае адукацыі, бацькоўскі дом, ён меў прыватныя заняткі, а ў 1846 годзе прыехаў у Вільню, дзе знаходзіўся на службе спачатку ў Губернскай управе, а потым у Земскім судзе[5]; затым, пазнаёміўшыся з Нявяровічам[6], быў уцягнуты ім у таемнае зламыснае

[1] Віленскім паліцмайстрам быў армейскі палкоўнік Пётр Васільеў, які ў 1857 г. меў знак за 25 гадоў беззаганнае службы.

[2] Відавочна, Ю. Ляскоўскі яшчэ ўлетку ці ўвосень 1857 г. прыняў рашэнне старацца пра дазвол вярнуцца на Бацькаўшчыну.

[3] Шляхецкі род гербу Корчак, унесены ў 1-ю частку радаслоўнае кнігі Віленскае губерні.

[4] Калі інфармацыя праўдзівая, то не зусім зразумела, чаму бацькі Ю. Ляскоўскага, маючы ўласную вёску, часта вымушаныя былі служыць у заможных землеўладальнікаў Віленскае і Віцебскае губерняў.

[5] Земскі суд – гэта павятовая паліцыя. Ю. Ляскоўскі, відаць, служыў у канцылярыі земскага спраўніка. Ім – паводле *Памятной книжки Виленской губерніи на 1848 г.* – быў Максім Наскоў, а сакратаром – Бенедыкт Ліпінскі.

[6] Датычна Івана (Яна) Невяровіча ўдалося знайсці толькі шлюбную метрыку (1878 г.) ягонага (?) сына Аляксандра, дарожнага майстра Прывіслянскае чыгункі, з якой вынікае, што Ян напачатку 1850 -х гг. у Вільні ўзяў шлюб (сын нарадзіўся ў 1854 г.). Аднак няма аніякае пэўнасці, што Я. Невяровіч з кнігі касцёла ў Тархаміне (пад Варшаваю) і Невяровіч Ю. Ляскоўскага – гэта адна і тая ж асоба [гл.: APW, zespół UMZ 1878, online; *Jan Niewiarowicz,* online].

таварыства, выкрытае ў Вільні, і баючыся пакарання, уцёк адтуль 11 красавіка 1849 года, а крыху пазней перайшоў мяжу.

Па даведцы з Управы сп. Віленскага вайсковага губернатара[1] аказалася, што ў 1846 годзе сапраўды вялося следства Віленскай следчай камісіяй па палітычных справах з прычыны паказанняў шляхціца Івана Невяровіча аб зламысных задумах ураджэнца Царства Польскага Мельхіёра Нядзвецкага[2], але да гэтае справы Ляскоўскі не меў дачынення; што напрыканцы таго ж года атрымана было паведамленне, што адзін з выхаванцаў Віленскага шляхецкага інстытута Юльян Ляскоўскі, сын землеўладальніка Лідскага павета, падчас вакацый уцёк ад сваіх бацькоў, маючы намер таемна перайсці мяжу, але з прычыны адсутнасці віду на жыхарства быў затрыманы трокскім гараднічым.

З прычыны атрыманае мною прапановы сп. Генерал Губернатара ад 31 снежня 1857 года за № 625 загадваю Вашай Высокай Міласці сабраць і падаць мне звесткі: ці сапраўды Юльян Ляскоўскі, які просіцца на радзіму, той самы сын землеўладальніка Лідскага павета, які выхоўваўся ў Віленскім шляхецкім Інстытуце, а збег у 1846 годзе ад бацькі з намерам перайсці мяжу, але быў затрыманы ў Троках, а таксама, можа, вядома Вам, ці служыў ён у Віленскай губернскай управе, а пасля ў Земскім судзе, нарэшце: калі менавіта і з якое нагоды выехаў за мяжу.

В. а. Цывільнага губернатара [*подпіс*:] Похвисневъ[3].
Старшы памочнік кіраўніка канцылярыі [*подпіс*:] Поповъ[4].

### № 2. Антон Сямкоўскі да Пятра Васільева

|3r| Секретно

Его Высокоблагородію
Господину Виленскому Полиціймейстеру, Полковнику и Кавалеру

Пристава 2й части
Рапортъ

Въ исполненіе предписанія Вашего Высокоблагородія, отъ 15 сего Января за № 32, по собраннымъ секретнымъ образомъ свѣденіямъ имѣю честь донести, что находящійся Въ Пруссіи выходецъ Юліанъ |3v| Лясковскій, коего отецъ въ настоящее время жительствуетъ Вилейскаго Уѣзда, 3го Стана, Ситскаго Округа, въ имѣніи Помѣщика Петкевича и состоитъ управителемъ тагожъ имѣнія, между 1846 и 1849мъ годами,

---

1 З 1855 г. па 1863 г. віленскім вайсковым губернатарам быў Уладзімір Назімаў (1802–1874).

2 Гаворка, відаць, пра брата Леанарда Нядзвецкага (1811–1892), удзельніка Паўстання 1830–1831 гг., эмігранта, прыяцеля Ігнацы Яцкоўскага. Мельхіёр жыў і працаваў у Сейнах [гл.: ВК, 2412: 188–191].

3 Віленскім цывільным губернатарам у 1857–1863 гг. быў Міхаіл Похвіснеў (1811–1882)

4 У 1858 г. пасаду “старшы памочнік кіраўніка канцылярыі” займалі адначасна тры асобы. Подпіс сведчыць, што дакумент падпісаў Павел Папоў.

дѣйствительно служилъ сперва въ Виленскомъ Губернскомъ Правленіи, а потомъ, по вольному найму, при дѣлахъ Виленскаго Земскаго Исправника; и во время жительства его Лясковскаго въ послѣднемъ году, т. е. 1849м, вѣдомства |4r| 1й Части, въ домѣ Марциновскаго, при Полицейскомъ переулкѣ, онъ изъ Города скрылся. Въ Дворянскомъ же Институтѣ сказанный Лясковскій не воспитывался, и отецъ его Помещикомъ Лидскаго Уѣзда не былъ; затѣмъ полагать слѣдуетъ, что въ Институтѣ воспитывалось другое лице тогожъ имяни и прозванія; но такъ какъ о Лясковскомъ свѣденія собираемы были мною секретно, то я и не могъ требовать таковыхъ оффиціально отъ Дирекціи Дворянскаго Института |4v| и Губернскаго Правленія, тѣмъ болѣе, что входить съ онымъ въ сношенія я не въ правѣ.

Частный Приставъ [*подпіс*:] Семковскій.

№11. Января 24 дня 1858 года

*Арыгінал. У гары першае старонкі пазнака*: 20 Января.

*Пераклад*

Сакрэтна

Яго Высокай Міласці
Спадару Віленскаму Паліцмайстру, Палкоўніку і Кавалеру

Прыстава 2-га ўчастка
Рапарт

У выкананне загаду Вашае Высокае Міласці ад 15 студзеня пад № 32 паводле сабраных сакрэтным чынам звестак маю гонар паведаміць, што эмігрант Юльян Ляскоўскі, які знаходзіцца ў Прусіі, а бацька якога цяпер жыве ў маёнтку землеўладальніка Пяткевіча[1] Вілейскага павета 3-га стана Сітскае акругі[2] і працуе аканомам таго ж маёнтка, паміж 1846 і 1849-м гадамі сапраўды служыў спачатку ў Віленскай губернскай управе, а пасля па вольным найме пры справах Віленскага земскага спраўніка; і падчас жыхарства яго, Ляскоўскага, у апошнім годзе, г. зн. 1849-м, ведамства 1-га ўчастка, у доме Марціноўскага, пры Паліцэйскім завулку[3], ён з горада ўцёк. У Шляхецкім жа інстытуце названы Ляскоўскі не вучыўся, і бацька яго землеўладальнікам Лідскага павета не быў; дык трэба меркаваць, што

---

[1] Ігнацы Ляскоўскі, бацька Юльяна, служыў у фальварку Пяткевіча Ігнаполь ля Докшыц.

[2] Напрыканцы 1850-х гг. паветы (уезды) у Расейскай імперыі падзяляліся на сельскія абшчыны (для скарбовых сялян) і землеўладальніцкія маёнткі (для прыгонных). Сітская акруга – гэта, відавочна, некалькі землеўладальніцкіх маёнткаў.

[3] Расейская адміністрацыя перайменавала частку вуліцы Конскае ў Паліцэйскі завулак. Тут знаходзіўся шэраг дзяржаўных устаноў: Павятовы суд, Крымінальная палата (у доме Агінскіх), Гарадская дума (у доме Агінскіх), Шляхецкая апека (у доме Агінскіх).

ў Інстытуце выхоўвалася іншая асоба таго ж імя і прозвішча; але з тае прычыны, што звесткі пра Ляскоўскага збіраліся мною сакрэтна, то я і не мог патрабаваць іх афіцыйна ад дырэкцыі Шляхецкага інстытута і Губернскае ўправы, тым больш, што ўваходзіць з імі ў зносіны я не меў дазволу.

Участковы пристаў [*подпіс*:] Сямкоўскі[1].

№11. 24 студзеня 1858 года.

**№ 3. Антон Баер да Пятра Васільева**

|5г| Секретно

Его Высокоблагородію

Господину Виленскому Полиціймейстеру Полковнику и Кавалеру.

Пристава 1 части

Рапортъ

Въ исполненіе предписанія Вашего Высокоблагородія, отъ 15 сего Января за № 31мъ, основаннаго на таковомъ Господина Начальника Виленской Губерніи отъ 13 Января за № 77мъ, честь имѣю почтительнейше донести – Что находящійся въ Пруссіи Польскій выходецъ Юліянъ Лясковскій служилъ въ Виленскомъ Земскомъ Судѣ, который донесъ обстоятельно прямо Господину Начальнику Губерніи на полученное предписаніе. – но когда имянно и по какому поводу отлучился за границу [*нечыт.*] сведѣнія не открылись.

Частный Приставъ [*подпіс*:] Баеръ.

№43. Февраля 14 дня 1858.

*Арыгінал. У гары першае старонкі пазнака*: 14 Февр.

*Пераклад*

Сакрэтна

Яго Высокай Міласці

Спадару Віленскаму Паліцмайстру, палкоўніку і кавалеру

Прыстава 1 участка

Рапарт

У выкананне загаду Вашае Высокае Міласці ад 15 студзеня пад № 31, што быў заснаваны на загадзе Спадара начальніка Віленскае Губерні ад 13 студзеня пад № 77-м, гонар маю паведаміць, што польскі эмігрант Юльян Ляскоўскі, які знаходзіцца ў Прусіі, служыў у Віленскім земскім судзе, пра што ім грунтоўна паведамлена наўпрост спадару Начальніку губерні, як адказ на атрыманы загад. Але калі менавіта і з якое нагоды ён перайшоў мяжу звестак не выяўлена.

Участковы пристаў [*подпіс*:] Баер[2].

№43. 14 лютага. 1858

[1] Прыставам 2-га (Замкавага) паліцэйскага ўчастка Вільні быў Антон Сямкоўскі.
[2] Прыставам 1-га (Астрабрамскага) паліцэйскага ўчастка Вільні быў Антон Баер.

## № 4. Пётр Васільеў да Міхаіла Похвіснева

|6r| № 163. Февраля 20 дня 1858 года.

Г. Начальнику Губерніи

~~Вследствіе~~ По содержанію предпісанія ВПва отъ 13 минувшаго Января за № 77 ~~честь имѣю увѣдомить, что нахо-~~ собираемы были надлежащія свѣденія по коимъ оказалось: что находящійся въ Пруссіи выходецъ Юліанъ Лясковскій, коего отецъ въ настоящее время находится Вилейскаго Уѣзда, 3 Стана, Ситскаго |6v| Прихода въ Имѣніи Помѣщика Петкевича, между 1846 и 1849 годами служилъ ~~сперва~~ прежде въ Виленскомъ Губернскомъ Правленіи, а потомъ находясь по вольному найму при дѣлахъ Виленскаго Земскаго Исправника, проживалъ 1. Части въ домѣ Марциновскаго, отъ куда въ 1849 году скрылся. Въ Здѣшнемъ же Дворянскомъ |7r| Институтѣ онъ Лясковскій невоспитывался и отецъ его Помещикомъ Лидскаго Уѣзда не былъ, а потому слѣдуетъ заключить, что въ Институтѣ находилось другое того имяни и прозванія лицо.

*Чарнавік.*

*Пераклад*

№ 163. 20 лютага 1858 года.

Сп. Начальніку губерні

Паводле загаду Вашае Высокае Міласці ад 13 мінулага студзеня пад № 77 збіраліся належныя звесткі, па якіх аказалася, што Юльян Ляскоўскі, што знаходзіцца ў Прусіі, а бацька якога цяпер жыве ў маёнтку землеўладальніка Пяткевіча ў Сіцкім прыходзе[1] 3-га стану Вілейскага павета, паміж 1846 і 1849 гадамі служыў перш у Віленскай губернскай управе, а потым па вольным найме пры справах Віленскага земскага спраўніка і жыў у доме Марціноўскага 1-га ўчастка, адкуль у 1849 годзе знік. У тутэйшым жа Шляхецкім інстытуце ён, Ляскоўскі, не вучыўся і бацька ягоны землеўласнікам Лідскага павета не быў, а таму варта меркаваць, што ў Інстытуце знаходзілася іншая таго ж імя і прозвішча асоба.

[1] У чарнавым накідзе паліцмайстра П. Васільева "Сітская акруга" прыстава Антона Сямкоўскага перамянілася ў Сітскі прыход, да якога належала 32 мясцовасці. Каталіцкае насельніцтва "Сітскае акругі" было прыпісана да Параф'янаўскае парафіі.

# Метрыкі Юльяна Ляскоўскага

У апошні час у Сеціве з'явіўся рэсурс *Skanoteka: Baza skanów dokumentów o wartości genealogicznej*, дзе пададзены алічбаваныя матэрыялы, г. зв. *Akta stanu cywilnego* розных зямель даўняе Рэчы Паспалітае. Дзякуючы гэтаму рэсурсу, а таксама рупнасці Антона Францішка Брыля сёння мы маем шэраг метрык, якія датычаць Юльяна Ляскоўскага і ягонае сям'і.

Перш-наперш, гэта шлюбны акт Юльяна Ляскоўскага і Мар'яны Дален. З пасмяротных успамінаў пра "беларускага бандурыста" мы ведалі, што ён напачатку 1860-х гг. "z okolic Mławy, przywiózł sobie <…> do Wilna dozgonną towarzyszkę życia, młodziuchną, piękną i zacną niewiastę" [*Kronika Warszawska* 1889: nr 17: 2]; інтымныя матывы адчуваюцца ў асобных вершах паэтычнага зборніка, выдадзенага ў 1861 г. (*Do panny M. D.: Nadmogilna gawęda*, 1858; *Na wiosnę*, 1859; *Z wiosną dziewczę-sierota*, 1860), аднак толькі запіс ў касцельнай кнізе рымска-каталіцкае парафіі ў Зелюню дазваляе даведацца пра шмат якія акалічнасці прыватнага жыцця паэта. Цікава тое, што атрымаўшы дазвол вярнуцца на Бацькаўшчыну, Ю. Ляскоўскі асталёўваецца ў Вільні, выдае *Białoruskiego bandurzysta* ды, відавочна, маючы блаславенне бацькоў (невядома, абодвух ці толькі аднае маці) і, вытрымаўшы жалобу па бацьку, вяртаецца ў Зелюнь, каб 9 ліпеня 1861 г. узяць тут шлюб. Маладому трыццаць пяць гадоў, ён значна старэйшы за маладую.

У метрыцы ўтрымліваецца шэраг звестак, якія адсутнічаюць ва ўсіх іншых вядомых раней дакуметах. Сама істотнае – імёны бацькоў і месца іхняга жыхарства. Вялікіх шансаў, што ўдасца выявіць матэрыялы, датычныя біяграфіі Ігнацы Ляскоўскага, – амаль няма, бо ён хіба ўсё жыццё быў не на дзяржаўнай, а на прыватнай службе, пераходзячы з месца на месца. Адзначаем той факт, што спадчынны фальварак Заканоўск ужо страчаны (прададзены?), і ўдаве даводзіцца жыць на ласкавым хлебе Васілеўскіх (?), магчыма, разам з сям'ёю дачкі, у фальварку Лапуты ля Докшыц:

> Łaputy, ws i folf. w pow. borysowskim, nad rz. Berezyną, w okr. pol. dokszyckim, w gm. dokszyckiej; wś ma osad włocznych 7; folw., własność Wasilewskich od r. 1857, ma obszaru około 17½ włok. Miejscowość głucha, lesista [*Słownik Geograficzny…* 1884, V: 594].

Так пісаў на пачатку 1880-х гг. Аляксандар Ельскі. Адзначым: да фальварку належала блізу 200 гектараў зямлі, магчыма, той абшар на паўночны-захад ад Лапутаў, які на мапах пачатку XX ст. пазначаецца як Васілеўшчызна.

Шлюбная метрыка "знаёміць" нас з "таварышкаю жыцця" Ю. Ляскоўскага. Ейныя продкі, відавочна, скандынаўскага паходжання, жылі на паўночна-ўсходніх землях Варшаўскага княства і Каралеўства Польскага. Ейны дзед, Ігнацы Фелікс Дален (1771–1841) з жонкаю Мар'янаю з Аўгустоўскіх (нар. 1780?) мелі сына Яна Ігнацы Мар'яна (1814–1892), які 14 верасня 1839 г. у Варшаве ўзяў шлюб

з Каралінаю Закшэўскаю (1816? – 1855). Мар'яна была іхнім першым (магчыма, першым) дзіцём. Пасля нарадзіліся: Юзаф (1845), Фелікс (1847–1926), Ганна Матыльда (1852–1918). Пасля смерці першае жонкі бацька Мар'яны ажаніўся 14 чэрвеня 1856 г. у Варшаве з Антанінаю Курц'юш (1825? – 1903). Сям'я Даленаў з кожным годам павялічвалася: Алімпія Вікторыя Станіслава (1857), Стафанія Валерыя (1858), Ян (1861–1863)[1].

Далены жылі ад пачатку 1850-хх гг. у Зелюню, дзе бацька Мар'яны працаваў на мытні: падаткавым урадоўцам, пасля намеснікам кіраўніка.

Метрыка нараджэння дачкі Станіславы Ядвігі цікавая тым, што ў ёй пададзена яшчэ адно імя паэта, прычым першае – Бернард, атрыманае пры хрышчэнні[2]. Ці карыстаўся ім калі-небудзь яшчэ Юльян Ляскоўскі? Можна таксама звярнуць увагу на тое, што дачка была ахрышчаная і запісаная ў касцельную кнігу амаль праз чатыры месяцы пасля нараджэння. Нібыта з прычыны хваробы бацькі. Ці было так на самай справе? Здаецца, недамаганне не перашкаджала яму актыўна супрацоўнічаць з „Gazetą Warszawską": у другой палове 1869 г. Ю. Ляскоўскі апублікаваў у ёй чатыры вялікія артыкулы. Дарэчы, сына Яна Міхала бацька хрысціў і запісваў таксама праз чатыры месяцы.

Метрыкі нараджэння дзяцей сведчаць таксама, як змяняўся сацыяльны статус Ю. Ляскоўскага ў Млаве: у 1869 г. ён адно «житель» горада, а ў 1873 г. – ужо «хозяинъ». Відавочна, пераехаўшы ў другой палове 1860-х гг. з Зелюню ў Млаву, сям'я здымала нейкі кут, а пасля набыла ва ўласнасць дом. Тым больш, што і гандлем Ю. Ляскоўскі пачаў займацца якраз у гэты час.

Звярнулі мы ўвагу і на тое, што ўсе тры метрыкі падаюць розны ўзрост абодвух Ляскоўскіх. Так, 9 ліпеня 1861 г. яму 33 гады, ёй – 20; 19/31 снежня 1869 г. яму 42 гады, ёй – 27; 8/20 жніўня 1873 г. яму 46 гадоў, ёй – 30. Вядома, узрост сужэнцаў запісваўся паводле вуснае інфармацыі і называліся поўныя (скончаныя) гады жыцця. Адносна Мар'яны Дален сказаць можна толькі тое, што на шлюбе ўзрост ёй павялічылі: яна хіба не мела яшчэ і дзевятнаццаці. А пры нараджэнні дзяцей – падаваўся дакладна, г. зн. нарадзілася яна ўвосень 1842 г. А вось Ю. Ляскоўскі ў час шлюбу меў амаль 35 гадоў: быў ахрышчаны 20 жніўня (відаць, старога стылю) 1826 г., г. зн. свой ўзрост ён зменшыў на два гады. Тое самае назіраем і пры нараджэнні дзяцей: у снежні 1869 г. яму было ўжо 43 гады, а ў жніўні 1873 г. – 47 (ці амаль 47 гадоў).

Метрыка смерці маці Ю. Ляскоўскага засведчыла, што апошнія гады жыцця яна знаходзілася ў доме сына. Магчыма, нават, што яны выехалі з краю разам у 1863 г. Памерла ж яна ў той час, калі Ю. Ляскоўскі выехаў на Беларусь, а пасля мусіў уцякаць праз Варшаву ў Кракаў і Львоў.

Як вынікае і са шлюбнае метрыкі Юльяна і Мар'яны Ляскоўскіх, і з метрыкі смерці Паўліны Ляскоўскае, маці "беларускага бандурыста" паходзіла з роду Гофертаў гербу Гільзен. Відаць, яна была цёткаю вядомага мастака Юзафа Гоферта

[1] На падставе метрык, апублікаваных на рэсурсе *Skanoteka*.

[2] Якраз 20 жніўня, у дзень, калі хрысцілі Юльяна Ляскоўскага, каталіцкі касцёл адзначае імяніны Бернарда. Заўважым: імяніны Юльяна адзначаюцца 12 і 19 жніўня. Магчыма, у адзін з гэтых дзён і нарадзіўся "беларускі бандурыста".

(1826–1906), які нарадзіўся ў маёнтку Лайкова, што знаходзіўся ў блізкім суседстве з фальваркамі Ігнаполь і Лапуты. Бацька Юзафа Гоферта Казімір Мікалай і бацька Паўліны Ляскоўскае Юзаф, здаецца, былі роднымі братамі.

Друкуюцца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле:

№ 1: Archiwum Państwowy m. st. Warszawy, zespół 0614/D: Akta stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej Zieluń powiat żuromiński. 1861 [online] https://metryki.genealodzy.pl/metryka.php?ar=13&zs=0614d&sy=1861&kt=2&plik=005.jpg#zoom=1&x=379&y=1655 [dostęp: 4.10.2022].

№ 2: Archiwum Państwowy m. st. Warszawy, zespół 0054/D: Akta stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej Mława powiat mławski. 1869 [online] https://metryki.genealodzy.pl/metryka.php?ar=13&zs=0054d&sy=1869&kt=1&plik=068.jpg#zoom=1.25&x=324&y=1264 [dostęp: 5.10.2022].

№ 3: Archiwum Państwowy m. st. Warszawy, zespół 0054/D: Akta stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej Mława powiat mławski. 1873 [online] https://metryki.genealodzy.pl/metryka.php?ar=13&zs=0054d&sy=1873&kt=1&plik=042.jpg#zoom=1.2814106518609911&x=806&y=0 [dostęp: 5.10.2022].

№ 4: Archiwum Państwowy m. st. Warszawy, zespół 0054/D: Akta stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej Mława powiat mławski. 1880 [online] https://metryki.genealodzy.pl/metryka.php?ar=13&zs=0054d&sy=1880&kt=3&plik=002.jpg#zoom=2.25&x=780&y=0 [dostęp: 5.10.2022].

## № 1. Шлюбная метрыка Юльяна Ляскоўскага і Мар'яны Дален

|31v| 12. Zieluń

Działo się w wsi Zieluniu dnia dziewiątego Lipca Tysiąc ośmset sześćdziesiątego pierwszego roku, o godzinie dwunastéj w południe. – Wiadomo czynimy, iż w przytomności swiadków: Antoniego Słomińskiego, z procentu utrzymującego się w wsi Lubowidz zamieszkałego lat Sześćdziesiąt siedem, i Konstantego Libickiego Nadzorcy składów Komory Celnéj Zieluń lat czterdzieści siedem mającego tu w Zieluniu zamieszkałego; na dniu dzisiejszym zawarte zostało Religijne Małżeństwo między Julijanem Laskowskim młodzianem, mieszkańcem Miasta Wilna w Cesarstwie Rossyiskim, urodzonym w wsi Zośnie[1] w Powiecie i Gubernii Wileńskiéj, Synem niegdy Ignacego i żyjącéj Pauliny z Hotfertów[2] w Majętności Łaputach[3] zamieszkałej, Małżonków Laskowskich, lat trzydzieści trzy mającym, w Mieście Gubernialnym |32r| Wilno zamieszkałym; a Maryanną[4] Dahlen panną urodzoną w Mieście Gubiernialnym Suwałki, Córką Jana Poborcy Komory Celnéj Zieluń, i Karoliny z Zakrzewskich dziś nieżyjącéj Małżonków Dahlenów lat dwadzieścia mającą, przy Ojcu tu w Zieluniu zastającą. – Małżeństwo to poprzedziły trzy Zapowiedzie w dniach: szóstym, trzynastym i dwudziestym Stycznia w parafii Zieluń, w parafii zaś Wilno Swiętego Jana w dniach: szóstym, trzynastym i dwudziestym Kwietnia roku bieżącego ogłoszone. – Zezwolenie obecnego Aktowi Małżeństwa Ojca nowozaślubionéj, ustnie było oświadczone. – Małżonkowie nowi oświadczają: iż niezawarli umowy przedślubnéj. – Obrzęd ten Religijny dopełniony został przez Xiędza Stanisława Przetakiewicza Proboszcza Parafii Zieluńskiéj. – Akt ten, po odczytaniu, przez Nas i przez stawających podpisany został. –

[*Подпісы*:] Xiądz Stanisław Przetakiewicz, Proboszcz Zieluński Utrzymujący Akta Stanu Cywilnego. – Juljan Laskowski. – Marjanna Dahlen. – Konstanty Libicki. – Anton Słomiński.

*Пераклад*

12. Зелюнь

Сталася гэта ў вёсцы Зелюнь дзявятага ліпеня тысяча васемсот шэсцьдзесят першага года ў дванаццаць гадзін дня, у поўдзень. Чынім вядомым, што ў прысутнасці сведак: Антонія Сломіньскага, які ўтрымліваецца з працэнтаў, а жыве ў вёсцы Любовідз[5], шасцідзесяці сямі гадоў,

[1] Трэба: *Żośnie*.
[2] Трэба: *Hoffertów*.
[3] Мажліва расчытаць другую літару ў гэтым слове як *-o-* (*Łoputach*).
[4] Сама Мар'яна сваё імя занатавала як *Marjanna*.
[5] Вёска (сёння: горад) Любовідз размешчана некалькі кіламетраў на поўдзень ад Зелюню.

і Канстанціна Лібіцкага, наглядчыка складоў мытнае каморы Зелюнь, сарака сямі гадоў, які жыве тут, у Зелюню; сёння быў заключаны рэлігійны шлюб паміж маладым Юльянам Ляскоўскім, жыхаром горада Вільні ў Расейскай імперыі, ураджэнцам вёскі Жосна Віленскага павета[1] і губерні, сынам нябожчыка Ігнацы і Паўліны, народжанай Гоферт, якая жыве ў маёнтку Лапуты, сужэнства Ляскоўскіх, трыццаці трох гадоў[2], што жыве ў губернскім горадзе Вільня; і Мар'янаю Дален, ураджэнкаю губернскага горада Сувалкі, дачкою Яна, падаткавага ўрадоўца Зелюньскае мытнае каморы, і, Караліны, народжанай Закшэўскае, цяпер нябожчыцы, Даленаў, дваццаці гадоў, якая жыве ў свайго бацькі тут, у Зелюню. Гэтаму шлюбу папярэднічалі тры запаведзі – шостага, трынаццатага і дваццатага студзеня ў парафіі Зелюнь, а ў парафіі святога Яна ў Вільні – шостага, трынаццатага і дваццатага красавіка бягучага года. Згода прысутнага на шлюбе бацькі маладое была засведчана вусна. Новыя сужэнцы заяўляюць: што яны не заключалі шлюбнае дамовы. Гэты рэлігійны абрад здзейсніў ксёндз Станіслаў Пшатакевіч, пробашч зялюньскае парафіі. Гэты акт пасля прачытання быў падпісаны намі і прысутнымі.

[*Подпісы*:] Ксёндз Станіслаў Пшатакевіч, пробашч зялюньскі, які вядзе акты цывільнага стану. Юльян Ляскоўскі. Мар'яна Дален. Канстанты Лібіцкі. Антон Сломіньскі.

### № 2. Метрыка нараджэння дачкі Станіславы Ядвігі

|**132**| № 264. Млава

Состоялось въ городѣ Млавѣ Декабря /девятьнадцать/ тридцать перваго дня тысяча восемьсотъ шестьдесятъ девятаго года въ два часа по полудни. Явился лично Бернардъ Юльянъ Ласковскій /Bernard Julian Laskowski/ житель города Млавы, сорока двухъ лѣтъ отъ роду въ присутствіи ксендза Ромазія Янковскаго /Remigiusza Jankowskiego/ Викарія Млавскаго прихода, двадцати пяти лѣтъ и Іосифа Пржибыльскаго /P. Jozefa Przybylskiego/ чиновника Млавскаго мирового суда, тридцати двuхъ[3] лѣтъ отъ роду тоже изъ Млавы и предъявилъ Намъ младенца женскаго пола, объявляя что онъ родился въ городѣ Млавѣ /Августа двадцать седмаго/ Сентября восьмаго дня текущаго мѣсяца и года въ десять часовъ по полуночы отъ законной его жены Маріи Maryi/ урожденной Далленъ /Dalen/, двадцати семи лѣтъ отъ роду. Младенцу этому при святомъ крещеніи совершенномъ сего числа ксендзомъ Ромазимъ Янковскимъ /Remigiusza Jankowskiego Викаріемъ Млавскимъ дано имяна Станислава Ядвига Stanisława Jadwiga/ а воспріемниками были Станиславъ Жаковичъ /Stanisław Zakowicz/ и Екатерина Дыглевичъ /Katarzyna Dyglewicz/. Акт сей

[1] Жосна ўваходзіла ў склад Вілейскага павета.
[2] Пэўна, каб зменшыць узроставую розніцу паміж маладымі, Юльян падмаладзіўся на два гады, а Мар'яна крыху (?) павялічыла свой век.
[3] Магчыма, замест кірылічнага -*у*- перапісвальнік напісаў лацінскае -*u*-.

замедленъ въ составленію, по болезни отца младенца, томуже и свидѣтелямъ прочитанъ Нами и ими подписанъ.

[*Подпісы*:] Кс. Матеушъ Свидвинскій каноникъ подляскій Настоятель Млавскій содержащій акты гражданскаго состоянія. – J. Laskowskiю – Осипъ Пржибыльскій. – Кс. Р. Янковскій

*Пераклад*

№ 264. Млава

Сталася гэта ў горадзе Млаве (дзевятнаццатага) трыццаць першага снежня тысяча васемсот шэсцьдзесят дзявятага года ў дзве гадзіны па поўдні. З'явіўся асабіста Бернард Юльян Ляскоўскі (Bernard Julian Laskowski), жыхар горада Млавы, сарака двух гадоў ад нараджэння, у прысутнасці ксяндза Рэмігіюша Янкоўскага (Remigiusza Jankowskiego), вікарыя Млаўскае парафіі, дваццаціпяцігадовага, і Юзафа Пшыбыльскага (P. Jozefa Przybylskiego), урадоўца Млаўскага міравога суда, трыццаці двух гадоў ад нараджэння, таксама з Млавы, і паказаў нам немаўля жаночага полу, паведамляючы, што яно нарадзілася ў горадзе Млаве (дваццаць сёмага жніўня) восьмага верасня бягучага месяца і года ў дзесяць гадзін пасля поўначы ад ягонае законнае жонкі Марыі (Maryi), народжанай Дален (Dalen), дваццаці сямі гадоў ад нараджэння. Немаўляці гэтаму пры святым хрышчэнні, здзейсненым сёння ксяндзом Рэмігіюшам Янкоўскім (Remigiusza Jankowskiego), вікарыем Млаўскім, дадзены імёны Станіслава Ядвіга (Stanisława Jadwiga), а хроснымі бацькамі былі Станіслаў Жаковіч (Stanisław Żakowicz) і Кацярына Дыглевіч (Katarzyna Dyglewicz). Акт гэты позна складзены з прычыны хваробы бацькі немаўляці, яму і сведкам прачытаны і падпісаны намі і імі.

[*Подпісы*:] Кс. Матэвуш Свідвінскі, канонік падляскі, пробашч Млаўскі, які трымае акты цывільнага стану. J. Laskowski. Восіп Пшыбыльскі. Кс. Р. Янкоўскі

**№ 3. Метрыка нараджэння сына Яна Міхала**

**|81|** № 162. Млава

Состоялось въ Городѣ Млавѣ Августа /восьмого/ двадцатого дня тысяча восемьсотъ семьдесятого третяго года въ пять часовъ по полудни. Явился лично: Юльянъ Лясковскій /Julian Laskowski/ сорока шести лѣтъ отъ роду хозяинъ въ городѣ Млавѣ жительствующій въ присутствіи Яна Каминского /Jana Kamińskiego/ пятидесяти восми лѣтъ и Фомы Лазицкого /Tomasza Łazickiego/ семидесяти двухъ лѣтъ отъ роду служителей костельныхъ тоже изъ Города Млавы и предъявилъ Намъ младенца мужеского пола объявляя что онъ родился въ Городѣ Млавѣ /Марта двадцать шестого/ Апрѣля седмого дня текущаго года въ семъ часовъ по полуночи отъ законной его жены Маріи /Maryi/ урожденной Даленъ /Dahlen/ тридцати лѣтъ отъ роду. – Младенцу этому при святомъ крещеніи совершенномъ сего числа Ксендзомъ Деканомъ Настоятелемъ Млавскимъ даны имена Янъ Михаилъ /Jan Michał/ а воспріемниками его

были: Михаилъ Заборовски /Michał Zaborowski/ и Марія Заборовская /Marya Zaborowska/ Замедленіе Акта младенца. Актъ сей присутствующимъ прочитанъ и [*нечыт.*] какъ грамотнымъ подписанъ.

[*Подпісы*:] Настоятель Млавского Прихода Содержащій Акты Гражданского состоянія Кс. Матеушъ Свидвинскій Каноникъ подляскій. – Julian Laskowski.

*Пераклад*

№ 162. Млава

Сталася гэта ў горадзе Млаве (восьмага) дваццатага жніўня тысяча васемсот семдзесят трэцяга года а пятай гадзіне пасля поўдня. З'явіўся асабіста: Юльян Ляскоўскі (Julian Laskowski), сарака шасці гадоў ад нараджэння, гаспадар, які жыве ў горадзе Млаве, у прысутнасці Яна Камінскага (Jana Kamińskiego), пяцідзесяці васьмі гадоў, і Тамаша Лазіцкага (Tomasza Łazickiego) сямідзесяці двух гадоў, касцельных служкаў, таксама з горада Млавы, і паказаў нам немаўля мужчынскага полу, паведамляючы, што яно нарадзілася ў горадзе Млаве (дваццаць шостага сакавіка) сёмага красавіка бягучага года ў сем гадзін пасля паўночы ад ягонае законнае жонкі Марыі (Maryi), народжанай Дален (Dahlen). Немаўляці гэтаму пры святым хрышчэнні, здзейсненым сёння ксяндзом дэканам, пробашчам млаўскім, дадзены імёны Ян Міхал (Jan Michał), а хроснымі ягонымі яго былі: Міхал Забароўскі (Michał Zaborowski) і Марыя Забароўская (Marya Zaborowska). Запаволенне Акта немаўляці. Акт гэты прысутным прачытаны і [*нечыт.*] як пісьменным падпісаны.

[Подпісы:] Настаяцель Млаўскага Прыхода, які трымае Акты цывільнага стану кс. Матэвуш Свідвіньскі, канонік падляскі. – Julian Laskowski.

**№ 4. Метрыка смерці Паўліны Ляскоўскае**

|**268**| № 6. Млава

Состоялось въ Городѣ Млавѣ /втораго/ четырнадцатаго Января тысяча восемьсотъ восемъдесятаго года въ десять часовъ утра. Явились Фома Добровольскій /Tomasz Dobrowolski/ шестидесяти шести лѣтъ и Яковъ Шпарадовскій /Jakob Szparadowski/ сорока шести лѣтъ отъ роду обоихъ хозяиновъ изъ Млавы и объявили намъ что вчерашняго дня въ восемъ часовъ вечера умерла въ городѣ Млавѣ Паулина Лясковская /Paulina Laskowska/ девяносто лѣтъ отъ роду вдова по Игнатію Лясковскимъ /Ignacym Laskowskim/ урожденная въ Виленской Губерніи дочь умершихъ Іосифа /Jozefa/ и Анны изъ Шимкевичовъ /Anny z Szymkiewiczów/ супруговъ Хоффертовъ /Hoffertow/ въ Млавѣ при родственникахъ жительствующая. Понаочномъ удостовѣреніи о кончинѣ Паулины Лясковской /Pauliny Laskowskiéj/ Актъ сей присутствующимъ прочитанъ Нами и ими подписанъ.

Настоятель Млавскаго Прихода Содержащій Акты Гражданскаго Состоянія. Кс. Матеушъ Свидвиньскій каноникъ подляскій

*Пераклад*

№ 6. Млава

Сталася гэта ў горадзе Млаве (другога) чатырнаццатага студзеня тысяча васемсот васьмідзясятага года а дзясятай гадзіне раніцы. З'явіліся Тамаш Дабравольскі (Tomasz Dobrowolski), шасцідзесяці шасці гадоў, і Якуб Шпарадоўскі (Jakob Szparadowski), сарака шасці гадоў ад нараджэння, абодва – гаспадары з Млавы, і паведамілі нам, што ўчора ў восем гадзін вечара памерла ў горадзе Млава Паўліна Ляскоўская (Paulina Laskowska), удава Ігнацы Ляскоўскага (Ignacy Laskowskiego), народжаная ў Віленскай губерні, дачка нябожчыкаў Юзафа (Jozefa) і Ганны з Шымкевічаў (Anny z Szymkiewiczów), сужэнцаў Гофертаў (Hoffertow), якая жыла ў Млаве ў сваякоў. Па вочным пасведчанні пра смерць Паўліны Ляскоўскай Акт гэты прысутным быў прачытаны, намі і імі[1] падпісаны.

Пробашч Млаўскае парафіі, які трымае Акты цывільнага стану.
Кс. Матэвуш Свідвіньскі, канонік падляскі

[1] Подпісы прысутных адсутнічаюць.

# Лісты да Юзафа Ігнацы Крашэўскага

Пачынаючы з 1840-х гг. адной з самых прыкметных постацяў літаратурнага працэсу на землях былое Рэчы Паспалітае абодвух народаў быў Ю.І. Крашэўскі (1812–1887). Амаль кожны пісьменнік – ці то пачатковец, ці то прызнаны майстар – лічыў сваім абавязкам звярнуцца да яго па параду і дапамогу. Апублікаваўшы, звыкла за свой кошт, томік вершаваных тэкстаў, малады паэт дасылаў яго на Валынь (да 1861 г.), у Варшаву (1861–1863) ці Дрэздан (1863–1884), жадаючы пачуць прыязнае слова карыфея польскага пісьменства. Вядома, Ю.І. Крашэўскі, атрымліваючы тысячы лістоў, фізічна не мог адказаць усім тым, хто пісаў да яго.

Ю. Ляскоўскаму ў гэтым сэнсе пашанцавала.

Праўда, слова ў адказ на свой першы допіс (у 1861 г.) ён не меў, але невялічкую, з заўвагамі-падказкамі, пасля якіх паэт, відаць, больш амаль не складаў вершы, рэцэнзію апублікавала „Gazeta Polska”, рэдактарам якое быў Ю.І. Крашэўскі. Пэўна, малады паэт разлічваў на большае. У першую чаргу, відаць, на спрыянне ў распаўсюджванні *Białoruskiego bandurzysty* ў Каралеўстве, бо ў Вільні “ze zbyciem tutejszym księgarzom mojej pracy ciężko idzie”. Праўдападобна, Ю. І. Крашэўскі не лічыў патрэбным пашыраць у Варшаве паэтычныя тэксты, напісаныя правінцыйнай польскаю моваю, са шматлікімі беларусізмамі, хоць і з патрыятычнымі, але рэгіянальна-беларускімі матывамі. Вядомыя нам каталогі варшаўскіх кнігарняў 1860-х гг. не аднатоўваюць зборнічка Ю. Ляскоўскага, што, аднак, не можа сведчыць, каб *Białoruski bandurzysta* не трапіў на польскія землі. Усё ж выязджаючы ў 1863 г. праз Варшаву ў родныя мясціны жонкі, Ю. Ляскоўскі павінен быў забраць з сабою непрададзеныя асобнікі, каб пасля распаўсюджваць праз кнігарні, а таксама прэзентаваць сваім сябрам і знаёмым. І калі В. Каратынскі мог набыць *Białoruskiego bandurzystę* яшчэ ў Вільні, дык К. Прушынскі, пэўна ж, пазнаёміўся з ім у Варшаве ў 1870–1880-я гг. Магчыма, Ю. Ляскоўскі высылаў кніжку сваім прыяцелям у Прусію: можа, з прыватнае бібліятэкі аднаго з іх у ХХ ст. асобнік трапіў ва Універсітэцкую бібліятэку ў Торуні (горад да 1920 г. уваходзіў у склада Прускае дзяржавы).

Другая спроба ліставання з Ю.І. Крашэўскім аказалася для Ю. Ляскоўскага больш удалаю. Прынамсі, адказу ён дачакаўся. І хіба на ўсе тры ягоныя лісты.

У кастрычніку 1879 г., пасля амаль дваццаці гадоў журналісцкае працы, Ю. Ляскоўскі мае права больш упэўнена трымацца ў дыялогу з заслужаным дзеячам польскае культуры. Чуткі пра тое, што Ю.І. Крашэўскі будзе мець адмысловы фонд на выданне літаратуры для люду, схіляюць яго напісаць яму. Цікава, што якраз у гэты час заснаваць новую газету для народа, спрабуе К. Прушынскі. І таксама лістуецца з Ю. І. Крашэўскім [гл.: Kmiecik 1971: 155]. І таксама мае “ў рэзерве” чалавека, якому ўлады ў Пецярбурзе не адмовяць выдаць дазвол (konsens). Гэтым чалавекам для К. Прушынскага стаў выкладчык ангельскае мовы Варшаўскага ўніверсітэта Герман Бені (1834–1900), які таксама з’яўляўся рэдактарам „Kuriera Warszawskiego” (1873–1876) і часопіса „Ateneum” (1876–1880). Ці быў гэта адзін

праект ураджэнцаў беларускага краю? Невядома. Як невядома, што напісаў Ю.І. Крашэўскі ў Млаву. Відаць, тое, што чуткі пра фонд аказаліся перабольшанымі і ён анічым не можа дапамагчы. З гэтай прычыны ў другім лісце Ю. Ляскоўскага ўжо няма гаворкі пра газету для народа[1].

Цікавы гэты ліст да Ю.І. Крашэўскага яшчэ тым, што ў ім ёсць звесткі пра першую кніжачку для народа, якую напісаў Ю. Ляскоўскі ў 1861 г. Гаворка пра выданне *Książeczkę przeciw pijaństwu. Do mego kuma Macieja i do tych wszystkich ludzi, którzy powinni upamiętać się w nałogu pijaństwa. Od poprawionego gospodarza Andrzeja*. Кніжачку, якая існавала (апрача згадкі самога аўтара, інфармацыю падае В. Каратынскі ў пасмяротным успаміне, а таксама гл. слоўнікавыя артыкулы ў *Bibliografii Estreichera*), прадавалася ў кнігарнях (пра гэта сведчыць слоўнікавы артыкул у першым томе *Bibliografii polskiej* [I: 508]: „*Książeczka przeciw pijaństwu od poprawionego gospodarza Andrzeja*. [Warszawa], Nowolecki, 1862, w 8ce, str. 16)[2], але, здаецца, не захавалася аніводнага асобніка выдання.

Астатнія два лісты Ю. Ляскоўскага да Ю.І. Крашэўскага датычаць клопату беларускага літаратара выдаць напісаную ім у 1878 г. кніжачку *Polska i Rossya wobec idei słowiańskiej*, якую ён хоча надрукаваць за межамі імперыі пад псеўданімам Mroczek. Ю. Ляскоўскаму істотна ведаць думку пісьменніка. Але што той напісаў у Львоў чалавеку, які ўжо трэці раз у жыцці мусіць ратавацца ўцёкамі ад расейскай славяншчыны? Трэба думаць, адказ Ю.І. Крашэўскага быў непамысны для Ю. Ляскоўскага. Інакш бы ў архіве пісьменніка захаваўся яшчэ адзін ягоны ліст.

Лісты Ю. Ляскоўскага насычаны надзвычай каштоўнымі звесткамі, якія датычаць і біяграфіі самога літаратара, і дзеяў пісьменства на землях Беларусі і Літвы.

Друкуюцца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле:

№ 1: BJ, rkps 6470/IV: *Korespondencja J.I. Kraszewskiego*, seria III: *Listy z lat 1845–1862*, t. 11: *L–Ł*, k. 15–16v: J. Laskowski do J.I. Kraszewskiego, list z 13/25.03. [1861 r.].

№ 2: BJ, rkps 6514/IV: *Korespondencja J.I. Kraszewskiego*, seria III: *Listy z lat 1863–1887*, t. 54: *L (Labarry – Lemonier)*, k. 233–234: J. Laskowski do J.I. Kraszewskiego, list z 29.10.1879 r.

№ 3: BJ, rkps 6514/IV: *Korespondencja J.I. Kraszewskiego*, seria III: *Listy z lat 1863–1887*, t. 54: *L (Labarry – Lemonier)*, k. 235: J. Laskowski do J.I. Kraszewskiego, list z 7.12.1879 r.

№ 4: BJ, rkps 6514/IV: *Korespondencja J.I. Kraszewskiego*, seria III: *Listy z lat 1863–1887*, t. 54, *L (Labarry – Lemonier)*, k. 236–236v: J. Laskowski do J.I. Kraszewskiego, list z 06.03.1880 r.

---

[1] Г. Бені ў маі 1880 г. звярнуўся да пецярбурскіх уладаў дазволіць яму выдаваць у Варшаве „Gazetę Świąteczną”. Пазітыўны адказ быў атрыманы ў верасні г. г. [Kmiecik 1971: 156].

[2] Томаш Настульчык, kierownik Centrum Badawczego Bibliografii Polskiej Estreicherów, лічыць, што тут ідзе гаворка не пра варшаўскае выданне *Książeczki*…, а пра запазычаную К. Эстрайхерам бібліяграфічную пазіцыю з *Katalogu dzieł nakładowych księgarni Aleksandra Nowoleckiego przy ulicy Krakowskie Przedmieście pod Nr. 457* (B. m. b. r. [Warszawa 1862, w 16ce, str. 8].

**№ 1**

|15r| d. 13/25 Marca – Wilno

Łaskawy Ziomku!

Chcąc przyczynić się, o ile to jest w możności mojéj, do składki, podniesionéj w Królewstwie (!), na rzecz pozostałych biednych rodzin po poległych ostatniemi czasy w Warszawie, poséłam na ręce Pana dwadzieścia egzemplarzy pisemka mego *Białoruski bandurzysta*, dla obrócenia dochodu z wyprzedaży na wsparcie najuboższéj z pomienionych rodzin. Cena téj książeczki jest 5 złp.

Dla księgozbioru Pana, jeżeli to pisemko może mieć wartość jaka, załączam jeden egzemplarz. Zbiorek mój jest złożony z kawałków, pisanych za granicą: wielu powyrzucałem wracając do kraju, inne wypadło zmienić albo wyrzuciła Cenzura. Uboga to praca, mizerna, témbardziej że poobrywana; lecz nie dla tego z nią wystąpiłem, aby się pochwalić – od takiego uczucia jestem dalekim. Ależ |15v| wartość jéj sam Pan ocenisz – chwalić się czy ganić siebie nie mam potrzeby. Jeżeli książka zasługuje na rozbiór, od gazety Pańskiej spodziewam się najbezstronniejszych uwag, przyjacielskich wskazówek, jeżeli tego mam prawo żądać, abym wiedział, czy mogę czasami odważyć się na słowo w pisaniu krajowém. Dawniej próbki robiłem do pism polskich za granicą bezimiennie, i te były przyjęte – nie pogardzano niemi. Wszakże nie zaszkodzi zrobić tu uwagę i nie dla formy tylko, że jak dawniejsze próby, tak teraźniejsza praca, nie z samolubstwa, a z zarozumienia powstały – zawsze miałem intencye szczere i te się schodziły do miary z intencyami moich kolegów, jako też tych wszystkich, co mają chęć spożytkowania życia na cele |16r| ogólniejsze, święte, z któremi nie może iść w parze zarozumienie ani żadna prywata. Tak i dalej, jeżeli pozwolicie, pisać będę.

Ze zbyciem tutejszym księgarzom mojej pracy ciężko idzie, w Warszawie może by się lepiej powiodło. Nie mam tam znajomych, i jeżeli to nie będzie uważane za zbytnie utrudzanie Pana, prosiłbym o łaskawe pośrednictwo Jego. Mam do zbycia 500 egzemplarzy i przystałbym na warunki, byleby zbyć za gotowiznę, niechby sobie cokolwiek więcej jak połowę ceny nabywcy ustąpić wypadło. Wezwano mię właśnie do Królewstwa dla zajęcia miejsca, a dla braku funduszu ruszyć się nie mogę. Przepraszam że do tyla przed nieznajomym jestem otwartym, ależ |16v| mniej więcej wszyscy jesteśmy swoi i jeżeli kto, to pewno pan niekorzystnie tego nie przyjmiesz.

Prosiłbym o łaskawą odpowiedź pod adresem: ulica Niemiecka, dom Szyszki, kwatera N 7.

Z uszanowaniem
Julian Laskowski

*Пераклад*

13/25 сакавіка – Вільня

Ласкавы Зямляча!

Жадаючы па меры сваіх магчымасцяў спрычыніцца да складак ахвяравання, збіранага ў Каралеўстве для бедных сем'яў забітых нядаўна ў Варшаве[1], пасылаю Пану дваццаць асобнікаў майго зборніка *Białoruski bandurzysta*, каб прыбытак ад продажу накіраваць на падтрымку сама беднай са згаданых сем'яў. Кошт гэтае кніжачкі – 5 злотых.

Для кнігазбору Пана, калі гэты зборнік можа мець нейкую каштоўнасць, я далучаю адзін асобнік. Мой зборнік складаецца з твораў, напісаных за мяжою: шмат я выкінуў, калі вяртаўся ў край, іншыя давялося змяніць альбо іх выкінула цэнзура. Гэта ўбогая праца, мізэрная, тым больш, што паабскубаная; але я не дзеля таго выступіў з ёй, каб пахваліцца – я далёкі ад такога пачуцця. Ды Пан сам можа ацаніць ейную вартасць – хваліцца ці ганіць сам сябе не маю патрэбы. Калі кніга заслугоўвае разгляду, дык я чакаю ад Панскае газеты непрадузятых заўваг, сяброўскіх падказак, калі я маю права гэтага жадаць, каб ведаць, ці магу я часам адважыцца на слова ў айчынным пісьменніцтве. Раней я ананімна высылаў тэксты ў польскія выданні за мяжой[2], і іх прымалі – імі не пагарджалі. Аднак тут не зашкодзіць адзначыць, і не дзеля формы толькі, што як даўнейшыя тэксты, так і цяперашняя праца ўзніклі не з самалюбства – у мяне заўсёды былі шчырыя намеры і яны ў пэўнай ступені суадносіліся з намерамі маіх калегаў, а таксама ўсіх тых, хто хоча прысвяціць сваё жыццё для больш агульных, святых мэтаў, з якімі не можа суіснаваць самалюбства альбо ўласны інтарэс. Так і далей, калі дазволіце, пісаць буду.

З цяжкасцю ўдаецца збываць сваю працу мясцовым кнігагандлярам, можа, у Варшаве пайшло б лепей? У мяне там няма знаёмых, і калі гэта не будзе палічана за занадта вялікае абцяжарванне Пана, я хацеў бы прасіць ласкава пра пасярэдніцтва. У мяне ёсць 500 асобнікаў для продажу, дык я пагаджуся з умовамі, каб толькі прадаць за наяўныя грошы, няхай сабе крыху больш за палову кошту гандляру выпадзе саступіць. Мяне ўласна запрашаюць у Каралеўства на пасаду, але з прычыны недахопу сродкаў я не магу рушыць. Выбачаюся, што ажно на столькі адкрываюся перад незнаёмым, але ж усе мы больш-менш свае, і як хто, але напэўна Пан не ўспрыме гэта кепска.

Прашу ласкавага адказу па адрасе: вуліца Нямецкая[3], дом Шышкі, кватэра № 7.

З шанаваннем,
Юльян Ляскоўскі

[1] Маюцца на ўвазе пяцёра забітых падчас першае "расстралянае" мірнае дэманстрацыі, якая адбылася 27 лютага 1861 г. у Варшаве.

[2] Маюцца на ўвазе польскія эміграцыйныя газеты 1850-х гг., у якіх сапраўды шматлікія матэрыялы друкаваліся без подпісу.

[3] Сёння – Vokiečių gatvė 26.

**№ 2**

|233r| Kraków – d. 29 paźdz. 1879

Wielmożny Panie!

Miałem to szczęście, że pierwsza książeczka moja *Białoruski Bandurzysta*, którą po powrocie z emigracji w Wilnie wydałem, przechodziła w r. 1861 (: w „Gaz. Polskiej":) osobistą recenzyę WPaną – i ta wypadła dla mnie zaszczytnie. To mi wystarczy może dla przypomnienia się WPanu.

Po r. 1864 umieszczałem prace moje w pismach warszawskich i zagranicznych polskich – do jednych bezimiennie pisałem, do innych zaś, jak „Gazeta Warszawska", „Polską", „Rolniczą" pod pseudonimem J. Korabicz, a następnie – w najnowszej walce o język w sądach gminnych – pisywać począłem listy chłopskie do „Gaz. Polskiej", datowane z wsi Koziej-Wólki i podpisywane „Marcin Czeronka".

To mi może za rekomendacyę do WPana wystarczy.

Mieszkam w Królestwie i mam zamiar wydawać w Warszawie pismo ludowe. Wracający ze zjazdu Krakowskiego obywatele moich okolic przywieźli wiadomość, że ten dział piśmiennictwa ma podlegać kontrolli i kierunkowi WPana. Byłby to jeden ze środków, pomyślanych jak najszczęśliwiej.

Ja próbowałem przed laty przejść na tę drogę pracy, widziałem bowiem, że dla wyrównania stosunków naszych i zasilenia ją jędrnością nizin społecznych, jest rzeczą niezbędną i najpilniejszą podnieść umysłowość mass. Pierwszą w tym kierunku książeczkę wydałem w Wilnie nakładem Syrkina, *Do moich braci Litwinów*. Za podstawę wziąłem trzeźwość, treść zaś stanowiły opowiadania „poprawionego gospodarza Andrzeja", który sam nie umiejąc pisać, uwagi swoje piśmiennemu człowiekowi dyktuje. Oparty na trzeźwości, dotknąłem stosunków ówczesnych (: ze względu na świeży wtedy ukaz o zniesieniu poddaństwa:), o ile to się zgodzić mogło z obostrzeniami cenzury. Kukolnik przepuścił i książeczka w sprawozdaniu Syrokomli dostąpiła uznania, gdy jednak Murawjew nastał do Wilna, nakazał ją ze wszystkich księgarń wyłapać – i spalił. Prawie jednocześnie z tem |233v| udało mi się przez cenzurę warszawską przeprowadzić inny rękopis: *Opowiadanie o Litwie* p. Korabicza i drukowałem to w „Kmiotku", po paru wszakże rozdziałach (: w r. 1863 :) policya dalszy druk zatrzymała i skonfiskowała rękopism.

Dziś, gdy warunki cenzuralne poczynają być łagodniejsze, zamierzam wrócić do pism ludowych i oddałem już do cenzury rękopism na małą książeczkę pod tyt: *Jak sobie przysporzyć ziemi i chleba*. Gdy książeczka ta wyjdzie, będzie moim obowiązkiem WPanu jeden egzemplarz przesłać. Do tytułu i treści powód to dało, że u nas w ostatnich czasach dużo folwarków jest wystawianych na sprzedaż, a nabywcami są głównie koloniści niemcy lub żydzi. Ziemia z rąk swoich wielkimi massami odpada, [w] jednym bowiem moim powiecie (: Mławski :) w tym roku sprzedano przybyszom 760 włok. Za jedyny środek dla odwrócenia tej klęski uważam [s]kłonienie włościan (: a są u nas wsie całe bardzo zasobne w gotówkę :), by brali udział w rozkupie na włoki folwarków – i to treść książeczki stanowi. W planie mam parę innych, ale rozszerzenie

książeczek u nas jest bardzo trudne, zrobiłem przeto do Peterburga podanie o pozwolenie na pismo ludowe. Mamy już w Warszawie jeden taki organ – „Zorzę", lecz redaktor p. Grajnert nie włada językiem ludowym, nie zna ludu wiejskiego, jego zwyczajów, wyobrażeń, potrzeb, ani też nie jest obyty z prawem obowiązującym w gminie. Wszystkie pisma warszawskie robią „Zorzy" zarzuty i nowe pismo za niezbędne uznają. Czy pozwolenie dostanę, jeszcze tego nie jestem pewny, lecz mam w odwodzie osobę, której władze nie odmówią konsensu.

Spotykamy się bardzo często z zarzutami, że u nas po wsiach nie ma ludzi umiejących czytać, w szkołach zaś wiejskich obowiązuje jedynie język rosyjski. Otóż co do tego, nie jest jeszcze tak źle, bo po za szkółkę wszędzie włościanie uczą dzieci po polsku, a i z pokolenia starszego w każdej prawie wsi mamy umiejących czytać. Pismo ludowe egzystować może, idzie tylko o to, żeby lud do czytania zachęcić, żeby w tem zasmakował i uznał potrzebę czytania. Jestem pewny, że od pierwszego numeru próbnego wymaganiu temu uczynię zadość i będę miał dostateczną liczbę prenumeratorów, żeby pismu zapewnić rozwój.

W tej chwili idzie mi o co innego – i to jest celem niniejszego listu, |234r| mianowicie: brak mi nakładu. Jest w widoku nakładca z rzemio[sła], ale z tem są związane i niedogodności, które pismo kapować mu[si], do tych zaś zaliczać muszę wymagania, tak często niezgodne z [nie]zbędnym kierunkiem, a potem, zarobkiem trzeba się dzielić z nakładcą, co dla redaktora, jeżeli naseryo oddać się ma przedmiotowi, najwięcej byłoby uciążliwem, bo egzystenyi jego ustalić się nie daje. Szukać między obywatelstwem naszem nakładce, do tego wielkich trze[ba] stosunków, a jest to także rzeczą za bardzo drażliwą.

Ponieważ WPan, jak czytałem już doniesienie o tem, masz do [*нечыт.*] swoich złożony fundusz na piśmiennictwo ludowe, uznaję prze[*нечыт.*] za najwłaściwsze zapytać się: czy cząstka tego funduszu może być przeznaczoną na naszą dzielnicę kraju i na jakich warunkach? Co do wskazówek i kontrolli WPana, temu poddaję się [*нечыт.*] najzupełniej.

Liczę na to, że WPan zechcesz zaszczycić mię swą odpowiedzią i pozostaję
z wysokiem dla Niego poważaniem
Sługa J. Laskowski

P. S. Adress mój: J. Laskowski – przez Warszawę – w Mławie.

Wycinek z „Gaz. Polskiej", jako próbę uzdolnienia mego do ludowego pisania przy niniejszym załączam.

*Пераклад*

Кракаў – 29 кастр. 1879 г.

Вяльможны Пане!

Мне пашчасціла, што на маю першую кніжачку *Białoruski Bandurzysta*, якую я выдаў пасля вяртання з эміграцыі ў Вільні ў 1861 г., Васпан асабіста

напісаў рэцэнзію (у „Gaz. Polskiej”[1]) – і была яна для мяне пачэснаю. Гэтага, можа, дастаткова, каб нагадаць пра сябе Васпану.

Пасля 1864 г. я друкаваў свае працы ў варшаўскіх і замежных польскіх часопісах – да адных пісаў ананімна[2], да іншых, як „Gazeta Warszawska”, „Polska”, „Rolnicza” пад псеўданімам J. Korabicz, а потым – у найноўшай барацьбе за мову ў гмінных судах – я пачаў пісаць сялянскія лісты ў „Gaz. Polską”, датаваныя з вёскі Козя-Вулька і падпісаныя “Marcin Czeronka”.

Гэтага, можа, будзе дастаткова ў якасці рэкамендацыі мяне Васпану.

Я жыву ў Каралеўстве Польскім і маю намер выдаваць газету для народа ў Варшаве. Абывацелі з мае ваколіцы, вярнуўшыся з Кракаўскага з'езду[3], прывезлі вестку, што гэты аддзел пісьменства будзе падлягаць кантролю і кіраўніцтву Васпана. Гэта было б адной з самых шчасліва задуманых мер.

Колькі гадоў таму я спрабаваў перайсці на такі шлях працы, бо бачыў, што для выраўноўвання нашых дачыненняў і ўмацавання цвёрдасцю сацыяльных нізінаў, ён – справа абавязковая і самая пільная дзеля развіцця свядомасці масаў. Першую ў гэтым кірунку кніжачку я выдаў ў Вільні ў выдавецтве Сыркіна – *Do moich braci Litwinów*[4]. За аснову я ўзяў цвярозасць, а змест склалі аповеды “выпраўленага гаспадара Анджэя”, які, не ўмеючы сам пісаць, дыктуе свае развагі пісьменнаму чалавеку. Зыходзячы з цвярозасці, я закрануў тагачаснае сацыяльнае становішча (з прычыны свежага тады ўказу пра адмену прыгоннага ладу), наколькі гэта магло адпавядаць абмежаванням цэнзуры. Кукальнік прапусціў, і кніжачка ў рэцэнзіі Сыракомлі атрымала прызнанне, аднак калі прыехаў у Вільню Мураўёў, дык загадаў канфіскаваць яе з усіх кнігарняў – і спаліў. Амаль адначасова з ёю мне ўдалося правесці праз варшаўскую цэнзуру іншы рукапіс – *Opowiadanie o Litwie* p. Korabicza, і я друкаваў яго ў „Kmiotku”, аднак пасля публікацыі некалькіх раздзелаў (у 1863 г.[5]) паліцыя спыніла далейшы друк і канфіскавала рукапіс.

Сёння, калі цэнзурная ўмовы пачынаюць быць больш лагоднымі, я маю намер вярнуцца да выданняў для народа і ўжо здаў у цэнзуру рукапіс невялічкае кніжачкі пад назвай *Jak sobie przysporzyć ziemi i chleba*[6]. Калі гэтая кніжачка выйдзе, дык маім абавязкам будзе выслаць Васпану асобнік. Назва і змест паходзяць з тае прычыны, што ў нас апошнім часам шмат выстаўляецца на продаж фальваркаў, а пакупнікамі з'яўляюцца

---

[1] Гл.: *Wyszedł w Wilnie… „Gazeta Polska”* 1861, nr 97, s. 1.

[2] Што публікаваў Ю. Ляскоўскі ў польскім друку ананімна, – невядома.

[3] Маецца на ўвазе ўрачыстасці ў Кракаве ў гонар 50-годдзя літаратурнае працы Ю.І. Крашэўскага, якія адбыліся напачатку кастрычніка 1879 г. і ў якіх бралі ўдзел больш за 11 тысячаў гасцей з розных рэгіёнаў Польшчы і Літвы.

[4] Невядома чаму Ю. Ляскоўскі так называе сваю *Książeczkę przeciw pijaństwu. Do mego kuma Macieja i do tych wszystkich ludzi, którzy powinni upamiętać się w nałogu pijaństwa. Od poprawionego gospodarza Andrzeja*.

[5] *Opowiadanie o Litwie przez Janka Korabicza* друкавалася ў штотыднёвай газеце „Kmiotek” ад 25 ліпеня 1863 г. па 6 лютага 1864 г.

[6] Кніжачка выйшла з друку ў 1883 г.

пераважна нямецкія каланісты альбо жыды. Зямля выпадае з нашых рук у вялікіх памерах, бо ў адным толькі маім павеце (Млаўскі) у гэтым годзе было прададзена прыхадням 760 валок. Я лічу, што адзіным сродкам прадухіліць гэтае няшчасце з'яўляецца схіленне сялянаў (а ёсць у нас вёскі вельмі багатыя на грошы) да ўдзелу ў выкупе фальваркаў на валокі – і гэта складае змест брашуры. У планах я маю яшчэ некалькі, але распаўсюджванне ў нас кніжачак ідзе вельмі цяжка, дык звярнуўся ў Пецярбург па дазвол на выданне газеты для народа. Мы ў Варшаве ўжо маем адзін такі орган – „Zorzę", але рэдактар, пан Грайнэрт, не валодае народнаю моваю, не ведае вясковага люду, яго звычаяў, уяўленняў, патрэбаў, не знаёмы з правам, якое дзейнічае ў гміне. Усе варшаўскія газеты робяць „Zorzy" закіды і лічаць, што неабходная новая газета. Ці атрымаю я дазвол, – пакуль няма пэўнасці, але ў мяне ёсць чалавек у рэзерве, якому ўлады не адмовяць.

Вельмі часта мы сутыкаемся з закідамі, што ў нас па вёсках няма людзей, якія ўмеюць чытаць, а ў сельскіх школах вучацца толькі па-расейску[1]. Дык вось, адносна гэтага: не так яшчэ ўсё кепска, бо па-за школкаю паўсюль сяляне вучаць дзяцей па-польску, а і сярод старэйшага пакалення амаль у кожнай вёсцы ёсць людзі, якія ўмеюць чытаць. Газета для народа можа існаваць, толькі трэба заахвочваць люд да чытання, каб ён адчуваў смак і прызнаў патрэбу чытання. Упэўнены, што з першага пробнага нумара я выканаю гэта патрабаванне і буду мець дастатковую колькасць падпісчыкаў, каб забяспечыць развіццё газеты.

На дадзены момант я маю на ўвазе нешта іншае – і гэта мэта майго ліста, а менавіта: у мяне няма фінансавання. Ёсць на прыкмеце прафесійны выдавец, але з ім звязаныя і нязручнасці, якія газета павінна мець на ўвазе, да іх я павінен залічыць вымаганні, так часта несумяшчальныя з патрэбным кірункам, а пасля і прыбыткам трэба дзяліцца з выдаўцом, што для рэдактара, калі ён хоча паважна прысвяціць сябе гэтаму прадмету, было б найбольш цяжкім, бо яго экзістэнцыі ўсталявацца не дае. Шукаць сярод нашых абывацеляў выдаўца, дык трэба мець вялікае знаёмства, а гэта таксама надта далікатная рэч.

Так як Васпан, як я ўжо чытаў паведамленне пра гэта, маеш да свае [дыспазіцыі] фонд на выданні для народа, то лічу слушным запытацца, ці можа частка гэтага фонду быць прызначаная дзеля нашага рэгіёну краю і на якіх умовах? Што тычыцца кіраўніцтва і кантролю Васпана, дык я падпарадкоўваюся [*нечыт.*] цалкам.

Я спадзяюся, што Васпан ушануе мяне сваім адказам і
застаюся
з вялікай павагай да Яго
Слуга Ю. Ляскоўскі

---

[1] Пытанне пра мову, на якой вялася школьная адукацыя ў Польшчы і Літве, Ю. Ляскоўскі закрануў у шэрагу сваіх публікацый. У тым ліку ў артыкуле *Słówko o pieśni* („Nowiny" 1882, nr 287 (5.10/17.10) і nr 288 (6.10/18.10).

P. S. Мой адрас: Ю. Ляскоўскі – праз Варшаву – у Млаву.

Выцінку з „Gaz. Polskiej”[1], як прыклад мае здольнасці пісаць у народным духу, далучаю да ліста.

**№ 3**

|235r| Mława – d. 7 grudnia 1879

Wielmożny Panie!

Odpowiedź WPana na list z Krakowa posłany, w interesie pisma ludowego w Warszawie, miałem zaszczyt otrzymać. Dziś mam co innego na względzie. Wiem, że zdrowie WPana i różnorodność zajęć nie zostawia Mu dużo wolnego czasu; są wszakże kwestye ogólniejszego znaczenie, co do których rada wspólna jest konieczna, żeby roboty u nas podejmowane nie rozbiegały się samopas w kierunkach nie zupełnie zgodnych, a często wręcz sobie przeciwnych, jak tego tyle mamy przykładów. Potrzebny jest nam pewny punkt oparcia, regulacya drukowanego słowa, koncentrować się zaś możemy tylko obok tych mężów zaufania, których wskazuje nam ogólne uznanie kraju. Idąc za tą wskazówką musiałem zrobić zarządzenie, aby do approbaty WPana została przesłana broszura moja z Krakowa. Dotyczy ona chwili obecnej położenia naszego. Idzie o to, czy wyjścia z tego położenia mamy wyczekiwać znowu od losu i wypadków, czyli też do zmiany sami rękę przyłożyć winniśmy, w jakiej mierze i z jakim prawdopodobnie skutkiem? Broszura napisana rok temu, w późniejszym zaś czasie dodałem do niej jeden ustęp tylko, dotyczący znanej (: z września r. b. :) wizyty ks. B… w Wiedniu. Być może, że w obecnym czasie coś ująć, albo dodać wypadnie – przy swojem upierać się nie myślę; rozumiem przecież, że gdy mówią o nas… zatem i my coś więcej zasadniczego powiedzieć winniśmy, niż to, co dorywczo tylko wygłaszamy w dziennikach. Broszurę prześle do Drezna p. Apollin Hofmeister z Krakowa, blizki znajomy i dawny sąsiad brata WPana. Czy ma ma (sic!) być drukowana, cała lub w części, albo za niewłaściwą na czas obecny poczytana zostanie, niech mi będzie wolno to całkowicie uznaniu WPana zostawić. W każdym razie pragnąłbym następnie o losie jej coś wiedzieć, czego mi Szanowny Pan może nie odmówisz, gdy tę robotę moją raczysz przejrzeć i należycie ocenić.

Z wysokim szacunkiem i poważaniem
J. Laskowski

Adress mój:
[Prz]ez Warszawę – w Mławie.

[1] Да ліста далучана выцінка з „Gazety Polskiej” [1879, nr 199 (24.08/5.09)] з артыкулам: Czeronka Marcin, *Korrespondencye „Gazety Polskiej”. Kozia-Wólka, przy kolei nadwiślańskiej, d. 1 sierpnia r. 1879*.

*Пераклад*

Млава – 7 снежня 1879

Вяльможны Пане!

Меў гонар атрымаць адказ Васпана на ліст з Кракава, дасланы ў справе газеты для народа ў Варшаве. Сёння я маю на ўвазе нешта іншае. Я ведаю, што здароўе Васпана і разнастайнасць заняткаў не пакідаюць Яму шмат вольнага часу; ёсць, аднак, праблемы ўсеагульнага значэння, па якіх патрэбная супольная рада, каб працы, якія распачынаюцца ў нас, не разыходзіліся самапасам ў кірунках не зусім згодных, а часта нават супрацьлеглых адзін аднаму, чаму так шмат прыкладаў. Нам патрэбная цвёрдая апора, упарадкаванне друкаванага слова, а можам мы гуртавацца толькі вакол тых мужоў даверу, на якіх нам паказвае ўсеагульнае прызнанне ў краі. Прытрымліваючыся гэтае парады, я мусіў загадаць, каб мая кніжачка[1] была выслана з Кракава дзеля апрабаты Васпана. Гаворка ў ёй ідзе пра наша цяперашняе становішча. Пытанне ў тым, ці чакаць нам выйсця з гэтае сітуацыі зноў ад лёсу і выпадкаў, ці павінны мы дзеля пераменаў самі прыкласці руку, і ў якой ступені і з якім верагодным эфектам? Кніжачка напісаная год таму, пазней я дадаў да яе толькі адзін фрагмент, які тычыцца вядомага (з верасня бягучага года) візіту кс. Б… у Вене[2]. Магчыма, сёння трэба будзе нешта адняць ці дадаць – я не думаю настойваць на сваім; бо разумею, што калі пра нас гавораць... значыць, і нам трэба казаць нешта больш прынцыповае, чым тое, што мы толькі зрэдку друкуем у штотыднёвіках. Кніжачку дашле ў Дрэздэн п. Апалін Гофмайстэр[3] з Кракава, блізкі знаёмы і даўні сусед брата Васпана[4]. Ці будзе яна надрукаваная, цалкам альбо часткова, ці будзе прызнаная неадпаведная цяпер, – дазволю сабе цалкам спадзявацца на меркаванне Васпана. Ва ўсялякім разе, я хацеў бы даведацца пра яе далейшы лёс, чаго мне Шаноўны Пан, можа, не адмовіць, калі будзе мець ласку гэтую маю працу прачытаць і належна ацаніць.

З вялікай павагай і шанаваннем
Ю. Ляскоўскі

Мой адрас:
Праз Варшаву – у Млаву.

---

[1] Маецца на ўвазе рукапіс кніжачкі *Polska i Rossya wobec idei słowiańskiej*.

[2] Гаворка пра сакрэтныя перамовы ў Вене ў верасні 1879 г. міністра замежных спраў Аўстрыйскай імперыі графа Дзьюла Андрашы (1823–1890) з канцлерам Нямецкай імперыі Ота фон Бісмаркам (1815–1898) у справе заключэння аўстра-германскага абарончага саюза.

[3] Гаворка пра Апаліна Гофмайстэра (1825–1890), аднаго з кіраўнікоў нацыянальна-вызвольнага руху на Берасцейшчыне, катаржаніна і эмігранта (з 1873 г.); сваяка (па маці?) Ю. Ляскоўскага. Магчыма, якраз у яго спыняўся ў Кракаве Ю. Ляскоўскі.

[4] Гаворка пра Каятана Крашэўскага (1827–1896), малодшага брата Юзафа Ігната.

**№ 4**

|236r| Lwów – d. 6 marca 1880 r.

Wielmożny Panie!

W dalszym ciągu listu mego z d. 7 grudnia r. zeszł. mnie wypadło pisać do WPana dzisiaj ze Lwowa. Tak się złożyły okoliczności, że musiałem usunąć się na czas jakiś z Królestwa, dając nateraz odprawę projektowi nowego pisma ludowego w Warszawie. Kiedy powrócę, nie wiem i to widłami pisane, a widły te już trzeci raz w życiu wyrzucają mię z domu. Tu mam tyle teraz wolnego czasu – jak zwykle na bezchlebiu i między obcymi zupełnie ludźmi, że mogę przejrzeć raz jeszcze, zastanowić się i na zimno rozważyć błędy mojej broszury: *Polska i Rossya w obec idei słowiańskiej, przez Mroczka*, którą to broszurę w rękopiśmie do W. Pana przesłał z Krakowa powinowaty mój p. Apollin Hofmeister. Wiem, że na list mój, z Mławy pisany, raczyłeś WPan dać kilka słów odpowiedzi, ale listu tego ja nie czytałem, bo odebrany był w domu wtedy, gdy ja byłem na Litwie. Wracając ztamtąd, już nie mogłem nawet na chwilę wstąpić do domu, ale z Warszawy pojechałem przez Kraków do Lwowa. Tak to czasami los ludźmi rzuca!

Upraszam najuprzejmiej WPana o wysłanie mi do Lwowa pomienionego rękopismu pod adresem:

Administracya „Dziennika Polskiego" (: dla J. Laskowskiego :) we Lwowie.

Przepraszam WPana, że śmiałem tyle Mu z tą broszurą zadać fatygi. Jeżeli wolno, prosiłbym o parę słów informacyi, czy |236v| broszurę tę (: rozumie się już przerobioną :) uznajesz WPan za właściwe puścić w obecnym czasie? Dużo jest teraz w tej samej kwestyi gawędy, ale zasadniczo jeszcze jej nie postawiono. Ja zamierzam znacznie rozwlekłość jej skrócić i prawdopodobnie wyjdzie ⅓ część tylko.

Z głębokim szacunkiem i poważaniem
J. Laskowski

*Пераклад*

Львоў – 6 сакавіка 1880 г.

Вяльможны Пане!

Працягваючы свой ліст ад 7 снежня мінулага года, выпадае мне сёння пісаць Васпану са Львова. Так склаліся абставіны, што я вымушаны быў на некаторы час пакінуць Каралеўства, адмаўляючыся цяпер ад праекту новае газеты для народа ў Варшаве. Калі я вярнуся, – не ведаю, і гэта віламі па вадзе пісана, а гэтыя вілы мяне ўжо трэці раз у жыцці выкідваюць з дому[1]. Тут у мяне цяпер столькі вольнага часу – як звычайна на бясхлебіцы і сярод зусім чужых людзей, што я магу яшчэ раз парагледзець, падумаць і цвяроза разважыць памылкі свае кніжачкі *Polska i Rossya w obec*

[1] Відавочна, аўтар мае на ўвазе свае ўцёкі з Вільні ў 1849 г., выезд у Каралеўства ў 1863 г. і ўцёкі ў снежні 1879 г. ці студзені 1880 г. у Кракаў і Львоў.

*idei słowiańskiej, przez Mroczka*, якую ў рукапісе Васпану даслаў з Кракава мой сваяк п. Апалін Гофмайстэр. Ведаю, што Васпан меў ласку адказаць на мой ліст з Млавы, але я яго не чытаў, бо атрымалі яго дома, калі быў на Літве[1]. Вяртаючыся адтуль, я не мог нават на хвіліну зазірнуць дадому, а з Варшавы паехаў праз Кракаў у Львоў. Вось так часам лёс кідае людзей!

Згаданы рукапіс вельмі прашу Васпана даслаць мне ў Львоў на адрас:

Administracya „Dziennika Polskiego" (dla J. Laskowskiego) we Lwowie.

Перапрашаю Васпана, што адважыўся так турбаваць Яго гэтай кніжачкай. Калі можна, я хацеў бы папрасіць некалькі слоў інфармацыі, ці гэтую кніжачку (разумеецца, ужо перапрацаваную) Васпан лічыш мэтазгодным апублікаваць цяпер? Па гэтым жа пытанні сёння шмат размоў, але пакуль яго толкам належна не паставілі. Я збіраюся значна скараціць яе, і, праўдападобна, выйдзе толькі ⅓ частка.

З глыбокай павагай і шанаваннем
Ю. Ляскоўскі

[1] Побыт Ю. Ляскоўскага на Літве і Беларусі пацвярджаецца артыкулам *Słówko o pieśni* („Nowiny" 1882, nr 287 (5.10/17.10) і nr 288 (6.10/18.10).

## Палеміка з Юзафам Корвін-Кучынскім

Расейска-славянскія дзеячы пасляпаўстанцкага часу вялі актыўную працу дзеля русіфікацыі колісь далучаных, але ўсё яшчэ неасвоеных зямель былое Рэчы Паспалітае. Славянскі камітэт, зважаючы на супрацiў народаў невізантыйскае культуры і рэлігіі, падрыхтаваў у сярэдзіне 1870-х гг. праект мемарандуму спадкаемцы расейскага трону, у якім прапаноўвалася "аддаць" славян-католікаў аўстрыйцам і прусакам, адначасна з'яднаўшы пад скіпетрам цара славян-праваслаўных.

Новы падзел тэрыторый дазволіў бы Расеі ліквідаваць напружанне на заходніх межах: у імперыі славянін станавіўся расіянінам-рускім, а Аўстрыя і Прусія без цяжкасцяў (так лічыў Славянскі камітэт) германізавалі б чэхаў і палякаў, тым самым славянскае пытанне ў Еўропе было б канчаткова вырашана.

У 1870–1880-я гг. працэсы русіфікацыі, актывізаваныя колісь Мураўёвым-вешальнікам на беларуска-ліцвінскіх землях, набылі, здавалася, незваротны характар. Не кажучы ўжо пра праваслаўных, значная частка прадстаўнікоў невізантыйскае інтэлігенцыі, якая атрымала адукацыю ў расейскіх навучальных установах, ці не цалкам пагадзілася з новым цывілізацыйным раскладам. З'явіліся святары, што паступова імкнуліся русіфікаваць касцёл; расейскі настаўнік, расейскі чыноўнік і расейскі поп паступова русіфікавалі жыццё ў «Северо-Западном крае».

Характэрным у гэтых адносінах быў невялікі артыкул, а хутчэй – публікацыя беларускіх народных песень у варшаўскай „Gazecie Polskiej" у 1882 г. пад тытулам *Z Polesia mińskiego*.

Трэба сказаць, што ў гэты час даследаванне беларускага фальклору і этнаграфіі ўжо фактычна "перайшло" ад польска-ліцвінскіх навукоўцаў да "заходнерусаў". Аўтарытэтным даследнікам становіцца Пётр Бяссонаў (1828–1898), які за пару гадоў побыту ў Вільні падрыхтаваў зборнік *Бѣлорусскія пѣсни, съ подробными объясненіями ихъ творчества и языка, съ очерками народнаго обряда, обычая и всего быта* (1871); ягоную справу працягвае Павел Шэйн (1826–1900) сваім зборнікам *Бѣлорусскія народныя пѣсни, съ относящимися къ нимъ обрядами, обычаями и суеверіями* (1874). Выкасаваная рэпрэсіямі з грамадска-палітычнага жыцця мясцовая інтэлігенцыя – ці то са сваіх фальваркаў, ці то з Сібіры, ці то з Каралеўства Польскага – адно моўчкі назірае за тым, што адбываецца ў краі. Яшчэ на пачатку 1860-х, седзячы пад хатнім арыштам у Барэйкаўшчыне, У. Сыракомля іранічна выказаўся пра патрыятычную паставу насельніка Літвы-Беларусі:

> A gdy się serce naprawdę rozboli,
> Marząc o swoim i Ojczyzny losie:

Kładnę się w cieniu szerokiej topoli
I biję muchy na nosie.
[гл.: Fornalczyk 1979: 492].

Менавіта такую паставу, г. зн. паставу новага грамадзяніна-абывацеля Літвы-Беларусі прадэманстраваў Юзаф Корвін-Кучынскі (1863–1918) у вышэйзгаданым артыкуле ў „Gazecie Polskiej". Дзевятнаццацігадовы "філосаф", што ўцёк ад бацькоў і са Слуцкай гімназіі ў Варшаву, спакваля і непрыкметна даводзіў, што Мінскае Палессе (так, заўважым, край пазбываўся традыцыйнага наймення), прасякнутае "цывілізацыйным сокам", ці не цалкам пагадзілася са сваім лёсам і шчаслівa ды спакойна стала на новы шлях.

Аднак Ю. Корвін-Кучынскі не быў тут арыгінальным. Яшчэ ў 1874 г. А.Г. Кіркор выказаўся падобным чынам:

> Były to ostatnie wysilenia dla dźwignienia prastarego piśmiennictwa białoruskiego; dla utrzymania odrębnej narodowości i zaradzenia, ażeby się niezlała z obcą.
> Smutne nasze dzieje z lat ostatnich zmieniły postać rzeczy. Niewolno już śpiewać pieśniarzom i dudarzom białoruskim. Białorusin niezobaczy więcej swej pracy drukiem ogłoszonej. Dźwięk mowy ojczystej niezabrzmi mu nawet w kościele. W szkołach dziś licznych uczy się po rossyjsku. Białoruś umrzeć musi, jako odrębne, jedne z najstarszych plemion słowiańskich, od wieku IX przeważnie występujące w dziejach Litwy i Rusi, umrze w swej narodowej odrębności.
> Możnaby się pocieszać myślą, że naród choć często na pozór nieumie historyi, głęboko ją chowa jednakże w swem łonie. Ale i ta myśl nieda się ściśle do Białorusów zastosować, bo chiński mur przedziela już massy ludu od inteligencyi krajowej.
> Możnaby raczej pocieszać się inną piękną myślą, przez jednego z naszych dziejopisów wypowiedzianą: „Niezakląć losów pieczęcią, niespowić ducha w pergamin!" [Kirkor 1874: 55].

Праўда, у Ю. Корвіна-Кучынскага цалкам знік песімістычна-настальгічны пафас кіркораўскага "некралогу" па беларушчыне. Відавочна, малады паэт, каб не мець праблемаў з цэнзурай (як яму раілі рэдактары варшаўскіх выданняў [Корвинъ-Кучинскій 1903: 544]), тут, як і ў вершах, імкнецца да жыццесцвярджальнасці і весялосці: Мінскае Палессе ўжо траціць сваю ранейшую самабытнасць, а пройдзе яшчэ колькі дзясяткаў гадоў (як люд набудзе адукацыю), дык анічога ад былое адметнасці не застанецца.

Мы не ведам, наколькі прадуманай была канцэпцыя публікацыі маладога чалавека. Магчыма, ягоныя высновы – адно спроба ў духу варшаўскіх пазітывістаў сказаць нешта сучаснае і прагрэсіўнае дзеля ганарару, які так неабходны быў яму на разгульнае, хоць вельмі часта і галоднае жыццё ў Варшаве. Сам Ю. Корвін-Кучынскі пра гэта напісаў толькі адну фразу:

Я привезъ въ Варшаву нѣсколько десятковъ записанныхъ мною бѣлорусскихъ пѣсенъ, и ихъ охотно стали печатать въ «Газетѣ Польской»” [Корвинъ-Кучинскій 1903: 519].

Але варта звярнуць увагу на наступнае. Ю. Корвін-Кучынскі наладзіў блізкія дачыненні з рэдакцыяй „Gazety Polskiej”, ейным рэдактарам Эдвардам Леа (1829–1901), дзядзькам банкіра, выдаўца газеты Станіслава Крананберга (1846–1894), і асабліва з сакратаром рэдакцыі Дыянізам Гэнкелем (1842–1920), былым сібірскім выгнаннікам, што ў Куядзе Аёкскае воласці пазнаёміўся з Э.Ф. Карафа-Корбутам і паспрыяў уладкаванню беларускага паэта на працу ў газеце[1]. Узнікае пытанне: а ці не сустракаўся Ю. Корвін-Кучынскі з Ялегі Пранцішам Вулем у рэдакцыі? Ва ўспамінах *Изъ моего прошлаго* пра гэта не згадваецца. Аднак у часе свайго побыту ў Варшаве Ю. Корвін-Кучынскі няраз шукаў дапамогі ў суайчыннікаў з Літвы-Беларусі – у Антона Эдварда Адынца, Адама Плуга і, відаць, іншых. Цікава тое, што пра А.Э. Адынца ён успамінае цёпла і прыязна (былы філарэт дапамагаў нават бацьку Ю. Корвіна-Кучынскага), а пра А. Плуга – са шкадаваннем («тяжелая, многолѣтняя журнальная работа незамѣтно поглощала всѣ его силы» [Корвинъ-Кучинскій 1903: 136]). З абодвума ён часта сустракаўся, хоць розніца ва ўзросце абумовіла і розніцу ў поглядах. Дык ці не своеасаблівай рэплікай у бок “беларускага гуртка ў Варшаве” былі корвінскія прароцтвы адносна беларускае мовы і беларускае народнае песні?

У сваіх успамінах Ю. Корвін-Кучынскі піша пра публікацыю беларускіх жніўных і дажынкавых песень як пра нешта зусім нязначнае ды не згадвае пра крытычны адказ J. Korabicza. Аднак, трэба думаць, што справа гэтая была для яго істотнаю, бо да яе ён неўзабаве вярнуўся. Мы маем на ўвазе ягоны артыкул „polemicznej treści” *Słówko o narzeczu i ludowej poezyi białorusinów*, які ён даслаў у рэдакцыю пецярбургскага „Kraju”. Тут ён, як сведчыць рэдакцыйная нататка,

> uważał za niezbędne poprzeć niektóre ze swoich zapatrywań się na przedmiot szeregiem twierdzeń takich, jak np.: „wszelkie narzecza ludowe zacierają coraz bardziej swój indywidualizm i poddają się wpływowi języka kulturnego, cywilizacyjnego”; „narzecze nie posiadające literatury, tem samem skazane jest na zagładę”; „dążenie za postępem myśli ludzkiej, podsycanie pojęć coraz świeżemi nabytkami ogólno-ludzkich, wyższych, naukowo przetrawionych wyobrażeń, dostępnem jest tylko dla mowy, mającej swą przeszłość historyczną, wykształconej pracą stuleci”; „wiara w przyszłość mowy ludowej nie zupełnie odpowiada prawom postępu, które powiadają, że organizacya słabsza musi być pochłoniętą przez silniejszą...” [гл.: Jelski 1885, nr 5: 13].

Аляксандар Ельскі не ўхваліў да друку артыкул Ю. Корвіна-Кучынскага. Рэдакцыя таксама бачыла пэўныя супярэчнасці ў сцвярджэннях маладога публіцыста. Адно з іх яна падала ў сваёй нататцы, просячы „kompetentniejszego znawcę rzeczy białoruskich, p. Jelskiego, o kilka uwag nad

[1] З 1891 г. ён працаваў у рэдакцыі „Biblioteki Warszawskiej”, але, відаць, падтрымліваў дачыненні з былым калегаю-выгнаннікам.

pesymistyczną tezą p. Kuczyńskiego”. Для нас гэты фрагмент надзвычай цікавы: у ім працытаваны пераклад Ю. Корвіным-Кучынскім нязнанага твора яўна літаратурна паходжання. У сувязі з тым, што артыкул *Słówko o narzeczu i ludowej poezyi Białorusinów* не захаваўся, яшчэ раз працытуем рэдакцыйную нататку:

> z kilku tłumaczonych pieśni, które autor łaskawie dołączyć dla nas zechciał do swego artykułu, patrzy to jakoś niby inaczej. Jest w tem, jeśli nie moc i podniosłość myśli poetycznej, to w każdym razie nie marne też tylko ziarnko lada jakiego uczucia. Co np. zarzucić, z punktu nawet poetyczności sztucznej (literackiej) tym oto zwrotkom.
>
> Kraju rodzony,
> Z dalekiej strony
> Jęk łzą zwilżony
> Z serca ci ślę.
>
> Tam szumią puszcze,
> Tam fala pluszcze,
> Tam w dzikie bluszcze
> Brzeg stroi się.
>
> Tuman nad siołem...
> A chaty społem
> Słomianem czołem
> Patrzą z za mgły.
>
> Dalej krzyż stoi,
> Darń groby stroi...
> Tam wszyscy moi –
> Tam moje łzy!
> [гл.: Jelski 1885, nr 5: 13].

Такім чынам, з аднаго боку, Ю. Корвін-Кучынскі сцвярджае, што беларусы не маюць літаратуры, а з другога, – ведае творы гэтае літаратуры. Ці ён проста палічыў тэкст, які пераклаў, фальклорным? Так бы мовіць, пайшоў следам за Ю. Ляскоўскім-Карабічам, які хіба свядома выдаваў літаратурнае за народнае.

Публікацыя ў „Gazecie Polskiej” дванаццаці беларускіх народных песень[1] не была для Ю. Корвіна-Кучынскага першай у галіне фальклору. Яшчэ ў 1880 г., у свой першы прыезд у Варшаву ён апублікаваў у газеце

[1] Насамрэч – адзінаццаці. Бо песня *Świeci, świeci miésiaczko*… – гэта беларусіфікаваная расейская, варыянт якое, напр., запісаў у 1846 г. у Зарайскім павеце Пётр Кірэеўскі:

> Просвети, светел месяц, куды мой милой прошел,
> Пошел разлюбезный мой вдоль улицы во конец.
> Вдоль улицы во конец да во крайний во дворок.
> Во крайнем во дворику была девка хороша,
> Была девка хороша, раскрасавица-душа.
> [*Собрание песен*…, online].

„Kurjer Warszawski" легенду пра паўстанне царквы "Прошча" ў лесе за пару вёрстаў ад двара і вёскі Карытна: „Lud w opowieść powyższą wierzy silnie i z jego ust tutaj ją przywiedziono" [Kucz. Józ. 1880, nr 234: 3]. У вёсцы Карытна (сёння: Карытнае Асіповіцкага раёна), відавочна, і былі запісаныя ім песні. Увогуле, з гэтай мясцовасцю былі звязаныя дзіцячыя гады літаратара: у 1868 г. ягоны бацька Ян Кучынскі ўзяў маёнтак Карытна[1] ў арэнду ў Вайніловічаў[2]. Тут, у Карытна, у часе жніва ён напісаў шэраг вершаў, якія пасля друкаваў у варшаўскай перыёдыцы і сваім першым зборніку вершаў. Пра гэта сведчаць і даты напісання твораў, і іхні змест, і іхнія тытулы (*Mojej Cygance*, *Pożegnanie Korytna*):

Pamiętam – kiedy w złotym wianku żyta –
Szłaś jak królewna w otoczeniu tłumnem, –
Przed tobą – na sto głosów pieśń rozbita
Biegła – i wpadła przepełnionem gumnem
Przed ganek dworku, kędy ogorzały
Szlachcic ku tobie podszedł uroczyście, –
Zdjął wianek... oczy pięknie mu się śmiały –
I wołał wszystkich: „na chleb-sól się zbliżcie!"
[Korwin-Kuczyński 1883: 140].

Знаёмства з абрадам дажынак ў беларускай вёсцы сталася для Ю. Корвіна-Кучынскага і крыніцаю натхнення для ягонае музы, і захапленнем (на жаль, часовым) беларускім меласам, і падставаю для песімістычных высноў, якія нарадзіліся ўжо ў Варшаве і, магчыма, пад уплывам нязнаных сёння кантактаў і дыскусій.

Запісаныя Ю. Корвіным-Кучынскім песні друкаваліся ў рубрыцы „Z różnych stron" у пяці нумарах „Gazety Polskiej" заўсёды пад тытулам *Z Polesia mińskiego*, што азначала: матэрыял занатаваны на Беларусі, хоць літаратар ужо ў жніўні прыехаў у Варшаву і тут рыхтаваў яго да публікацыі невялікімі часткамі.

Ю. Ляскоўскі ў другой палове 1882 г. працягваў супрацоўнічаць з „Gazetą Polską", друкуючы свае допісы пад псеўданімамі „J. Korabicz" і „Marcin Mizera" (магчыма, яшчэ і ананімна). Аднак палемічны выступ супраць песімістычных высноў Ю. Корвіна-Кучынскага ён змясціў у газеце Баляслава Пруса „Nowiny". Прычыны невядомыя і не зусім зразумелыя. Можа, рэдактар ці сакратар выдання не жадалі абразіць маладога паэта, якому увесь час спрыялі і дапамагалі? Сапраўды, з ўспамінаў Ю. Корвіна-Кучынскага мы ведаем, што на сродкі Ст. Крананберга ён год вучыўся ў Ягелонскім універсітэце, што быў частым госцем у салоне Д. Гэнкеля.

---

[1] Цікава, што 5 жніўня 1868 г. В. Дунін.Марцінкевіч напісаў у маёнтку Карытна верш-віншаванне бацьку Івана і Антона Луцкевічаў Яну Луцкевічу (1831–1895), які ў той час арандаваў у Ксавэра Вайніловіча суседні маёнтак Тарасэвічы [гл. *Нязнаны верш Вінцука Дунін-Марцінкевіча* 1924: 121–122].

[2] У Варшаве Ю. Корвін-Кучынскі супрацоўнічаў таксама з рэдакцыяй *Słownika Geograficznego*. Прынамсі, напісаў артыкул пра роднае Карытна [гл.: *Słownik Geograficzny* 1883, IV: 431–432].

Ю. Ляскоўскі, вярнуўшыся з трэцяе свае эміграцыі ў Каралеўства хіба яшчэ не асталяваўся ў Варшаве: у асобных ягоных допісах апавядаецца пра варшаўскае жыццё[1], іншыя закранаюць праблемы млаўскага павета[2]. Гэта можа азначаць, што ў „Gazecie Polskiej" ён быў рэдкім госцем. Але сама галоўнае тое, што адстойваць права дыялектаў на існаванне і развіццё ў эпоху прагрэсу рэдакцыя не мела, хіба, намеру. Дык нават калі і прапанаваў "беларускі бандурыста" свой артыкул „Gazecie Polskiej" – яму проста адмовілі, пераканалі, што не могуць друкаваць пярэчанне таму, што ўжо сцвердзілі раней.

Найбольш уразіла Ю. Ляскоўскага "прароцтва" Ю. Корвіна-Кучынскага пра немінучую смерць „mowy ludowej". Менавіта гэта ён прачытаў як галоўнае ў, здавалася б, карыснай і важнай публікацыі беларускіх народных песень. Высновы Ю. Корвіна-Кучынскага месціліся ў фінальнай частцы ягонае працы, але Ю. Ляскоўскі пачынае менавіта з іх, заўважыўшы, што малады паэт ужо ад самага пачатку спрабуе схіліць чытача да свае канцэпцыі. Дзеля гэтага ён, малаабазнаны (на думку, "беларускага бандурысты") і з фальклорным матэрыялам, і з носьбітам гэтага матэрыялу, бо хіба ніколі не зазіраў у курную хаціну селяніна, а на песню беларуса глядзіць праз прызму свае расейскае адукацыі (Ю. Корвін-Кучынскі некалькі гадоў навучаўся ў слуцкай гімназіі, пасля год – у варшаўскай, затым наведваў сяк-так заняткі ў Ягелонскім універсітэце), свядома скажае фальклорныя тэксты, дадае ў іх гукі і сінтаксіс пскоўскае і зааўруцкае гаворак (інакш – расейскае мовы, на якой навучаўся). А сама галоўнае – зводзіць традыцыйны абрад да "тарэлачкі і гарэлачкі".

Далей Ю. Ляскоўскі грунтоўна, часам з сарказмам разглядае тое іншароднае, што дадаў праз сваю недасведчанасць запісвальнік песень. Менавіта ад яго, сцвярджае "беларускі бандурыста", паходзяць скажэнні беларускіх слоў у песнях, бо яму з вышыні ягонае адукацыі былі неабходныя яны як "паляпшэнні". Ад чалавека з народа такое ніколі не пачуеш.

Свой пункт гледжання на тое, як трэба знаёміць "братоў-мазураў" з традыцыйнай культурай беларусаў, як падаваць у друку народныя песні, а таксама пра будучае мовы Ю. Ляскоўскі выклаў у другой частцы артыкула. Дзеля гэтага ён расказаў, пэўна ж, праўдзівы выпадак, які здарыўся з ім падчас ягонага хіба апошняга падарожжа на Беларусь. Асноўнае тут – дзве песні, якія павінны былі аспрэчыць сцверджанні Ю. Корвіна-Кучынскага пра ўжо прасякнутую цывілізацыйным сокам расейшчыны беларускую песню і мову. Адна з іх – *Ziemielka maja*… – трэба думаць, новая; яе, па словах паштовага фурмана, спяваюць у сяле цяпер (г. зн., напрыканцы

[1] Гл. напр. допісы: *Gmina Brudno* ў „Gazecie Warszawskiej" за 4 ліпеня 1882 г. [Korabicz J. 1882b, nr 146: 1] альбо *Z przedmieścia Pragi* ў „Gazecie Polskiej" за 12 жніўня 1882 г. [Korabicz J. 1882c, nr 179: 2–3].

[2] Гл. напр. допісы: *Kozia-Wólka, 5 sierpnia 1882 r.* у „Gazecie Polskiej" за 4 верасня 1882 г. [Mizera 1882a, nr 197: 2] ці *Z Natatnika bieżącej doby* ў гэтай жа газеце за 23 верасня 1882 г. [Mizera 1882b, nr 212 (dodatek): 1].

Туман над сялом,
Хатка за лугом,
Хатачка, радная ты мне!
Гутарка ідзе:
“Гдзе ж ён, ой да гдзе?”
Так бацька, так маці галосіць.
Ох, за мной!

А я тут, я ваш,
Далёк дамок наш.

Хто быў стваральнікам гэтае песні? Як звычайна з народнымі песнямі – ніхто не можа гэтага сказаць.

А вось іншая песня і ў іншы час пачутая (гадоў дзевятнаццаць таму).

Пад дуду

Дудка мая, дудка! Заграй ты людзям,
Заграй братцам родным, грай сваей сям’і,
Лягчэй будзшць сэрцу, лягчэй плыць слезам,
Ой цяжкія ж слёзы на душы ляглі!
І гора і плачу чалавек зазнае
Ад самай калыскі, ой да цэлы век!
Калі лепей будзець, ніхто не згадае,
Не згадае долі сваей чалавек.
Хоць бы шчасьце з горам папалам ішло,
А то плывуць слёзы, як даўней плылі;
Сямейка расла, дзетак падрасло,
Сяло апусьцела – мужыком мужык;
Засталіся дома дзеткі адзінокі,
Дзетачкі-сіроты, раздзел іх вялік!
Дудка мая, дудка! дай ты сэрцу льготу,
Дай душы заплакаць, згані з воч слязу,
А я за табою, да пад тваю ноту
Мужыцкую долю людзям раскажу.

Перакладу не даю, бо мне здаецца, што абедзве песні зразумеюць усе.

А абрадныя? Хто ведае беларускі люд, а тым больш той, хто хоць бы з цікаўнасці зазірнуў у курную хаціну пад саламянаю страхою, не кажучы ўжо пра больш блізкія, сардэчныя дачыненні, – ведае перш за ўсё, што “*хрэсьбіны*” (хрышчэнне), “*вянец*” (вяселле), “*пахароны*” (пахаванне), “*асяніны*” альбо “*памінкі*” (Міцкевічаўскія “дзяды”), адным словам, кожны з гэтых абрадаў урачыста адзначаецца ў сялянскай хаце. Моўчкі і пры зачыненых дзвярах беларускі селянін не можа вынесці ні гора, ні шчасця (дарэчы, вельмі адноснага) ад людзей схаваць. У яго і ў дзень вяселля, і ў смутак хата адкрытая для ўсіх. Працягласць абраду залежыць ад заможнасці; толькі пахаванне канчаецца аднадзённаю бяседаю, а вось вяселле і хрэсьбіны доўжацца ў багацейшых некалькі дзён; і няма такога

бедняка, у якога б суседзі на гасцінах не былі. Так было і ў тыя часы, пры паншчыне. Хіба можа быць інакш сёння? Я так не думаю.

На такой бяседзе – на вяселлі ці хрэсьбінах – дуда (кобза) грае ад раніцы да ночы, нават усю ноч, назаўтра зноў тое самае, а дудару ўтораць прыпеўкі: то кола танцораў, то (на вяселлі) развітальны хор дзяўчат, а затым "*маладзіцы пад чапец*" (замужнія жанчыны пад чапцамі) спяваюць нявесце прыняцце ў сваё кола.

А "*асяніны*" ("дзяды")? Едзеш каля могілак ("*магільнік*") з высокімі крыжамі, з якіх чуецца слязлівае галашэнне. Стаіш і слухаеш: гадзіна, дзве, увесь дзень да позняга вечара – адно і тое ж. Гэта вясковыя плачкі "*галосяць*" (выказваюць жаль, і абавязкова з песняй), ляжаць на могілках, абдымаючы раскрыжаванымі рукамі магілы сваіх блізкіх.

Такая песня не памірае, прынамсі ні адзін вясковы настаўнік не прымусіць яе знікнуць. Ён не дарос да гэтага. Натуральна, гэтых абрадаў сёння я не бачу, а п[ан] Корвін штодня глядзіць на іх; сумняваюся, аднак, што настаўніцтва так моцна паўплывала на народныя песні. Няхай п[ан] Корвін дасць нам што-небудзь з абрадавых песень, бо дажынкавыя песні... рэч вядомая; стаўленне да двара выяўляецца коратка: "*прыганяты*" (дазорца работ, літаральна "прыганяты") цэлы дзень стаіць за спінамі сагнутых на загоне жнеек. Гэта ўвесь ідэал жніва, а "гарапнік" у дазорцы за пасам. Дзіўна, што напрыканцы жніва, на дажынках, уся ўцеха ў "*тарэлачцэ* і гарэлачцэ". Селянін не можа дадаць лепшае песні пра такія дачыненні – не ўмее. А трэба пастарацца пра гэта, абавязкова трэба! Няхай пра гэта п[ан] Корвін нагадае суайчыннікам на Беларусі. Рацыянальная, а тым больш сардэчная сяўба заўсёды прыносіць багаты плён; але няхай скончацца пераробкі народных песень, бо такім чынам зробленыя ніколі не настрояцца на іхняе гучанне. Адначасна на двух мовах немагчыма выказваць думкі, а ў ягоных песнях іх дзве.

J. Korabicz[1]

---

[1] Магчыма, псеўданім Ю. Ляскоўскага па-беларуску варта пісаць як *Я. Карабіч*, памятаючы, што напачатку літаратар падпісваў свае публікацыі *Janko Korabicz*. Але з гэткім жа правам мы маглі б напісаць *Ю[льян] Карабіч*.

# З некралогаў (пасмяротных успамінаў)

Юльян Ляскоўскі памёр у чацвер 29 снежня 1888 г. / 10 студзеня 1889 г. Варты ўвагі той факт, што ўжо праз два дні – 12 студзеня 1889 г. – у „Gazecie Polskiej” з’явіўся першы некралог. Відавочна, што пра смерць літаратара з Вільні тэлеграфавалі ў Варшаву ягоныя родныя: у сталіцы Каралеўства жылі не толькі даўнія сябры і знаёмыя Ю. Ляскоўскага, але, відаць, і нехта з яго старэйшых дзяцей, а таксама сваякі жонкі Мар’яны з роду Дален.

Як і большасць матэрыялаў рубрык „Gazety Polskiej” „Z miasta”, „Z różnych stron”, „Ostatnie wiadomości”, *Wspomnienie* не было падпісанае. Аднак не выклікае сумніву, што гэты кароткі тэкст напісаў, хутчэй, не рэдактар рубрыкі, не той, хто калісь, у 1867–1883 гг. рэдагаваў допісы Ю. Ляскоўскага з Зелюню, Млавы і Варшавы, а чалавек, які дастаткова добра ведаў нябожчыка. На нашую думку, аўтарам гэтае нататкі мог быць карэктар газеты Элігі Францішак Карафа-Корбута (1835–1894), адзін з сяброў г. зв. “беларускага гуртка ў Варшаве”. Прынамсі, у рэдакцыі „Gazety Polskiej”, здаецца, не было больш людзей, якія б паходзілі з Літвы-Беларусі. Інфармацыю пра смерць Ю. Ляскоўскага аўтару нататкі (заўважым: маласпрактыкаванаму ў напісанні падобных тэкстаў) мог перадаць той, хто атрымаў тэлеграму з Вільні. Г. зн. Э.Ф. Карафа-Корбут падтрымліваў пэўныя дачыненні з сям’ёю Ляскоўскіх. Дадзенае меркаванне пацвярджаецца яшчэ адной публікацыяй, цяпер ужо ў „Gazecie Warszawskiej”, а менавіта: абвесткаю пра жалобную імшу “за душу св[ятое] п[аməці] Юліяна Ляскоўскага”, якая ладзілася ў варшаўскім касцёле св. Юзафа на Кракаўскім Прадмесці 21 сакавіка 1889 г. на саракавіны (ці не згодна з беларускай традыцыяй паміналі паэта на 40 дзень пасля смерці? Усё ж у каталіцкім касцёле падобных жалобных урачыстасцяў не практыкуецца). Гэтая абвестка, падпісаная *Е. К.*, змяшчалася раздзеле некралогаў, у жалобнай рамцы, з аплатаю па 20 капеек за радок (усяго дзесяць радкоў). Крыптанім мы расшыфроўваем як „Eligi Korbutt”.

Характэрна, што ўсе звесткі, якія падае ў сваёй нататцы аўтар, дакладныя, чаго не скажаш пра *Wspomnienie pośmiertne*, надрукаванае 15 студзеня 1889 г. у газеце „Kurjer Warszawski”. З тае прычыны, што большасць матэрыялаў выдання – як практыкавалася ў тыя часы – рыхтаваў рэдактар[1] ці супрацоўнік рэдакцыі, дык з вялікай доляю пэўнасці можна казаць: аўтарам гэтага некралогу быў выдавец[2] газеты Адам Плуг (1823–1903), яшчэ адзін сябра “беларускага гуртка ў Варшаве”.

---

[1] Рэдактарам „Kurjeru Warszawskiego” быў Францішак Альшэўскі (1859–1918).

[2] Разам з Вацлавам Шыманскім (1821–1889?). Прынамсі, так яны падпісвалі кожны нумар газеты. Рэальным выдаўцом газеты быў Саламон Левенталь (1841–1902), які не адважваўся рабіць гэта праз сваё жыдоўскае паходжанне.

Відаць, рэдактар „Kurjeru Warszawskiego” значна менш, чым аўтар „Gazety Polskiej” сутыкаўся з Ю. Ляскоўскім у Варшаве. Вялікая колькасць ягоных сцвярджэнняў выклікае пытанні. Пералічым іх: „Urodzony w mieście naszem” (1), „po ukończeniu szkół miejscowych” (2) – відавочна, недакладнасці. З іншых крыніцаў мы ведаем, дзе нарадзіўся паэт і дзе атрымаў ён пачатковую адукацыю. У той жа час нельга выключаць, што пасля будслаўскае школкі бацькі маглі накіраваць Ю. Ляскоўскага навучацца ў Варшаву. А раптам менавіта ў Каралеўстве яму ўдалося закончыць „kursy prawne” (3)? Усё ж праца ў Віленскай губернскай управе патрабавала пэўных ведаў. А вось сцвярджэнне „poświęcił się rolnictwu” (4) можа датычыць хіба 1860–1870-х гг., калі працоўная дзейнасць Ю. Ляскоўскага пэўным чынам была звязаная з сельскай гаспадаркай. Наступнае сцвярджэнне „od r. 1870-go przebywał w Warszawie” (5) можа ўтрымліваць друкарскую недакладнасць: не з 1870-х, а з 1880-х гг. Ю. Ляскоўскі жыў у Варшаве. Спрэчным з’яўляецца і выказванне „poezje <…> wydawał pod pseudonimem «Bandurzysty Korabicza»” (6). Аднак жа пакуль не ўдалося выявіць аніводнага тэкста, падпісанага такім псеўданімам. Што датычыць цікавага, але хіба недакладнага сцвярджэння, што Ю. Ляскоўскі, „odbywając studja nad ludem białoruskim, wydał o nim kilka monografij” (7), дык ягоныя кніжачкі толькі ўмоўна можна назваць “даследаваннямі беларускага люду”. Хутчэй, гэтыя даследаванні датычылі польскага люду ці люду былое Рэчы Паспалітае. Зрэшты, тагачасная манаграфія – гэта любое даследаванне, г. зн. і *Słówko o pieśni*. Дык, можа, аўтар і меў рацыю, а мы яшчэ не выявілі шэраг падобных „monografij”. Пэўныя падставы прыпісаць *Wspomnienie pośmiertne* Адаму Плугу, думаецца, у нас ёсць.

Значна больш інфарматыўным з’яўляецца некралог, што быў надрукаваны 20 студзеня 1889 г. у „Gazecie Warszawskiej”. Аўтарам дадзенага пасмяротнага ўспаміну мы лічым Вінцэся Каратынскага (1831–1891). Па-першае, “барадаты ліцвін” супрацоўнічаў у той час з рэдактарам разеты Юзафам Кенігам (1821–1900), а падругое, у нататцы прысутнічае адназначная падказка: „Wówczas z okoliczności współpracownictwa w «Kuryerze Wileńskim» i ogłaszania broszur dla ludu wiejskiego…”, якая не пакідае сумневу, хто супрацоўнічаў з Ю. Ляскоўскім у Вільні на пачатку 1860-х гг. Больш за тое, само сабою паўстае пытанне: якія гэта кніжачкі для люду рыхтавалі В. Каратынскі з Ю. Ляскоўскім у 1860–1862 гг.? Вядома, апрача *Książeczki przeciw pijaństwu*, выдадзенае і легальна прадаванае ў кнігарнях. Асабліва ўлічваючы тое, што яны абодва выдатна валодалі беларускаю моваю і менавіта іх паставіў поруч А.Г. Кіркор у сваім “спісе” сучасных беларускамоўных паэтаў.

У пасмяротным успаміне *Ś. p. Julian Laskowski* В. Каратынскага прысутнічае шэраг выказванняў, якія сведчаць пра колішнія блізкія ці нават сяброўскія дачыненні суайчыннікаў. І не толькі “на віленскім бруку” („przedtém przebywał za granicą, zwłaszcza w W. Ks. Poznańskiém, i miał znajomości w pogranicznych okolicach Królestwa; ztamtąd też, z okolic Mławy, przywiózł sobie późniéj do Wilna dozgonną towarzyszkę życia, młodziuchną, piękną i zacną niewiastę”), але і пазней, калі абодва вымушаныя былі выехаць у Каралеўства. Можна нават сказаць, што В. Каратынскі ўважліва сачыў за публікацыямі прыяцеля ў варшаўскіх газетах („o szkołach ludowych, służebnościach, szarwarkach i opłatach drogowych, kredycie wiejskim i t. p.”), магчыма, ліставаўся з ім у 1870-я гг., калі яны жылі ў розных мясцовасцях (прыгадаем публікацыю байкі Ю. Ляскоўскага *Odmiana losu* ў ілюстраваным календары Яна Яվароўскага на 1871 г., які рэдагаваў В. Каратынскі). Зрэшты, пра тое, як жылося

на правінцыі, Ю. Ляскоўскі мог апавядаць напачатку 1880-х гг., калі пасяліўся ў Варшаве і мог часта, на колькі дазвалялі абавязкі, сустракацца і з В. Каратынскім, і з іншымі сябрамі “беларускага гуртка”.

24 студзеня 1889 г. кароткі некралог Ю. Ляскоўскага з’явіўся ў штотыднёвіку „Gazeta Rolnicza”, для рэдактараў якое паэт усё яшчэ заставаўся „rolnikiem i publicystą”. Відавочна, інфармацыя пра смерць “запазычаная” з варшаўскіх газет.

Гэткі ж кароткі некралог апублікаваў 26 студзеня 1889 г. „Tygodnik Ilustrowany”, галоўным рэдактарам якога быў В. Каратынскі. На гэты раз “барадаты ліцвін” абмежаваўся толькі стандартнымі, як было гэта прынята ў штотыднёвіку, двума інфармацыйнымі радкамі. Можна было спадзявацца, што В. Каратынскі неўзабаве ўшануе суайчынніка вялікім артыкулам з партрэтам у „Tygodniku Ilustrowanym”, але гэтага не здарылася: даробак Ю. Ляскоўскага ў вачах тагачаснай варшаўскай публікі быў не такі значны, каб яшчэ раз нагадваць ёй пра публіцыста.

На смерць Ю. Ляскоўскага адгукнуся таксама і рэдактар „Gazety Świątecznej” К. Прушынскі. Ягоны тэкст, як і тэкст В. Каратынскага, вызначаецца канкрэтнасцю і дакладнасцю. Бачна, што аўтар доўгі час супрацоўнічаў з Ю. Ляскоўскім, ведае пра сама важныя эпізоды ў ягоным жыцці і, адно зважаючы на цэнзуру, асцярожна выкладае матэрыял. Можна толькі выказаць меркаванне, што Ю. Ляскоўскі быў у коле блізкіх сяброў К. Прушынскага, калі менавіта яму рэдактар, выязджаючы з Варшавы, даручыў на некалькі месяцаў сваю газету.

У Вільні напрыканцы 1880-х гг. Ю. Ляскоўскі быў хіба мала каму вядомы. Можа, і хвароба не дазваляла актыўна ўдзельнічаць у тварыскім жыцці тамтэйшае інтэлігенцыі. Тым больш, што знаёмых даўнейшых (і з другое паловы 1840-х гг., і з пачатку 1860-х гг.) ужо, відавочна, у Вільні не было. Смерць шасцідзесяцігадовага інтэнданта афтальмалагічнага шпіталя не звярнула на сябе ўвагу мясцовых карэспандэнтаў варшаўскіх ці пецярбургскіх („Kraju”) газет. Зрэшты, памяць пра аўтара зборніка *Białoruski Bandurzysta* ў Вільні ўсё ж захоўвалася: нехта амаль праз дваццаць пяць гадоў перадаў В. Ластоўскаму асобнік выдання з беларускамоўным прысвячэннем Мар’і Дален “Majej žanie” і аповед пра тое, што паэма *W cudzéj stronie* перш была напісана па-беларуску, а ўжо пасля перакладзеная на польскую мову.

Друкуюцца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле:

№ 1: *Z różnych stron: Wspomnienie*, „Gazeta Polska” 1888/1889, nr 10 (31.12/12.01), s. 2.

№ 2: *Wiadomości bieżące: Wspomnienie pośmiertne*, „Kurjer Warszawski” 1889, nr 15 (3/15.01), s. 3.

№ 3: *Kronika Warszawska: Ś. p. Julian Laskowski*, „Gazeta Warszawska” 1889, nr 17 (8/20.01), s. 2.

№ 4: *Wiadomości bieżące: Zmarli*, „Gazeta Rolnicza” 1889, nr 4 (12/24.01), s. 8 (44).

№ 5: *Zmarli*, „Tygodnik Ilustrowany” 1889, nr 317 (26.01), s. 15 (63).

№ 6: *Nowiny*, „Gazeta Świąteczna” 1889, nr 421 (20/27.01), s. 2.

№ 7: *Nekrolog [Zaproszenie na nabożeństwo]*, „Gazeta Warszawska” 1889, nr 47 (8/20.02), s. 4.

### № 1. *Z różnych stron. Wspomnienie*

W d. 10-ym b. m. zakończył życie w Wilnie ś. p. Julian Korabita Laskowski, znany z prac literackich pod pseudonimem „Korabicza". Przed kilku laty, za pobytu w Warszawie, zasilał między innemi pismami i „Gazetę” naszą artykułami ekonomicznemi w sprawach ziemiańskich, z któremi dobrze obeznał się, mieszkając przez dłuższy czas na prowincyi. Dużo też pisywał w „Gazecie świątecznej”, której był stałym współpracownikiem, a sześć lat temu redagował do końca jego istnienia „Echo łomżyńskie”. W ostatnich czasach, o ile wiemy, wydał dla ludu pod pseudonimem Marcina Mizery książeczkę zatytułowaną: *W pogoni za złotem* czy podobnie, w której żywo skreślił smutną dolę łatwowiernych wychodźców do Ameryki. W Wilnie, gdzie zmarł w 62 roku życia, był on intendentem instytutu oftalmicznego, założonego przez hrabinę Przeździecką.

*Пераклад*

### *З розных краёў. Успамін*

10 дня б[ягучага] м[есяца] ў Вільні памёр св[ятое] п[амяці] Юльян Карабіта[1] Ляскоўскі, вядомы сваімі літаратурнымі працамі пад псеўданімам „Korabicz”. Яшчэ некалькі гадоў таму, у часе побыту ў Варшаве, ён даваў, сярод іншых выданняў, і ў нашую „Gazetę” эканамічныя артыкулы на тэму сельскае гаспадаркі, што добра ведаў, бо доўгі час жыў у правінцыі. Шмат таксама друкаваўся ў „Gazecie Świątecznej”, дзе быў сталым супрацоўнікам, а шэсць гадоў таму[2] ён рэдагаваў да канца яго існавання „Echo Łomżyńskie”. У апошні час, наколькі ведаем, выдаў для люду пад псеўданімам „Marcin Mizera” кніжачку, якая называлася *W pogoni za złotem*[3], ці неяк падобна, дзе яскрава намаляваў горкую долю даверлівых эмігрантаў у Амерыцы. У Вільні, дзе памёр на 62-м годзе жыцця, ён быў інтэндантам афтальмалагічнага інстытута, заснаванага графіняй Пшаздзецкай.

### № 2 *Wiadomości bieżące*: *Wspomnienie pośmiertne*

Przed kilku dniami podawaliśmy wiadomość o zgonie w Wilnie dobrze tu znanego ś. p. Juljana Korabity-Laskowskiego, literata i dziennikarza.

---

[1] Ва ўсіх вядомых нам дакументах і лістах прозвішча літаратара падаецца толькі як *Ляскоўскі*. Аўтары некралогаў, відаць, на падставе асабістых кантактаў ведалі пра прыдомак (Карабіты – гэта тыя, хто карыстаецца гербам Кораб) продкаў паэта і лічылі патрэбным падкрэсліць ягонае шляхецкае паходжанне.

[2] У Ломжы Ю. Ляскоўскі працаваў цягам некалькіх месяцаў з 1 ліпеня 1884 г.

[3] *Do Ameryki po złoto. Z opowiadania wędrowca Macieja Świdra, spisał Marcin Mizera*, nakładem J. Poznańskiego, Warszawa 1888, 104 s.

Urodzony w mieście naszem w r. 1826-ym, po ukończeniu szkół miejscowych, a potem kursów prawnych, ś. p. Juljan poświęcił się rolnictwu.

Od r. 1870-go przebywał w Warszawie, gdzie dał się poznać rodzinie hr. Przeździeckich[1] i otrzymał posadę w szpitalu wileńskim ich imienia.

Za młodu pisał poezje, które wydawał pod pseudonimem „Bandurzysty Korabicza", a odbywając studja nad ludem białoruskim, wydał o nim kilka monografij.

Podczas pobytu w Warszawie zasilał „Gazetę polską" artykułami ekonomicznemi, a w r. 1876-ym drukował kilka większych prac w piśmie naszem w kwestjach ziemiaństwa.

Był stałym współpracownikiem „Gazety świątecznej", a później redagował „Echo łomżyńskie".

Pod pseudonimem Marcina Mizery wydał kilka książeczek popularnych dla naszego ludu w kwestji fatalnej emigracji do Ameryki, do której wymownem słowem zniechęcał.

*Пераклад*

***Бягучыя навіны*: *Пасмяротны ўспамін***

Некалькі дзён таму мы паведамілі[2] пра смерць у Вільні добра тут вядомага св[ятое] п[амяці] Юльяна Карабіты-Ляскоўскага, пісьменніка і журналіста.

Нарадзіўшыся ў нашым горадзе ў 1826 г., скончыўшы тутэйшую школу, а потым юрыдычныя курсы, св[ятое] п[амяці] Юльян прысвяціў сябе сельскай гаспадарцы.

З 1870 г. жыў у Варшаве, дзе пазнаёміўся з сям'ёй гр[афаў] Пшаздзецкіх і атрымаў пасаду ў іхнім віленскім шпіталі.

У маладосці ён пісаў вершы, якія друкаваў пад псеўданімам „Bandurzysta Korabicz", а даследуючы жыццё беларускага люду, выдаў некалькі манаграфій.

Падчас свайго побыту ў Варшаве даваў у „Gazetę Polską" эканамічныя артыкулы, а ў 1876 г. апублікаваў у нашай газеце некалькі вялікіх працаў на тэму гаспадаравання на вёсцы.

Быў сталым супрацоўнікам „Gazety Świątecznej", а потым рэдагаваў „Echo Łomżyńskie".

Пад псеўданімам „Marcin Mizera" выдаў некалькі папулярных кніжачак для нашага люду на тэму фатальнай эміграцыі ў Амерыку, ад якое пераканаўча адгаворваў.

---

[1] У публікацыі: *Przezdzieckich*.

[2] Нам не ўдалося выявіць у газеце „Kurjer Warszawski" іншых публікацый пра смерць Ю. Ляскоўскага. Гэта калі ў фразе „przed kilku dniami podawaliśmy wiadomość o…" расчытаць "мы" як "рэдакцыя «Kurjera Warszawskiego»". Аднак "мы" можна чытаць і як "аўтар некралогу ў «Gazecie Polskiej»". Праўда, другому нашаму дапушчэнню пярэчыць шэраг адрозненняў у нататках.

## № 3. *Kronika Warszawska. Ś. p. Julian Laskowski*

Po życiu obfitém w przygody, zmarł w Wilnie Julian Laskowski, więcéj znany pod pseudonimem „Korabicza," przybranym od swego herbu. Urodził się w r. 1826, według jednych w Warszawie, według innych zaś prawdopodobniéj na Białorusi; władał bowiem biegle językiem białoruskim, a poezye swoje polskie, wydane przed trzydziestu prawie laty w Wilnie, nazwał mianem *Białoruskiego Bandurzysty*. Wówczas z okoliczności współpracownictwa w „Kuryerze Wileńskim" i ogłaszania broszur dla ludu wiejskiego, z których jedna przeciw pijaństwu miała niepoślednie powodzenie, poznaliśmy Laskowskiego na bruku wileńskim. Przedtém przebywał za granicą, zwłaszcza w W. Ks. Poznańskiém, i miał znajomości w pogranicznych okolicach Królestwa; ztamtąd też, z okolic Mławy, przywiózł sobie późniéj do Wilna dozgonną towarzyszkę życia, młodziuchną, piękną i zacną niewiastę. Była to epoka początków reformy włościańskiéj; Laskowski nie dosiedział w Wilnie, i przeniósł się nad Dźwinę, aby pracować czynnie nad uregulowaniem stosunków w samém ich źródle, między tak nazwanymi pośrednikami pokojowymi, wybieranymi z pomiędzy obywateli, a właścicielami ziemskimi i ludem. Gdy następnie sprawa włościańska doszła do urzędowego rozstrzygnięcia, Laskowski z rodziną udał się w okolice Mlawy, i ztamtąd począł pisywać do dzienników warszawskich o rzeczach wiejskich: o szkołach ludowych, służebnościach, szarwarkach i opłatach drogowych, kredycie wiejskim i t. p. Szereg jego artykułów we wszystkich tych przedmiotach drukowała „Gazeta Warszawska" i „Polska". Nie zapomniał też o wpływaniu słowem drukowaném na poprawę obyczajową i ekonomiczną ludu. Prócz kilku broszur osobnych, wydanych pod pseudonimem Marcina Mizery, liczne artykuły treści popularnéj ogłaszał w „Gazecie Świątecznéj", którą przez czas niejaki, po przeniesieniu do Warszawy, kierował nawet w zastępstwie redaktora. Był wreszcie przez rok czy nieco więcej redaktorem „Echa Łomżyńskiego", którego największą wadą w obu z kolei redaktorach było poczucie służby publicznéj, zamiast wysługiwania się uroszczeniom partykularza. Troska o chleb powszedni dla rodziny i o wychowanie dzieci, przerzucała Laskowskiego z miejsca na miejsce, od zatrudnienia do zatrudnienia. Założył był Mławie handel kolonialny, który niedoświadczonemu powieść się nie mógł; pracował w kancellaryi Towarzystwa Kredytowego Ziemskiego w Warszawie; w końcu otrzymał w Wilnie posadę intendenta w Instytucie Oftalmicznym, wzniesionym i hojnie uposażonym przez hrabinę Maryę z Tyzenhauzów Przeździecką[1]. Tam, po długich trudach pielgrzymki, znalazł nareszcie spokój doczesny, i złamtąd, w 62-im roku życia, przeniósł się do wiecznego pokoju. Na cmentarzu, który przyjął już tylu zasłużonych, znalazł się kątek i dla cichego pracownika.

*Пераклад*

### *Варшаўская хроніка. Св[ятое] п[амяці] Юльян Ляскоўскі*

Пражыўшы поўнае прыгодаў жыццё, памёр у Вільні Юльян Ляскоўскі, больш вядомы пад псеўданімам „Korabicz", які паходзіў ад ягонага гербу.

[1] У першадруку – *Przezdziecką*.

Ён нарадзіўся ў 1826 г., паводле адных – у Варшаве, а паводле іншых – і больш праўдападобна – на Беларусі, бо выдатна валодаў беларускаю моваю, а зборнік свае польскае паэзіі, выдадзены амаль трыццаць гадоў таму ў Вільні, назваў *Białoruski Bandurzysta*. У той час у сувязі з супрацоўніцтвам у „Kuryerze Wileńskim” і выданнем кніжачак для вясковага люду, адна з якіх супраць п’янства мела немалы поспех, пазнаёміліся мы з Ляскоўскім на віленскім бруку. Да гэтага ён жыў за мяжой, прынамсі, у В[ялікім] Кн[ястве] Пазнанскім, і меў знаёмых у памежнай зоне Каралеўства; адтуль, з ваколіц Млавы, прывёз пасля ў Вільню жонку – маладую, прыгожую і шляхетную дзяўчыну. Гэта быў пачатак эпохі сялянскае рэформы; Ляскоўскі не вытрымаў у Вільні, пераехаў у Прыдзвінне, каб актыўна працаваць па ўрэгуляванні дачыненняў паміж землеўладальнікамі і людам у самым іх вытоку, у гроне гэтак званых міравых пасярэднікаў, якіх выбіралі з ліку абывацеляў. Калі ж сялянскае пытанне было вырашанае ўрадам, Ляскоўскі з сям'ёю выехаў у ваколіцы Млавы і адтуль пачаў пісаць у варшаўскія газеты пра вясковыя справы: пра народныя школы, сервітуты, шарваркі і дарожныя мыты, сельскія пазыкі, і г. д. Шэраг ягоных артыкулаў на ўсе гэтыя тэмы друкавалі „Gazeta Warszawska” і „[Gazeta] Polska”. Не забываўся ён таксама ўплываць друкаваным словам на маральнае і эканамічнае ўдасканаленне люду. Апрача некалькіх асобных кніжачак, выдадзеных пад псеўданімам „Marcin Mizera”, ён публікаваў шматлікія артыкулы папулярнага зместу ў ”Gazecie Świątecznej”, якой некаторы час, пасля пераезду ў Варшаву, нават кіраваў, замяняючы рэдактара. Нарэшце, на працягу года ці крыху больш ён быў рэдактарам „Echa Łomżyńskiego”, найбольшым недахопам якога пры абодвух па чарзе рэдактарах было пачуццё грамадскае службы, а не абслугоўванне прэтэнзій местачкоўцаў. Клопат пра хлеб надзённы для сям'і і выхаванне дзяцей пераносіў Ляскоўскага з месца на месца, з працы на працу. У Млаве наладзіў гандаль каланіяльнымі таварамі, які не мог быць паспяховым для неспрактыкаванага; працаваў у канцылярыі Крэдытнага земскага таварыства ў Варшаве; урэшце атрымаў у Вільні пасаду інтэнданта Афтальмалагічнага інстытута, створанага і шчодра абсталяванага графіняй Мар’яй з Тызенгаўзаў Пшаздзецкаю. Там, пасля доўгіх пакутаў пілігрымкі, ён нарэшце знайшоў зямны супакой, і адтуль, ва ўзросце 62 гадоў, перасяліўся ў супакой вечны. На могілках, якія ўжо прынялі столькі заслужаных людзей, знайшоўся куток і для ціхага працаўніка.

### № 4. *Wiadomości bieżące*: *Zmarli*

W Wilnie, Juljan Korabita-Laskowski, lat 62, rolnik i publicysta, b. redaktor „Echa Łomżyńskiego”, pisarz ludowy pod nazwą Marcina Mizery, autor wielu rozprawek i artykułów w materyach ziemiańskich, współpracownik „Gazety Rolniczej”.

*Пераклад*

***Бягучыя навіны. Памерлі***

У Вільні, Юльян Карабіта-Ляскоўскі, 62 гады, вясковы гаспадар[1] і публіцыст, б[ылы] рэдактар „Echa Łomżyńskiego”, літаратар, што пісаў для люду пад псеўданімам „Marcin Mizera”, аўтар шматлікіх эсэ і артыкулаў на тэму гаспадаравання на вёсцы, супрацоўнік „Gazety Rolniczej”.

**№ 5*. Zmarli***

<…> † W Wilnie zmarł Julian Korabita-Laskowski, literat i dziennikarz, urodzony w r. 1826-ym.

*Пераклад*

***Памерлі***

<…> † У Вільні памёр Юльян Карабіта-Ляскоўскі, літаратар і журналіст, народжаны ў 1826-м г[одзе].

**№ 6. *Nowiny***

† Otrzymaliśmy smutną wiadomość o śmierci Juljana Laskowskiego, którego słowa nieraz dochodziły do czytelników naszych w „Gazecie Świątecznéj”. Był to człowiek szczerze miłujący braci i gotów zawsze dla ich dobra pracować. Urodził się w stronach wileńskich roku 1826. Odbywszy nauki w Wilnie, wstąpił do jakiegoś urzędu, ale po paru latach porzucił służbę i wyjechał zagranicę. Długo wędrował po Prusiech, Anglji, Francji, aż wkońcu, zatęskniwszy do swojich, zamieszkał gdzieś koło Zielunia nad granicą pruską. Potem wrócił do Wilna i około roku 1860 pracował jako pisarz gminny w Postawach, dobrach Tyzenhauza w powiecie Dzisieńskim. Czując w sobie zdolność i chęć do pisania, ułożył wtedy wierszami i wydał książeczkę pod nazwą *Białoruski Bandurzysta*. W parę lat późniéj przeniósł się do Mławy w Królestwie Polskiém, gdzie pełnił czynność sekretarza przy komisarzu włościańskim, a następnie został kupcem i utrzymywał sklep z różnemi towarami. Od czasu do czasu jednak brał się do pióra i, pod przybraném nazwiskiem Korabicza, dawał swe prace do niektórych gazet. Jego *Historja litewska* drukowana była roku 1864 w „Kmiotku”, różne zaś listy z tego czasu, szczególniéj o sprawach wiejskich, w „Gazecie Rolniczéj” i „Gazecie Polskiéj”. W handlu mu się jednak niepowiodło, więc go porzucił i wyjechał z Mławy. Przed laty siedmiu osiadł był w Warszawie utrzymując się już tylko z pióra. Tu był współpracownikiem „Gazety Polskiéj”, „Warszawskiéj”, „Rolniczéj”, a przez kilka miesięcy 1883 roku zastępował nieobecnego podówczas w Warszawie pisarza „Gazety Świątecznéj”. Napisał przytém książeczkę *Jak przysporzyć ziemi i chleba*, która pod przybraném przez niego nazwiskiem Marcina Mizery wyszła w świat kosztem księgarni naszéj. W roku 1884 ś. p. Laskowski udał się do Łomży i został redaktorem

[1] Існуе яшчэ адно значэнне слова „rolnik” – адмысловец у галіне сельскай гаспадаркі.

wychodzącego tam pisma, „Echa Łomżyńskiego”. Ponieważ jednak bardzo niewielu łomżyniaków sprowadzało swą gazetę, więc niezadługo przestała ona wychodzić. Nareszcie przed dwoma laty hrabina Przezdziecka ofiarowałaś, p. Laskowskiemu posadę zarządzającego szpitalem dla chorych na oczy, utrzymywanym przez nią w Wilnie. Przeniósłszy się tam pamiętał Laskowski o Gazecie naszéj i czasem coś do niéj przysyłał. Ostatni list jego był o wystawie rolniczéj w Wilnie, drukowany w numerze 342 i 346. Wyszła też niedawno w Warszawie nowa jego książeczka: *Do Ameryki po złoto*, którą czytelnikom naszym polecamy. Choć na starość ś. p. Juljan Laskowski miał byt jako-tako zapewniony i życie spokojniejsze; ale niestety, siły jego słabły, coraz bardziéj na zdrowiu zapadał i oto zakończył żywot ziemski w wieku lat 62. Nieboszczyk był człowiekiem zdolnym, ożywionym zawsze najlepszemi chęciami i piękną a poczciwą myślą. Mało dbał o dostatki i wygody, więcéj go obchodziły jakieś sprawy ważniejsze. Przytém miły bywał z niego i uczynny dla drugich towarzysz. Wieczny mu pokój!

*Пераклад*

***Навіны***

† Мы атрымалі сумную вестку пра смерць Юльяна Ляскоўскага, словы якога няраз траплялі да нашых чытачоў у „Gazecie Świątecznej”. Гэта быў чалавек, які шчыра любіў сваіх братоў і заўсёды быў гатовы працаваць дзеля іх дабра. Нарадзіўся ён на Віленшчыне ў 1826 г. Пасля вучобы ў Вільні стаў служыць у нейкай дзяржаўнай установе, але праз некалькі гадоў пакінуў службу і выехаў за мяжу. Доўга бадзяўся ён па Прусіі, Англіі, Францыі і нарэшце, засумаваўшы па сваіх, пасяліўся недзе каля Зелюню, на прускай мяжы. Затым вярнуўся ў Вільню і каля 1860 г. працаваў валасным пісарам у Паставах, маёнтку Тызенгаўза ў Дзісенскім павеце. Адчуўшы ў сабе здольнасці і ахвоту да пісання, ён склаў вершаваны зборнік і выдаў яго пад назвай *Białoruski Bandurzysta*. Праз некалькі гадоў ён пераехаў у Млаву ў Польскім Каралеўстве, дзе працаваў сакратаром сялянскага камісара, а потым стаў купцом і ўтрымліваў краму з рознымі таварамі. Аднак час ад часу ён браўся за пяро і пад выдуманым прозвішчам „Korabicz” высылаў свае працы ў асобныя газеты. Ягоная *Літоўская гісторыя* была надрукаваная ў 1864 годзе ў газеце „Kmiotek”[1], а розныя артыкулы таго часу, асабліва пра вясковыя справы, – у „Gazecie Rolniczej” і ”Gazecie Polskiej”. Аднак у гандлі ён не меў поспеху, дык кінуў яго і выехаў з Млавы. Сем гадоў таму ён пасяліўся ў Варшаве, жывучы ўжо толькі з пяра. Тут ён быў супрацоўнікам „Gazety Polskiej”, „[Gazety] Warszawskiej”, „[Gazety] Rolniczej”, некалькі месяцаў у 1883 г. замяняў пісара „Gazety Świątecznej”, які адсутнічаў у той час у Варшаве. Тады ж ён напісаў кніжачку *Jak przysporzyć ziemi i chleba*, якая пад выдуманым прозвішчам „Marcin Mizera” выйшла ў свет коштам нашае кнігарні. У 1884 годзе св[ятое] п[амяці]

[1] Маецца на ўвазе публікацыя: Janko Korabicz, *Opowiadanie o Litwie*, „Kmiotek: Pismo tygodniowe obrazkowe” 1863, nr 30–52; 1864, nr 1–6.

Ляскоўскі паехаў у Ломжу і стаў рэдактарам выдаванае там газеты – „Echa Łomżyńskiego". Але з тае прычыны, што мала хто з ломжынцаў выпісваў сваю газету, яна хутка перастала выходзіць. Нарэшце, два гады таму графіня Пшаздзецкая прапанавала п[ану] Ляскоўскаму пасаду кіраўніка шпіталя для хворых на зрок, які яна ўтрымлівае ў Вільні. Пераехаўшы туды, Ляскоўскі памятаў пра нашую „Gazetę" і часам нешта дасылаў. Апошні ягоны ліст быў пра сельскагаспадарчую выставу ў Вільні, надрукаваны ў нумарах 342 і 346[1]. Выйшла таксама нядаўна ў Варшаве новая яго кніжачка *Do Ameryki po złoto*, якую мы раім нашым чытачам. Хоць ў старасці св[ятое] п[амяці] Юльян Ляскоўскі меў сякую-такую пэўнасць і больш-менш спакойнае жыццё, але, на жаль, ягоныя сілы слабелі, ягонае здароўе ўсё больш і больш пагаршалася і вось ён скончыў сваё зямное жыццё ва ўзросце 62-х гадоў. Нябожчык быў чалавекам таленавітым, заўсёды з найлепшымі намерамі і з прыгожымі ды пачцівымі думкамі. Ён мала дбаў пра дастатак і выгоды, хутчэй – пра больш важныя справы. Заўсёды быў мілы і ахвочы дапамагчы калегам. Вечны яму спакой!

**№ 7. *Nekrolog***

† W dniu 21-m lutego r. b., to jest we czwartek, o godzinie 11-ej z rana, w kościele Św. Oblubieńca (po-Karmelickim) na Krak. Przedmieściu, odprawiona będzie Msza żałobna za duszę ś. p. Juliana Laskowskiego, b. współpracownika wielu pism warszawskich, który zakończył życie w Wilnie w pierwszych dniach stycznia r. b.

Na nabożeństwo to zaprasza się przyjaciół i znajomych zmarłego.

E. K.

*Пераклад*

***Некралог***

† 21 лютага б[ягучага] г[ода], гэта значыць у чацвер, а гадзіне 11-й у касцёле св[ятога] Юзафа (па-Кармеліцкім) на Крак[аўскім] Прадмесці, адбудзецца жалобная імша за душу св[ятое] п[амяці] Юльяна Ляскоўскага, б[ылога] супрацоўніка многіх варшаўскіх выданняў, які памёр у Вільні ў першых днях студзеня б[ягучага] г[ода].

На набажэнства запрашаюцца сябры і знаёмыя нябожчыка.

Э. К.

[1] Маецца на ўвазе публікацыя: M. Worona, *Wystawa gospodarska w Wilnie*, „Gazeta Świąteczna" 1887, nr 342, 346.

# Навуковая і літаратурная дзейнасць Марыі Косіч

У XIV–XV ст. Мглін, адкуль паходзіла беларуская паэтка і фальклорыстка Марыя Косіч, уваходзіў у склад Северскае зямлі Вялікага Княства Літоўскага. Пазней, у XVI – пачатку XVII ст. у выніку памежных войнаў ён няраз трапляў пад панаванне Масковіі. Урэшце, паводле Андросаўскага перамір'я 1667 г. і Вечнага міру 1686 г. як Мглінская сотня Старадубскага палка далучаны да Расейскае імперыі. Мглінскі павет быў спачатку ў складзе Маларасейскае губерні, пасля Ноўгарад-Северскага намесніцтва, а з 1802 г. – Чарнігаўскае губерні. Сёння на тэрыторыі былога Мглінскага павета размешчаны Унечскі, Мглінскі і Пачэпаўскі раёны Бранскае вобласці.

Паводле перапісу насельніцтва Расейскае імперыі 1897 г. у Мглінскім павеце беларусамі запісаліся больш за 14 % яго жыхароў. Але вось *Этнографическая карта Бѣлорускаго племени*, складзеная Я. Карскім у 1903 г., уключае цалкам Мглінскі павет (як і Старадубскі) у арэал пашырэння беларускіх гаворак з пазнакаю, што тут у мове назіраецца такая асаблівасць, як «мягкое ***р***, южновеликорусское вліяніе».

Расейскі і беларускі мовазнаўца Павел Растаргуеў гаворку Мглінскага павета назваў северска-беларускаю [Расторгуев 1927]. Свае высновы ён зрабіў на падставе шэрагу пісьмовых крыніцаў. Адной з асноўных для яго былі фальклорна-этнаграфічныя і літаратурныя працы Марыі Косіч (1850? – 1911).

Аднак з тае прычыны, што колішні Мглінскі павет (паўночная частка Северскае зямлі) у XX ст. не належаў да беларускай дзяржавы, працэсы русіфікацыі і часткова ўкраінізацыі вынішчылі не толькі ліцвінска-беларускую ідэнтычнасць, але хіба ледзь не цалкам і саму северска-беларускую гаворку. Сённяшнія тамтэйшыя патрыёты-краёўцы, якія шукаюць сваіх каранёў у "сівой даўніне", выказваюцца адно на карысць «северского языка» і «северское культуры».

Былы прэзідэнт Украіны Леанід Кучма (нар. у 1938), які паходзіць з Чарнігаўшчыны, наступным чынам ахарактарызаваў моўную і нацыянальную праблему рэгіёна ў сваёй кнізе *Украина – не Россия*:

> К тому же самосознание у них было сословное, казацкое, а не национальное. Тот своеобразный язык, который здесь господствовал – неважно, смесь это или самостоятельное наречие – свидетельствовал достаточно ясно: здешнее население пребывало в уникальной равноприближенности ко всем трем восточнославянским народам.
>
> Относительно языка приведу один пример, чтобы было понятнее. Некая стародубская поэтесса переводила басни Крылова на местный язык. Если кто помнит басню *Василек*, в ней василек взывает к солнцу,

а жук смеется над ним: дескать, у солнца только и хлопот, как глядеть, вянет он (василек) или цветет. Это место сельская поэтесса передала таким двустишием:

Як жа! Клопать соньцу на яго глядзець:
Ци он жив астанецца, ци яму капець!

Было много своих слов – ни украинских, ни русских, ни белорусских. Например, черемуху называли не «черемха», не «черемшина», а «калакалуша». До революции носителей этого наречия причисляли все же к белорусам. Однако наши этнографы на основании множества признаков быта, обычаев и материальной культуры, уверенно относят их к украинцам.

В нашем Чайкине и сейчас говорят на языке, который я ненаучно (и для себя) зову русско-украинско-белорусским. По-моему, он чуть-чуть другой, чем на Стародубщине. В любом случае, это нормальный язык общения, никто не считает его каким-то ущербным [Кучма 2003: 372–373].

Малая радзіма Л. Кучмы сяло Чайкіне (на мапе Я. Карскага – Чайкін хутар) – гэта паўднёва-ўсходняя мяжа арэалу пашырэння беларускіх гаворак. Але самае істотнае – між сталымі гадамі «некой стародубской поэтессы» і маладосцю прэзідэнта Украіны ляжыць не толькі адрэзак часу ў паўстагоддзя, а і значныя грамадска-палітычныя перамены, які моцна адбіліся на моўнай карціне рэгіёну.

М. Косіч жа ў сваіх працах фіксуе спрадвеку непарушныя лад і мову, на што мала ўплывала перасоўванне палітычных межаў. Зрэшты, у другой палове XIX ст. выразна адчувалася негатыўнае стаўленне да карэннага насельніцтва паўночных паветаў Чарнігаўскае губерні, да «такъ называемыхъ Литвиновъ», якія размаўлялі па-беларуску:

На долю же Литвина-Бѣлорусса выпалъ, если не презрѣніе, то по крайней мѣрѣ полный индиферентизмъ, какъ будто онъ не такое же Божье созданіе, не народъ, – и его пѣсни – не пѣсни, однимъ словомъ – это пасынки губерніи. Ихъ называютъ «кацапьемъ» и прочими недружелюбными названіями [Косичъ 1902: 1]

Пэўна, пачуццё крыўды за «сваю народность» было тым дадатковым стымулам, які актывізаваў даследніцкую працу М. Косіч на мяжы XIX і XX ст. Яна фактычна усё сваё жыццё была звязаная з Мглінам і Расухаю[1], з краем, які «по нарѣчію <…> есть продолженіе Бѣлоруссіи» [Косичъ 1902: 6]. Прынамсі, род маці – род Сілевічаў валодаў Расухаю з канца XVII ст.: гетман Іван Скарападскі (1646–1722) дазволіў вайсковаму абознаму Старадубскага палка Пракофію Сіленка-Сілевічу ў 1710 г. «въ росускомъ лѣсу на мѣстцу стараніемъ и працею его же расчищенномъ, ведле хутора его

[1] Хутар ці фальварак («усадьба») Расуха знаходзіўся, відавочна, непадалёку ад вёскі (слабады) Расуха (30 км на поўдзень ад Мгліна), блізу вытоку рэчкі Расуха, прытоку Ваблі і Судосці. Назву вёскі М. Косіч пісала як «Росуха» і абуралася, што «за послѣдніе 10–15 лѣтъ грамотные умники слово "Россуху" начали писать "Разсуха"» [Косичъ 1902: 1].

найдуючомся, слободку осадити и тамъ же на вершинѣ рѣчки Росухи гребено уфондовати и млинъ на ней пастроить» [Косичъ 1902: 5].

Маці М. Косіч была адной (імя невядома) з дачок Герасіма Сілевіча (пам. у 1863 г.), якая ў сярэдзіне 1840-х гг. выйшла замуж за былога (?) расейскага вайскоўца Мікалая Уладзімірава. У шлюбе нарадзіліся дзве дачкі – Агата (Агаф'я) і Марыя. Прычым, Марыя прыйшла на свет

> спустя два мѣсяца послѣ смерти отца. Отецъ – военный, былъ раненъ и контуженъ, и поэтому его двѣ дочери, и въ томъ числѣ Мар. Ник., состояли подъ покровительствомъ Александр. Комитета о раненыхъ[1] и безъ особыхъ хлопотъ были приняты въ СПБ. Патріотическій институтъ [Рыбаковъ 1911: 754–755].

Агаф'я Уладзімірава закончыла Патрыятычны інстытут з малою залатою медалю ў 1863 г. і была пакінута ў вучэльні ў якасці пепіньеркі [Бардовскій 1913: 203]. Маючы на ўвазе тое, што ў Інстытут прымалі дзяўчатак не маладзей за 10-ць і не старэй за 12-ць гадоў, а вучыліся яны шэсць гадоў, можна сцвярджаць, што старэйшая сястра Марыі нарадзілася прыкладна ў 1845–1847 г.

Год нараджэння Марыі[2] вызначаецца толькі ўскосна. Укладальнікі зборніка тэкстаў *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* на падставе працы *Литвины-Бѣлоруссы*… акрэслілі яго так: "Марыя Нікалеўна Косіч нарадзіла каля 1850 года [*М.Н. Косіч* 1950, 330]. Амаль ва ўсіх пазнейшых публікацыях год нараджэння падаваўся ўжо без "каля", хоць аніякіх дакументаў выяўлена не было. Сёння, як і раней, пра прыход на свет М. Косіч мы можам казаць толькі на падставе слоў самое паэткі:

> Особенно памятенъ былъ для меня 1861 годъ, когда мать уѣзжала на все лѣто по дѣламъ въ Петербургъ, и мнѣ была предоставлена полная свобода. Я тогда съ крестьянами отправлялась съ ранней зари до позней ночи въ поле, не сѣнокосы, гдѣ изъ подражанія принимала участіе во всѣхъ работахъ, хотя старшіе смотрѣли на мои трудовыя забавы, какъ на неумѣстную шалость. За это лѣто я такъ успѣла привязаться къ дворовым, что плакала отъ души, когда узнала, что по манифесту всѣ уйдутъ отъ насъ.
>
> Даже и теперь пріятно вспомнить, какъ послѣ знойнаго дня, по заходѣ солнца, всѣ мы толпой, при дружномъ хоровомъ пѣніи, возвращались домой.
>
> Ни пятилѣтнее пребываніе въ Институтѣ, ни прожитыя съ тѣхъ поръ 30 лѣтъ жизни не изгладили въ памяти тѣхъ мотивовъ и пѣсенъ, которыя я распѣвала, возвращаясь со жнива, будучи десятилѣтней дѣвочкой [Косичъ 1902: 1–2].

---

[1] «Александровскій Комитетъ о раненыхъ» быў утвораны пасля французскарасейскае вайны 1812 г. Адначасна ўзнікла «Императорское Женское Патріотическое Общество», а пры ім – «учебно-воспитательное заведеніе», якое пазней назвалі «Патріотическій Институтъ».

[2] Фотаздымкаў М. Косіч хіба не захавалася. У Сеціве можна знайсці адно дзіцячы здымак пляменніцы паэткі [Голик: *Мария Косич*, online].

Але на колькі была дакладнаю М. Косіч, калі пісала гэтыя радкі? Магчыма, 1861 г., год скасавання прыгоннага ладу, добра адбіўся ў памяці дзесяцігадовае дзяўчынкі, і яна праз 40 (а не 30!) гадоў успамінае незабыўнае вясковае лета. Але ў такім выпадку год нараджэння паэткі павінен быць 1851. Тым больш, што ў Патрыятычны інстытут яна трапіла толькі напачатку 1862 г., калі ў снежні 1861 г. адбыўся 15 выпуск выхаванак Інстытута і на вызваленыя месцы ажыццёўлены прыём кандыдатак. Зрэшты, на час прыёму кандыдатка магла мець, уласна, не 10, а нават 12 гадоў[1]. Істотна таксама тое, што наўрад ці змагла б дзяўчынка, маладзейшая за дзесяць гадоў «съ ранней зари до позней ночи» прысутнічаць і ўдзельнічаць у сельскагаспадарчых работах.

Патрыятычны інстытут быў закрытай навучальнай установай. Толькі ў 1864 г. «состоялося <...> Высочайшее соизволеніе» [Бардовскій 1913: 108], паводле якога выхаванкам дазволілі выязджаць на летнія вакацыі да бацькоў ці сваякоў. Навучанне да 1860 г. доўжылася шэсць гадоў. Сястра Марыі якраз вучылася па такой праграме. Але ёй самой давялося навучацца паводле новае: у 1862 (?) г. яна была прынятая ў VII (падрыхтоўчы) клас і павінна была ў снежні 1868 г. атрымаць дыплом Патрыятычнага інстытута.

У праграме навучання былі наступныя прадметы: «Законъ Божій; Русскій яз.; Французскій яз.; Нѣмецкій яз.; Математика; Физика; Естествовѣдѣніе; Исторія; Географія; Педагогика; Рисованіе; Чистописаніе; Музыка; Танцы; Гимнастика».

1862–1864 гг. побач з Марыяю мусіла навучацца старэйшая сястра Агата, якая год пасля завяршэння вучобы "працавала" ў якасці пепіньеркі[2]. Праўда, мы не ведаем, як доўга была Марыя ў Пецярбурзе; не ведаем, калі «вслѣдствіе болѣзни и такъ назыв. "тоски про родинѣ" <...> была переведена въ Полтавскій женскій институтъ» [Рыбаковъ 1911: 755].

«Полтавский институт благородных девиц» Марыя Уладзіміравa хіба не закончыла[3]: мы не знайшлі ейнага прозвішча ў спісах выпускніц[4] [гл.: *Полтавский институт*..., online]. З гэтае прычыны, відаць, яна пісала пра «пятилѣтнее пребываніе въ Институтѣ». Усё ж у 1860-я гг. дзяўчаты ў падобных установах навучаліся сем гадоў.

У 1867–1868 г., у 17 гадоў яна выйшла замуж за «дворянина-помѣщика Косичъ» [Рыбаковъ 1911: 755]. Пэўных звестак пра гэтага чалавека мы

---

[1] У расейскай Вікіпедыі яшчэ ў 2016 г. з'явілася інфармацыя, што М. Косіч нарадзілася 30 лістапада 1850 г. Крыніца, на жаль, не падаецца.

[2] Абавязкам пепіньеркі было наведваць заняткі разам з тымі, каму яны дапамагалі рыхтавацца да заняткаў.

[3] Забраць дачку з Інстытута, «по условіямъ пріема и выпуска воспитанницъ», было магчыма толькі ў выключных выпадках

[4] У Палтаўскім інстытуце на высокім ўзроўні выкладалася музыка. Тут працавалі вядомыя даследнікі ўкраінскага і расейскага фальклору ды этнаграфіі. Выкладаў у Інстытуце Пятро Гулак-Арцямоўскі (1790–1865). У сярэдзіне 1860-я гг. тут навучалася прадстаўніца роду Гулак-Арцямоўскіх Клеапатра.

не маем, але варта адзначыць, што ў артыкуле дырэктаркі краязнаўчага музея ва Унечы Наталлі Голік сцвярджаецца, што мужам паэткі быў Мікалай Мікалаевіч Косіч, «местный помещик, ветврач» [Голик: *Мария Косич*, online][1]. Магчыма, звесткі выяўленыя даследніцаю ў Дзяржаўным архіве Бранскае вобласці, хоць непасрэдна з тэксту артыкула гэта і не вынікае[2]. Цікава яшчэ адзначыць, што ў суседнім Суражскім павеце знаходзілася вёска Косічы. Агульнавядома таксама тое, што ў Мглінскім павеце жыў і працаваў дзед Лесі Украінкі (1871–1913) – землеўласнік, гаспадар некалькіх хутароў-фальваркаў Антон Косач (1814–1910) са сваім вялікім родам. Але пакуль аніякіх сувязяў паміж Косачамі і Косічамі ў Мглінскім павеце не выяўлена.

Дзе жыло сужэнства – невядома, але калі праз тры гады муж памёр[3], то Марыя з маленькім сынам[4] пераехала ў Расуху. У некралозе С. Рыбакова паведамляецца, што ў родным маёнтку «она жила, пока подросталъ ея сынъ. Послѣ того М. Н. вмѣстѣ съ сыномъ переѣхала въ Петербургъ и поступила въ Учительскую семинарію, гдѣ и окончила курсъ» [Рыбаковъ 1911: 755]. Тут мы заўважым, што настаўніцкія семінарыі з трохгадовым навучаннем, куды прымалі юнакоў і дзяўчат, пачалі засноўвацца ў Расейскай імперыі ў 1872 г. Такім чынам, можна больш-менш упэўнена казаць, што ў сярэдзіне 1870-х гг., пасля навучання ў Пецярбурзе, Марыя Косіч «въ Кіевѣ <…> выдержала экзаменъ на звание домашней учительницы» [Рыбаковъ 1911: 755].

Магчыма нават, што нейкі час яна працавала ў вёсцы Расуха: «По некоторым сведениям, она учительствовала в местной однокомплектной земской школе, получая около 17 рублей в месяц жалования» [Голик: *Мария Косич*, online].

Фальварак Расуха М. Косіч хіба ніколі не належаў. Уладальнікам быў нехта са старэйшых дзяцей дзеда паэткі – Герасіма Сілевіча, але, магчыма, па спадчыне і ёй дастаўся надзел зямлі, які, пэўна, здаваўся ў арэнду. Н. Голік на падставе невядомых крыніцаў сцвярджае, што «там, где жила семья Косич, вначале был маленький флигель. Затем построили большой деревянный дом. Жили не очень богато» [Голик: *Мария Косич*, online]. Тут “сям’я”, праўдападобна, – гэта дзеці і ўнукі Г. Сілевіча.

Магчыма, якраз у 1870–1880-я гг., жывучы на бацькаўшчыне, М. Косіч, пакінуўшы «педагогическую дѣятельность», занялася літаратурнай і на-

---

[1] Тое самае – у расейскай Вікіпедыі. Звесткі паходзяць ад жыхара в. Расуха Ягора Гарбаценкі, які памятаў М. Косіч [гл.: Полякова, Рухлядко, online].

[2] У бібліяграфіі маецца пазіцыя: «ГАБО, ф. 296, оп. 1, д. 127–128».

[3] Словы самой М. Косіч («затѣмъ, въ 70-хъ и 80-хъ годахъ, бывши уже замужемъ, я по временамъ тоже иногда вспоминала старину и составляла хоровое пѣніе въ праздничные сумерки» [Косичъ 1902: 2]) можна зразумець, што муж у тыя ж 1870–1880-я гг. быў жывы.

[4] Адзіная згадка пра сына маецца толькі ў некралогу, напісаным С. Рыбаковым. У літаратуры згадваецца, што ў сястры Марыі, Агаты Булгакавай, было дзве дачкі, да якіх паэтка была моцна прывязаная [Голик: *Мария Косич*, online].

вуковай працаю[1], што давала С. Рыбакову падставы казаць пра вялікую колькасць рукапісаў, якія засталіся пасля яе, і што яна «какъ бытовая писательница <…> очень интересна” [Рыбаковъ 1911: 755].

Аднак больш праўдападобна, што толькі ў 1890-я гг. М. Косіч пачала актыўна займацца фалькларыстычнаю дзейнасцю. Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша звязвалі гэта з уплывам, які на паэтку аказаў Аляксандар Русаў (1847–1915), эканаміст і земскі статыстык, аўтар двухтомнае працы *Описаніе Черниговской губерніи* (Черниговъ 1898–1899)[2]. Сапраўды, А. Русаў у 1893–1898 гг. жыў і працаваў у Чарнігаве, а таксама на “хутары Рабінзона” (вёска Алешкі?), што знаходзіўся за некалькі вёрстаў ад Расухі [Кабржыцкая, Рагойша 1976, online]. Факт іхняга знаёмства пацвярджае прысвячэнне, якое змешчана пад тытулам «переложенія» байкі І. Крылова *Варона и Лисица*[3].

Магчыма, якраз у час знаходжання А. Русава ў Чарнігаве М. Косіч «задумала во время размежеванія въ Черниговской губ. планы снимать; дали ей въ губернской чертежной работу: выполнила она ее превосходно» [Рыбаковъ 1911: 756].

Відаць, невыпадковы і той факт, што напрыканцы 1890-х гг. М. Косіч настойліва імкнецца надрукаваць свае працы: натхніць яе мог усё той жа А. Русаў і выдадзеная ім праца пра Чарнігаўскую губерню[4]. Ейныя *Литвины-Бѣлорусы Черниговской губерніи, ихъ бытъ и пѣсни* – гэта своеасаблівы працяг *Описанія…* А. Русава.

Аднак выдаць такое спецыфічнае даследаванне аказалася няпроста. Пэўна, М. Косіч адмовілі ў Чарнігаве; тое самае было і ў «редакціяхъ столичныхъ изданій» [Рыбаковъ 1911: 755]. І толькі дзякуючы спрыянню

---

[1] У публікацыях унечскіх краязнаўцаў можна сустрэць сцвярджэнні, што «Мария Николаевна с мужем на зиму уезжала из Рассухи в Чернигов, где она работала в редакции» [гл.: Полякова, Рухлядко, online]. Аўтаркі спасылаюцца на жыхара в. Расуха Ягора Гарбаценку. Але ці магчыма было ў 1990-я гг. знайсці чалавека, які памятаў пра падзеі стогадовае даўніны?

[2] Андрэй Катлярчук, аўтар артыкула *Беларусы Бранскага краю: Этнічная гісторыя і сучаснасць,* зусім беспадстаўна даводзіў, што М. Косіч магла сустракацца ў 1860-я гг. падчас навучання ў Пецярбурзе з паўстанцамі Кастуся Каліноўскага [Катлярчук 2001]. Патрыятычны інстытут быў з а к р ы т а ю (вылучэнне нашае. – *М. Х.*) навучальнаю ўстановаю. Гэтак жа гіпатэтычна гучыць ягонае сцвярджэнне, пра сувязі паэткі з Францішкам Багушэвічам, які жыў і працаваў у 1864–1883 гг. на Чарнігаўшчыне (у тым ліку – судовым следчым у Старадубскім павеце).

[3] Н. Голік, як пра бясспрэчнае, піша пра знаёмства М. Косіч з фалькларыстам і музыказнаўцам Аляксандрам Рубцом (1837–1913): «Вполне вероятно, что пути обоих собирателей не раз перекрещивались в каком-либо селе Стародубского или Мглинского уезда. Это подтверждается тем, что существуют тексты песен, записанные Марией Николаевной, и сопровождающие их записи мелодий, сделанные Рубцом. А также выписки, сделанные Рубцом из книги Косич *Литвины-белорусы…*» [Голик: *Мария Косич*, online].

[4] Прынамсі, на выдадзеную працу А. Русава М. Косіч спасылаецца [Косичъ 1902: 2].

гісторыка і славіста Уладзіміра Ламанскага (1833–1914), рэдактара часопіса «Живая Старина», *Литвины-Бѣлорусы*… убачылі свет у II-м і спараным III–IV-м выпусках выдання за 1901 год[1]. Больш за тое, Императорское русское географическое общество прысудзіла М. Косіч за працу залаты медаль[2].

Напрыканцы лета 1901 г. паэтка аддае ў кіеўскую цэнзуру кніжачку «переложеній» баек І. Крылова. Цэлы год адмыслоўцы Галоўнага камітэта па справах друку Міністэрства ўнутраных спраў, Навуковага камітэта Міністэрства народнае асветы[3] і Віленскае навучальнае акругі вырашалі лёс рукапісу на трыццаці старонках. Высновы былі несуцяшальныя для паэткі, хоць, магчыма, і не ўсе думалі так, як настаўнік 2-е Віленскае гімназіі Аляксандар Занкевіч:

> Но нужно ли вообще да и разумно ли переводить или перелагать для школъ на бѣлорусское или малорусское нарѣчіе художественныя произведенія русской литературы? – Надобности въ этомъ, кажется, нетъ никакой, потому что не только бѣлоруссы и малороссы, но даже и инородцы учатся въ единой русской школѣ, изучаютъ одинъ общегосударственный литературный языкъ, и, въ результатѣ, прекрасно понимаютъ всѣ произведенія классическихъ русскихъ писателей и въ томъ числѣ – Крылова [LVIA, 567–12–1313: 4r].

Пакуль у Пецярбурзе і Вільні разважалі, што рабіць з кніжачкаю «переложеній», М. Косіч падрыхтавала і летам 1902 г. аддала цяпер ужо ў віленскую цэнзуру гутарку *На пиресяле́ньня*, прысвечаную актуальнай

---

[1] У наступным годзе даследаванне М. Косіч выйшла з друку асобнаю кніжкаю.

[2] Вельмі высока ацаніў дадзеную працу М. Косіч Ніл Гілевіч, асабліва адзначаючы "цудоўны вырыянт папулярнай і сёння купальскай песні *Ой рана на Йвана* [Гілевіч 1970: 105]. З захапленнем пра даследаванне *Литвины-Бѣлорусы*… у артыкуле *Песни и слезы* пісаў у 1982 г. у газеце «Брянский рабочий» Грыгоры Стафееў (1916–1994), выкладчык Бранскага тэхналагічнага інстытута, які кандыдацкую дысертацыю пра творчасць Аляксея Талстога абараняў у БДУ, але ў ягонай публікацыі "літвіны-беларусы" перамяніліся ў расейцаў: «Но неимоверно трудными условиями жизни все же не была убита творческая душа народа. Читаешь описание свадебного обряда, песни, полные драматизма и проникновенного лиризма, шутки-прибаутки и поражаешься талантливостью русского человека, его жизнелюбием и стойкостью духа. В противовес жесткому социальному гнету, семейному деспотизму, нищенскому быту в песнях выражается красота и величие души русской крестьянки, обнажается чистота и незащищенная нежность её» [цыт. па: Голик: *Мария Косич*, online].

[3] Навуковы камітэт Міністэрства народнае асветы займаўся падрыхтоўкай падручнікаў для навучальнага працэсу. Магчыма, кніжачку М. Косіч у Пецярбурзе палічылі патрэбным выдаць як дапаможнік для народных школаў. Пра гэта сведчаць словы рэцэнзента А. Занкевіча: «по оффиціальнымъ отмѣткамъ, сдѣланнымъ на рукописи, можно догадаться, что г. Косичъ намѣревался напечатать свое переложеніе басенъ Крылова для школъ Министерства Н. П.».

для землякоў паэткі праблеме. Цэнзар Віктар Боас, немец-лютэранін, не задумваўся ў адрозненне ад мясцовага калабаранта А. Занкевіча, ці патрэбны кніжачкі на «бѣлорусскомъ или малорусскомъ нарѣчіи», а ацэньваў толькі змест рукапісу. У выніку ў жніўні 1902 г. дазвол быў дадзены, хоць пакрамсанаю цэнзарскім алоўкам аказалася другая частка гутаркі.

Увосень гэтага ж года, атрымаўшы адмову кіеўскае цэнзуры на друк кніжачкі *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе*, М. Косіч спешна перакампанавала рукапіс і аддала яго ў віленскую цэнзуру. В. Боас забараніў байку *Клявеччыкъ и Гадзюка*, а таксама выкасаваў блізу сарака радкоў з яшчэ чатырох твораў, але дазволіў друкаваць кніжачку. Яго, відавочна, не цікавіла, ці «переводъ <...> представляется точным и согласнымъ съ подлинными баснями Крылова».

С. Рыбакоў лічыў, што дазвол на друк двух вершаваных кніжачак М. Косіч атрымала толькі таму, што прыйшло «либеральное правленіе кн. Святополка Мирскаго» [Рыбаковъ 1911: 756]. Праўдападобна, што такое магло быць, хоць і паэтка, думаецца, здзейсніла ўдалы манеўр, падаючы свае «переложенія» як навуковую працу і своеасаблівы дадатак да даследавання *Литвины-Бѣлорусы Черниговской губерніи.*

У пачатку жніўня 1902 г. М. Косіч звярнулася да Льва Талстога з просьбаю дазволіць ёй перакласці на беларускую мову п’есу *Первый винокур, или Как чертёнок краюшку заслужил* (1886)[1]. (Застаецца адкрытым пытанне, ці ведала беларуская паэтка, што твор у 1898 г. быў забаронены цэнзураю?)

Ліст М. Косіч выявіў у архіве Дзяржаўнага музея Л. Талстога ў Маскве (караб 157, папка 132) Ізраіль Бас і апублікаваў у часопісе “Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук” (1966, № 1, с. 92–101). Пазней артыкул быў змешчаны ў кнізе *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*. Змест ліста наступны (у перакладзе І. Баса):

> Глыбокапаважаны Леў Мікалаевіч!
>
> Звяртаюся да вас з маёй пакорлівай просьбай: дазвольце вашу камедыю *Першы вінакур* перакласці на беларускую гаворку.
>
> Я займаюся збіраннем народных песень і заўважаю, што кніжка на мясцовай гаворцы дастаўляе вялікае задавальненне абывацелю.
>
> Можа быць вы пажадаеце пазнаёміцца, у якім выглядзе і дзе будзе фігураваць ваш *Вінакур*, – у такім выпадку прыкладаю ўзор нашай гаворкі ў выглядзе перакладу байкі Крылова *Лебедзь, шчука і рак*, а таксама быт і песні польскіх літвінаў-беларусаў[2].
>
> Вашым дазволам перакласці названую кніжачку зробіце вялікую ласку глабокапаважаючай вас М. Косіч.
>
> Адрас: Палеская чыгунка, станцыя Росуха, для перадачы Марыі Мікалаеўне Косіч, у сяло Росуху.
>
> 1902 г. Жнівень [Бас 1969: 96].

---

[1] У першым выданні твор названы «представлением», у другім – «комедией».

[2] Праўдападобна, М. Косіч выслала Л. Талстому і сваю кніжку (асобны адбітак) *Литвины-Бѣлорусы Черниговской губерніи, ихъ бытъ и пѣсни*. Чамусьці ў дадзеным выпадку сваіх землякоў яна называе “польскімі літвінабеларусамі”.

Як сведчыць І. Бас, дазвол быў дадзены: ліст М. Косіч напісала дачка пісьменніка Марыя Абаленская (1871–1906).

Пераклаўшы твор Л. Талстога на беларускую мову, М. Косіч у лістападзе 1902 г., ужо, пэўна, маючы дазвол на друк двух кніжачак, выслала рукапіс віленскаму цэнзару[1]. Перш чым разгледзець твор, В. Боас, кіруючыся цыркулярам Галоўнае ўправы па справах друку ад 20 жніўня 1887 года, у якім было загадана ўсім цэнзурным камітэтам і асобным цэнзарам не дазваляць друкавання і выпуску ў свет ніякіх твораў Л. Талстога без папярэдняй дасылкі іх на канчатковае вырашэнне Галоўнай управе па справах друку, 30 лістапада звярнуўся ў вышэйшую інстанцыю:

> Прадстаўляючы прысланы мне для дазволу на друкаванне рукапіс на беларускім дыялекце над назвай: *Л. Талстой. Первый вінокуршчык, алі як чарцёнак акраец хлеба заслужыў. Прыстаўлення на ціятры. Пераклад на літвіна-беларускую мову М. Косіч*, маю гонар пакорна прасіць галоўнае кіраўніцтва па справах друку даць мне ўказанне, ці можа названы рукапіс быць дазволены надрукаванню [цыт. па: Іванюк 1948: 4].

3 снежня 1902 г. у Галоўнай управе па справах друку на адносіне віленскага цэнзара пазначылі: "Не дазваляць", а 12 снежня выслалі ў Вільню адказ пра забарону. Праз тыдзень "віленскі цэнзар паведаміў усе цэнзурныя камітэты і асобных цэнзараў, у тым ліку і С.-Пецярбургскі цэнзурны камітэт, што рукапіс забаронены для надрукавання" [Іванюк 1948: 4]. Сам рукапіс быў затрыманы ці то віленскім цэнзарам, ці то Галоўнаю ўправаю па справах друку.

Цытуючы адносіну віленскага цэнзара ў перакладзе, М. Іванюк пакідае арыгінальнае, відавочна, крыху адаптаванае, гучанне тытулу рукапісу М. Косіч. Уражвае сталае называнне паэткаю мовы сваіх ваколіцаў "літвіна-беларускаю".

Апошняя публікацыя М. Косіч, якая ўбачыла свет пры жыцці аўтаркі, з'явілася ў часопісе «Живая Старина». Гэта невялікі этнаграфічнага характару артыкул з 24 малюнкамі і схемамі *О постройкахъ Бѣлорусскаго крестьянина Черниговской губ., Мглинскаго уѣзда: села Росухи, деревни Бородинки и Амелькина хутора* [гл.: Косичъ 1906: 74–93][2]. Праца, магчыма, была дасланая ў часопіс яшчэ ў 1903 ці 1904 г., а ейны выхад у свет затрымаў страйк у друкарні, у выніку чаго ў 1905 г. не быў надрукаваны аніводзін з чатырох выпускаў выдання.

Як адзначае С. Рыбакоў, М. Косіч любіла пісаць і пісала «немало, обыкновенно стенографически», але ейныя спробы надрукаваць свае працы часта натыкаліся на перашкоды. Так, «однажды М. Н. послала къ

---

[1] Архіўную справу выявіў у другой палове 1940-х гг. і пераказаў асобныя ейныя дэталі ў артыкуле *Раннія пераклады твораў Л. Талстога на беларускую мову* М. Іванюк. Праўда, ён не паведаміў, ні дзе знаходзіцца гэтая справа, ні ейнага архіўнага адрасу.

[2] У публікацыях унечскіх краязнаўцаў гэтая праца М. Косіч называецца і як асобнае даследаванне, што было надрукавана (дзе?) пад тытулам *Исследование материальной культуры белорусов*.

Суворину (въ редакцію "Нов. Вр.") нѣсколько рукописей, но дѣло кончилось тѣмъ, что рукописи пролежали два года, и потом едва удалось извлечь ихъ изъ подъ спуда (ради этого ѣздила специально сестра М. Н.)» [Рыбаковъ 1911: 756].

Апошнія гады жыцця М. Косіч складала зборнік беларускіх песень з мелодыямі. Ён называўся *Бѣлорусскія пѣсни. Съ мелодіями и аккомпаниментами* [Рыбаковъ 1911: 754]. Ніхто з выдаўцоў у Кіеве, Маскве і Пецярбурзе не браўся яго надрукаваць. Даследніца шмат ездзіла, звярталася да вядомых навукоўцаў. Нарэшце зацікавіўся працаю акадэмік Аляксей Шахматаў (1864–1920). «Онъ представилъ сборникъ въ II-е отдѣленіе Имп. Академіи Наукъ для напечатанія» [Рыбаковъ 1911: 755]. Здарылася гэта ўжо пасля смерці М. Косіч[1]: на пасяджэнні Отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук (інакш: II-е Отделение Императорской Академии наук) 24 верасня 1911 г. была прынятая пастанова выдаць зборнік *Бѣлорусскія пѣсни, записанныя М.Н. Косичъ*, пра што належала паведаміць Агаце Булгакавай, сястры нябожчыцы. Акадэмік Фёдар Корш (1843–1915), славіст, адзін з аўтараў запіскі *Об отмене стеснений малорусского печатного слова* (1905), абавязваўся «принять на себя наблюденіе надъ печатаніемъ труда г-жи Косичъ» [*Протоколы ОРЯС*, online]. Зборнік, аднак, не быў надрукаваны.

Памерла Марыя Косіч 28 сакавіка 1911 г. на станцыі Расуха, непадалёку ад свайго роднага сяла Расуха, дзе затрымалася з прычыны снежных заносаў на чыгунцы, калі разам са сваякамі планавала ехаць у Сухумі. На поўдзень – Крым ці Каўказ – яна ездзіла штогод зімою з прычыны слабога здароўя. Пахавалі М. Косіч на тэрыторыі Разратаўскага жаночага манастыра, які знаходзіўся за 7 вёрст ад Расухі. Магіла, як сведчаць унечскія краязнаўцы, не захавалася.

[1] Пра смерць М. Косіч паведаміў у Акадэміі Сяргей Рыбакоў на падставе ліста да яго ад сваякоў нябожчыцы ад 1 мая 1911 г.

# Гутарка *На перасяленне*

Акрыленая поспехам (публікацыя даследавання *Литвины-Бѣлоруссы Черниговской губерніи, ихъ бытъ и пѣсни* ў часопісе «Живая Старина»), М. Косіч спрабуе надрукаваць і свае вершаваныя тэксты. Не спыняе яе нават тое, што на аддадзеную ў кіеўскую цэнзуру летам 1901 г. кніжачку напісаных паводле матываў твораў І. Крылова баек праз адзінаццаць месяцаў была накладзена забарона. Якраз летам 1902 г. яна звяртаецца да віленскага цэнзара Віктара Боаса[1] (1860 – ?) з просьбаю даць дазвол на друк «разсказа тетки Домны изъ Полѣсья» пад тытулам *На пиресяле́ньня*. Твор складаўся з дзвюх частак: у першай апавядалася пра развітанне з родным краем і адʼезд жыхароў вёскі Расуха ў Сібір, а другая, трэба думаць, – пра іхні побыт на “новай зямлі”. 24 жніўня 1902 г. дазвол быў атрыманы. Аднак калі да першае часткі гутаркі[2] ў цэнзуры не было заўваг, дык другую яна «настолько урѣзала и обезцвѣтила, что М.Н. Косичъ не пожелала ея печатать” [Рыбаковъ 1911: 756].

Кніжачка ўбачыла свет у чарнігаўскай тыпаграфіі «Губернскаго Земства» ў 1903 г. Наклад быў хіба дастаткова вялікі: можам меркаваць паводле абвестак, якія можна было сустрэць у тагачасных друкаваных выданнях. Напр., на апошняй старонцы вокладкі *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе* чытаем:

> Того-же автора имѣются въ продажѣ слѣдующія изданія:
> *Литвины-бѣлоруссы Черниговской губерніи. Ихъ бытъ и пѣсни* – 1 р.
> *На пересяленьня*. Ч. I – 10 к.
> Складъ изданій въ Черниговѣ, кв. А. Булгаковой.
> Выписывающіе не менѣе 50 экз. за пересылку не платятъ [Косичъ 1903b.

Пэўную колькасць асобнікаў *На пиресяле́ньня* набыла на свой галоўны склад у Пецярбурзе і прадавала суполка “Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ” ў 1908 г. [*Суполка “Загляне…”* 1908: 8].

Дык нічога дзіўнага, што гутарку, як таксама і *Переложеніе…* М. Косіч аматары беларушчыны пачатку XX стагоддзя добра ведалі. Максім Гарэцкі, ці то з прычыны эканоміі месца ў *Хрыстаматыі*, ці то літаральна ўспрыняўшы азначэнне «разсказъ» за жанравае, не дзелячы тэкст твора М. Косіч (у М. Гарэцкага: Марʼя Міхалеўна Косіч) на вершаваныя радкі, надрукаваў “Главу I: *Наша сяло*” [Косіч 1922: 242]. Вядома, адаптуючы мову гутаркі ў адпаведнасці з уласным разуменнем беларускае пісоўні.

---

[1] Ён выконваў у Вільні ў 1901–1906 гг. абавязкі цэнзара па ўнутранай і замежнай цэнзуры [Патрушева 2013: 184].

[2] Жанр свайго твора сама аўтарка ў падтытуле вызначыла як «разсказъ». Пазнейшыя даследнікі акрэслівалі яго па-рознаму: “апавяданне” (М. Гарэцкі), «стихотвореніе» (Я. Карскі), “вершаванае апавяданне” (С. Майхровіч), “паэма” (М. Лазарук, У. Казбярук, Л. Тарасюк). Думаецца, аднак, што найбольш адпаведным акрэсленнем жанру будзе тут “гутарка”.

Значна больш аўтарскіх асаблівасцяў мовы пакінуў укладальнік зборніка тэкстаў *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя* Васіль Барысенка. (Тут гутарка М. Косіч узноўлена цалкам [Косіч 1956: 281–290])[1]. Мы бачым у гэтым выданні непасрэднае ажыццяўленне на практыцы абʼяўленае В. Барысенкам і Ю. Пшырковым "вайны" "самавольству рэдактараў" [Барысенка, Пшыркоў 1956: 3].

Звернем таксама ўвагу на тое, што «Разсказъ тетки Домны изъ Полѣсья» – гэта падтытул кніжачкі, а не псеўданім аўтаркі[2]. Было б дзіўна, каб на вокладцы адначасна падаваўся і псеўданім, і прозвішча з ініцыяламі імя ды імя па бацьку аўтара. Што датычыць прысвячэння, дык "Агата" – гэта старэйшая сястра М. Косіч – Агата Булгакава.

Беларуская літаратуразнаўчая навука XX стагоддзя невысока ацаніла ідэйна-мастацкія вартасці гутаркі М. Косіч *На пиреселе́ньня*. М. Гарэцкі, адзначыўшы, што пісьменніца вельмі любіць родную старонку і апісвае са шчырым пачуццём, падкрэслівае, што яна "тэхнікай верша валадаець зусім слаба" і што яе "апавяданьні маюць характар паўчаючых народ кніжачак, як і папулярныя брошуркі А. Ельскага" [Гарэцкі 1920: 125]. Падобна выказаўся Я. Карскі: «Въ стихотвореніи много чувства, несомнѣнно, проводится хорошая мысль, но мало складу, не замѣтно знакомства съ техникой стиха, а еще больше опечатокъ» [Карскій 1922: 141]. Толькі адзін абзац прысвяціў творчасці М. Косіч у сваім даследаванні *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя* дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларускай ССР В. Барысенка: "Яе асноўны твор на беларускай мову *На перасяленне* напісаны ў стылі ліберальна-народніцкай белетрыстыкі" [Барысенка 1957: 162]. Пра "зусім нязначныя" мастацкія вартасці "вершаванага апавядання" *На пиреселе́ньня* пісаў С. Майхровіч [Майхровіч 1959: 294].

Для Міхася Лазарука "паэма" М. Косіч была

> творам слабым як у ідэйных, так і ў мастацкіх адносінах, вытрыманым у традыцыях даўняй сентыментальна-ідылічнай паэзіі. М. Косіч закранула важную, багатую сацыяльнымі аспектамі тэму – перасяленне беларускіх сялян у Сібір па прычыне беднасці і беззямелля. Але раскрыць гэтую тэму па-сапраўднаму глыбока, зрабіць з яе належныя сацыяльныя вывады не змагла. Увесь змест твора М. Косіч зводзіўся па сутнасці да "угавораў" не перасяляцца, не пакідаць роднай зямелькі, як бы цяжка на ёй ні жылося. Натуралістычна-падрабязнае і вельмі сентыментальнае апісанне развітання з роднай зямелькай, як і трэба было чакаць, не вылілася ў абвінавачванне існуючага сацыяльнага ладу. Хутчэй наадварот, яно апраўдвала прымірэнне з несправядлівасцю і беднасцю: як бы ні жыць абы толькі жыць дома, у родным кутку [Лазарук 1970: 78].

[1] Праўдападобна, паводле гэтага выдання, але з рэдактарскімі праўкамі друкаваўся значны фрагмент (Глава IV: *Атъъжджайимъ*) у хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* [Косіч 1988: 371–373] і "ўрывак" (Глава I: *Наша сяло*) у анталогіі *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя* [Косіч 2013b: 797–799], а таксама твор цалкам у кнізе Уладзіміра Казберука *Заняпад і адраджэнне* [Косіч 2001: 567–576] і ў 5 томе *Залатой калекцыі беларускай літаратуры* [Косіч 2013a: 461–471].

[2] Псеўданім М. Косіч "увёў ва ўжытак", здаецца, Я. Карскі [Карскій 1922: 140, 449, 450]. Гл. таксама: [Майхровіч 1959: 294; Саламевіч 1983: 118; Кісялёў 1994: 386].

У XXI стагоддзі, вядома, падобных ацэнак тэкстаў даўняе беларускае пісьменнасці быць не магло. Праўда, пэўны крызіс у развіцці беларускае навукі пра літаратуру, што назіраецца з сярэдзіны 1990-х гг., спрычыніўся таму, што значная частка мастацкіх твораў, прызнаных у савецкую эпоху ідэалагічна заганнымі, так і засталіся не перацэненыя альбо пераацэненыя павярхоўна. Гутарцы М. Косіч *На пиресялéньня* ў гэтых адносінах пашанцавала: спачатку Любоў Тарасюк, а пасля Уладзімір Казбярук, фактычна не аспрэчваючы папярэднікаў, далі новую трактоўку ейных ідэйна-мастацкіх асаблівасцяў.

Л. Тарасюк разглядала творчую спадчыну Л. Косіч як цікавую і значную з'яву гісторыі беларускае літаратуры. У *Разсказѣ тетки Домны…* даследніца заўважыла

> нетрадыцыйнае для беларускай літаратуры мастацкае асэнсаванне сялянскай драмы – як выбіцца з беззямелля і галечы перасяленнем у Сібір на яе неабжытыя прасторы. <…> разрэкламаваная царскімі уладамі кампанія па перасяленні беларускіх сялян на неабжытыя прасторы Сібіры адназначна асэнсоўваецца як вялікая жыццёвая драма, як бяда. Асабліва абвострана ўспрымаецца аўтарам і героямі твора разрыў чалавечых адносін паміж блізкімі людзьмі (бацькамі і дзецьмі, бабуляй і ўнучкай). Некаторыя канкрэтныя эпізоды гэтай жыццёвай драмы надзвычай уражваюць эмацыянальным зместам, а сама сітуацыя развітання з Радзімай і ўсімі роднымі нагадвае народнае галашэнне [Тарасюк 2005: 73].

Характэрна, што Л. Тарасюк успрымае твор паэткі як "мастацкі варыянт драматычнага лёсу ў беларускай драме пошукаў новай зямлі" [Тарасюк 2005: 74]. Фактычна гутарка *На пиресялéньня* называецца папярэдніцай эпічнага твора Якуба Коласа, які лічыцца энцыклапедыяй жыцця і побыту беларускага сялянства канца XIX стагоддзя.

"Нешта блізкае да фальклорнага галашэння, у якім выліваюцца пакуты людзей" [Казбярук 2007: 370] бачыў у творы М. Косіч У. Казбярук, які адзначыў таксама і пэўныя недахопы ("і рытм парушаецца, і рыфма далёкая ад лепшых узораў тагачаснай беларускай паэзіі"), тлумачачы іх выкарыстаннем адметнага вершаванага памеру – "фальклорнага верлібру" [Казбярук 2007: 371].

Высновы У. Казберука і іншых даследнікаў пра дакументальны характар твора пацвярджаюцца цікавым фактам рэцэпцыі гутаркі *На пиресялéньня* – напрыканцы XX стагоддзя пісьменнік, ураджэнец суседняга Старадуба Георгі Мяцельскі (1911–1996) актуалізаваў цікавасць унечскіх краязнаўцаў да асобы і творчасці М. Косіч, а мясцовая бібліятэкарка В. Валачко знайшла і пазнаёміла жыхароў вёскі Расуха са зместам твора М. Косіч:

> Поэма произвела на селян эффект взорвавшейся бомбы. Её читали всем селом, вспоминали, обсуждали и плакали. Ведь речь в ней шла о дедах и прадедах местных жителей, об их горестной и тяжёлой жизни. Люди сравнивали фамилии и прозвища, находили аналогии даже в чертах характера упоминаемых в поэме людей с их потомками» [Голик: *Мария Косич*, online].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: М.Н. Косічъ, *На пиресялéньня: Разсказъ тетки Домны изъ Полѣсья*, Черниговъ: Типографія Губернскаго Земства, 1903 г., с. 3–16.

## На пiресяле́ньня

Разсказъ тетки Домны изъ Полѣсья

Посвящается дорогой сестрѣ Агатѣ

### ГЛАВА I
### Наша сяло

Мы ў свайомъ сялѣ
Вѣкъ свой вѣковали,
Ну такой нуды́,
Якъ намъ у Сибири,
Нашы дзяды й прадзяды
Ни зазнали.
Наша-жъ то сяло
Стайиць пры ряцѣ́,
А за рэчкай лугъ,
А тамъ ўсе дубра́вы...
Йосьць у тыхъ дубра́вахъ
Равы́ глыбакіе,
Горы высакiя
Ляды[1] ширакiя.
Лѣ́цячкамъ святымъ
Чаго́ ў насъ нима?
У на́шамъ гайо́чку
Грыбъ, арэхъ и жо́лудзь;
Усякая ягада:
И суница, и брусница,
Кастяница[2] и чарница,
И рябина и калина,
Жавикі́[3] й малина.
Усяго йосць тамъ!
Чо́рна ягада смаро́дыня –
И тая расьцье па лугамъ.
А што па вясьнѣ,
Якъ пачане́ лѣсъ раскида́цца

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 275: "ЛЯ́ДО, -а, с. ср. Поле, очищенное отъ заросли лѣса для посѣва. *Познали бъ мене въ лядзѣ, а не въ нарядзѣ*. (Посл.)".

[2] Маліна скальная (рас. костяника).

[3] Ажына (рас. ежевика).

Уси лужки, далины
Тра́ўкай уряджа́цца,
Какалуши[1] па лясу распущацца!
Божухна мой милый,
Во якъ тамъ прыгожа!
Такія дзико́винки
Якъ тамъ у Расу́си
Ни зна́йдзишъ ниидзѣ́
У цѣла́й акру́зи.
У насъ крэпка[2] душна
У лѣ́тку ни быва́я.
А што тамъ у зимку
Якъ маро́зъ прысьпѣ́я,
Унясешъ у ха́тку
Сухенькихъ драве́цъ,
Вытапишъ лижанку[3],
Тады нлша[4] ха́тка,
Цёплая якъ матка,
Сядзи́шъ сабѣ – лю́ба!
По́скаwьни́[5] прядзе́шъ;
А ще, кали трапицца
Й пѣсню завядзе́шъ.
Праўда, што быва́ла
Хлѣба ни багацька –
Йета ни ў дзико́винку
Хоць галадавали,
Да ни памира́ли.
Тамъ у насъ и такъ быва́ла:
У каго хлѣба ни хвата́ла.
Паѣ́дзье́ на „па́ньськая"
Наруба́я дро́ў,
Возъ лыкъ[6] накладзье,
У го́радъ атвя́зье,
И хлѣбца припасье.
Можна было́ жыць;
Што Бога гнявиць!

---

[1] Какалуша – черемуха (*заўвага М. Косіч*).
[2] Вельмі.
[3] Печка-ляжанка.
[4] Трэба: наша.
[5] Даматканая тканіна. Пасканя́ – мужчынская асобіна канопляў з тонкім сцяблом, з якога выпрацоўваецца валакно. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 479: "ПОСКОННЯ́, -и, множ. По́сконни, с. ж. собир. Посконь. *Посконню пора браць. Сёлѣта посконни хорошо цвѣтуць*".
[6] Лы́ка – луб (падкорка) маладое ліпы ці вяза.

**ГЛАВА II**
**Наши зборы ў дарогу**

Во й задумали Расусцы
На пиресялéньне.
Штобъ яму, такому-прайéткаму
Сьвѣтъ съ аўчы́нку стáў,
Хто йету моду трыклятую – прыгадáў.
Зъ раньнія вясны
Сохи пакидáли,
Якъ цыгани-башлыки,
Дабро прадавáли, –
Што дзяды́ нажывáли;
Спóрюцца, талкýюцца,
Якъ жыды гвалтýюцца
Па сялу бунтýюцца.
Чагó-жъ йета у Грыньки Сóбаля
Што дзень свáрюцца?
А бывала-жъ тамъ йетаго ня чýтна.
Хоць сыны яго й пажани́лися,
Ну жылú у кýчи; ни дзялилися.
Йонъ сыноў измáлечку
Устраху дзиржáў
Патачки ни вóднаму ни давáў,
Ни такъ, икъ Кавáль:
Кали хто съ сыноў у крáжы папаўся,
Бье таго йонъ здóраво, прымаўлвўшы[1]:
У цябѣ руки дóўги. –
Крадь; ни пападайся,
Ну трýдна[2] папáўся, –
У дворъ низварачáйся,
У Сóбаля тожъ –
Сынъ законъ прыстýпя, –
Йонъ яго атлýпя,
Тольки прычытáя
Йонъ вó якъ:
Ты ня трóнь чужóга
И ня бойсь никóга!
Чужóя дабро ни ў нажы́ву.
Аткýль чужбинка пры́дзье,
Туды яна й пóйдзье.
Грынька зь малалѣ́тства
Змиренъ бы́ў,
Зроду мухи йонъ ни зачапи́ў

---

[1] Трэба: прымаўляўшы.
[2] Так у першапублікацыі.

Ну, сыноў вучы́ў....
Сяре́дняму сы́ну Хвёдару
За бряхню и крыўду
Пячонки атбиў.
А да́ли пабачиў
Што съ тыя наву́ки
Ничо́га нима апры́чъ муки,
И биць пиреста́ў
Тольки съ таго часу хму́ринъ стаў.
Нѣ, ни|бачыць Грынцы
Атъ сыноў пуця́.
(Такъ народъ гаво́ря)
Што съ таго, што бацька ву́ча,
Матка ихъ патво́ря:
Ажъ яно и праўда:
Якъ быва́ла малы́й
Шъ чужо́га гаро́да
Прынясе ў пастаньни[1]
Ци гурко́ў, ци бо́бу,
Матка таму́ й рада:
Ахъ ты мой сыночыкъ,
Пры́нéсъ мнѣ гуро́чыкъ!
Йонъ мнѣ и падъ стара́сць
Хлѣбца раздабу́дзье,
Вырасьцье вели́кій
Матку карми́ць будзье.
Хавай жа, штобъ бацька
Но́йды[2] ни паба́чиў
А то якъ прыско́ча.
Во́ якъ прывало́ча.

## ГЛАВА III
## Горя-гарева́ньня

Охъ! вы́пала го́ря,
Го́рячка ни ма́лая,
Приключылась дзѣ́ла,
Дзѣ́ла ни бывалая:
Дажда́ўшыся па́ски[3],
Мы свайе́ вуча́стки,
Скацину и ву́тварь
Прада́ць паспишали.
Бабы да́жа грядъ ни саджа́ли,

[1] Пастання – падол, прыпол з грубай тканіны; ніжняя частка спадніцы.
[2] Часам, выпадкам.
[3] Вялікадня.

Заты́мъ, што была ду́мка:
После Вазьнясе́ньня[1] –
На пиряселе́ньня.
Ажъ прайшла й Пятроука[2];
Съ проччыхъ сёлъ людзи ѣдуць,
Мы жъ сядзи́мъ на мѣсъци;
Ни зъ во́ласьци, ни атъ зе́мськаго
Нима́ вѣ́сьци.
Во́ пашли й каси́ць....
Лю́дзи жыта жнуць,
А нашы сидзя́ць,
Да вука́за ждуць.
На сялѣ́ бунта́цыя:
Жо́нки зъ мужыка́мы,
А дзяды́ съ бацька́мы,
Што дзень, то руга́лися,
Зачымъ у Сибирь записа́лися.
А што Грыньку – сыны́
Ѣдзяць по́ѣдамъ;
Падзяли́, ба́цька, насъ,
Давай грошы сюды,
Ни паѣдзи́мъ мы туды́.
Грыньна йимъ ў ватка́зъ:
Знаю васъ, галубцы́,
Якавы вы малайцы́!
У васъ грошы
Пойдуць па раско́шы;
Вы йихъ, ду́хамъ поправодзицье,
А тирязъ паўго́да
Съ ка́йстрай по́йдзицье,
Я свой вѣкъ пражы́ў
Мнѣ зимля ня трэба,
Васъ я хо́чу прыпуцыць,
На хлѣбъ со́ль – уссадзи́ць,
Вы жъ таго ни ця́мицье,
Зъ ба́цьки жы́лы ця́гницье.
Грынька й самъ ташну́я[3].
Ху́дшы ними́ му́ки,
Якъ хазя́ину, у гаря́чая ўре́мъя
Сядзѣ́ць, скла́ўшы руки:
Во ужо й ве́чаръ,

[1] Ушэсце адзначаецца сорак дзён пасля Вялікадня.
[2] Пост у праваслаўных перад святам апосталаў Пятра і Паўла, якое адзначаецца 12 ліпеня па новым стылі.
[3] Нудзіцца, сумуе.

А Грынька ня ѣ́ў, ня пи́ў
Хо́дзя сму́цинъ,
Нача[1] душу́ загуби́ў,
А сыны пяку́ць...
Прамытай вады́ ни|даюць.
Во якъ за тры мѣсяцы
Бѣ́днаго ссушыли,
Йонъ ажъ учарнѣ́ў,
Хунта[2] хлѣба за нядзѣлю,
Можа, йонъ ня зьѣў.
Божачка жъ мой Божа,
Штожъ йета будзье!
Ужо – й во́сянь; пачали́ ярь жаць
А нашай бумаги усо́ ни чува́ць!
Ужо й Зе́мській[3] дзивavaўся,
Куды тэй ука́зъ задзива́ўся,
Адли́[4] самъ распазна́ў,
Што указъ расуській
У чужой у во́ласьци
Падъ сукно́мъ лижа́ў.
Штобъ тымъ руки падсыхали,
Што яго падъ сукно паклали;
Намъ жа трэба лѣ́цячка рабата́ць,
Не́чага жъ намъ будзя
У лѣ́ваю руку ўзя́ць[5].
Во за йетымъ самымъ,
Охъ яхъ бидава́ли!
Ни прывядзи Богъ,
Ко́льки му́ки мы пры́ня́ли.
Вотъ – жа на паслѣдакъ,
И намъ приказали,
Штобъ пасля́ Прячы́стыя[6], разгавѣўшысь,
Мы на палуста́накъ[7] прыѣжджа́ли.

---

[1] Быццам, нібы; хіба.
[2] Мера вагі. У Вялікім Княстве Літоўскім з 1766 г. адпавядала 374,82 г., у Расеі – роўная 409,5 г.
[3] Маецца на ўвазе г. зв. земскі начальнік – судова-адміністрацыйны і паліцэйскі ўрадовец, які кіраваў сялянскім насельніцтва пэўнага павета.
[4] Нарэшце. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 3: "А́ДЛИ, союзъ заключ. А для того, наконецъ. *Адли такъ наша взяла. Адли я и здзѣлавъ такъ*".
[5] Т. е. въ правой рукѣ ложка, вь лѣвой хлѣбъ (*заўвага М. Косіч*).
[6] Маецца на ўвазе старажытнае земляробчае свята ўраджаю; дажынкі. Адзначалася 28 жніўня.
[7] Маецца, відаць, на ўвазе Расуха, які ўзнік у 1887 г., калі будавалася чыгунка Бранск – Гомель.

**ГЛАВА IV**
**Атъѣжджайимъ**

Жо́днаму[1] журьба́,
Хто пиресиля́йицца.
Хима Ива́ниха
Крэпка убивайицца.
Кали бъ, кажа, я йета лиха знала,
Я бъ жа свайой Дуни
Замужъ нитдавала,
Журицца па мнѣ,
Ня хоча тутъ заставацца;
Такъ заташнавала,
Што у ротъ ничо́га
Съ чацьверга ни бра́ла,
Высахла яна на былинку,
Ня спиць у начы́ ни на валасинку.
Охъ! дзѣ́тки, дзѣ́тки
Горя ма́тцы эъ[2] ва́мы!
Затапи́ла мяне Дуня
Свайимы слиза́мы.
Ничо́га ни ка́жа.
Ничо́га ня про́ся,
Ся́дзя мо́ўчки на ла́ўцы,
Да – й, гало́ся.
Во прысьпѣла ўре́мъячка,
Во настаў дзянёчыкъ,
Прышо́ў и часо́чыкъ
Выѣжджаць намъ...
Ужо – й снѣ́даць панагатава́ли,
Ужо – й вазы́ паўвяза́ли,
Тольки – еще коній ни пазапряга́ли.
    Охъ и хто – жъ то
    Кала́ мосту[3] убивайцца?
    Ни дачка́ йета зъ маткай праща́йцца,
    То ўнука зъ бабусяй[4] разлучаицца.
    Бабусичка жъ ты мая,
    Ты жъ за мной и но́чачку ни ўсыпа́ла
    Ты жъ мяне нядýжую даглядала!
    На чужой старо́нцы

---

[1] Кожнаму. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 157: "ЖО́ДНЫЙ, спр. ок. Жодзенъ, прил. То же, что Жадный. *Жодному чорту годзи. Жодному закажу то дзѣлаць. Жодзенъ зъ васъ не вартъ того*".

[2] Трэба: зъ.

[3] Тут: ганак, сходцы перад уваходам у хату.

[4] Повивальная бабка (*заўвага М. Косіч*).

Куды жъ я галовачку прыхилю?
Ѣду жъ я туды горькай сиратóю!..
Майе жъ роды́ цяжóлые,
Бизъ цябѣ бабусичка
Мнѣ ня быць жывóю....
Лютая сьвякруха мяне ни узлюбила,
Бóлшая нявѣстка за бузáнъ[1] забúла,
Мною тры залóўки, якъ анýчкай труць,
*А* якъ занядужаю, мнѣ вѣры няймуць.
У сямъѣ мнѣ цяжка –
Заразъ я къ бабуси,
Прыйду къ йой, – паплачу,
Тольки жъ и уцѣхи
У яйе пабачу.
Я зъ йою у мѣсьцячку пагарюю,
Лáскавая словечка атъ яйе пачую...
Парá-жъ ужо!, кажуць мущы́ны,
Чагó дáлій ждаць...
Памалились Богу, паклоны атбили,
Пашли запрягаць...
Выхóджу я за варóцячки,
Стала на бугрѣ́,
Васéньній дзянёчыкъ,
Якъ цихая лѣ́цячка,
Соньняйка зьзяйе,
И яно насъ горькихъ
У Сибирь праваджáе.
Зьбѣгаю на скорую, я къ панамъ
Съ усимы пращýся,
Зъ барышняй Адашай[2]
Мы ў серцахъ[3] – пайду памирюся.
Паны нашы насъ ни забиджáли
Нóйды[4] калá ихъ мы й хлѣбъ зараблáли.
Усхóджу на гарý,
Яны павыхóдзили.
Кинулась я къ йимъ у ноги, – агу!..

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 37: "БУЗА́НЪ, с. нескл. употр. только съ предлог. за, въ выраженіи Загоняць. То же, что Бузаниць. *Загнаць за бузанъ*". "БУЗА́НИЦЬ, сов. Забузáниць, гл. д. 1) Гонять, истязывать, конфузить. *За што ты его такъ бузанишъ, забузанивъ*? 2) Жестоко бить, тузить. *Не бузань его такъ*".

[2] Адаша – Даша, Адарка. Відаць, гаворка пра сястру М. Косіч Агату Булгакаву.

[3] Пасвараныя. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 578: "СЕ́РЦЕ, -а, сущ. ср. (по Лит. Szirdis – сердце). <..> 2) Гнѣвъ, злость. *Въ серце вступивъ*. 3) Расположеніе. *Съ щиримъ серцемъ*".

[4] Иногда (*заўвага М. Косіч*).

Прамоўвиць славе́чка ни змагу.
Адли́ ачу́халась, да–й кажу:
Кали была ху́да,
Цяперь ни кляни́ця,
Става́йцьесь здаро́виньки!
Богъ васъ упасе́...
А нашай воранъ ко́стачки
Сюды ни занясе́.
Тольки што хацѣла́
Яще штось сказаць,
Глянула назадъ, ажны Грынька Со́баль
Запрягши коня – первый возъ вядзье,
За йимъ Кавалёнакъ,
А тамъ й Иванъ Масяёнакъ.
Серца майо йокнула,
Ноги падламилися,
Во́ зара́зъ упасьць...
Хто бы́ў на рабоци,
Уси бягу́ць съ по́ля
Къ намъ праща́цца,
Жалка яно крѣпка
Съ свайимъ кра́ямъ раставацца!
Схо́джу́ я зъ горы́,
Глянула у выкру́гъ:
Нийдзѣ ни шало́хницца,
Увесь лѣсъ прыцихъ.
А майо жъ то серца
Тыхъ – тыхъ тыхъ...
Во́чачки майе слязьми засланилися
Чы́ста, скрозь намётку[1],
Ничо́га ни ба́чуць.
Здае́цца мнѣ ей жа Богу,
Што жо́дный кусто́чыкъ, дубы и бярезы
Уси плачуць... –
Мы жъ тутъ свѣтъ паба́чыли,
Тутъ мы й узрасьли́,
Маладыя лѣ́цячки
Нашы тутъ твили́...
Аставайцися жъ вы, майе лясочки,
Прыго́рачки – й бугаро́чки!
Атъѣжа́ю жъ я у далёкую старо́начку,
Палажы́ць мнѣ тамъ и гало́вачку.
Пращай мая рэчачка и ручайочки!
Бо́лій я сюды ни зьвярнусь,

[1] Тое, што і намітка – даўні галаўны ўбор замужніх жанчынаў.

Студзе́най вадзичачки ни напъюсь.
Во – й сяло паза́дзи заста́лася,
За глыбокай даро́жкой падъ лясо́чкамъ
Наша це́рькаўка паказалася.
Баслави маци, святая Прячыстая,
Насъ у пуць даро́жачку...
Во й на поля ўзышли
Я иду, иду, – назадъ аглянуся –
Слиза́мы зальлю́ся...
На палустанки доўга паджыда́ли
Тольки пирядъ ве́чарамъ вагоны пада́ли
И зе́мській прыбы́ў...
Я ужо́ пирепла́калась,
Стаю́, да маўчу – нача камина́я,
Да́ли ра́замъ... якъ у звонъ уда́рыли!..
Якъ закалачуся я...
Усе майо цьѣла
Ажъ пахаладзѣ́ла!
А што Дуня Ива́нава
Сащапила крэпка матцыны калѣци,
Къ ножачкамъ прыпа́ла,
Рукъ ни разыма́йя,
Матки ни ,тпу́шая.
Зе́мській падышо́ў, растря́цця[1] вялѣ́ў,
А самъ якъ папе́ра увесь зьбялѣ́ў,
Уря́дникъ падско́чыў, Дуню атцягнуў,
А Химу наси́лна у вагонъ пихну́ў.
Дуня абамлѣла... хацѣли ваді́ даць,
Ни якъ зубо́ў ни разьняць...
Зашумѣло... сьвиснуло... зь мѣста зьдзвинулись
Мы къ вакошку кинулись...
И стали хрясцицца,
У ко́жнаго слазы пача́ли кацицца.
Конецъ 1-й части.

[1] Расставацца.

# Кніжачка перастварэнняў Марыі Косіч

У літаратуразнаўчых публікацыях маюцца звесткі пра два рукапісныя зборнікі М. Косіч «переложеній» баек І. Крылова. На жаль, нам не ўдалося пазнаёміцца з імі, а таму апісанне падаем паводле даступных матэрыялаў.

Першы рукапіс (*Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе*) на пачатку XX ст. кіеўскі цэнзар пераслаў у Імператарскую публічную бібліятэку ў Пецярбурзе. У 1947 г. С. Бабінцаў выкарыстаў яго пры падрыхтоўцы артыкула *Мировая известность Крылова*:

> Рукопись басен представляет собой тетрадь без обложки в 38 листов, из которых – 7 чистые. На первом листе – заглавие и три цензурные записи, по которым можно установить, что рукопись поступила к киевскому отдельному цензору летом 1901 года и 3 сентября была отослана в Главное управление по делам печати. Через год цензор делает на ней запретительную надпись: «Запретить согласно предложения Главного управления по делам печати от 29 июля 1902 г. № 6631». А в конце сентября М.Н. Косич получает извещение цензора о запрещении печатать ее переводы, и рукопись осталось в делах цензуры [Бабинцев 1947: 291].

Пачынаўся гэты рукапіс уступам *Пояснение некоторых особенностей в произношении при чтении букв У и Й*. Трэба думаць, што аўтарка выкарыстала тут фрагмент свае нататкі *Звуковыя особенности бѣлорусскаго говора Черниг. губ.*, змешчанай у працы *Литвины-Бѣлорусы Черниговской губерніи, ихъ бытъ и пѣсни*, якая друкавалася ў часопісе «Живая Старина»:

> 1. Звукъ ***У***, замѣняющій собою всегда предлогъ ***въ***, а также неударяемый звукъ ***у*** въ началѣ слова произносится двояко: а) или кратко или б) обыкновенно, какъ выговаривается ***у*** въ книжной рѣчи. Напр. «у ха́ци свякруха лижа́ла».
> 2. Безударное краткое ***у***, стоящее обыкновенно въ началѣ слова, произносится на столько кратко, что, сливаясь съ гласной предъидущаго слова, какъ бы не составляетъ отдѣльнаго слова. Напр. «Няумёръ Данила, баля́чка удавила».
> 3. У можетъ быть краткимъ только тогда, когда стоитъ непосредственно послѣ гласнаго. Напр. «краткое ***у***: Мы убили ко́ршуна; Йена умёрла; Ты ня умѣйшишъ пахаць; на́шы сваты́ убо́ги. Не краткое ***у***: ахотникъ уби́у коршуна; йонъ умёръ; дзье́вирь умѣя паха́ць; нашъ сватъ убо́гъ».
> 4. ***У*** не бываетъ краткимъ въ началѣ фразы. Напр. «У лѣси, на пратавѣси висиць красная плацьця. У поли сцьежачка».
> 5. «***У***» не бывыаетъ краткимъ послѣ двоегласія, образовавшагося изъ словъ: ***ел***, ***ал***, ***ил***. Напр. «пашо́у у дубраву; сѣу́ у лѣси; Церькау у го́радзи; прышоу у хату».
> 6. Въ рѣдкихъ случаяхъ ***у*** переходитъ въ ***ы***, ***о***, ***ю***, а именно: «глыбокій; слыхъ (слухъ); юха́, юшка (юха); логъ (лугъ)» [Косичъ 1901b: 79–80].

Цікава, што ў друкарні князя У. Мяшчэрскага (1839–1914), «трубадура реакции» (Іван Тургенеў), дзе друкаваўся часопіс «Живая Старина», не было ў 1901 г. літары **ў**. Але калі выдавалі асобную адбітку працы *Литвины-Бѣлорусы*, яна з'явілася, хоць выкарыстаная была толькі пры друку дадатку *Опечатки* (на 23 старонках!). Апрача таго, аўтарка палічыла тут патрэбным даць напачатку кніжкі *Примѣчаніе къ выговору нѣкоторыхъ словъ въ статьѣ Литвины-Бѣлоруссы*.

Пасля ўступу ў рукапісе былі змешчаны адзінаццаць баек, напісаных паводле твораў І. Крылова. С. Бабінцаў падаў тытулы баек не ў моўнай версіі М. Косіч, а паводле тытулаў арыгіналаў. Можна дапусціць[1], што расейскі навуковец не мяняў іх парадак: *Ворона и Лисица*, *Волк и Кукушка*, *Василек* (7–9), *Лебедь Щука и Рак* (11–13), *Крестьянин и Лисица*, *Клеветник и Змея* (17–19), *Орел и Пчела* (21–23), *Квартет*, *Листы и Корни* (29–31 v), *Кот и Повар*, *Добрая Лисица*.

Другі рукапіс[2], выяўлены хіба ў 1960-я гг. Таццянаю Кабржыцкаю і Вячаславам Рагойшам, коратка ахарактарызаваны даследнікамі ў кнізе *Карані дружбы*:

> У аддзеле рукапісаў Інстытута ўкраінскай літаратуры імя Т. Шаўчэнкі ў Кіеве нам пашчасціла адшукаць рукапіс *Пералажэння* М. Косіч, надасланы аўтаркай кіеўскай цэнзуры. На ім – запіс пра атрыманне рукапісу 1 верасня 1901 г., а таксама рэзалюцыя цэнзара: "Забараніць згодна прапанове Галоўнага ўпраўлення па справах друку ад 29 ліпеня 1902 г. № 6632". Як бачым, цэнзары не спяшаліся з разглядам рукапісу, дачакаліся-такі адпаведнага, забарончага цыркуляра [Кабржыцкая, Рагойша 1976, online].

Атрымліваецца: М. Косіч склала кіеўскаму цэнзару ажно два асобнікі сваіх *Переложеній*... Адзін з іх – «летом 1901 года», а другі – "1 верасня 1901 г.". Апрача таго, звяртаем увагу на розныя нумары пастановы Галоўнае ўправы па справах друку на рукапісах – 6631 і 6632[3]. Але самае істотнае тое, што *Кляветчык і Гадзюка*, байка і з дадзенага рукапісу, і з рукапісу Публічнае бібліятэкі ў Ленінградзе, не мае 10-ці пачатковых радкоў, якія ёсць у апублікаваным В. Рагойшам творы ў хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* [Косіч 1971: 329–330]. Відаць, навуковец, не папярэдзіўшы чытача, палучыў тэкст байкі з "кіеўскага" рукапісу з тэкстам байкі са збораў Лукаша Бэндэ[4]. У выніку ва ўсіх пазнейшых публікацыях

---

[1] У публікацыі падаюцца старонкі, на якіх змешчаныя асобныя байкі.

[2] Дакладная назва рукапісу даследнікамі не падаецца.

[3] Вядома, тут памылка перапісвальніка (кіеўскага асобнага цэнзара ці беларускіх навукоўцаў).

[4] Л. Бэндэ ў кастрычніку 1948 г. на падставе сабраных ім матэрыялаў падрыхтаваў, але не апублікаваў артыкул *І.А. Крылоў і беларуская літаратура канца XIX і пачатку XX стагоддзяў (паводле архіўных матэрыялаў)* [гл.: БДАМЛіМ, 66-1-216]. Ён карыстаўся наступнымі крыніцамі: 1. Артыкул С. Бабінцава *Мировая известность Крылова*; 2. Архіўная справа ЦГИАЛ, ф. 776, оп. 21, ед. хр. 17; 3. Архіўная справа ЦГИАЛ, ф. 733, оп. 195, ед. хр. 191176[а]; 4. Архіўная справа ЦГИАЛ, ф. 734, оп. 3, ед. хр. 99. Шэраг матэрыялаў, якія датычаць творчасці М. Косіч, захоўваюцца ў БДАМЛіМ: ф. 66-1-215: *І.А. Крылоў і беларуская літаратура канца XIX і пачатку XX стагоддзяў (паводле архіўных матэрыялаў). Артыкул. Варыянты. Аўтарызаваны машынапіс з аўтарскай праўкай. У канцы прыкладзены архіўныя матэрыялы ЦДГА г. Ленінграда –*

байкі *Кляветчык і Гадзюка* падаюцца недакладныя звесткі пра крыніцу паходжання тэксту.

Існаваў, аднак, яшчэ адзін рукапіс, падрыхтаваны М. Косіч для віленскае цэнзуры. Ён не захаваўся ці пакуль не выяўлены. Парадак размяшчэння ў ім тэкстаў крыху іншы[1], чым у рукапісах, аддадзеных кіеўскаму цэнзару. Ды і сам рукапіс мае іншы тытул: «литовско-бѣлорусское нарѣчіе» сталася ў канчатковай версіі «бѣлорусскимъ». Замест *Пояснения некоторых особенностей в произношении при чтении букв У и Й* з’явілася *Предисловіе*, у якім робіцца акцэнт на навуковы характар выдання: маўляў, народныя беларускія песні, што ўжо апублікаваныя ў часопісе «Живая Старина», маюць свой адметны стыль, а вось «народный говоръ» формаю і «оборотами рѣчи» адрозніваецца ад іх. Менавіта каб даць узоры «настоящаго народнаго говора литвино-бѣлорусовъ» і паказаць «яснѣе это различіе» аўтарка нібыта і падрыхтавала «переложеніи нѣсколькихъ басень Крылова».

Зроблена гэта было, пэўна, пасля таго, як М. Косіч атрымала інфармацыю, што Галоўная ўправа па справах друку выдала сваю “забарончую” пастанову, г. зн. у верасні-кастрычніку 1902 г. Цікава тое, што ў адпаведнасці з тагачаснымі патрабаваннямі кіеўскі цэнзар павінен быў паведаміць пра забарону ўсе цэнзурныя камітэты імперыі. Так, 16 кастрычніка 1902 г. ён інфармаваў пра гэта С.-Пецярбургскі цэнзурны камітэт [Бабинцев 1947: 291]. Дык і віленскі цэнзар мусіў быў атрымаць падобную інфармацыю ў кастрычніку таго ж года. Тым не менш, 13 лістапада 1902 г. Віктар Боас даў дазвол на друк чарговае кніжачкі М. Косіч.

Чаму? Можна меркаваць, што ў Вільні альбо не атрымалі паведамлення ад кіеўскага цэнзара, альбо справу на карысць паэткі вырашыў Пётр Святаполк-Мірскі (1857–1914), «товарищ министра внутренних дел», а пасля віленскі генерал-губернатар[2]. Прыгадаем: «Двѣ книжки М.Н. Косичъ *На пиресяленьня* І-я часть и *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе* были допущены

---

*машынапісная копія*; *ф. 66-1-223–224*: *І.А. Крылоў і беларуская літаратура. Прадмова да зборніка баек І.А. Крылова. Варыянт. Аўтограф. Машынапіс з аўтарскай праўкай. 1949*; ф. 66-1-557: *Пратакол пасяджэння Панечыцкай (!) рады пры Віленскай навучальнай акрузе, дзе разглядаліся пераклады М.М. Косіч баек І.А. Крылова. Сшытак з рукапіснымі копіямі Л.А. Бэндэ*; ф. 66-1-1002: *Перапіска Галоўнага ўпраўлення па справах друку і Дэпартамента народнай асветы аб выданні кнігі Пераклады басен Крылова М.Н. Косіч на беларускую мову. Машынапісныя копіі;* ф. 66-1-1294: *І.А. Крылоў. Кляветчык і гадзюка. Байка. У перакладзе М.М. Косіч з рускай мовы. Аўтограф перакладчыка* і інш.

[1] Лічым, што ў гэтым рукапісе тэксты былі змешчаны так, як і былі надрукаваныя ў кніжачцы *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе* (1903).

[2] Т. Кабржыцкая і В. Рагойша задаюцца пытаннем, ці не дапамог М. Косіч абмінуць “забарону” Аляксандар Русаў? І адказваюць: “Цалкам верагодна, бо кніга выйшла ў друкарні Чарнігаўскага земства, дзе ён працаваў пэўны час. І хоць Русаў на пачатку стагоддзя ўжо быў у Пецярбурзе, усё ж ранейшыя знаёмствы і ўплывы заставаліся” [Кабржыцкая, Рагойша 1976, online]. Аднак трэба ведаць, што перш чым кніжачка М. Косіч трапіла ў друкарню Чарнігаўскага земства, яна мусіла атрымаць дазвол віленскага цэнзара, на якога А. Русаў аніякага ўплыву не меў.

цензурою къ печатанію лишь въ либеральное правленіе кн. Святополка Мирскаго» [Рыбаковъ 1911: 756].

Цэнзар В. Боас, пэўна, уважліва праштудзіраваў *Переложеніе*…: байку *Клявеччыкъ и Гадзюка* ён выкасаваў цалкам, а з чатырох баек – асобныя радкі. Чатыры – з байкі *Василёкъ*, пяць – з *Арёлъ и Пчала*, шэсць – з *Музыка самъ чацьвертъ* і дваццаць два – з *Лисьця и Карэньня*[1].

Напачатку гісторыкі літаратуры, характарызуючы кніжачку М. Косіч, нязменна адзначалі "хібы" перакладчыцкага майстэрства паэткі, "зусім слабую" тэхніку ейнага верша. І толькі ў апошні час прыйшло разуменне, што М. Косіч не перакладала І. Крылова, а карысталася прыёмамі «переложенія», інакш кажучы – пераказам матываў баек Эзопа, Фэдра, Жана Лафантэна, якія ў расейскай літаратуры на высокім ўзроўні ажыццявіў Іван Крылоў. Тут патрэбнае яшчэ адно ўдакладненне: М. Косіч імкнулася ўзнавіць старажытныя баечныя матывы на народнай гаворцы сваіх родных ваколіцаў, стылізаваць іх пад народную гаворку, прычым – менавіта пад гаворку, а не песню. Ейнаю ці не галоўнаю задачаю было таксама давесці, што беларуская гаворка не горшая за іншую:

> Положимъ, легко допустить, что малорусская рѣчь благозвучнѣе бѣлорусской. Предположимъ напр. какой нибудь отрывок, написанный по-бѣлорусски, станетъ читать лицо, совершенно незнакомое съ народнымъ говормъ, произнося ***ц*** и ***дз*** твердо безъ смягченія, то подобное чтеніе будетъ рѣзать ухо. Между тѣмъ какъ народъ произноситъ эти звуки съ іотировкой, отчего ихъ устная рѣчь выходитъ гораздо мягче. Заставьте бѣлорусскую женщину разсказать что нибудь; вслушайтесь въ эту рѣчь, и вы найдете въ ней своеобразную мягкость и легкость звуковыхъ сочетаній [Косичъ 1901а: 221].

Дзякуючы атрыманай у маладыя гады адукацыі, а таксама знаёмству ды цікавасці да мовазнаўчае і фальклорна-этнаграфічнае навуковае літаратуры, М. Косіч магла не па-аматарску ахарактарызаваць асаблівасці беларускае мовы. І лічыла, што да яе гэтым мала хто займаўся. На жаль, аддаленасць ад беларускіх культурных цэнтраў (Вільні, Віцебска, Мінска) пазбавіла яе магчымасці пазнаёміцца з беларускамоўнымі літаратурнымі тэкстамі. Прынамсі, пра іх яна нідзе не згадвае.

З расейскамоўных навуковых публікацый М. Косіч ведае, што мова, якою карыстаюцца жыхары «сѣверныхъ уѣздовъ» Чарнігаўскае губерні, называецца "беларускаю". Ведае яна таксама, што суседзі (украінцы і расейцы) называюць насельнікаў Старадубскага, Мглінскага і Суражскага паветаў "ліцвінамі". У выніку ейныя землякі становяцца «Литвина-Бѣлорусами», якія, праўда, «говорятъ по-бѣлорусски»[2]. А вось байкі І. Крылова яна перастварае «на литовско-бѣлорусское нарѣчіе». З якою мэтаю? Праўдападобна, не дзеля развіцця беларускае літаратуры[3]. А таму *Переложеніе басенъ Крылова*… трэба разглядаць у кантэксце ўсяе

[1] Мяркуем, паводле супастаўлення апублікаваных тэкстаў з г. зв. кіеўскім рукапісам, якое здзейсніў С. Бабінцаў. У той жа час усведамляем, што М. Косіч магла сама змяніць творы (як скасаваць асобныя радкі, так і дадаць). Згадаем дададзеныя ёю дзесяць радкоў у байку *Клявеччыкъ и Гадзюка*.

[2] У 1920-я гг. Павел Растаргуеў (1881–1959) назаве яе «северско-белорусским говором».

[3] Дык зусім беспадстаўна Янка Казека разглядае байкі М. Косіч у кантэксце

навукова-даследніцкае працы, якую вяла М. Косіч напрыканцы XIX – напачатку XX ст. Памятаючы, аднак, і тое, што пісьменніцкая слава не была ёй таксама чужою. Зрэшты, У. Казбярук характарызуе байкі як мастацкі, а не навуковы даробак паэткі:

> Марыя Косіч у сваіх вольных наследаваннях І.А. Крылову ўзнімае вечна надзённыя праблемы жыцця людзей. Паэтэса бескампрамісна супрацьпастаўляе праўду і крыўду, дабро і зло, справядлівасць і беззаконне. Сваім мастацкім словам яна выносіць прысуд крыўдзе, махлярству і прадбачыць расплату за кожнае злачынства – калі не на гэтым, то на тым свеце [Казбярук 2007: 371].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: М.Н. Косичъ, *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе*, Черниговъ, Типографія Губернскаго Земства 1903 г., с. 3–29.

---

класічных тэкстаў беларускае літаратуры XIX ст.: "*Пералажэньні* <...> у мастацкіх адносінах досыць прымітыўныя. Прыстасаваўшы крылоўскія байкі да тых ці іншых мясцовых здарэнняў, пісьменніца збядніла і здрабніла іх змест, пазбавіла іх вострай грамадскай накіраванасці і сатырычнай сілы. <...> не магла наша літаратура, якая мела ўжо *Тараса на Парнасе*, *Пінскую шляхту*, *Дудку беларускую* і *Смык беларускі*, лічыць гэтыя *Пералажэньні* сваім значным здабыткам" [Казека 1960: 56].

## Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе М.Н. Косичъ

ПРЕДИСЛОВІЕ

Народныя пѣсни, сложившіеся вѣками, сохранили болѣе или менѣе свой стиль, и въ такомъ же видѣ поются народомъ по настоящее время. Ио[1] форма и обороты рѣчи пѣсни въ общемъ отличаются отъ народнаго говора, какъ и всякая поэзія отъ обыденнного разговора.

Чтобы представить яснѣе это различіе, я въ слѣдующемъ переложеніи нѣсколькихъ басень Крылова предлагаю образцы настоящаго народнаго говора литвино-бѣлорусовъ[2] съ свойственными имъ оборотами рѣчи и мѣстными выраженіями.

Такъ говорятъ въ полѣсьѣ сѣверныхъ уѣздовъ Черниговской губ. Есть возможность предположить, что этотъ говор сохранился неприкосновеннымъ во всей своей цѣлости съ давнихъ временъ, такъ какъ мѣстность эта (особенно Мглинской и Суражскій уѣзды) была изъ поконъ вѣку изолирована лѣсами отъ вліянія другихъ нарѣчій, а въ болѣе позднія времена, благодаря мѣстнымъ условіямъ, она оставалась въ сторонѣ отъ воздѣйствія культуры.

### ВАРОНА И ЛИСИЦА

Посвящается А.А. Русову.

Хоць кажы́, хоць ни кажы́,
Што брэхаць[3] намъ сты́дна, –
Ни паслухаюць – чужбинка
Жо́днаму[4] зави́дна.
. . . . . . . . .
Знайшла сабѣ[5] варона ка́леўца[6] сыру,
Барджэ́й[7] нэ елку сѣла;
Пасьнѣдаць[8] захацѣла,

---

[1] Трэба: *Но*.
[2] Ихъ пѣсни и бытъ вышли отдѣльными оттисками изъ журнала «Живая Старина», 1902 г. (*заўвага М. Косіч*).
[3] Лгать (*заўвага М. Косіч*).
[4] Каждому (*заўвага М. Косіч*).
[5] Себѣ (*заўвага М. Косіч*).
[6] Немножко (*заўвага М. Косіч*).
[7] Скорѣй (*заўвага М. Косіч*).
[8] Позавтракать (*заўвага М. Косіч*).

Да тро́хи-й – загракала[1],
А сыръ-тыки ў рату́ дзиржа́ла.
На лиха йой лисица близка бѣгла.
		На елку зирь[2] –
		Бача сыръ,
		Ещэ́ разъ поглядзѣла
		И сабѣ́ сыру захацѣла.
Падкралась, шэльма, ци́хинька,
Хвастомъ виля́йе,
Зъ вароны вачей[3] ни спуща́я,
Такую гамо́нку[4] заво́дзье:
Нача медомъ сало́дзъе:
"Прыго́жа ты сястрыца!
Ни даць, ни ўзяць – жаръ пцица!
А перъряйкажъ – то!
		А насо́чыкъ!
Да ужо́-жъ и то́нинькій
Далжо́нъ быць галасо́чыкъ.
Ни саромся[5] тайичка,
Пѣсинку мнѣ сьпѣ́й[6],
Ты жъ у Бога пту́шачка[7]
Якъ тэй салавей".
Пачу́ўшы[8] пра сваю красу,
Варона ажны абамлѣ́ла
Ажъ стала зѐлина ў ваччу[9].
Закрахала нябога ў ваўсю глотку,
А сыръ на землю – плясь![10]
Лиса яго ўхапила, –
Да ў кусты – (й) брязь![11]

---

[1] Зазѣвалась (*заўвага М. Косіч*).
[2] Глядь (*заўвага М. Косіч*).
[3] Очей (*заўвага М. Косіч*).
[4] Разгоноръ (*заўвага М. Косіч*).
[5] Не стыдись (*заўвага М. Косіч*).
[6] Спой (*заўвага М. Косіч*).
[7] Пташечка (*заўвага М. Косіч*).
[8] Услышанъ (*заўвага М. Косіч*).
[9] Глазахъ (*заўвага М. Косіч*).
[10] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, на вокладцы якога сінім атрамантам напісана «Любителю бѣлорусской народности отъ автора», замест выкрасленага слова тою самаю рукою: *някъ*!
[11] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі замест выкрасленых двух апошніх радкоў: *Во якъ*!

**ВОУКЪ и ЗЯЗЮЛЯ**

Уздумаў воўкъ
У дерогу[1] сабирацца,
Прыхо́дзье йонъ
Зь зязюляй папращацца.
Ня мочъ мая, тутъ, кажа, жыць!
Ну да – й – народъ! во́ръ на вару́,
Усе ъб йонъ биў[2], да гра́биў;
Хоць тутъ самъ чортъ
И тэй, яму бъ ни ўладзиў!
– Куды жъ ты, дзя́дзюшка, идзе́шъ,
Идзѣ ты мѣста тамъ сабѣ знайдзе́шъ,
Штобъ сыпаўняли[3] ўсе твайо хацѣньня?
– Иду я на пиряселеньня,
Тирязъ Чалябинъ, на Амуръ.
Тамъ кала стада
Сабакъ ни стаўляюць на калавуръ!
А пастухи – ну чыстыя жъ авечки;
Тамъ кажуць ни зъ вады,
А съ пастаялки[4] рэчки.
Пшаница родзье,
У волю хлѣба,
И памирaць ня трэба
– Пастой жа, ни ў пагнѣў[5] будзь сказана,
А твой нара́ў и ротъ съ клыкамы
Ци тутъ пакинишъ,
Ци во́зьмишъ на Амуръ?
– Пакинуць! – Во здурэла баба,
Якую чапуху́ вярзье,
И несинетицу[6] нясе!
Тады зязюля такъ сказала:
Нехай сабѣ мая и чапуха –
Да тольки быць табѣ
Къ вясьнѣ бизъ кажуха́.

---

[1] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі: літара ***е*** папраўлена сінім атрамантам на ***о***.
[2] Билъ (*заўвага М. Косіч*).
[3] Исполняли (*заўвага М. Косіч*).
[4] Съ молока (*заўвага М. Косіч*).
[5] Во гнѣвъ (*заўвага М. Косіч*).
[6] Небылицу (*заўвага М. Косіч*).

**ЛИСЬЦЯ И КАРЕНЬНЯ**

У зяленай дали́ни
На кудрявамъ дзе́ряўцы
Лисьцяйка шумѣ́ла,
Зь вѣ́трыкамъ шапта́лась,
Горда вяличалась,
Сабой выхвалялась.
Во якъ мы прыгожа
Дзе́ряўцо урядзи́ли,
Адны мы дубро́ву
Усю узьвисялили!
Шыро́ку дали́ну
Тольки мы украси́ли!
Да насъ жо́дный годъ,
Даждаўшысь вясны,
Идуць красны дзѣвачки
Вадзиць карагодъ.
И пастухъ и пахàрь
У жаркій дзянекъ
Иду́ць къ намъ ў цянекъ.
Што праўду тайиць,
Кали вы и самы
Вѣ́тры вицяро́чки
Ни разлу́шны зъ намы,
– Ня худа бъ и намъ
Спасиба сказаць
Атгукнулись[1] корни
Цихи́нька зь зямли.
. . . . . . . . . . . . . . . . .[2]

Тутъ падъ га́ямъ нидалечка
Сѣйиў мужыкъ ленъ.

---

[1] Отозвались (*заўвага М. Косіч*).
[2] Кропкі азначаюць выкрасленае цэнзураю. Радкі магчыма ўзнавіць паводле артыкула С. Бабінцава:

«Хто смея грубиць нам?
Лисьця липетали
Кольки пряжыли мы
Такого буянства
У жисць сваю ни знали!
– А мы ж тыя корни,
Што у сырой землицы
Рыйимся, працуйим,
Вас кормим, гадуйим».
[Бабинцев 1947: 295].

Усе да славе́чка
Пачуў йета йенъ.
Къ по́ўдню вадни́[1], мухи
Ни даюць паха́ць,
Па няво́ли трэба
Съ сахи́ вы́прягàць,
Йонъ спутаў каня,
Пусциў па травѣ́,
А самъ легъ подъ дзе́ряўца
Трохи, падрямаць.
Да гля́дзючы на ча́лаго,
Пача́ў уздыхаць:
Такъ и мы съ табой
Коничакъ ты мой!
. . . . . . . . . . . . . . . . . .[2]
Ну, папа́сьвиўсь, чалый,
Годзье панава́ць!
Намъ съ табой ня можна
На баку лижа́ць,
Намъ трэба паха́ць!
Пагуля́й! памремъ,
Тады-й атдыхнемъ,
Тутъ намъ у жадо́бку[3]
Трохи палижаць,
А тамъ на томъ сбвѣци[4]
Атъ вяликаи́ лежни,
Баки́ забаляць.

[1] Оводы (*заўвага М. Косіч*).
[2] Кропкі азначаюць выкрасленае цэнзураю. Радкі магчыма ўзнавіць паводле артыкула С. Бабінцава:

Ат ранних гадоу
Потым обливайимся
Из сил выбивайимся
А ни мала и тых,
Што па усяму свету
Як лисьця шумяць
Дзела ни глядзяць.
Тыя нам не скажуць
За працу спасиба
Йим тое ни у памяци
Што ня будзья пахаты
Ни дрядзюцца у бархаты…
[Бабинцев 1947: 293].

[3] Отъ слова жаждать (*заўвага М. Косіч*).
[4] Так у першапублікацыі.

**СЕРДАБОЛНАЯ ЛИСИЦА**

Хтось раннаю вясной
Стрина̀дачку убиу̃
И бѣдныхъ птушанятакъ
У гняздзѣ пасираціў.
Пишчать малу̃шачки,
Раточки жауцю̀синьки
Галодны галаднюсиньки,
Голымъ галюсиньки.
Па ихъ ни какóхне[1]
Нярóдная маци.
Толькі адна лисица
На супраци сидзючы,
Пачала журыцца:
Божачка мой миласный!
Да чыйо-жъ то серца
Крôўю ни бальлецца?
Па сироцкай доли
Хто ни ужахнецца!
Сястрычачки птушки,
Ни пакиньця ма̀лыхъ!
Дайця имъ па зéрнятку
Кóжнаму ў раточыкъ,
Зязюличка сѣрая,
Ты й такъ линяйишъ.
Перъряйка раняйишъ,
Дай жа ты хоць трошки
Сябѣ абщыпаць,
Штобъ бѣднымъ сироткамъ
Пасьцéлку паслаць.
Разьвясёлый жа̀варанакъ,
Чымъ-сь табѣ па небу
Бизъ ума кружыцца,
Пашукай-ка[2] корму
Бѣднымъ пакармицца,
А ты, синичанька,
Чагó такъ сядзишъ ты?
Твайе ужó дзѣтки
Лóўка[3] падрасли;
Штобъ табѣ зъ гняздечка
Свайяго зьляцѣць,

---

[1] Не вздохнетъ (*заўвага М. Косіч*).
[2] Поищи (*заўвага М. Косіч*).
[3] Порядочно (*заўвага М. Косіч*).

Замисъ[1] ро́днай матки
Сиро́такъ пагрѣць!
Ластачка-хазяйичка,
Налави ты мўшакъ[2]
Дли маленькихъ птушакъ.
А ты, салавей,
Коцика й имъ сьпѣй[3]
Ни ляницесь родненькіе,
Богъ васъ ни пакиня,
Нехай людзи бачуць,
Што-й у нашамъ лѣ́си
Йосьцць добрыя ду́шы.
Пàкуль свайе рэ́чы
Лиса размаўляя́ла,
Ни у цярпежъ стрынаднчкамъ
У гняздзѣчки стàла:
Якъ пачали зъ голаду
Яны варушы́цца[4],
Дало́ў паспадàли
Падъ ноги къ лисицы.
И што жъ бы вы думали?
Добрая лица[5]
Тольки малыхъ си́ратъ
Языкомъ жалѣла;
Якъ прышло́сь да дзѣ́ла,
Усихъ сама паѣ́ла.

---

Йиншый чалавѣкъ,
Щто твайя лисица,
Усихъ бы йонъ адзѣў,
Усихъ бы накармиў,
Што каму раздаць,
Чаго кольки[6] даць,
Усе настро́йе ў ладъ,
Усяму дасць рядъ,
На добры размо́вы[7]
Нема ў яго й лѣни
Абы-бъ давацъ гро́шы

---

[1] Вмѣсто (*заўвага М. Косіч*).
[2] Так у першапублікацыі.
[3] Спой (*заўвага М. Косіч*).
[4] Шевелиться (*заўвага М. Косіч*).
[5] Трэба: лиса.
[6] Сколько (*заўвага М. Косіч*).
[7] Разговоры (*заўвага М. Косіч*).

Ни съ свайой кишени[1]
Пра свайю пра до́брасьць
Якъ ластка шчабе́ча;
Идзѣ жъ дабро сиро́цкая
Да плоха ляжыць,
Заразъ прысабѣ́ча,
На грѣхъ ни глядзиць.

## РАКЪ, ЛЕБИДЗЬ и ЩУКА

Посвящается бабушкѣ Анастасии Герасимовнѣ.

Раскажу вамъ браццы шту́ку
Пра рака лебидзя и щуку,
Якъ яны́ вази́ць на ли́нію
Каме́ньня падляклися[2],
Наклали возъ и уси тро́я
У яго ўпряглися[3].
Ко́жный цягне свайимъ тра́хтамъ:
Лебидзь прэ у паднябе́сься,
А ракъ ня хоча такъ:
Ионъ[4] кажа то ни ўладъ,
Трэба назадъ.
Ну щука на свайомъ стайиць!
Вадой, кажа, дастаўка легшы.
Таптались до́ўга кала̀ воза,
Аднача памизъ йихъ
Нихто тамъ ряду нм[5] знайшо́ў,
Я плюнуў, да-й пашо́ў,
А возъ яще́ й – пасюль вязуць,
На линіи яще – й – цяпернцька[6],
Таго́ каме́ньня жду́ць.

———

Во такжа, браццы – й мы:
Во такъ и ў насъ нима сагласься!
Якъ лебидзь зъ ракамъ возъ вязуць,

---

[1] Кнрманъ (*заўвага М. Косіч*).
[2] Подрядились (*заўвага М. Косіч*).
[3] У дадатку да ліста-просьбы Л. Талстому апошнія два радкі выглядаюць крыху інакш:

И уме́сци троя
Ў возе спраглися
[гл.: Бас 1969: 98].

[4] Трэба: Йонъ.
[5] Трэба: не ці ни.
[6] Теперь (*заўвага М. Косіч*).

Такъ нашы, вабчасьцьвеньськія
Дзялы́ идýць.
Намъ Земській загадаў
У школу дрóў[1] прывéзць.
Мы, чабъ[2], самы ни знали,
Што ў класи ўсю Пили́паўкў[3]
Малцы́ калѣ́ли,
А у вучыцялки увéсь мисаѣдъ
Зубы баѣли[4].
Вякала яна[5], бидняга вякала...
И къ старасци хадзила,
Дамóў малцо̀ў прагнаць гразила,
Нихто йой ра̀дачки ии[6] даў
И жо̀днӣй свайго̀ дзѣ́ла пилнаваў[7].
Ну што жъ састо̀йиць
Жóднаму двару возъ дроў прывезць?
Трыццать дварóў – трыццать вазо̀ў.
Дыкъ нѣ-жъ!
Нихто ня хоча палцамъ шавалнýць.
А тольки празничакъ якій малéнькій,
Сидзя́ць, гарэ́лку пъю́ць;
Старъ я ужó, ня люба мая рэчъ.
Ну за мирьськóя дзѣ́ла
Васъ трэба, зьвіняйцЯ, браццы, сѣчъ.
Кали́бъ хто дóбрый,
А то й бабы туды́ жъ!
Загадали мостъ[8] у школи мыць;
У в’адно̀й палицъ бали́ць,
У той дзиця́ мало̀я,
Той некали[9],
А тая – и сусимъ схавалася
Атъ сóцкаго у клѣць[10].
Скажы, кажа, дзицятачка,
Што матка далека, ў поли
Ленъ бярэ́ць.

---

[1] Дровъ (*заўвага М. Косіч*).
[2] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі сінім атрамантам: *бачъ*.
[3] Филиповскій постъ (*заўвага М. Косіч*).
[4] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі сінім атрамантам дапісана літара *л*: *балѣли*.
[5] Надоѣдалъ (*заўвага М. Косіч*).
[6] Трэба: *ни*.
[7] Усердствовалъ (*заўвага М. Косіч*).
[8] Падлогу.
[9] Некогда (*заўвага М. Косіч*).
[10] Амбаръ (*заўвага М. Косіч*).

Гляджу́, ажъ тая,
Што палицъ бо́лный,
На рэчку плацця працъ нясе́.
Ага! на свайо дзѣла вы дасу́жы (жы),
А школу мыць ня ду́жы.
Ну за такій атказъ
Ябъ па патылицы[1] у сихъ васъ!..
Хундаме́нтъ у церькви валицца,
У правамъ ву́гли цьечка:
На бацюшкинъ прыказъ
Адзинъ атказъ:
Грошый нимашъ!
Да-й – шабашъ.
А саракъ чвертакъ
Канапе́ль царько́ўныхъ
И дзье́нягъ сто цалковыхъ
Разпазыча́ли папячы́цяли,
Паразбирали давярыцили
И ни ’тдаюць!
Нихай сабѣ царькоўныя вуглы гніюць,
Жыў бы я, маўляў, да багацѣў,
Да сласна ѣў.
Не, браццы, грэхъ такъ жыць,
Дзіявалу гадзиць.
А я во пачытàю
Таго за лихадзѣя,
Хто міру ни радзѣя.

---

**ВАСИЛЕКЪ**

(На нивѣ Суражскаго уѣзда, посвящается Александру Ивановичу Воробьеву[2])

На прыгорачку; у жы́ци
Сь пищанай зямлицы
Вырастаў цвяточыкъ
Синій Василечыкъ.
Бизъ расицы зь ве́чара
Хмара падступи́ла,
Халодная ночка
Василька змарыла.
На глини съ пясочкамъ
Хлѣбцамъ ни’бъясися
Тольки ели-ели

---

[1] Подзатыльника (*заўвага М. Косіч*).
[2] Земскі ўрач [Голик: *Мария Косич*, online].

Будзье душа ў цѣли.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .[1]
Горька жъ яму жы́стачку[2]
Тую карата̀ць.
Сьхили́ў йонъ галовачку,
Да-й – стаў усыхаць.
– Хоць бы мнѣ да̀ сьвѣту...
Соньняйка даждацца,
Можа бъ я изно́вў[3],
Пача̀ў атжыва̀цца.
Ни́ўма[4] чаго хочышъ,
Атгукну́ўся[5] жукъ,
Ци ты родамъ такъ,
Ци саўси́мъ дуракъ!
Якъ жа, клопотъ[6] со́нцу
На яго глядзѣць,
Ци йонъ жы́ў заста̀ницца,
Ци яму капе́цъ[7].
Го́дьзе табѣ, брацику,
Сонцу дакучаць,
Некали яму
Цябѣ даглидаць,
Прышло твавайо[8] ўвремъячка,
Трэба памираць.

---

Ранымъ раню́синька
Соньняйка ўзыйшло,
Усякой Божой твары
Цяплынь прынясло.
И нашъ Василечыкъ
Жывинекъ застау́ся,

---

[1] Кропкі азначаюць выкрасленае цэнзураю. Радкі магчыма ўзнавіць паводле артыкула С. Бабінцава:

Так наш Василек
К усяму привык
Цемин и галодзин,
Жоу (відаць, моў. – *М. Х.*) наш брат мужык.
[гл.: Бабинцев 1947: 292].

[2] Жизнь (*заўвага М. Косіч*).
[3] Так у першапублікацыі.
[4] Неизвѣстно (*заўвага М. Косіч*).
[5] Отозвался (*заўвага М. Косіч*).
[6] Хлопоты (*заўвага М. Косіч*).
[7] Отъ слова закапать (*заўвага М. Косіч*).
[8] Так у першапублікацыі.

Галоўку падня́ў,
Бога выхваляў.

---

Соньняйка красная
Нипапушъ[1] тыя матки;
Жалкато йой жо́днаго,
Свайяго дзицятки!
Катораго палца
Матцы ня ўрэжъ,
Усе йой будзье болна.
Такъ нашаму соньняйку
Гадаваць[2] ўся́каго
Заўсягды́ пакво́лна[3].
Хто нашаго браччыка
У ну́ждзи ни кида́я,
Да насъ цёмныхъ не́вучаў
Усяму навуча́я,
Кажымъ мы спасиба тымъ,
Кланяйимся ў поясъ йимъ.
Дай-жа, Божа,
Вяликаму пану
Да добрая серца!
Ня грэбуй[4], паночку,
Ты никимъ,
Цёплымъ яснымъ соньяйкамъ
Засвяци усимъ.

---

**Хрысьцянинъ и Лисица**

– "На што ты, кумка,
Курэй крадзишъ?
Пыта́ў мужыкъ лису,
Паба́чыўшы яйе ў лясу.
Ей Богу, я табѣ радзѣю
И праўду матку казаць мѣю.
Перва на перва, кума, прымѣць,
Што зъ до́ўгимы рукамы
У смалѣ будзишъ кипѣ́ць.
А што ужо̀ ў йетамъ сьвѣци,
Куды ня кинь –

---

[1] На подобіе (*заўвага М. Косіч*).
[2] Воспитывать (*заўвага М. Косіч*).
[3] Свободнае время (*заўвага М. Косіч*).
[4] Не брезгуй (*заўвага М. Косіч*).

Дыкъ клинъ.
И малъ и старъ цябѣ кляне
        И зьниважайе.
Паслухайся мянѣ́:
Ни нажывешъ другія шкуры,
На бѣса табѣ тыя ку́ры?
– Кумочыкъ мой!
Ци йетый хлѣбицъ мнѣ сало́дакъ?
Я ў свайой жысьци такъ бизщасна,
Што ажны пища мнѣ нисмашна.
        Охъ Божа-жъ мой!
        Ци хочыцца-жъ то красьць?
        Да штожъ паробишъ –
        Ну́жда, дзѣтки дро́бны,
        Мусищъ прапасьць.
        Ящэ-жъ, кумокъ, и то мнѣ у прымѣци,
        Ци яжъ тыки адна такая ў свѣци!"
Далій, да па далій,
Пагаманиўшы[1] мизъ[2] сабою,
Мужыкъ лису дагавары́ў
Курыная нася́сьця старажы́ць,
Штобъ, значыцца, ни во́дная лиса
Туды ни падступа́ла,
Курэй мужыччыхъ ни чапа́ла[3].
Угаварылись да Пакро́ва
За пяць цалковыхъ,
Чвертку грэчки,
Ще-й-на атхо́дзи
Дзвѣ спадницы[4]
Й – рукавицы;
А харчъ – хазяйськая.
Атйѣлася лиса на волнамъ хлѣби!
Усяго – ў до́сталь,
Ня то, што часамъ съ квасамъ,
          Парой зъ вадо̀й.
Ня жысьць йой – масьлинка была!
А – джа жъ лисица до́ўга
На мѣсьци ни ўжыла:
Даждаўшысь цёмнай ночки
Усихъ курэй пиревяла.

---

[1] Поговоривши (*заўвага М. Косіч*).
[2] Между (*заўвага М. Косіч*).
[3] Не трогала (*заўвага М. Косіч*).
[4] Юбки (*заўвага М. Косіч*).

Харошый чалавѣкъ
Ня будзье красьць и пры нуждзѣ.
Лидачаго[1] же ты хоць абзалаци,
Ну праўды атъ яго ня ждзи.

---

**Арелъ и пчала**

Посвящается С.М. Колосову[2].

Ляцѣў Арёлъ съ па паднябѐсься,
Спусьциўся на палѣсься,
Пабачыў што пчала куйоўдицца[3] кала твитка,
Зачваниўсь ни папутъ[4] таго ‘ндыка[5],
Да – й – каже йой:
Чудный вашъ родъ!
И што табѣ съ таго
Што ты цалю́синькая лѣ́та
Носишъ мёдъ?
Ци знатна тамъ
Чаго ты кольки нанасила.
Якога воску наляпила;
Увульляку́-же васъ тамъ цьма цьемськая,
Што наша сходка земськая...
Нихто цябѣ за працу ни пахваля,
Ни твайой чесьци ни ума́ля;
Багата ты прыдбала,
Ци саўсимъ мала, –
Хвала за ўсё адна:
Памрэшъ и толку абъ цябѣ нима,
Ты глянь-ка на мянѣ:
Якъ крыльля я свайе распрямлю
Да падымуся вышай тучъ,
Зимля дрыжыць,
Лячу якъ вихарь:
А хто жывый мянѣ паба́ча,
Байицца шамнуць,
На зе́мли сто́я,
Духъ уто́я!
Ня тольки птица,

---

[1] Худого (*заўвага М. Косіч*).
[2] Настаўнік [Голик: *Мария Косич*, online].
[3] Ворочается (*заўвага М. Косіч*).
[4] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі сінім атрамантам замест закрэсленае літары *т* дапісана *ш*: папушъ.
[5] Индейка (*заўвага М. Косіч*).

Ийиншый звѣрь
И тый мянѣ страшыцца.
Вадà, пясокъ сыпучый,
Лѣсъ дрямучый,
Виры – й балоты,
Передá мной,
Якъ логъ съ травóй...
Пчала яму на то гавóря:
Нихай Богъ памагàя,
А майя пайка[1] ни такая:
Я ни сабѣ, а вóбчаству служу.
Ня трэба мнѣ пачотъ, хвала яго
Мірьскóя дзѣла мнѣ милѣ́й свайго.

---

Да, йета казка складна!
Яна-й къ людзя́мъ прыкладна:
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .[2]
Дзивицьеся-тка на пчалý:
Калибъ у нашамъ вобчасьтви
Были такія людзи, якъ янá,
Мы бъ кожный дзень абѣдали,
И горячка-бъ ня вѣдали,
Да што тутъ талкаваць,
Съ пустóга у парóжняя пиреливаць.
Народъ мы ни видзяшый[3],
Мы цьма.
Такихъ людзей якъ пчолы,
Мизъ насъ чортъ-ма!
– Нема – дыкъ треба штобъ былú,
Штобъ мы на абчасьтьвеньскамъ дзѣли,
Якъ тыя пчолачки гулú.
Ни такъ, якъ вы цяперь – хоць тутъ гары́,
А ни твайо – дыкъ чортъ яго бяры.
Нѣ, ты стой за міръ, якъ за свайó!
А міръ забиряже твайó.

---

[1] Паекъ, доля (*заўвага М. Косіч*).

[2] Кропкі азначаюць выкрасленае цэнзураю. Радкі магчыма ўзнавіць паводле артыкула С. Бабінцава:

Пчала-то рабоцяга
Арел ня то што ляга (?)
А так, як пан:
Гаразд он на гульню, да на язык,
А работаць – не звык.
[гл.: Бабинцев 1947: 292].

[3] Так у першапублікацыі.

Будзь радзинекъ[1], якъ пчолка,
На міръ парабатаць.
Ня бойся,
Дробны дзѣтки ня буць галадацъ.
И баславеньня Гаспóдзь пашле табѣ у дворъ!
А у хазяйстви и па рабоци – усюды споръ.

---

**МУЗЫКА САМЪ ЧАЦЬВЕРТЪ**

Абизьзяна ўсташнавáла
Што гарэлка ўздаражáла.
Нечымъ горя разваджаць.
Нейдзѣ-й шкалика дастаць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .[2]
Во-й задумала ‘бизьяна
Да музыкай стаць,
Будуць, кажа, добры людзи
На вясельля звацъ,
Гарэ́лачкай частаваць.
Згаварылися съ асломъ,
Да зь вядьмедземъ, да съ казломъ,
Сѣли на лагу́ падъ ду́бамъ,
Узялі ў лапы скрыпки, бубенъ,
Ужарыли съ ўсихъ пячонакъ такъ,
Што-й ваўки пиряпужались:
Чымъ дужа,
У далные лясы́ паразбигались.
Видно, што абизьзяна талкавѣй за ўсих была
Затымъ и зьмѣцила заразъ яна,
Што подъ йету музы́ку
Ня тольки што сказаць,
А трэба вушы затыкаць.
Во-й закрычала той музы́ци:
Годзье, стойце, пацярпицье!

---

[1] Радъ (*заўвага М. Косіч*).

[2] Кропкі азначаюць выкрасленае цэнзураю. Шэсць радкоў магчыма ўзнавіць паводле артыкула С. Бабінцава, а пяць – паводле *Дњла Канцеляріи Попечителя Виленскаго учебнаго округа*:

Нема шинку, нема хайки
Хутор буццам биз хозяйки.
Ой што дзелать беднай мне
Тарэлочка (!) уся у казне
На бутылицы па пичаццы
У казенной я на лауцы…
[гл.: Бабинцев 1947: 295].

А тыя-й – голасу не чуюць,
У ваўси лапатки дуюць, дуюць...
Насилачку музыка замаучàла,
А абизьзяна знóў крычала:
Саўремяницье, браццы,
Ничóга ладу ни дасьцьё,
Ни такъ вы сидзицьё!
Ты съ балалáйкой, Мишачка,
Садзись прóци козла,
Я съ скрыпкай сяду кала бýбна,
Тады зайграйимъ мы на дзива!
Усе заскача ‘дзѣ што йосць:
Закружыцца й дзежка ў хаци,
Виряцéны на палаци,
У пры́сядки пойдзя дзѣдъ,
Пакинуўшы свой абѣдъ;
Руки у боки кушыны́,
Гаршки миски на прылаўцы,
Стара баба на лижанцы!..
Во-й разсѣлись па другóму,
Зажарыли смыкамы...
А толку ни пытай.
Пастойця-жъ! Я знайшоў прычыну.
Крычыць аселъ,
Ничóга мы ни урáдзпмъ.
Пакуль рядкомъ ни сядзимъ.
Пасѣли, зачали, хоць плюнь.
Аткуль ни узяўся салавей!
У чацьвярыхъ яго ўси абступили
И на прамилуй Богъ прасили:
Галубчычакъ, скажы, ты, якъ намъ сѣсць?
Чаму-бъ тыки и мы прыгожа ни зайграли.
Кали-бъ то знали,
Каму кала каго сядзѣць.
Паперидъ трэба навучыцца,
Да ужó тагды играць садзи́цца,
Играли бъ, можа, вы и удалѣй,
Дыкъ треба жъ вушы патанѣй,
Атказаў йимъ салавей.
Вы, дзядзюшки, за праўду ни пиняйця!
Ну, у музыканты ни целяйця.

———

**Котъ и Поваръ**

Якійся поваръ дуралей
Атскочыў съ кухни въ винапольля[1]
Богабаязенъ, бачышъ, стаў,
І тэй дзень па кумѣ
Йонъ по́минки спраўляў.
А у кухни, штобъ мыши,
Часамъ шкоды ни зрабили,
Сцяречъ зьядо́бная
Ката наста́виў.
И што жъ – вярнуўшыся дамо́ў,
Йонъ тамъ убачыў?
На масту абгрызки пирагà,
А сторожъ Котъ
За вуксуснымъ бачо́нкамъ
Пильнуя на типёнкамъ[2].
Во! йонъ машенникъ,
Во пражора!
Ци бачыли вы,
Добры людзи, вора?
Ката йонъ абличая,
А Котъ свайго ни пакида́я,
Типлёнка даѣда́я.
Бывала-жъ ты и зъ малечку
Нийдзѣ чужога ни заче́пишъ.
Цяперицька – шаба́шъ!
Ни падыходзь ня то што къ хаци,
А къ сьвинарцы,
Маўляў[3] тэй паганюкъ[4],
Ня тутъ будзь сказана, к аўча́рцы.
Ишъ йонъ страмоцьце!
Ишъ вислюга[5]!
Йонъ первый у сялѣ варюга!
Яго усе поваръ лая[6],
Рукамы ни чапа́я[7]
Аднача, пакуль по́варъ
Кату́ атчытаваў, да пѣў,
Котъ за бачòнкамъ

[1] Манаполія (*заўвага М. Косіч*).
[2] Типлёнкамъ.
[3] Подобно молъ (*заўвага М. Косіч*).
[4] Волкъ (*заўвага М. Косіч*).
[5] Відаць, асёл (*укр.*).
[6] Бранитъ (*заўвага М. Косіч*).
[7] Трогаетъ (*заўвага М. Косіч*).

Да костачки типленка зьѣў.
Во! дурень повар!
Чымсь – съ катомъ лиментавацца,
Ци ня луччей было за прутъ узяцца.

## Байка, забароненая цэнзураю

Як адзначалася вышэй, захаваліся два рукапісы кніжачкі М. Косіч вольных наследаванняў баек І. Крылова. Адзін з іх захоўваўся ў Аддзеле рукапісаў Расейскае нацыянальнае бібліятэкі (колісь: Дзяржаўнае публічнае бібліятэкі М. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе), другі – у Аддзеле рукапісаў Інстытуту імя Т. Шаўчэнкі НАН Украіны. У кожным з іх – па адзінаццаць тэкстаў. Байка *Кляве́ччыкъ и Гадзю́ка* выкасаваная віленскім цэнзарам, не ўвайшла ў выдадзеную ў 1903 г. у Чарнігаве кніжачку *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе*. Аднак, нягледзячы на гэта, дадзеная байка друкавалася, хіба, часцей, чым якая іншая з перастворaных М. Косіч. У другой палове 1940-х гг. яе выявіў сярод рукапісаў Публічнае бібліятэкі ў Ленінградзе і апублікаваў у артыкуле *Мировая известность Крылова* бібліёграф і кнігазнаўца Серафім Бабінцаў (1905–1992) [Бабинцев 1947: 268–295]. Дакладней, байка знаходзілася ў рукапісе *Переложеніе басенъ Крылова на Литвино-бѣлорусское нарѣчіе*, які Імператарская публічная бібліятэка ў 1904 г. атрымала ад Кіеўскага цэнзурнага камітэта (насамрэч: ад кіеўскага цэнзара па замежнай цэнзуры)[1].

З артыкула С. Бабінцава байка *Кляве́чыкъ и Гадзю́ка* трапіла ў "зборнік тэкстаў" *Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, які склалі Васіль Барысенка, Міхась Ларчанка і Любоў Фіглоўская. Як і ў С. Бабінцава, тытул твора тут крыху зменены – *Клявеччык і Гадзюк* [Косіч 1950: 333–334]. Дадзены варыянт твора больш, здаецца, ніколі не перадрукоўваўся.

Напрыканцы 1960-х гг. Т. Кабржыцкая і В. Рагойша выявілі ў рукапісным аддзеле Інстытута літаратуры імя Т. Шаўчэнкі АН УССР (сёння: Аддзел рукапісаў Інстытута імя Т. Шаўчэнкі НАН Украіны) яшчэ адзін рукапіс кніжачкі вольных наследаванняў[2] з рэзалюцыяй цэнзара "Запретить согласно предложения Главного Управления по делам печати от 29 июля 1902 г. № 6632" [*Беларуская літаратура*… 1971: 368; Кабржыцкая, Рагойша 1976, online] і апублікавалі байку *Кляветчык і Гадзюка* (пачатковыя 10 радкоў узятыя з іншае крыніцы) у хрэстаматыі *Беларуская*

[1] Пра гэта паведамлялася ў кнізе *Отчетъ Императорской Публичной Библіотеки за 1904 годъ* (С.-Петербургъ 1911): «Въ 1904 году тѣмъ же Комитетомъ передано въ Библіотеку 47 таковыхъ же рукописей. Изъ ихъ числа представляетъ нѣкоторый интересъ лишь одно – *Переложеніе басенъ Крылова на Литвино-бѣлорусское нарѣчіе* М.Н. Косичъ (въ продолговатую 4-ю д. л., 31 лист)» (с. 35) і «Цензора, Кіевскаго, по иностранной цензурѣ 47» (с. 157). Байка *Клявеччыкъ и гадзюка* знаходзіцца на старонках 22–25 рукапісу (вылічана паводле ўскосных дадзеных).

[2] У выданні *Путівник по фондах відділу рукописів* / заг. ред. Г.М. Бурлаки. Київ: Інститут літератури ім. Т.Г. Шевченка НАН України; Видавничий центр "Спадщина", 1999 прозвішча М. Косіч не сустракаецца [гл.: *Путівник по фондах*…, online].

*літаратура XIX стагоддзя* [Косіч 1971: 329–330]. Менавіта гэты варыянт (з нязначнымі рэдактарскімі праўкамі) байкі будзе перадрукоўвацца пазней [гл.: Косіч 1988: 426–427; Косіч 2001: 579–581; Косіч 2013а: 472–474].

Варыянты С. Бабінцава і В. Рагойшы маюць пэўныя адрозненні. Не будзем, аднак, спыняцца на недакладнасцях расчытання расейскага навукоўца.

Дакладна невядома пра паходжанне рукапісу байкі *Кляве́ччыкъ и Гадзю́ка*. Сёння ён захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў фондзе Лукаша Бэндэ. Адназначна можна сказаць, што гэта аўтограф М. Косіч[1]. Якім чынам ён трапіў да Л. Бэндэ? Магчыма, разам з іншымі матэрыяламі Браніслава Эпімаха-Шыпілы. Праўда, аніякіх пазнакаў пецярбургскага прафесара на рукапісе няма. Аднак, магчыма, Л. Бэндэ, пасля публікацыі С. Бабінцава, зацікавіўшыся асобаю і творчасцю М. Косіч, зрабіў не толькі копію *Дела III отделения Канцелярии Главного Управления по делам печати по рассмотрению сочинений на эстонском, латышском, литовском и жмудском наречиях* у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Ленінградзе (сёння: Расейскі дзяржаўны гістарычны архіў), але і пастараўся знайсці аўтографы пісьменніцы[2]. Праўдападобна, што нехта з нашаніўцаў (Рамуальд Зямкевіч[3]?, Вацлаў Ластоўскі?) непасрэдна ад М. Косіч атрымаў рукапіс забароненае байкі[4]. Л. Бэндэ, стаўшы ўладальнікам аўтографа М. Косіч, на асобным аркушы пазначыў: «Рукопис М.Н. Косич. <*нечыт.*> 10 строк неопубликавано», а на адвароце 4-е старонкі – «Автограф Марии Косич» і распісаўся. Відавочна, зрабіў ён гэта пасля публікацыі С. Бабінцава.

Беларускія даследнікі, згадваючы байку *Кляве́ччыкъ и Гадзю́ка*, нязменна падкрэслівалі ейны дэмакратычны характар [Майхровіч 1959: 295], дамінавальную "тэму пекла як расплату за грахі зямнога жыцця" [Тарасюк 2005: 77]. Можна дадаць: тэма пекла "з'явілася" ў творы ці то непасрэдна з вуснай народнай творчасці (напр. Уладзімір Даль, *Пословицы русского народа*: «Знать, будем мы и на том свете на бар служить: они будут в котле кипеть, а мы дрова подкладывать») ці мастацкае літаратуры (напр. Мікалай Някрасаў, *Кому на Руси жить хорошо*: «А будет что назначено: / Они в котле кипеть, / А мы дрова подкладывать!».

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1294: *І.А. Крылоў. Кляветчык і Гадзюка. Байка. У перакладзе М.М. Косіч з рускай мовы. Аўтограф перакладчыка*, ар. 1–3v.

---

[1] Дастаткова візуальна параўнаць яго з вядомым рукапісам М. Косіч.

[2] Сярод матэрыялаў, сабраных Л. Бэндэ, маецца адбітка даследавання М. Косіч з часопіса «Живая Старина» *Литвины-Бѣлорусы Черниговской губерніи, ихъ бытъ и пѣсни* (С.-Петербургъ 1902).

[3] Яўхім Карскі, апавядаючы пра зборнічак М. Косіч з пераказамі І. Крылова, зазначае: «По сообщенію Р. Земкевича, въ рукописяхъ Косичъ имѣется и продолженіе переложеній басен Крылова» [Карскій 1922: 142].

[4] У 1908 г. "Наша Ніва" (№ 11) пісала, што "ўзяла на склад і прадае" дзве кніжачкі М. Косіч: *На пиресяленьня* і *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова*…

|1r| 

## Клявéччыкъ и Гадзю́ка

(Клеветникъ и змѣя)

Ци былѝ вы, паночыкъ,
У пéкли хоць разочыкъ?
Нѣ, ни были?
А я дыкъ быў,
Мёдъ-гарэлачку піў,
Па барадзѣ цякло,
Да ў ротъ ни папала...
А д'ли[1] дали мнѣ шлыкъ[2],
Я падъ вароты шмыкъ!
И тутъ стаў.
Ой народушку у пекли!
Да-й народъ усе паштéнный,
|1v| Ни якая нéбудзь дрянь;
Усюды: то купецъ, то попъ, то панъ,
Каго заугодна вамъ,
Архирэи[3] й тыя тамъ!
Было́ значыць заво́што...
Папалися яны туды́ нидàрамъ!
Иду̀ць рядамы, ўси па пàрамъ
Ня пру̀цца, якъ падъ проскуру ў в'абѣдни[4],
Або падъ хрэстъ, якъ на малебни.
Тыя-жъ то, што людзямъ
Багата лиха нарабили,
У первыхъ тамъ рядахъ янѝ.
А Юда, што Хрыста прадаў
На ўлоньни[5] ў сатаны.
|2r| Во, йдуць съ клевяччыко́мъ
У пàраццы гадзюка.

---

[1] А далѣе (*заўвага М. Косіч*). Гл. таксама: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 3: "А́ДЛИ, союзъ заключ. А для того, наконецъ. *Адли такъ наша взяла. Адли я и здзѣлавъ такъ*".

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 713: "ШЛЫКЪ, -а, сущ. м. Войлочная, остроконечная, въ родѣ колпака, шапка. *Маргелка твоя, якъ шлыкъ. Дали мнѣ шлыкъ, я подъ вороты шмыкъ*. (Погов.)".

[3] Літара *э* папраўлена з *е*.

[4] У публікацыях байкі паводле рукапісу кніжачкі, што захоўваецца ў рукапісным аддзеле Інстытута літаратуры імя Т. Шаўчэнкі НАН Украіны, гэты радок пададзены так: "Не пруцца, так як мы пад проскуру ў абедні" [гл.: Косіч 1988: 426].

[5] На колѣняхъ (*заўвага М. Косіч*).

Наткнулися на хво́ртку
И завизали спорку,
Каму папѐриду ицицъ.
Змія сипиць:
“Мнѣ чалавѣччый родъ пу̀шчы[1] сабаки!
Я чалавѣку зроду ни спущала,
Ни разглядаючыся жа̀ла упуща̀ла.
Кажу па праўдзи вамъ”,
А сама у перид шамъ[2]!
Тады-й чарцёнакъ умишаўся:
“Пастой-ка лишань[3], ни хапайся!
“Назадъ падайся!
“Атъ твайго жала тольки й дастаецца
|2v| Таму̀, хто близка пападзѐцца,
А кливяччы̀къ бряхней и языкомъ
Праймѐ заглазна верстъ за дзьвѣсьци[,]
Затымъ клявéччыкú у насъ на первамъ мѣсьци”.
* * *
Каго-то тольки тамъ нима?
Усякаго народу цьма:
Тутъ збочь за ро̀зныя правúннасьци
Гарячую скавараду лизаць даюць,
А трохи дáлій – тамъ за пьянства
Растоплиная во̀лаво у глотку льлюць.
И тýта людъ усё замо̀жный,
Дальжно пры дзіеньгахъ ко̀жный!
У чабатахъ, у жупанахъ[,]
Ёсьць пры часахъ, у пинжакахъ.
|3r| Народъ сь сябѣ̀ пазо̀рный[4] – крыпаки!
Ну, йдзѣ жъ падзелись бидняки?
Глядзь – ажъ назадзи[5] зь визанкай на пличахъ
И сиремяга.
И то жъ атвага:
И тутъ свайго ни пакидаюць!
Видно̀ што съ паньськіх,[6] ци зь лясоў казенныхъ
Дровы цягаюць...[7]
Приглѣджуся – аж нѣ...

[1] Хуже (*заўвага М. Косіч*).
[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 705: “ШАМЪ, -у, сущ. м. Тихій шорохъ, шелестъ. *Ниякого шаму не было, не только што крику, стуку*”.
[3] Украінізм. Часціца, якая ўжываецца з дзеясловамі заахвочвання ці прымушэння.
[4] Паказный, показный (*заўвага М. Косіч*).
[5] Тут алоўкам пастаўлены знак, які разбівае радок на два.
[6] Тут алоўкам пастаўлены знак, які разбівае радок на два.
[7] Крадутъ (*заўвага М. Косіч*).

Яны то носюць ни сабѣ...
Ци на падзённай то яны рабоци,
Ци да̀рма, па свайой ахоці?
Дзивицися-тка!
Мужыкъ и ў пекли ни гуляе:
|3v| А падъ пано́ў, што у смалѣ кипяць,
Бизъ пирестанку дровы нося[1] да падкладае.

М. Косичъ

[1] Тут алоўкам пастаўлены знак, які разбівае радок на два.

## Першая спроба выдаць кніжачку баек

Ужо летам 1901 г. М. Косіч падрыхтавала кніжачку баек, напісаных паводле матываў вядомых твораў Івана Крылова – *Ворона и Лисица*, *Волк и Кукушка*, *Добрая Лисица*, *Лебедь, Рак и Щука*, *Василёк*, *Крестьянин и Лисица*, *Орел и Пчела*, *Квартет*, *Кот и Повар*, *Клеветник и змея*. 1 верасня рукапіс кніжачкі трапіў да кіеўскага цэнзара па замежнай цэнзуры Дзмітрыя Бутоўскага (1875 – ?). Заўважым: абавязкі цэнзара па ўнутранай цэнзуры ў Кіеве выконваў Афанасій Іванавіч Булгакаў (1859–1907), бацька Міхаіла Булгакава (1891–1940). Праўдападобна, што сястра М. Косіч Агата была замужам за адным з сыноў (?) ці братоў(?) Івана Аўраамавіча Булгакава (1830–1894): вялікі род святароў Булгакавых якраз паходзіў з суседняе Браншчыны. Магчыма, спадзяванні на "сваяцкую" дапамогу і прывялі М. Косіч у Кіеў. Аднак дадзены выбар аказаўся фатальным: А. Булгакаў, прафесар Кіеўскае духоўнае акадэміі, «уделял недостаточно времени цензурным занятиям, приходя на службу не более двух раз в неделю на 2–3 часа, и немного работал дома» [Патрушева 2013: 186]. Ён, відаць, перадаў (ці параіў перадаць) рукапіс на «литовско-бѣлорусскомъ нарѣчіи» калегу – цэнзару па замежнай цэнзуры. Апошні не адважыўся ўзяць на сябе адказнасць, каб выдаць дазвол на друк, і адразу (3 верасня 1901 г.) пераслаў кніжачку ў Пецярбург у Галоўную ўправу па справах друку. Тут таксама не ведалі, што рабіць з тэкстамі на яшчэ адным «нарѣчіи», дык 12 верасня перадалі *Переложеніе басенъ Крылова* ў Міністэрства народнае асветы, урадоўцы якога цягам месяца вырашылі, што падобную кніжачку можна будзе выкарыстаць у якасці дапаможніка для царкоўна-прыходскіх школаў у заходніх губернях імперыі[1], а таму паставілі задачу кіраўніцтву Віленскае навучальнае акругі вызначыць «насколько переводъ заключающихся въ рукописи Косича басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе представляется точным и согласнымъ съ подлинными баснями Крылова». Так сфармаванае пытанне прадвызначыла адмоўнае стаўленне і рэцэнзента, і Апякунскае рады Віленскае навучальнае акругі да "перакладаў" М. Косіч.

У Вільні тры дзесяткі рукапісных старонак *Переложенія басенъ Крылова* рэцэнзавалі цягам трох месяцаў. Пасля яшчэ праз столькі ж Апякунская рада рыхтавала дзеля высылкі ў Пецярбург у Галоўную ўправу па справах друку свае негатыўныя высновы.

За гэты час М. Косіч двойчы (10 мая 1902 г. і 6 ліпеня 1902 г.) звярталася ў Галоўную ўправу па справах друку, спрабуючы даведацца пра лёс свае кніжачкі.

---

[1] Мяркуем па тым, што настаўнік віленскае гімназіі Аляксандар Занкевіч, рэцэнзент кніжачкі *Переложеніе басенъ Крылова*, звярнуў ўвагу на зробленыя на рукапісе «оффиціальные отмѣтки», па якім «можно догадаться, что г. Косичъ намѣревался напечатать свое переложеніе басенъ Крылова для школъ Министерства Н. П.».

Урэшце напачатку жніўня 1902 г. кіеўскі цэнзар атрымаў загад забараніць друк кніжачкі М. Косіч, а ў сярэдзіне верасня – давесці да ведама аўтаркі пра прынятае рашэнне.

Матэрыялы гэтае справы, якая вялася ў некалькіх установах, трапілі ў шэраг архіваў. Прынамсі, у Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў у Ленінградзе (сёння: Расейскі дзяржаўны гістарычны архіў, РГИА), Дзяржаўную публічную бібліятэку імя М. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (сёння: Расейская нацыянальная бібліятэка ў Санкт-Пецярбурзе, РНБ), Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў ЛітССР (сёння: Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, LVIA) і інш.

Справу *III отделения Канцелярии Главного Управления по делам печати по рассмотрению сочинений на эстонском, латышском, литовском и жмудском наречиях*, якая захоўваецца ў РГИА (ф. 776, оп. 21, ед. хр. 17, л. 8–9, 16–22), у 1940–1950-я гг. скапіраваў, а пасля падрыхтаваў машынапісную версію Л. Бэндэ. Ён, відаць, планаваў апублікаваць матэрыялы, датычныя спробы выдання ў 1901–1902 гг. кніжачкі вольных наследаванняў І. Крылова разам з поўнай версіяй забароненае байкі *Кляве́ччыкъ и Гадзю́ка*. Ніжэй мы выкарыстоўваем копію Л. Бэндэ, якая захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

Вельмі каштоўнай таксама з'яўляецца справа канцылярыі Апекуна Віленскае навучальнае акругі *О сообщеніи Ученому Комитету свѣденій о томъ, насколько переводъ заключающихся въ рукописи Косича басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе представляется точным и согласнымъ съ подлинными баснями Крылова*. Тут захавалася рэцэнзія Аляксандра Занкевіча, віленскага настаўніка і адначасна этнографа[1], аўтара працы *Белорусские свадебные обряды и песни сравнительно с великорусскими* (С.-Петербург 1897).

Тое, што *Переложеніе*… М. Косіч атрымала негатыўную ацэнку рэцэнзента, не здзіўляе: на пытанне, пастаўленае Навуковым камітэтам Міністэрства народнае асветы, інакш адказаць было немагчыма. Але ў высновах А. Занкевіча выяўляецца нешта куды больш цікавае: стаўленне «западно-русской» мясцовае інтэлігенцыі да беларускае мовы: «бѣлоруссы <…> прекрасно понимаютъ всѣ произведенія классическихъ русскихъ писателей <…>. Мало того, намъ даже кажется, что чтеніе учащимися какихъ-нб. бѣлорусскихъ или малорусскихъ произведеній или переложеній можетъ не только вредить успѣхамъ ихъ въ отечественномъ литературномъ языкѣ, но и способствовать до нѣкоторой степени распространенію въ школѣ нежелательныхъ, съ точки зренія общегосударственной, сепаративныхъ тенденцій».

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле:

I. БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1002: *Перапіска Галоўнага Упраўлення па справах друку і Дэпартамента Народнай Асветы аб выданні кнігі Пераклады басен Крылова М.Н.Косіч на беларускую мову. Машынапісныя копіі [1940-х – 50-х гг.]*, ар. 1–8.

II. LVIA, f. 567, ap. 12, b. 1313: *Дѣло Канцеляріи Попечителя Виленскаго учебнаго округа. О сообщеніи Ученому Комитету свѣденій о томъ, насколько переводъ заключающихся въ рукописи Косича басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе представляется точным и согласнымъ съ подлинными баснями Крылова*, l. 1–13.

---

[1] Вядома таксама прадмова А. Занкевіча да зборніка Мікалая Нікіфароўскага *Белорусские песни "частушки"* (Вильна 1911).

# I. З АРХІВУ ГАЛОЎНАЕ УПРАВЫ ПА СПРАВАХ ДРУКУ (копіі Лукаша Бэндэ)

## № 1. Кіеўскі цэнзар да Галоўнае ўправы па справах друку

М. В. Д. Главное Управление по делам печати.

Киевский отдельный цензор по Иностранной Цензуре. 5 сентября 1901 г. № 669. г. Киев.

8 сен. 1901[1]

В Главное Управление по делам печати

Имею честь представить на благоусмотрение Главного Управления по делам печати рукопись на Литовско-Белорусском наречии под заглавием: *Переложение басен Крылова*. М.Н. Косич.

Ис. об. Отдельного цензора Д. Бутовский.

Ис. об. Письмоводителя Опатовский.

Помета карандашем: «Просить заключения М-ва Нар. Просв.».

[Лист 8]

*Пераклад*

М. У. С. Галоўная Управа па справах друку.

Кіеўскі асобны цэнзар па замежнай цэнзуры. 5 верасня 1901 г. № 669. г. Кіеў.

8 вер. 1901

У Галоўную Управу па справах друку

Маю гонар падаць на меркаванне Галоўнае Управы па справах друку рукапіс на літоўска-беларускай гаворцы пад загалоўкам: *Переложение басен Крылова*. М.Н. Косич.

Вык. аб. Асобнага цэнзара Д. Бутоўскі.

Вык. аб. Справавода Апатоўскі.

Пазнака алоўкам: “Прасіць высновы М-ва Нар. Асветы”.

[Аркуш 8]

---

[1] Праўдападобна, што гэта дата атрымання дакумента.

## № 2. Галоўная ўправа па справах друку да Міністэрства народнае асветы

Министерство Внутренних дел. Главное Управление по делам печати. 12 сентября 1901 г. № 7251.

[Отпуск]

В Департамент Народного Просвещения

На рассмотрение Киевского отдельного цензора по Иностранной Цензуре поступила рукопись на Литовско-Белорусском наречии под заглавием: *Переложение басен Крылова* М.Н. Косич.

Главное Управление по делам печати, препровождая при сем означенную рукопись, имеет честь покорнейше просить Департамент Народного Просвещения, с возвращением приложения, почтить своим заключением по настоящему предмету, ввиду того, что издание это предназначается для распространения для местного населения.

Исп. об. Начальника Главного Управления
по делам печати, Член Совета
За правителя дел Шишкин

[Лист 9]

*Пераклад*

Міністэрства ўнутраных спраў. Галоўная Управа па справах друку. 12 верасня 1901 г. № 7251.

[Водпуск]

У Дэпартамент Народнае Асветы

На разгляд Кіеўскага асобнага цэнзара па Замежнай цэнзуры пададзены рукапіс на літоўска-беларускай гаворцы пад загалоўкам: *Переложение басен Крылова М.Н. Косич*.

Галоўная Управа па справах друку, перасылаючы названы рукапіс, мае гонар шчыра прасіць Дэпартамент Народнае Асветы, з вяртаннем дадатку, ушанаваць сваімі высновамі пра гэты прадмет, з прычыны таго, што выданне прызначаецца для распаўсюджвання сярод мясцовага насельніцтва.

Вык. аб. Начальніка Галоўнае Управы
па справах друку, Сябра Рады
За кіраўніка спраў Шышкін

[Аркуш 9]

## № 3. Марыя Косіч да Галоўнае ўправы па справах друку

14 июн. 1901[1]

В Главное Управление по делам печати

Марии Николаевны КОСИЧ

ЗАЯВЛЕНИЕ

Рукопись моя под заглавием *Переложение басен Крылова на Литвино-Белорусское наречие* была представлена в Главное Управление по делам печати Киевским Отдельным Цензором 5 сентября 1901 года за № 663; но по сие время ответа не последовало, а потому честь имею покорнейше просить Главное Управление о скорейшем разрешении к напечатанию означенной рукописи.

М.Н. Косич

1902 г. 10 мая.

Жительство имею в городе Чернигове, в 8 квартире Агафьи Никол. Булгаковой.

На заявлении помета карандашом: «Где эта рукопись?»

Лист 16.

*Пераклад*

14 чэр. 1901

У Галоўную Управу па справах друку

Марыі Мікалаеўны КОСІЧ

ЗАЯВА

Мой рукапіс пад загалоўкам *Переложение басен Крылова на Литвино-Белорусское наречие* быў пададзены ў Галоўную Управу па справах друку кіеўскім асобным цэнзарам 5 верасня 1901 г. за № 663; але дагэтуль адказу не было, дык маю гонар шчыра прасіць Галоўную Управу пра як хутчэйшы дазвол на друкаванне названага рукапісу.

М.М. Косіч

1902 г. 10 мая.

Жыву ў горадзе Чарнігаве, у 8 кватэры Агаты Мікал. Булгакавай.

На заяве пазнака алоўкам: “Дзе гэты рукапіс?”

Аркуш 16.

[1] Відаць, гэта дата атрымання (?) дакумента. Трэба: *1902*.

## № 4. Галоўная ўправа па справах друку да Міністэрства народнае асветы

21 июня 1902. № 5301.

[Черновик]

В Д-т Народного Просвещения

Гл[авное] Упр[авление] по дел[ам] печати имеет честь покорнейше просить Д[епартамент] Нар[одного] Просвещения ускорить отзывом на отношение от 12 сентября 1901 г. за № 7251, по вопросу о разрешении к печати рукописи на Литовско-Белорусском наречии п[од] заглавием: *Переложение басен Крылова*. М.Н. Косич.

За Нач[альника] Гл[авного] Упр[авления]
по дел[ам] п[ечати] Чл[ен] Сов[ета]
В. Ланкаевский

За Пр[авителя] дел [Подпись]

Лист 17.

*Пераклад*

21 чэрвеня 1902. № 5301.

[Чарнавік]

У Д-т Народнай Асветы

Галоўная Управа па справах друку мае гонар шчыра прасіць Дэпартамент Народнае Асветы прыспешыць водгук на адносіну ад 12 верасня 1901 г. за № 7251, па пытанні пра дазвол на друк рукапісу на літоўска-беларускай гаворцы пад загалоўкам: *Переложение басен Крылова. М.Н. Косич*.

За Начальніка] Гал[оўнае] Управы
па спр[авах] др[уку] Сяб[ра] Р[ады]
В. Ланкаеўскі
За Кір[аўніка] спраў [подпіс]

Аркуш 17.

## № 5. Марыя Косіч да Галоўнае ўправы па справах друку

10 июл. 1902[1]

В Главное Управление по делам печати

ЗАЯВЛЕНИЕ

Честь имею обратиться в Главное Управление по делам печати с покорнейшею просьбой о скорейшем разрешении к напечатанию моей рукописи под заглавием *Переложение басен Крылова на Белорусское*

---

[1] Праўдападобна, што гэта дата атрымання дакумента.

*наречие*. Означенная рукопись была направлена в Главное Управление Киевским отдельным цензором 5 сентября 1901 года за № 663.

Июля 6. 1902.

М.Н. Косич.

Жительство имею: в г. Чернигове, в квартире Агаты Никол. Булгаковой.

На заявлении карандашом: «По справке ответить 10/VII правителю».
Слева: «Где рукопись?»

Лист 18.

*Пераклад*

10 ліп. 1902

У Галоўную Управу па справах друку

ЗАЯВА

Маю гонар звярнуцца ў Галоўную Управу па справах друку са шчыраю просьбаю пра як хутчэйшы дазвол на друк майго рукапісу пад загалоўкам *Переложение басен Крылова на Белорусское наречие*. Названы рукапіс быў накіраваны ў Галоўную Управу кіеўскім асобным цэнзарам 5 верасня 1901 г. за № 663.

6 ліпеня 1902.

М.М. Косіч.

Жыву ў г. Чарнігаве, у кватэры Агаты Мікал. Булгакавай.

На заяве алоўкам: "Даведаўшыся, адказаць 10/VII кіраўніку".

Злева: "Дзе рукапіс?"

Аркуш 18.

## № 6. Галоўная ўправа па справах друку да Марыі Косіч

14 июля 1902. № 6138

[Черновик]

Канц[елярия] Гл[авного] Упр[авления] по дел[ам] печати по приказаню Г. Нач[альника] этого управления об'являет М.Н. Косич, местожительстующей в г. Чернигове, в квартире Агаты Николаевны Булгаковой на поданное прошение, что замедление в решении вопроса о рукописи на Литовско-Белорусском наречии под заглавием: *Переложение басен Крылова*, происходит от неполучения до сего времени отзыва от М-ва Народного Просвещения.

За Правителя дел

За пом. Правителя дел

Лист 19.

*Пераклад*

14 ліпеня 1902. № 6138

[Чарнавік]

Канц[ылярыя] Гал[оўнае] Управы па справах друку па загадзе Сп. Кіраўніка гэтае Управы паведамляе М.М. Косіч, якая жыве ў г. Чарнігаве, у кватэры Агаты Мікалаеўны Булгакавай на пададзенае прашэнне, што запаволенне ў вырашэнні пытання пра рукапіс на літоўска-беларускай гаворцы пад загалоўкам: *Переложение басен Крылова*, паходзіць ад неатрымання да гэтага часу водгуку ад М-ва Народнае Асветы.

За Кіраўніка спраў

За пам. Кіраўніка спраў

Аркуш 19.

## № 7. Міністэрства народнае асветы да Галоўнае ўправы па справах друку

Министерство Народного Просвещения. Департамент. Разряд общих дел. 24 июля 1902 г. № 19712. На № 7271.

26 июл. 1902[1]

В Главное Управление по делам печати

Возвращая при сем рукопись под заглавием: *Переложение басен Крылова на Литвино-Белорусское наречие*. М.Н. Косич, Департамент Народного Просвещения по приказанию Г. Управляющего Министерством, имеет честь сообщить Главному Управлению по делам печати, что Попечительский Совет при Управлении Виленского учебного округа и Ученый Комитет Министерства Народного Просвещения, рассмотрев вышезаглавленную рукопись, признали переложение одинадцати заключающихся в ней басен Крылова неудовлетворительным и не заслуживающим распростарнения среди местного населения.

Вице-Директор Н. Деболит

Делопроизводитель [подпись]

Лист 20.

*Пераклад*

Міністэрства Народнае Асветы. Дэпартамент. Разрад агульных спраў. 24 ліпеня 1902 г. № 19712. На № 7271.

26 ліп. 1902

У Галоўную Управу па справах друку

Вяртаючы рукапіс пад загалоўкам: *Переложение басен Крылова на Литвино-Белорусское наречие. М.Н. Косич*, Дэпартамент Народнае Асветы па загадзе Сп. Кіраўніка Міністэрства, мае гонар паведаміць Галоўнай Управе па справах друку, што Апякунская Рада пры Управе Віленскае

[1] Праўдападобна, што гэта дата атрымання дакумента.

навучальнае акругі і Навуковы Камітэт Міністэрства Народнае Асветы, разгледзеўшы вышэйназваны рукапіс, прызналі пераклад адзінаццаці баек, якія знаходзяцца ў ім, нездавальняльным і нявартым распаўсюджвання сярод мясцовага насельніцтва.

Віцэ-Дырэктар М. Дэбаліт

Справавод [подпіс]

Ліст 20.

## № 8. Галоўная ўправа па справах друку да кіеўскага цэнзара

29 июля 1902. № 6631.

[Черновик]

Г. Киевскому отдельному Цензору по Иностранной Цензуре

Вследствие представления от 5 сентября 1901 года за № 663 Главное Управление по делам печати уведомляет Ваше Высокородие, что возвращаемая рукопись на Литовско-Белорусском наречии под заглавием: *Переложение басен Крылова*. М.Н. Косич подлежит запрещению.

Нач.

Пр. д.

Лист 21

*Пераклад*

29 ліпеня 1902 г.. № 6631.

[Чарнавік]

Г. Кіеўскаму асобнаму цэнзару па замежнай цэнзуры

З прычыны Вашага звароту ад 5 верасня 1901 г. за № 663 Галоўная Управа па справах друку паведамляе Вашай Вяльможнасці, што рукапіс на літоўска-беларускай гаворцы пад загалоўкам: *Переложение басен Крылова. М.Н. Косич*, які вяртаецца, падпадае забароне.

Кір.

Кір. спр.

Аркуш 21

## № 9. Галоўная ўправа па справах друку да кіеўскага цэнзара

16 сентября 1902. №7942.

Г. Киевскому отдельному Цензору по Иностранной Цензуре

Канцелярия Главного Управления имеет честь препроводить при сем в дополнение к предложению от 29 июля с. г. за № 6631, на зависящее распоряжение Вашего Высокородия прошения М.Н. Косич.

За Пр. дел

За Пом. Пра. дел

Лист 22

*Пераклад*

16 верасня 1902. №7942.

Сп. Кіеўскаму асобнаму цэнзару па замежнай цэнзуры

Канцылярыя Галоўнае Управы мае гонар паведаміць (у дадатак да прапановы ад 29 ліпеня г. г. за № 6631) пра адпаведны загад Вашае Вяльможнасці адносна прашэння М.М. Косіч.

За Кір. спраў

За Пам. Кір. спраў

Аркуш 22

## II. З АРХІВУ АПЕКУНА ВІЛЕНСКАЕ НАВУЧАЛЬНАЕ АКРУГІ

### № 1. Навуковы камітэт Міністэрства Народнае Асветы да Апекуна Віленскае навучальнае акругі

**|1r|** Министерство Народного Просвѣщенія. Ученый Комитетъ. Особый Отдѣлъ. 8 ноября 1901 г. № 1694***1**.

Господину Попечителю Виленскаго учебнаго округа

Препровождая при семъ, по приказанію Г. Министра, рукопись «М.Н. Косичъ. *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе*», Ученый Комитетъ, по встрѣтившейся надобности, имѣетъ честь покорнѣйше просить Ваше Превосходительство не отказать въ разсмотрѣніи ея въ состоящемъ при Васъ Попечительскомъ Совѣтѣ и сообщеніи Комитету заключенія (съ возвращеніемъ приложенія) о томъ, насколько переводъ заключающихся въ рукописи басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе представляется точнымъ и согласнымъ съ подлинными баснями Крылова.

Предсѣдатель [*подпіс*:] Н. Сонинъ

Завѣдующій дѣлопроизводствомъ [*нечыт. подпіс*].

***1** *Ad marginem*: Г. Помощнику Попечителя. 1901. 13 ноября.

*Арыгінал. На доле старонкі пазнака*: 3345/ <*нечыт.*> 15/XI 901. Исполнено 24 ноябр. № 13472.

*Пераклад*

Міністэрства Народнае Асветы. Навуковы Камітэт. Асаблівы Аддзел. 8 лістапада 1901 г. № 1694.

Спадару Апекуну Віленскае навучальнае акругі[1]

Дасылаючы па загадзе Сп. Міністра рукапіс “М.Н. Косичъ. *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе*”, Навуковы Камітэт

[1] Апекуном Віленскае навучальнае акругі ў 1889–1906 гг. быў Васіль Папоў.

праз спатканую патрэбу мае гонар шчыра прасіць Вашую Яснавяльможнасць не адмовіць у разглядзе яго ў Вашай Апякунскай Радзе і паведаміць Камітэту высновы (з вяртаннем дадатку) пра тое, наколькі пераклад баек Крылова, якія знаходзяцца ў рукапісе, на літоўска-беларускую гаворку з'яўляецца дакладным і згодным з арыгінальнымі байкамі Крылова.

Старшыня [*подпіс*:] Н. Сонинъ.

Загадчык справаводствам [*нечыт. подпіс*].

## № 2. Канцылярыя Апекуна Віленскае навучальнае акругі да дырэктара 2ое Віленскае гімназіі

**|2г|** № наст. р. дѣла 3345 Канцеляріи Попечителя Виленскаго учебнаго округа. Столъ 3. Ноября 24 дня 1901 года. № 13472

Г. Директору Вилен. 2-й гимназіи

Препровождая при семъ присланную **Ученымъ Комитетомъ М-ва Нар. Пр.** въ Управленіе Округа~~, на разсмотреніе,~~ рукопись М.Н. Косича подъ заглавіемъ *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе*, поручаю ~~Вамъ~~ передать эту рукопись ~~преподав. на разсмотреніе~~ преподавателю ввѣренной Вамъ гимназіи, г. Занкевичу, на предметъ доставленія Вамъ, **въ возможно непродолжительномъ времени,** подробнаго заключенія о томъ, насколько переводъ заключающихся въ рукописи басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе представляется точнымъ и согласнымъ съ подлинными баснями Крылова.

Указанное заключеніе г. Занкевича Вы имѣете ~~своевременно~~ доставить въ Управленіе Округа при возвращеніи рукописи Косича.

Подписалъ[*нечыт. подпіс*].

Скрепилъ [*нечыт. подпіс*].

*Чарнавік.*

*Пераклад*

№ наступ. р. справы 3345 Канцылярыі Апекуна Віленскае навучальнае акругі. Стол 3. Лістапада 24 дня 1901 года. № 13472

Сп. Дырэктару 2-й Вілен. гімназіі

Дасылаючы атрыманую Упраўаю акругі ад Навуковага Камітэта М-ва Нар. Ас. рукапіс М.М. Косіча пад загалоўкам *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе*, даручаю перадаць гэты рукапіс настаўніку даручанае Вам гімназіі сп. Занкевічу на прадмет дастаўлення Вам, у магчыма непрацяглым часе, падрабязных высноваў аб тым, наколькі пераклад баек Крылова, якія знаходзяцца ў рукапісе, на літоўска-беларускую гаворку з'яўляецца дакладным і згодным з арыгінальнымі байкамі Крылова.

Высновы сп. Занкевіча Вы павінны выслаць ва Управу акругі разам з вяртаннем рукапісу Косіча.

Падпісаў [*нечыт. подпіс*].

Змацаваў [*нечыт. подпіс*].

## № 3. Дырэктар 2ое Віленскае гімназіі да Управы Віленскае навучальнае акругі

**|3r|** М. Н. П. Виленскій учебный округ. Директора Виленской второй гимназіи. Марта 13 дня 1902 г. № 243. г. Вильно

Въ Управленіе Виленскаго Учебнаго Округа

Вслѣдствіе предложенія отъ 24 ноября 1901 года за № 13472, возвращая при семъ рукопись М.Н. Косича подъ заглавием *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе*, честь имѣю представить въ Управленіе Округа заключеніе преподавателя ввѣренной мнѣ гимназіи, коллежскаго Совѣтника Занкевича, о томъ, насколько переводъ заключающихся въ рукописи басенъ на литовско-бѣлорусское нарѣчіе представляется точным и согласнымъ съ подлинными баснями Крылова.

Директоръ [*подпіс*:] М. Бжезинскій.

Письмоводитель [*нечыт. подпіс*].

*1 *Ad marginem*: Доложить 1902 г. 13 марта.

*Арыгінал. На доле старонкі пазнака*: 744/ зст. 15.III 902. Исп. 8.II. № 6288.

*Пераклад*

М. Н. П. Віленская навучальная акруга. Дырэктара Віленскае другое гімназіі. Сакавіка 13 дня 1902 г. № 243. г. Вільня

Ва Управу Віленскае Навучальнае Акругі

З прычыны прапановы ад 24 лістапада 1901 года за № 13472, вяртаючы рукапіс М.М. Косіча пад загалоўкам *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе*, гонар маю падаць ва Управу акругі высновы настаўніка даручанае мне гімназіі калежскага радца Занкевіча аб тым, наколькі пераклад баек Крылова, якія знаходзяцца ў рукапісе, на літоўска-беларускую гаворку з’яўляецца дакладным і згодным з арыгінальнымі байкамі Крылова.

Дырэктар [*подпіс*:] М. Бжезинскій.

Справавод [*нечыт. подпіс*].

## № 4. Высновы Аляксандра Занкевіча

|4r| *Переложеніе басенъ Крылова на литвино-бѣлорусское нарѣчіе*
М.Н. Косичъ

Поименовання рукопись заключаетъ въ себѣ 11 басенъ Крылова, переложенныхъ на бѣлорусское нарѣчіе. – Работа г. Косича, еще до разсмотрѣнія ея внутреннихъ и внѣшнихъ качествъ, вызываетъ недоумѣніе; невольно возникаетъ вопросъ зачѣмъ и для кого авторъ предпринялъ переложеніе басенъ Крылова, – тѣмъ болѣе, что самъ онъ въ своей рукописи ни словомъ не обмолвился о цѣли и назначеніи своего труда?[1] Только по оффиціальнымъ отмѣткамъ, сдѣланнымъ на рукописи, можно догадаться, что г. Косичъ намѣревался напечатать свое переложеніе басенъ Крылова для школъ Министерства Н. П. Но нужно ли вообще [да] и разумно ли переводить или перелагать для школъ на бѣлорусское или малорусское нарѣчіе художественныя произведенія русской литературы? – Надобности въ этомъ, кажется, нетъ никакой, потому что не только бѣлоруссы и малороссы, но даже и инородцы учатся въ единой русской школѣ, изучаютъ одинъ общегосударственный литературный языкъ, и, въ результатѣ, прекрасно понимаютъ всѣ произведенія классическихъ русскихъ писателей и въ томъ числѣ – Крылова. Мало того, намъ даже кажется, что чтеніе учащимися какихъ-нб. бѣлорусскихъ или малорусскихъ произведеній или переложеній можетъ не только вредить успѣхамъ |4v| ихъ въ отечественномъ литературномъ языкѣ, но и способствовать до нѣкоторой степени распространенію въ школѣ нежелательныхъ, съ точки зренія общегосударственной, сепаративныхъ тенденцій.

Такимъ образомъ, работа г. Косича, равно какъ и другія подобныя ей, уже въ принципѣ не заслуживает сочувствія. Посмотримъ теперь, насколько удачно авторъ выполнилъ свою задачу, т. е. насколько его переложенія басенъ Крылова удовлетворяютъ тѣмъ требованіямъ, которые обыкновенно предъявляются къ переводамъ и переложеніямъ художественныхъ произведеній слова. Разсматривая работу г. Косича съ этой стороны, на каждомъ шагу поражаешься и недоумѣваешь. Автор рукописи, повидимому, даже не считаетъ нужнымъ болѣе или менѣе точно передавать мысли оригинала. Изъ 11[ти] басенъ, переложенныхъ г. Косичемъ, только въ двухъ: *Котъ и поваръ* и *Сердобольная лисица* видимъ довольно сносную въ этомъ отношеніи передачу мыслей Крылова; остальныя 9 представляютъ собою – то самое безцеремонное искаженіе мыслей баснописца, то произвольную вставку собственныхъ – иногда неумѣстныхъ – сужденій г. Косича, то, наконецъ, прямо-таки извращеніе основной идеи оригинала. Чтобы не быть голословными, приведемъ примѣры. Сравнимъ начало басни Крылова *Клеветникъ и Змѣя* съ началомъ переложенія г. Косича.

[1] Не выясняется также смыслъ эпитета «литвино-бѣлорусское». (*Заўв. А. Занкевіча*).

***Клеветникъ и змѣя*,**
**басня Крылова**

Напрасно про бѣсовъ болтаютъ,
Что справедливости совсѣмъ они не знаютъ,
|5r|А правду тожъ они нерѣдко наблюдаютъ;
Я и примѣръ тому здѣсь приведу.
По случаю какому-то, въ аду
Змѣя съ клеветникомъ въ торжественномъ ходу
Другъ другу первенства оставить не хотѣли…
и т. д.

***Клявеччыкъ и гадзюка*,**
**г. Косича**

Ой народушку у пе́кли,
Да-й народъ усё паште́нный,
Ни якая не́будзь дрянь:
Усю́ды то купецъ, то попъ, то панъ,
Каго зауго́дна вамъ!
Ирхирэйи – й тыя тамъ!
Было́, значыць, за во́што,
Папалися яны туды́ нидарамъ!
Идуць редамы, ўсё па па́рамъ,
Ня прууцца такъ, якъ мы падъ проскуру ў в’абѣдни,
Або падъ хрэстъ, якъ на малебни.
Тыя жъ то, што людзя́мъ
Багата лиха нарабили,
У первыхъ тамъ рядахъ яны́;
А Ю́да, што Хрыста прадаў,
На ўло́ньни ў сатаны.
Во йду́ць съ клява́ччыкамъ
У парадцы гадзюка, и т. д.

Въ концѣ своего переложенія г. Косичъ приводитъ воззрѣнія бѣлоруссовъ на адъ и мученія въ немъ грѣшниковъ, при чемъ изображаетъ мужичковъ въ аду работающими: они «падъ пано́ў, што у смалѣ кипяць, бизъ перистанку дровы носюць да падкладаюць».

Коротенькое нравоученіе басни Крылова *Лебедь, щука и ракъ* въ переложеніи г. Косича распространено на 5 страницъ и проводитъ совсѣмъ не ту мысль, которая ясно высказывается въ нравоученіи басни Крылова, – мысль не о вредѣ разногласія, а о равнодушномъ и безучастномъ отношеніи крестьянина къ своимъ общественнымъ, мірскимъ дѣламъ. Въ **переложеніи** басни *Ворона и лисица* тоже видимъ извращеніе основной мысли Крылова. Наконецъ, почти каждая басня въ переложеніи г. Косича получаетъ спеціально-узкое значеніе: содержаніе ея примѣняется |5v| къ крестьянскому быту, что **отчасти** можно было видѣть на приведенныхъ примѣрахъ.

Если къ сказанному еще прибавить, что переложенія г. Косича по формѣ своей крайне неуклюжи и уродливы, что художественные образы Крылова передаются неудачно и искажаются, что, наконецъ, вносятся добавки, нарушающіе гармонію формы и содержанія и мѣшающія ясному представленію идеи оригинала, – то само сабою понятнымъ станетъ, что отъ художественной прелести басенъ Крылова не осталось и слѣда. – Словомъ, попытка г. Косича, представляющая собою, какъ видно изъ сказаннаго, безцеремонное искаженіе ~~идей~~ **мыслей** и художественной формы произведеній знаменитаго писателя, есть, поистинѣ, профанація искусства. Какъ иначе назвать, напр., такую передачу всѣмъ хорошо извѣстной басни *Квартетъ*?

**Музы́ка самъ-чацьвёртъ**

Абизьзяна ўсташнава́ла,
Што гарэлка ўздаража́ла –
Нечымъ горя развадджа́ць,
Нейдзѣ й шкалика дастаць.

Нема шынку, нема Хайкі:
– Ой, што дзѣлаць бѣ́днай мнѣ,
Гарэлачка ўся ў казьнѣ;
На буты́лцы па пичаццы,
У казённай яна ла́ўцы…
Во-й задумала ‘бизьзяна
Да музы́кай стаць:
Будуць, кажа, добры людзи
На вясельле зваць,
Гарэ́лачкой частава́ць.
Згаварылися съ асломъ,
Да сь вядзьмедземъ, да съ казло́мъ,
|6r| Сѣли на лагу́ падъ дубамъ,
Узяли ў лапы скрыпки, бу́бенъ,
Ужарыли съ ўсихъ пячо́накъ такъ,
Што й ваўки́ пиряпужались,
Чымъ дужа,
У далныя лясы́ паразбигались.
Видно́, што абизьзяна талкавѣ́й за ўсих была,
Заты́мъ и зьмѣцила заразъ яна,
Што подъ йету музы́ку
Ня то́льки што сказаць,
А трэба ву́шы затыкаць.
Во й закрычала той музы́цы:
“Годзье, стойце, пацярпицье!”
А тыя-й голасу ня чуюць,
У ваўси́ лапатки дуюць, дуюць!..
Насилачку музыка замаучàла,
А абизьзяна зно́ў крычала:
“Сауремяницье, браццы!
Ничога ладу ни дасьцье –
Ни такъ вы сидзицьё!
Ты съ балала́йкай, Мишачка,
Садзись про́ци казла,
Я съ скрыпкай сяду кала бу́бна –
Тады зайграй’мъ мы на дзива,
Усё заска́ча, ‘дзѣ што йосць:
Закружыцца й дзежка ў ха́ци,
Виряцёны на пала́ци,
У пры́сядки пойдзя дзѣдъ,
Пакинуўшы свой абѣ́дъ;
Руки ў боки кушыны́,
Гаршки, миски на прылауцы,
Стара баба на лижанцы!
Во й разсѣлись па друго́му,
Зажарыли смыкамы...
А толку ни пытай.
|6v| – Пастойця-жъ! я знайшо́ў прычыну, –
Крычыць асёлъ:
– Ничо́га мы ни ура́дзимъ.

Пакуль рядкомъ ни сядзимъ. –
Посѣли, зачалѝ – хоць плюнь… и т. д.

Можно ли узнать полную жизни и движенія истинно художественную басню Крылова въ этой неуклюжей стряпне?

Читая подобныя искаженія произведеній великаго художника, невольно вспоминаешь слова Пушкина:

Художникъ-варваръ кистью сонной
Картину генія чернитъ
И свой рисунокъ беззаконный
Надъ ней безсмысленно чертитъ…

Если бы даже г. Косичъ сдѣлалъ свои переложенія не для учащихся, а для своихъ близкихъ знакомыхъ, шутки ради, – то и въ этомъ случеѣ нельзя было бы отнестись къ его затѣѣ сочувственно, потому что искажать художественны произведенія ни въ какомъ случаѣ непозволительно, даже «беззаконно», скажемъ словами поэта.

Преподаватель Виленской 2ой гимназіи
Александръ Занкевичъ

*Арыгінал.*

*Пераклад*

**Пераказ баек Крылова літвіна-беларускаю гаворкаю М.М. Косіч**

У склад названага рукапісу ўваходзіць 11 баек Крылова, пераказаных беларускаю гаворкаю. Праца сп. Косіча яшчэ да разгляду яе ўнутраных і знешніх якасцяў выклікае здзіўленне; мімаволі ўзнікае пытанне: навошта і для каго аўтар распачаў пераказ баек Крылова, – тым больш, што сам ён у сваім рукапісе ні слова не сказаў пра мэту і прызначэнне свае працы?[1]. Толькі па афіцыйных пазнаках, зробленых на рукапісе, можна здагадацца, што сп. Косіч меў намер надрукаваць свой пераказ баек Крылова для школ Міністэрства Н. А., але ці трэба наогул і ці разумна перакладаць альбо пераказваць для школ на беларускую ці маларускую гаворку мастацкія творы расейскае літаратуры? Патрэбнасці ў гэтым, здаецца, няма аніякае, бо не толькі беларусы і маларосы, але нават і іншародцы вучацца ў адзінай расейскай школе, вывучаюць адну агульнадзяржаўную літаратурную мову, і, у выніку, цудоўна разумеюць усе творы класічных расейскіх пісьменнікаў і ў тым ліку – Крылова. Мала таго, нам нават здаецца, што чытанне навучэнцамі якіх-небудзь беларускіх ці маларускіх твораў ці пераказаў можа не толькі шкодзіць поспехам іх у айчыннай літаратурнай мове, але і садзейнічаць да пэўнай ступені распаўсюджванню ў школе непажаданых, з агульнадзяржаўнага пункту гледжання, сепаратыўных тэндэнцый.

Такім чынам, праца сп. Косіча, гэтак як і іншыя, падобныя да яе, ужо ў прынцыпе не заслугоўвае спачування. Паглядзім зараз, наколькі ўдала

[1] Не высвятляецца таксама сэнс эпітэту "літвіна-беларуская гаворка".

аўтар выканаў сваю задачу, г. зн., наколькі ягоныя пераказы баек Крылова адпавядаюць тым патрабаванням, якія звычайна стаяць перад перакладам і пераказамі мастацкіх твораў. Разглядаючы працу сп. Косіча з гэтага боку, на кожным кроку дзівішся і здзіўляешся. Аўтар рукапісу, відаць, нават не лічыць патрэбным больш-менш дакладна перадаваць думкі арыгінала. З 11 баек, пераказаных сп. Косічам, толькі ў двух – *Котъ и поваръ* і *Сердобольная лисица* бачым даволі ніштаватую ў гэтых адносінах перадачу думкі Крылова; астатнія дзевяць уяўляюць сабою ці то сама бесцырымоннае скажэнне думак байкапісца, ці то адвольную ўстаўку ўласных – часам недарэчных – меркаванняў сп. Косіча, ці то, нарэшце, проста такі скрыўленне асноўнае ідэі арыгінала. Каб не быць галаслоўным, пададзім прыклады. Параўнаем пачатак байкі Крылова *Клеветникъ и Змѣя* з пачаткам пераказу сп. Косіча.

<…>

Напрыканцы свайго пераказу сп. Косіч падае ўяўленні беларусаў пра пекла і пакуты ў ім грэшнікаў, пры чым малюе, што мужычкі ў пекле працуюць: яны "падъ панóў, што у смалѣ кипяць, бизъ перистанку дровы носюць да падкладаюць".

Кароценькае павучанне байкі Крылова *Лебедь, щука и ракъ* у пераказе сп. Косіча пашыранае на 5 старонак і праводзіць зусім не тую думку, якая выразна выказваецца ў байцы Крылова, – думка не пра шкоду рознагалосся, а пра абыякавае і безуважнае стаўленне селяніна да сваіх грамадскіх, мірскіх справаў. У пераказе байкі *Ворона и лисица* таксама бачым скрыўленне асноўнае думкі Крылова. Нарэшце, амаль кожная байка ў пераказе сп. Косіча атрымлівае спецыяльна-вузкае значэнне: змест яе дастасоўваецца да сялянскага побыту, што збольшага можна было бачыць у пададзеных прыкладах.

Калі да сказанага яшчэ дадаць, што пераказы сп. Косіча па сваёй форме вельмі нязграбныя і выродлівыя, што мастацкія вобразы Крылова перадаюцца няўдала і скажаюцца, што, нарэшце, уносяцца дадаткі, якія парушаюць гармонію формы ды зместу і замінаюць яснаму выяўленню ідэі арыгінала, – то само сабою стане зразумелым, што ад мастацкае красы баек Крылова не засталося і следу. Адным словам, спроба сп. Косіча, якая ўяўляе сабой, як відаць са сказанага, бесцырымоннае скажэнне думак і мастацкае формы твораў знакамітага пісьменніка, з'яўляецца, папраўдзе, прафанацый мастацтва. Як інакш назваць, напр., такую перадачу ўсім добра вядомае байкі *Квартетъ*?

<…>

Ці можна пазнаць поўную жыцця і руху папраўдзе мастацкую байку Крылова ў гэтай пэцканіне?

Чытаючы падобныя скажэнні твораў вялікага мастака, мімаволі ўспамінаеш словы Пушкіна:

<…>

Калі б нават сп. Косіч зрабіў свае пераказы не для навучэнцаў, а для сваіх блізкіх знаёмых, дзеля жарту, дык і ў гэтым выпадку нельга было б

паставіцца да яго задумы спачувальна, бо скажаць мастацкія творы ні ў якім разе недапушчальна, нават “беззаконна”, скажам словамі паэта.

Настаўнік 2$^{ое}$ Віленскае гімназіі
Аляксандр Занкевіч.

## № 5. Пратакол пасяджэння Апякунскае рады Віленскае навучальнае акругі

|7r| № 7. Протоколъ засѣданія Попечительскаго Совѣта 29 апреля 1902 года, подъ предсѣдательствомъ Его Превосходительства Господина Попечителя учебнаго округа, Тайнаго Совѣтника В.А. Попова.

Присутствовали: Помощникъ Попечителя Дѣйствительный Статскій Совѣтникъ А.В. Бѣлецкій,

Окружные Инспекторы: Стат. Совѣтн. Н.А. Счастливцевъ, Статскій Сов. Н.Г. Коссаковскій,

Директоры:

1-й Виленской гимназіи Дѣйств. Стат. Совѣтн. П.И. Ахонтьевъ,
2-й Виленской гимназіи Дѣйств. Стат. Совѣтн. М.А. Бжезинскій,
Виленскаго реальнаго училища Дѣйств. Стат. Совѣтн. А.И. Доброхотовъ,
Маріинскаго высшаго женскаго училища Дѣйств. Стат. Совѣтн. И.Д. Лавровъ,
Виленскаго городского учительскаго института Д. Стат. Сов. В.С. Богоявленскій,
Виленскаго Еврейскаго учительскаго института Д. Стат. Сов. В.П. Спасскій,
Виленскаго средняго химико-техническаго училища Д. Стат. Сов. М.А. Павловскій,
Народныхъ училищъ Виленской губерніи Стат. Совѣтн. А.Я. Семичановскій.
Предсѣдатель Виленской комисии для разбора древнихъ актовъ.

№ докладываемаго дѣла по порядку. Содержаніе докладываемого дѣла и постановленіе Совѣта. Время исполненія.

2. По резолюціи Его Превосходительства Господина Попечителя Виленскаго учебнаго округа, слушали:

Представленіе г. директора Виленской 2$^{\underline{ой}}$ гимназіи отъ 13 марта 1902 г. за № 243 съ заключеніемъ преподавателя той же гимназіи, коллежскаго совѣтника Занкевича о томъ, насколько переводъ заключающихся въ рукописи Косича басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе представляется точнымъ и согласнымъ съ подлин|7v|ными баснями Крылова.

Вслѣдствіе отношенія Ученаго Комитета Министерства Народнаго Просвѣщенія отъ 8 ноября 1901 года за № 1694 разсмотреніе рукописи М.Н. Косичъ *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе* было поручено преподавателю Виленской 2$^{\underline{ой}}$ гимназіи г. Занкевичу, который представилъ слѣдующее заключеніе:

<…>

|11v| Рассмотрѣвши рукопись М.Н. Косичъ *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе* и заслушавъ вышеприведенное заключеніе, Попечительскій Совѣтъ нашелъ, что названная рукопись, *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе*, представляется не точнымъ и согласнымъ съ подлинными баснями Крылова переводомъ одиннадцати заключающихся въ ней басенъ, но |12r|безцеремоннымъ искаженіемъ мыслей и художественной формы произведеній знаменитаго писателя.

Предсѣдатель Совѣта
Попечитель учебнаго округа [*подпіс*:] В. Поповъ.
Присутствовавшіе:
Помощникъ Попечителя [*нечыт. подпісы*].
Секретарь Попечительского Совѣта [*нечыт. подпіс*].

*Арыгінал. На доле старонкі пазнака*: 1478/ зст. 29.V 902. Исп. 8.VI. № 6288.

*Пераклад*

Пратакол пасяджэння Апякунскае Рады ад 29 красавіка 1902 года пад старшынствам Яго Яснавяльможнасці Спадара Апекуна навучальнае акругі таемнага радцы В.А. Папова.

Прысутнічалі: памочнік Апекуна сапраўдны стацкі радца А.В. Бялецкі
Акруговыя інспектары: стацкі радца І.А. Шчасліўцаў, стацкі радца І.Г. Касакоўскі,
Дырэктары:
1-ае Віленскае гімназіі сапраўдны стацкі радца П.І. Аханцьеў
2-ое Віленскае гімназіі сапраўдны стацкі радца М.А. Бжэзінскі,
Віленскае рэальнае вучэльні сапраўдны стацкі радца А.І. Дабрахотаў
Марыінскае вышэйшае жаночае вучэльні сапраўдны стацкі радца І.Д. Лаўроў
Віленскага гарадскога настаўніцкага інстытута сапраўдны стацкі радца В.С. Багаяўленскі,
Віленскага жыдоўскага настаўніцкага інстытута сапраўдны стацкі радца В.П. Спаскі,
Віленскае сярэдняе хіміка-тэхнічнае вучэльні сапраўдны стацкі радца М.А. Паўлоўскі,
Народных вучэльняў Віленскае губерні стацкі радца А.Я. Семічанаўскі.
Старшыня Віленскае Камісіі для разбору старажытных актаў.

№ справы па парадку. Змест справы і пастанова рады. Час выканання

2. Па рэзалюцыі Яго Яснавяльможнасці Спадара Апекуна Віленскае навучальнае акругі, слухалі:

Прадстаўленне сп. дырэктара 2ое Віленскае гімназіі ад 13 сакавіка 1902 г. за № 243 з высновамі настаўніка той жа гімназіі калежскага радцы Занкевіча аб тым, наколькі пераказ баек Крылова, якія знаходзяцца ў рукапісе Косіча, на літоўска-беларускую гаворку з'яўляецца дакладным і згодным з арыгінальнымі байкамі Крылова.

З прычыны адносіны Навуковага Камітэта Міністэрства Народнае Асветы ад 8 лістапада 1901 года за № 1694 разгляд рукапісу М.М. Косіч *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе* быў

даручаны настаўніку 2ое Віленскае гімназіі сп. Занкевічу, які падрыхтаваў наступныя высновы:

<…>

Разгледзеўшы рукапіс М.М. Косіч *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе* і заслухаўшы вышэйпададзеныя высновы, Апякунская Рада знайшла, што названы рукапіс *Переложеніе басенъ Крылова на литовско-бѣлорусское нарѣчіе* з'яўляецца не дакладным і згодным з арыгінальнымі байкамі Крылова перакладам адзінаццаці баек, якія знаходзяцца ў ім, а бесцырымонным скажэннем думак і мастацкае формы твораў знакамітага пісьменніка.

Старшыня Рады
Апякун навучальнае акругі [*подпіс*:] В. Поповъ.
Прысутныя:
Памочнік Апекуна [*нечыт. подпісы*].
Сакратар Апякунскае Рады [*нечыт. подпіс*].

## № 6. Канцылярыя Віленскае навучальнае акругі да Навуковага Камітэта Міністэрства Народнае Асветы

**|13г|** № наст. р. дѣла 744 и 1478. Канцеляріи Попечителя Виленскаго учебнаго округа. Столъ 3. Іюня 8 дня 1902 года. № 6288.

Въ Ученый Комитет М-ва Нар. Пр.

Вслѣдствіе отношенія отъ 8 ноября истекшаго года за № 1694, имѣю честь препроводить **при семъ** въ Ученый Комитетъ М-ва Нар. Пр. копію протокола **состоявшагося подъ моимъ председательствомъ** засѣданія Попечительскаго Совѣта при Управленіи ввѣреннаго мнѣ округа отъ 29 апреля сего года, за № 3 (ст. 2), по разсмотренію рукописи М.Н. Косича под заглавием: *Переложеніе басенъ Крылова на литвино-бѣлорусское нарѣчіе*.

Вмѣстѣ съ этимъ имѣю честь возвратить указанную рукопись.

Подписалъ [*нечыт. подпіс*].
Скрѣпилъ [*нечыт. подпіс*].
*Чарнавік.*

*Пераклад*

№ наст. р. справы 744 і 1478. Канцылярыі Апекуна Віленскае навучальнае акругі. Стол 3. Чэрвеня 8 дня 1902 года. № 6288.

У Навуковы Камітэт М-ва Нар. Асв.

З прычыны адносіны ад 8 лістапада мінулага года за № 1694 маю гонар даслаць у Навуковы Камітэт М-ва Нар. Асв. копію пратакола пасяджэння Апякунскае Рады, якая адбылася пад маім старшынствам 29 красавіка гэтага года дзеля разгляду рукапісу М.М. Косіча пад загалоўкам: *Переложеніе басенъ Крылова на литвино-бѣлорусское нарѣчіе*.

Разам з гэтым маю гонар вярнуць названы рукапіс.

Падпісаў
Змацаваў

## Некралог у «Русской музыкальной газете»

Беларускія даследнікі XX стагоддзя наракалі, што біяграфічных матэрыялаў пра М. Косіч амаль не захавалася і абапіраліся толькі на ейныя ўласныя “прызнанні” ў працы *Литвины-Бѣлоруссы Черниговской губерніи*. Аднак ужо ў часы М. Гарэцкага і Я. Карскага была магчымасць мець падрабязныя звесткі пра пісьменніцу[1]: па-першае, можна было наладзіць сувязь з ейнымі сваякам (у Чарнігаве жыла сястра, А. Булгакава, а таксама дзве пляменніцы); а па-другое, шмат інфармацыі змяшчалася ў некралогу, надрукаваным праз некалькі месяцаў пасля смерці М. Косіч. Дарэчы, аўтар некралогу Сяргей Рыбакоў (1867–1921), музычны этнограф і фалькларыст, што вывучаў вусную народную творчасць «инородцев» усходу Расейскае імперыі і Туркестана, ведаючы М. Косіч толькі па публікацыях у часопісе «Живая старина», хіба непасрэдна звяртаўся да А. Булгакавай з просьбаю апісаць жыццёвы і творчы шлях паэткі і даследніцы.

Зрэшты, некралог, змешчаны ў «Русской музыкальной газете», толькі ў 1990-я гг. нейкім чынам стаў вядомы навукоўцам: прынамсі, Г. Кісялёў згадвае пра яго, падае дакладную дату смерці паэткі [Кісялёў 1994: 386–387], але фактычна не выкарыстоўвае шэраг іншых цікавых інфармацый, змешчаных у ім.

Прыкладна ў гэты час некралог з «Русской музыкальной газеты» стаў вядомы краязнаўцам родных мясцінаў М. Косіч – Унечскага раёна Бранскае вобласці Расеі. Няраз яго выкарыстоўвала дырэктар Унечскага краязнаўчага музея Наталля Голік [Голик, *Мария Косич – писательница, этнограф юго-западной Брянщины*, online; Голик, *К 100-летию со дня смерти М.Н. Косич*, online].

Фактычна на пераказе некралога з «Русской музыкальной газеты», а таксама краязнаўчых матэрыялаў заснаваны артыкул[2] у расейскай Вікіпедыі [*Косич Мария Николаевна*, online]. Праўда, невядомыя крыніцы наступных звестак: 1. Дакладная дата нараджэння М. Косіч (30.11.1850 г.); 2. Імя мужа паэткі (Мікалай Мікалаевіч Косіч).

Абедзве беларускія і ўкраінская Вікіпедыі, хоць і згадваюць пра некралог, але звесткі з яго амаль не выкарыстоўваюцца[3].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: С. Рыбаковъ, *Марія Николаевна Косичъ: Некролог*, «Русская музыкальная газета» 1911, № 38 (18 сентября), слп. 754—758.

---

[1] Не выключаем, што Р. Зямкевіч меў кантакты з сястрою пісьменніцы.

[2] Апублікаваны пасля 6 студзеня 2016 г. Апошні запіс – 10 лютага 2019 г.

[3] Артыкул у Вікіпедыі на “наркамаўцы” публікуецца пасля 26 ліпеня 2010 г.; апошні запіс – 19 лютага 2023 г. Артыкул “тарашкевіцаю” – пасля 13 лютага 2018 г.; апошні запіс – 31 ліпеня 2022 г. Артыкул па-ўкраінску публікуецца пасля 9 квітня 2016 г.; апошні запіс – 10 жовтня 2022 г.

## *Марія Николаевна Косичъ*

(Некролог)

28 марта текущаго года скончалась небезизвѣстная изслѣдовательница бѣлорусской народности Марія Николаевна Косичъ, горячо любившая сваю народность и безкорыстно потрудившаяся надъ изученіемъ ея быта и творчества (въ томъ числѣ музыкальнаго). Побужденіемъ къ этнографическому изученію бѣлоруссовъ было у М.Н. Косичъ, такъ сказать, обиженное чувство народности: она видѣла и слышала, какъ смѣются надъ бѣлоруссами, – и говоръ де у нихъ плохой и пѣсни никуда не годятся; между тѣмъ пѣсни очень нравились г-жѣ Косичъ, и она рѣшила: «запишу пѣсни и повезу ихъ на судъ спеціалистовъ».

Съ молодыхъ лѣтъ занималась М.Н. Косичъ изученіемъ быта бѣлоруссовъ; результатомъ ея изученій были слѣдующія ея сочиненія:

1). *Литвины-бѣлоруссы Черниговской губ. Ихъ бытъ и пѣсни*; удостоена золотой медали отъ Императ. Геграфич. Общества.

2). *Бѣлорусскія пѣсни. Съ мелодіями и аккомпаниментами*. Имп. Академія Наукъ приняла этотъ сборникъ къ печатанію.

3) *На пиресяленьня*. Чернигов 1903 г. Поэтическое изображеніе (въ стихахъ) бѣдствій, которымъ подвергались бѣлоруссы на переселеніи; протестъ противъ переселенія.

4) *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе*. Черниговъ 1903 г.

Въ виду того, что М.Н. Косичъ была первою работницею по изученію бѣлорусской народности, привожу нѣкоторыя біографическія данные относительно ея.

Родиной М.Н. Косичъ была Черниговская губ. и въ частности Мглинскій уѣездъ. Она происходила отъ древней дворянской фамиліи, – по матери Силевичъ и по отцу – Владимірова, родилась спустя два мѣсяца послѣ смерти отца. Отецъ – военный, былъ раненъ и контуженъ, и поэтому его двѣ дочери, и въ томъ числѣ Мар. Ник., состояли подъ покровительствомъ Александр. Комитета о раненыхъ и безъ особыхъ хлопотъ были приняты въ СПБ. Патріотическій институтъ. Вслѣдствіе болѣзни и такъ назыв. «тоски про родинѣ» М. Н. была переведена въ Полтавскій женскій институтъ. Благотворный южный климатъ, жизнь на свободѣ оздоровили М. Н. Въ институтѣ она научилась музыкѣ.

17-ти лѣтъ она вышла замужъ за дворянина-помѣщика Косичъ. Но черезъ три года мужъ ея умеръ, и М. Н. съ маленькимъ сыномъ переѣхала въ сел. Разсуху, Черниговск. губ., – то селеніе, которое поэтически описала въ своемъ произведеніи *На пиресяленьня*, здѣсь она жила, пока подросталъ ея сынъ.

Послѣ того М. Н. вмѣстѣ съ сыномъ переѣхала въ Петербургъ и поступила въ Учительскую семинарію, гдѣ и окончила курсъ; въ Кіевѣ она выдержала экзаменъ на звание домашней учительницы.

Однако, педагогическая дѣятельность не была ея призваніемъ, она любила писать; послѣ М. Н. осталось много рукописей ненапечатанныхъ; какъ бытовая писательница, М. Н. очень интересна и было бы желательно напечатать ея рукописи.

Много мытарствъ пришлось пройти М. Н. по редакціямъ столичныхъ изданій, когда она устраивала сваю первую работу *Литвины-бѣлоруссы*. Нигдѣ не принимали; оставалось пасть духомъ, пока академикъ Вл.И. Ламанскій не принялъ этой работы для напечатанія въ одномъ изъ изданій Имп. Географич. О-ва (журн. «Живая Старина» 1902 г.); вскорѣ Имп. Географич. О-во присудило М.Н. Косичъ за эту книгу золотую медаль.

Другой большой работой М. Н. было составленіе сборника бѣлорусскихъ пѣсенъ съ мелодіями; она занималась этой работой съ любовью, но опять никто изъ издателей въ Кіевѣ, Москвѣ, Петербургѣ не хотѣлъ печатать бѣлорусскихъ пѣсенъ, – такъ ничтоженъ былъ интересъ къ нимъ; опять для М. Н. вышли безконечные хлопоты, поѣздки, пока не заинтересовался ея работой академикъ А.А. Шахматовъ; онъ представилъ сборникъ въ II-е отдѣленіе Имп. Академіи Наукъ для напечатанія.

Двѣ книжки М.Н. Косичъ *На пиресяленьня* I-я часть и *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе* были допущены цензурою къ печатанію лишь въ либеральное правленіе кн. Святополка-Мирскаго; II-ю часть *На пиресяленьня* цензура настолько урѣзала и обезцвѣтила, что М.Н. Косичъ не пожелала ея печатать.

М. Н. писала немало, обыкновенно стенографически; всѣ, кому приходилось читать ея рукописи, спрашивали ея, почему она не печатаетъ своихъ сочиненій. Однажды М. Н. послала къ Суворину (въ редакцію «Нов. Вр.») нѣсколько рукописей, но дѣло кончилось тѣмъ, что рукописи пролежали два года, и потом едва удалось извлечь ихъ изъ подъ спуда (ради этого ѣздила специально сестра М. Н.).

Характер М. Н. былъ подвижной ищущій; М. Н., по словамъ ея сестры, А.Н. Булгаковой, вѣчно къ чему-то стремилась, едва-ли въ чемъ находила себѣ удовлетвореніе; напр., однажды она начала изучать по методѣ Ледзинскаго школу кройки и достигла совершенства, но бросила кройку, не примѣняя своего умѣнія ни къ чему. Въ другой разъ задумала во время размежеванія въ Черниговской губ. планы снимать; дали ей въ губернской чертежной работу: выполнила она ее превосходно, и конец. Или предприняла она съ родственниками домъ стоить; начала выписывать руководства, сама дѣлала рисунки для украшенія дома, – домъ готовъ, а у нея прошла охота жить въ немъ, – и умерла она на станціи въ чужомъ домѣ.

М.Н. Косичъ имѣла слабое здоровье; она была подвержена простудѣ, и каждый годъ у нея бывали то плевритъ, то бронхитъ; на зиму съ октября м. она обыкновенно уѣзжала на югъ – въ Крымъ, на Кавказъ.

Въ этомъ году въ январѣ–февралѣ М. Н. собралась съ родственниками въ Сухумъ, но снѣжные заносы на жел. дорогахъ задержали М. Н. на

станціи Разсуха Полѣсской ж. д. Здѣсь М. Н. серьезно заболѣла: появились мучительные приступы кашля, сердечные перебои, развилось малокровіе отъ истощенія, такъ какъ М. Н. очень мало ѣла; умерла она неожиданно, спокойно – 28 марта текущ. года; наканунѣ смерти вечеромъ составляла списокъ покупокъ к Пасхѣ; ночь спала очень спокойно; въ день смерти пила чай, завтракала; а послѣ уснула и въ такомъ состояніи скончалась.

Похоронили М.Н. Косичъ, согласно ея желанію, въ женскомъ Разрытовскомъ монастырѣ, въ 7-ми верстахъ отъ ст. Разсуха.

М.Н. Косичъ сильно интересовалась музыкальной стороной народнаго пѣсеннаго творчества; будучи музыкантшей (играла на роялѣ, пѣла) и обладая тонкимъ слухомъ, она могла дѣлать точныя записи народныхъ напѣвовъ; имѣющій быть напечатаннымъ Императ. Академіей Наукъ ея сборникъ бѣлорусскихъ пѣсенъ съ аккомпанементами, сдѣлаными въ стилѣ народномъ представитъ поэтому большой интересъ для музыкантовъ вообще и для изучающихъ бѣлорусскую народность въ частности.

С. Рыбаковъ

*Пераклад*

### *Марыя Мікалаеўна Косіч*

Некралог

28 сакавіка бягучага года памерла даволі вядомая даследчыца беларускай народнасці Марыя Мікалаеўна Косіч, якая горача любіла сваю народнасць і бескарысліва працавала над вывучэннем яе побыту і творчасці (у тым ліку музычнай). Заахвочваннем да этнаграфічнага вывучэння беларусаў было ў М.М. Косіч, так бы мовіць, пакрыўджанае пачуццё народнасці: яна бачыла і чула, як смяюцца з беларусаў, – і гаворка ў іх кепская і песні нічога нявартыя; між тым, песні вельмі падабаліся спадарыні Косіч, і яна вырашыла: “запішу песні і павязу іх на суд спецыялістаў”.

З маладых гадоў займалася М.М. Косіч вывучэннем побыту беларусаў; вынікам яе даследаванняў былі наступныя яе працы:

1. *Литвины-белорусы Черниговской губ. Ихъ бытъ и песни*, уганараваная залатым медалём Імператарскага геаграфічнага таварыства.

2. *Бѣлорусскія пѣсни. Съ мелодіями и аккомпаниментами*. Імператарская Акадэмія Навук прыняла гэты зборнік да друку.

3. *На пиресяленьня*. Чернигов 1903 г. Паэтычнае выяўленне (у вершах) бедстваў, якіх зазналі беларусы на перасяленні; пратэст супраць перасялення.

4. *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе*. Черниговъ 1903 г.

З тае прычыны, што М.М. Косіч была першаю працаўніцаю па вывучэнні беларускай народнасці, падаю асобныя ейныя біяграфічныя дадзеныя.

Радзімаю М.М. Косіч была Чарнігаўская губ. і ў прыватнасці Мглінскі павет. Яна паходзіла са старажытнага дваранскага роду, – па маці Сілевіч

і па бацьку – Уладзімірава, нарадзілася праз два месяцы пасля смерці бацькі. Бацька – вайсковец, быў паранены і кантужаны і таму ягоныя дзве дачкі, і ў тым ліку Мар[ыя] Мік[алаеўна], знаходзіліся пад апекаю Аляксандраўскага камітэта аб параненых і без асаблівых клопатаў былі прыняты ў Санкт-Пецярбургскі Патрыятычны Інстытут. З прычыны хваробы і гэтак зв[анае] "тугі па радзіме" М. М. была пераведзена ў Палтаўскі жаночы інстытут. Дабратворны паўднёвы клімат, жыццё на волі аздаравілі М. М. У Інстытуце яна навучылася музыцы.

У 17-ць гадоў яна выйшла замуж за двараніна-землеўласніка Косіча. Але праз тры гады ейны муж памёр. І М. М. з маленькім сынам пераехала ў вёску Расуху Чарнігаўск. губ., – тое паселішча, якое паэтычна апісала ў сваім творы *На пиресяленьня*, тут яна жыла, пакуль падрастаў ейны сын.

Пасля М. М. разам з сынам пераехала ў Пецярбург і паступіла ў Настаўніцкую семінарыю, дзе і скончыла курс; у Кіеве яна вытрымала іспыт на званне хатняй настаўніцы.

Аднак педагагічная дзейнасць не была яе пакліканнем, яна любіла пісаць; пасля М. М. засталося шмат рукапісаў не надрукаваных; як бытавая пісьменніца, М. М. вельмі цікавая і было б пажадана надрукаваць яе рукапісы.

Шмат пакут давялося зазнаць М. М. у рэдакцыях сталічных выданняў, калі яна спрабавала надрукаваць сваю першую працу *Литвины-бѣлоруссы*. Нідзе не прымалі; заставалася пасці духам, пакуль акадэмік Ул.І. Ламанскі не падпісаў у друк гэтую працу ў адным з выданняў Імператарскага геагафічнага таварыства (часопіс «Живая Старина» 1902 г.); неўзабаве Імператарскае геаграфічнае таварыства прысудзіла М.М. Косіч за гэтую кнігу залаты медаль.

Іншай вялікай працаю М. М. было складанне зборніка беларускіх песень з мелодыямі; яна займалася гэтай працай з любоўю, але зноў ніхто з выдаўцоў у Кіеве, Маскве, Пецярбурзе не хацеў друкаваць беларускія песні, – ніякае цікавасці не было да іх; зноў М. М. мела бясконцыя клопаты, паездкі, пакуль не зацікавіўся яе працай акадэмік А.А. Шахматаў; ён падаў зборнік у ІІ аддзяленне Імператарскай Акадэміі Навук для надрукавання.

Дзве кніжкі М.М. Косіч *На пиресяленьня* (І-я частка) і *Переложеніе нѣкоторыхъ басенъ Крылова на бѣлорусское нарѣчіе* былі дазволеныя цэнзураю да друку толькі ў ліберальнае кіраванне князя Святаполк-Мірскага; ІІ-ю частку *На пиресяленьня* цэнзура настолькі пакрэсліла і абяскалерыла, што М.М. Косіч не пажадала яе друкаваць.

М. М. пісала нямала, звычайна стэнаграфічна; усе, каму даводзілася чытаць яе рукапісы, пыталіся ў яе, чаму яна не друкуе сваіх твораў. Аднойчы М. М. паслала да Суворына (у рэдакцыю «Нов. Вр.») некалькі рукапісаў, але справа скончылася тым, што рукапісы праляжалі два гады і потым ледзь удалося атрымаць іх назад (дзеля гэтага ездзіла спецыяльна сястра М. М.).

Па характару М. М. была рухавая, заўсёды ў пошуку; М. М., па словах яе сястры, А.М. Булгакавай, вечна да чагосьці імкнулася, але наўрад ці ў чым знаходзіла сабе задавальненне; напр., аднойчы яна пачала вывучаць па

метадзе Лазінскага школу кройкі і дасягнула дасканаласці, аднак кінула кройку, не ужываючы свайго ўмення ні да чаго. У іншы раз задумала падчас размежавання ў Чарнігаўскай губ. здымаць планы; далі ёй у губернскай чарцёжнай работу: выканала яна яе цудоўна – і ўсё. Або пачала яна са сваякамі дом будаваць; выпісвала даведнікі, сама рабіла малюнкі для ўпрыгожвання дома, – дом гатовы, а ў яе прайшло жаданне жыць у ім, – і памерла яна на станцыі ў чужой хаце.

М.М. Косіч мела слабое здароўе; яна была схільная да прастудаў, і кожны год у яе бывалі то плеўрыт, то бранхіт; на зіму з кастрычніка яна звычайна з'язджала на поўдзень – у Крым, на Каўказ.

У гэтым годзе ў студзені–лютым М. М. сабралася са сваякамі ў Сухумі, але снежныя заносы на чыгунках затрымалі М. М. на станцыі Расуха Палескае чыг. лініі. Тут М. М. сур'ёзна захварэла: з'явіліся пакутлівыя прыступы кашлю, сардэчныя перабоі, развілося малакроўе ад знясілення, бо М. М. вельмі мала ела; памерла яна нечакана, спакойна – 28 сакавіка бягучага года; напярэдадні смерці вечарам складала спіс пакупак да Вялікадня; ноч спала вельмі спакойна; у дзень смерці піла гарбату, снедала; а пасля заснула і ў такім стане памерла.

Пахавалі М.М. Косіч, паводле яе жадання, у жаночым Разрытаўскім манастыры, за 7 вёрст ад ст. Расуха.

М.М. Косіч актыўна цікавілася музычным складнікам народнае песеннае творчасці; будучы музыканткай (іграла на раялі, спявала) і валодаючы тонкім слыхам, яна магла рабіць дакладныя запісы народных напеваў; зборнік беларускіх песень з акампанементам, зроблены ў народным стылі, уяўляе таму вялікую цікавасць для музыкаў наогул і для тых, хто вывучае беларускую народнасць у прыватнасці.

С. Рыбакоў.

# Яшчэ адзін некралог Ялегі Пранціша Вуля

Колькі слоў у вянок памяці Ялігі Францішка Карафа-Корбута (1835–1894) знайшліся ў часопісе „Biblioteka Warszawska” (1895, t 1). Уключаныя ў вялікі аглядны артыкул *Kronika miesięczna*, яны надоўга схаваліся ад даследніцкага вока. Зрэшты, гэты пасмяротны ўспамін не дае нам аніякіх новых звестак пра паэта: тут адно сціслы пераказ таго, што можна было прачытаць у „Gazecie Polskiej” (1894, nr 282).

Аднак зацікавіў нас гэты тэкст з дзвюх прычынаў.

Па-першае, навуковым рэдактарам „Biblioteki Warszawskiej” з 1891 г. працаваў Дыянізы Гэнкель[1], добры знаёмы Ялегі Пранціша Вуля з часоў сібірскае высылкі. Трэба думаць, ён (у той час сурэдактар „Gazety Polskiej”) быў адным з тых, хто дапамог паэту знайсці працу ў Варшаве ў 1877 г., калі Карафа-Корбуты пасля амаль чатырнаццацігадовага прымусовага побыту ў Прыбайкаллі пераехалі ў сталіцу Прывіслянскага краю. Магчыма, гэта якраз Д. Гэнкель спрыяў таму, каб у часопісе памянулі сціплага працаўніка тагачаснае варшаўскае журналістыкі. Прыяцельскія дачыненні маглі тут адыграць пэўную ролю: „Biblioteka Warszawska” ў сваёй *Хроніцы* звычайна згадвала адно пра важныя падзеі грамадска-палітычнага і культурнага жыцця Еўропы. Так, у студзеньскай *Хроніцы* часопіса ішла гаворка пра выбары прэзідэнта Францыі, пра эканамічныя поспехі ў 1894 г., пра новы статут дзяржаўнага банку, пра філантропію і інш., а таксама пра смерць у снежні 1894 г. – студзені 1895 г. французскага дыпламата і кіраўніка будовы Суэцкага канала Фердынанда Лесэпса (1805–1894), шатландскага літаратара-неарамантыка Роберта Стывенсана (1850–1894), знанага кракаўскага мастака Генрыка Радакоўскага (1823–1894), мастака-імпрэсіяніста Уладзіслава Падкавінскага (1866–1895). Францішак Корбут у гэты мартыралог знакамітасцяў трапіў, відаць, толькі таму, што быў “свой”.

Па-другое, мы звярнулі ўвагу, што *Хроніка* ў дадзеным томе часопіса падпісаная крыптанімам Z. P. *Słownik pseudonimów pisarzy polskich* рэгіструе, што гэтым крыптанімам карысталіся трыццаць аўтараў, адным з якіх быў Зянон Пяткевіч (1862–1932) [*Słownik pseudonimów*… 1996, t. III: 629]. Вядома таксама, што менавіта ён з 1891 г. – па 1897 г. рыхтаваў аддзел *Kronika miesięczna* для „Biblioteki Warszawskiej”.

Шляхецкі род Пяткевічаў, што паходзіў з Міншчыны, даў польскай і беларускай культуры шэраг выдатных літаратараў, фалькларыстаў, журналістаў і інш. Найперш трэба сказаць пра чатырох сыноў Антоні Пяткевіча (1780? – пасля 1856): удзельніка Паўстання 1830–1831 гг. і эмігранта Валяр’яна (1805–1843), Генрыка

[1] Д. Гэнкель зрэдчас спрабаваў свае сілы ў вершаскладанні. Гл. напр.: D. Henkiel, *Widzenia: Fragment* (25–29). W: *Upominek: książka zbiorowa na cześć Elizy Orzeszkowej (1866–1891)*. Kraków-Petersburg, 1893.

(1810? – пасля 1862), Фелікса (1820? – пасля 1857)[1], Антоні (1823–1903, уласна Адама Плуга). Зянон Пяткевіч – гэта адзін з сыноў Генрыка. Старэйшыя браты Зянона: Чэслаў Пяткевіч (1856–1936) – славуты даследнік Рэчыцкага Палесся і Зыгмунт Пяткевіч (1859–1934) – пісьменнік і публіцыст.

З. Пяткевіч (1862–1932) нарадзіўся ў фальварку Прушын (сёння не існуе[2]; знаходзіўся на поўнач ад вёскі Анатоля Сыса Гарошкаў) Рэчыцкага павета. У другой палове 1870-х гг. ён апынуўся пад апекаю дзядзькі (Адама Плуга) у Варшаве, дзе закончыў гімназію і Універсітэт (1885). Усё сваё далейшае жыццё працаваў (ці супрацоўнічаў) з разнастайнымі польскімі выданнямі. Зрэдчас у ягонай публіцыстыцы з'яўлялася беларуская тэма. Сама рэзананснай для беларускага літаратуразнаўства была ягоная рэцэнзія паэмы Янкі Купалы *Адвечная песня*.

Для нас цікава ўжо тое, што варшавяк З. Пяткевіч набыў і прачытаў беларускамоўны твор. Зрэшты, дзіўнага ў гэтым нічога няма: частка вялікае сям'і Пяткевічаў працягвала жыць на беларускіх землях, дык, пэўна, сваяцкія дачыненні, а таксама дзяцінства, праведзенае на Палессі, і былі той повяззю, што казалі сачыць за падзеямі, якія маглі быць вызначальнымі ў новай рэчаіснасці, прасякнутай сацыялістычнымі ідэямі. На паэму Янкі Купалы З. Пяткевіч глядзеў праз прызму аб'яўленае вайны селяніна супраць пана-землеўладальніка і не пагаджаўся, што "wszędzie można z powodzeniem wsadzać programy emancypacyjne a najtrudniej je przeprowadzać za pomocą utworów rymowanych" [Pietkiewicz 1910: 12]. На яго думку, беларуская літаратура павінна ісці шляхам У. Сыракомлі, які

> pisał po białorusku tendencyjnie, o czym świadczy jeden jego wiersz, podyktowany mi przez jego serdecznego druha, Wincentego Korotyńskiego[3]. W formie utwór to piękny, napisany językiem nieskażonym, wypowiada ulubioną Syrokomli ideę: łączności szlachty polskiej z ludem białoruskim, wolnym i równym [Pietkiewicz 1910: 11].

Калі ж яна, забыўшыся на патрыятычную тэндэнцыйнасць даўнейшае краёвае літаратуры, гаворыць адно пра крыўду беларускага селяніна на пана (вядома, на польскага пана) ды яшчэ выкарыстоўвае расейскі алфавіт („czcionkami rosyjskimi"), дык навошта „pod postacią utworów rymowanych rzucać w oczy płachtę jego nędzy, przypominać o podatkach, długach, suszach, nieurodzajach? Przecież on ma tego po same uszy w rzeczywistości" [Pietkiewicz 1910: 11].

І нічога дзіўнага, што З. Пяткевіч негатыўна ацэньвае не толькі *Адвечную песню* Янкі Купалы, але і ўсю беларускую літаратуру:

> Lud białoruski nigdy nie miał i nie ma swojej literatury. Stworzyła ją inteligencja polska. Jest to więc wytwór sztuczny, w znacznej większości nie odzwierciadlający ani duszy tego ludu, ani jego zwyczajów, nawyknień, tradycji, przesądów, ani nawet ducha jego mowy [Pietkiewicz 1910: 11].

---

[1] Гл.: *List Adama Pługa do Felixa Pietkiewicza: Kilka wrażeń z wycieczek na Litwę*, „Kronika wiadomości krajowych i zagranicznych" 1858, nr 234 i nast.

[2] А. Ельскі апісаў толькі ўрочышча Прушын, дзе напрыканцы XIX ст. была толькі смалярня [*Słownik Geograficzny*… 1888, t. IX: 107].

[3] З. Пяткевіч падае ў рэцэнзіі 20 радкоў з верша У. Сыракомлі *Добрыя весці*.

Сімволіка-алегарычнага сэнсу твора беларускага песняра З. Пяткевіч не заўважае. Яму не падабаецца таксама "паэзія праўды, паэзія праўдзівага – без усякіх прыкрас – жыцця беларуса-хлебароба" [Вл. С. 1910: 5]. Ён бы хацеў „jedności, tylko na gruncie bardziej demokratycznym, szlachty polskiej z ludem białoruskim" [Pietkiewicz 1910: 11].

А тагачасная беларуская літаратура (пасля Францішка Багушэвіча і Янкі Лучыны) ўжо правяла выразную мяжу паміж беларусам-селянінам і панам-палякам. Невыпадкова Альгерд Бульба (Вітольд Чыж, 1884–1939), дзеяч Польскае сацыялістычнае партыі і супрацоўнік у 1908–1911 гг. "Нашае Нівы", "дае востры і гнеўны адказ польскаму крытыку" [Александровіч С., Александровіч В. 1977: 244]:

> Пан Зэнон Петкевіч выказывае поўную незнаёмасць беларускага народа, яго душы і яго жыцьця; ён хочэ, каб мужык не адчуваў свайго болю, каб кінуўся ў абоймы таму, хто трымае бізун над ім, каб палюбіў долю мачыху…
> Гаворачы аб вершах Купалы, кажэ пан Петкевіч, што пісаў іх "не пастушок, – гэта інтэлігент, каторы улез у яго скуру". А варта было-бы пану Петкевічу ведаць, што Янка Купала і быў пастушком, бо радзіўся і вырос у хаце бацькі-селяніна; варта ведаць, што гэта не інтэлігент, а самаучка, каторы ўсю эдукацію дастаў, працуючы ў панскім бровары, дык у скуру пастушка не ўлезае!..
> Так сама і ўсе цяперашніе беларускіе песьняры, каторые апеваючы свой боль, бываюць нераз наіўнымі, – але гэта ўсё земляробы-мужыкі, муляры, гарбары і ім падобные, а найвялікшы інтэлігент між імі – гэта *народны вучыцель* (Якуб Колас). Яны могуць ўлезаць хіба толькі "у скуру інтэлігентоў", бо "пастушковая скура" – гэта, пакуль што, наша прыродная адзежа… І песьня Купалы выйшла с-пад сермяжных грудзей і яна сумная, як доля яго. Відмы Долі, Бяды мужычай, Голаду і Холаду лунаюць у ёй.
> Нота Купалы – гэта не "эманцыпацыйная праграма", але стогн набалеўшай душы, можэ ня мілы патомкам тых, што выклікалі яго [Бульба 1910: 7–8].

Больш за тое: Альгерд Бульба абвінавачвае варшаўскага публіцыста ў "злучэнні" "праўдзіва-расейскіх" поглядаў з "праўдзіва-польскімі", каб зганьбіць беларускі рух, і ў выступе супраць сярмяжнага люду, і ў няведанні гэтага люду.

Відавочна, у палемічным запале Альгерд Бульба, мала што ведаючы пра апанента, не заўсёды слушна аргументаваў сваю пазіцыю. Прынамсі, З. Пяткевіч меў што́ адказаць, прычым "такім беларускім языком, якога я научыўся разам з польскім у Рэчыцком Палесьсі, якога мене научыла нянька беларуска":

> А. Бульба саўсім перэкруціў мае мысьлі і мае словы і кажэ што я улез у скуру паступоваго дэмакраты, і што я не знаю ні беларусоў, ні іх літэратуры, ні душы народу. На гэта я вам скажу, што ешчэ А. Бульба не ўмеў чытаць і пісаць, можэ быў маленькім хлопцам, калі я ўжо напісаў расправу а беларусах, сабраў двесце песьней і мабыць добра я знаў гэты народ і добра з нім сжыўся, калі мне дзеўчата і хлопцы дыхтавалі песьні, а старые людзі і знахары аткрылі усе замаўляньня. Багата лет я пражыў між беларускім народам. Радзіўся я там і вырас, гуляў с беларускімі дзецьмі у полі, у лесе і у хаце, еў з німі з аднэй місы. Прыгледаўся я добра іх цяжкай долі, бачыў не раз іх сьлёзы і горкае жыццё, а гэтую цяжкую долю а апісаў у повесьці *Dla szczęścia* (*Для шчасьцья*), каторай пэўне не чытаў А. Бульба! Атсылаю я яго да *Энцыклопэдіі*, там найдзе усё, аб чым я пісаў; а мне *Энцыклопэдіі* ня трэба, бо я сам чытаў усё што пісалі

> а беларусах і беларускай літэратуры. Калі я сказаў, што німа ешчэ беларускай літэратуры, то значыць, што нема ей мінуўшчыны, але я веру у будучыну жывога народу. Беларуская літэратура ешчэ творыцца, расьце с гэтаго народу [Петкевіч 1910: 11–12].

Вядома, Альгерд Бульба спрабаваў адказаць З. Пяткевічу, але апрача таго, што той "цяперэшняго беларускага руху не знае" [Бульба 1910, № 46: 13] сказаць не меў чаго, бо варшаўскі публіцыст у сваім тэксце прасіў згадаць "нядаўную мінуўшчыну, калі я быў рэдактарам «Wilenskaj Gazety» (1906 г.) і якая была програма гэтай газэты у справе беларускаго народу" [Петкевіч 1910: 12].

І сапраўды, З. Пяткевіч у час працы ў 1906 г. у Вільні выразна вылучаўся з эндэцкага польскага кола, што не жадала заўважаць на Літве іншанацыянальныя асяродкі. Вось як кажа пра гэта Чэслаў Янкоўскі (1857–1929), які ў той час быў рэдактарам „zachowawczego" „Kuryera Litewskiego":

> Wspomniane wyżej różniczkowanie się myśli politycznej i prądów społecznych polskich na Litwie powołało do życia oprócz „Nowin Wileńskich" (w pierwszych dniach stycznia 1906) dziennik „postępowy" prowadzony przez pp. Romera i Z. Pietkiewicza, „Gazetę Wileńską" (w pierwszych dniach lutego t. r.). Miała ona odbijać wyraźnie od „zachowawczego" „Kuryera Litewskiego" oraz „klerykalnych" „Nowin". Miała również, w przeciwieństwie do nurtującej już silnie po kraju miejscowej Narodowej Demokracyi polskiej, stać na straży interesów i praw wszystkich narodowości tubylczych. Materyalną podstawę dało pismu grono ludzi, nie tyle pochopnych do socyalnego radykalizmu ile odczuwających potrzebę szerzenia tak zwanego dziś, „kierunku krajowego", zbudowania racyonalnego *modus vivendi* przynajmniej polsko-litewskiego [Jankowski 1908: 50–51].

Аднак „Gazeta Wileńska" з прычыны свайго кароткага, бо толькі пяцімесячнага жыцця, не здолела сур'ёзна паўплываць на станаўленне ідэалогіі краёўства, дзе знаходзілася месца і беларусам. З. Пяткевіч, вядома, не быў палымяным прыхільнікам "рацыянальнага ладу жыцця" ўсіх этнічных супольнасцяў на Літве, але на азначэнне "польскі бурж.-нацыяналіст. крытык" [Саламевіч 1986: 513] ён відавочна не заслугоўваў нават у часы развітога сацыялізму.

У 1880–1890-я гг., жывучы і працуючы пераважна ў Варшаве, З. Пяткевіч, нягледзячы на розніцу ва ўзросце, відаць, меў магчымасць сустракацца з сябрамі "беларускага гуртка ў Варшаве". Нагадаем: ён працяглы час быў пад апекаю Адама Плуга. Аднак гэтую магчымасць ён, відавочна, не выкарыстаў. Прынамсі, тэкст "некралогу" не засведчыў пра асабістае знаёмства з Э.Ф. Карафа-Корбутам: характарыстыка чалавечых якасцяў беларускага паэта, пэўна, паходзіла ад людзей, якія добра яго ведалі (Д. Гэнкеля ці Адама Плуга).

Друкуецца паводле: Z. P., *Kronika miesięczna*, „Biblioteka Warszawska: Pismo miesięczne, poświęcone naukom, sztukom i sprawom społecznym" 1895, t. I, s. 184.

## *Kronika miesięczna*

<…> W Warszawie zgasł oracz niwy dziennikarskiej, o którym w szerszych kołach rzadko kto słyszał: Franciszek Korbutt. Strawiwszy najpiękniejsze lata młodości na cierniach, skołatany, poświęcił się pracy dziennikarskiej, trawiącej i ciężkiej, jako współpracownik „Gazety Polskiej." Między innemi, pełniąc obowiązki korrektora, zamiłowany w czystości języka, starannie wypleniał chwasty, rosnące tak bujnie u nas na gruncie pośpiechu gazeciarskiego. Niesłychanie łagodny, cichy i prawy, nie dał się przesycić goryczą życia, pomimo, że nurzał się w niej i pływał długo; zyskał sobie ogólną sympatyę, przyjaźń i szacunek. Czasem, w chwilach wolnych od znojnej pracy, dawał folgę natchnieniu, rzucał na papier rymy, płynące z głębi serca i pełne artyzmu.

*Пераклад*

<…> У Варшаве памёр араты журналісцкае нівы, пра якога мала хто чуў у шырокіх колах – Францішак Корбут. Правёўшы найпрыгажэйшыя гады свае маладосці ў цернях, ён, спакутаваны, аддаўся журналісцкай працы, працаёмкай і цяжкай, як супрацоўнік „Gazety Polskiej". Апрача ўсяго іншага, выконваючы абавязкі карэктара і дбаючы пра чысціню мовы, старанна выполваў пустазелле, што так буяна расце ў нас на глебе газетнае паспешлівасці. Неверагодна лагодны, ціхі і шляхетны, не даўся насыціцца жыццёвай горыччу, нягледзячы на тое, што акунаўся ў яе і доўга па ёй плыў; здабыў усеагульную сімпатыю, сяброўства і павагу. Часам, у хвіліны, вольныя ад напружанае працы, ён даваў волю натхненню, кідаў на паперу прыгожыя рыфмы, што плылі з глыбіні сэрца.

# Дата смерці Вацлава Тшашчкоўскага

Знаёмства Зоф'і Тшашчкоўскае ў жніўні 1881 г. з Феліксам Зянковічам пераманіла ейнае нібыта спакойнае сужэнскае жыццё з Вацлавам Тшашчкоўскім. І не толькі таму, што былы выгнаннік дадаў адвагі творчаму натхненню Адама М-скага. Хутчэй, тут на першым плане былі пачуцці кабеты, якія прывядуць да расстання з мужам [Хаўстовіч 2021c: 166–173]. Але калі гэта сталася? Ірына Багдановіч, Юрась Гарбінскі і Уладзімір Мархель, не спасылаючыся на дакументы, сцвярджалі, што здарылася гэта ў 1900–1903 гг. [Bahdanowicz, Garbiński, Marchel 2004: VIII]. А вось Аляксандра Бласінска на падставе лістоў да Зянона Пшэсмыцкага падае іншую дату – 1889–1891 гг. [Błasińska 2019: 7]. Зрэшты, ці сапраўды дайшло да разводу? Метрыка смерці В. Тшашчкоўскага можа сведчыць, што хоць сужэнцы і жылі нейкі час, відаць, асобна, але афіцыйна сваё расстанне не аформілі: у ёй нябожчык называецца ўдаўцом. Цікава і тое, што Вацлаў апошнія гады жыцця правёў у Варшаве, дзе ён і нарадзіўся. Праўда, у метрыцы ягонага нараджэння паведамляецца, што прыйшоў ён на свет у доме пад нумарам 188 пры вуліцы Крывое Кола [APW, zespół 0161d. 1839, online], а вось памёр – у доме пад нумарам 50 пры вуліцы Старое Места. Звернем увагу, што апошні жыццёвы прыстанак В. Тшашчкоўскага не быў яго ўласным домам: жыў ён, здаецца, у стрыечнага брата-чыноўніка. Пра гэта мы можам даведацца з метрыкі смерці малодшае сястры Вацлава – Зюзанны Тшашчкоўскае, якая памерла ў гэтым самым доме ў 1907 г. [APW, zespół 0161d. 1907, online].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: Archiwum Państwowy m. st. Warszawy, zespół: 0161d: *Akta stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej Św. Jana Chrzciciela w Warszawie. 1915* [online] http://metryki.genealodzy.pl/metryki.php?op=kt&ar=1&zs=0161d&sy=1915&kt=3 [dostęp: 9.03.2023].

